# Полымя Рэвалюцыі

поставить на место

147

№ 1-2

ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ,
МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

*КНІГА ПЕРШАЯ*

№ 1

1 / 9 / 3 / 5

# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ
І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА
СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ Б. С. С. Р.

**КНІГА ПЕРШАЯ**

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ЛіМ
МЕНСК 1935

# МІЖНАРОДНЫ ГІМН

## „ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ"

ЭЖЭН ПОТЕ

1

Паўстань, з'яднаны сілай грознай,
Сусвет галодных і рабоў!
Бурліць разгневаны наш розум
І весці ў смертны бой гатоў.

Агнём зруйнуем да асновы
Свет лютых гвалтаў, а затым—
Мы наш, мы свет збудуем новы:
Хто быў нічым, той стане ўсім!

2

Ніхто дабром не дасць збаўлення—
Ні бог, ні цар і ні герой!
Даб'емся самі вызвалення,
Сваёй уласнаю рукой.

Каб скінуць прэч уціск умела,
Нанесці катам гнеўны ўдар—
Раздуйце горны, куйце смела,
Пакуль гарыць у кузні жар.

3

Закон—мана і здзек дзяржавы,
Падаткам жывяцца паны.
А наша моц і наша слава
Ярмом закута ў кайданы.

Далоў—атруту панскай ласкі,
Закон аб роўнасці—далоў!
„Няма правоў без абавязкаў,
І абавязкаў без правоў."

4

Пара з пакрадзеным растаццa
Заводаў, шахт гаспадары.
Пара спыніць вам гандаль працай
Крыві народнай, гандляры.

У вашых банках захаваны
Здабыткі працы векавой.
Паўстань, хто век гарбеў на пана,
Агнём бяры здабытак свой!

5

На шыю нам плятуць вяроўку,
Нас труцяць каты-каралі.
Салдаты справяць забастоўку,
Штыкі павернуць да зямлі.

А з рук не выпусцім аружжа
Хай кінуць нас за панства ў бой—
Вайна вайне! Мы выйдзем дружна
На генеральскі зброд вайной.

6

Мы ўсе работнікі сусвета,
Працоўнай арміі сыны.
Уладаць зямлёй мы маем права,
Правы—у нас, далоў—паны!

Хай загрыміць раскатам страшным
Над зграяй катаў грозны гром,—
Для нас-жа сонца будзе ясна
Сваім праменнымззяць агнём!

Гэта бой наш апошні,
Наш рашучы паход,
Інтэрнацыяналам—
З'яднаем людскі род!

*Пераклаў з франц. арыгінала*
*АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ*

ЭДУАРД САМУЙЛЁНАК

# ПАГІБЕЛЬ ВОЎКА

## РАМАН

### I

Невялікая даўнасць не перашкаджае ўспамянуць усё тое, што адбылося аднэй вясной у жыцці цесляроў: Мірона Воўка і Антося Шпэркі.

---

Шпэрка. Ёсць такая дробная цеслярская прылада, часам патрэбная, часам—не. Злы розум, здзеклівы язык надаў гэтую мянушку працавітаму чалавеку, Антосю Літваку. І ў гэтым бачыў Антось вялікую крыўду для сябе. Думалася яму, што мянушка трапная, што чалавек ён у жыцці і сапраўды часам патрэбны, часам не. Сцверджанне гэтага бачыў Антось у тым, што лічыліся людзі з ім толькі тады, калі быў ён на зрубе і веданнем цеслярскай справы, сумленнасцю работы, майстэрствам сякеры—даказваў сваю патрэбнасць. Але гэта канчалася, як толькі канчалася работа і злазіў Антось са зруба. Перамовы вялі наймальнікі толькі з Міронам, толькі Міронава слова за слова лічылася, а калі абзываўся Антось, то глядзелі людзі паверх яго галавы, міма яго, і такі выраз быў у гаспадарскіх вачах, нібы нечакана ўбачыў чалавек пустое месца там, дзе павінна была знаходзіцца пэўная рэч. Антось быў непатрэбным.

Маленькі, вузкагруды, невялікай сілы, не дужага характару, мяккага сэрца, шчырай душы чалавек быў Антось Літвак, працавіты цесляр па прызванні Шпэрка.

Воўк. Так празвалі цесляра Мірона Бокуця. Суровага погляду злых яго воч з-пад кусцістых брывей, з якіх кожнае было з добры вус—баяліся людзі. Не маглі спакойна зносіць Міронавых панурых воч. Вялікага росту быў Мірон, шыракаплечы, касцісты, магутнай сілы. Хадзіў ён павольна, ступаў размерана, гаварыў абдумана, разважна, рэзка.

За люты неўмольны і незразумелы характар, за сілу, за маўклівасць—празвалі бяздомнага цесляра Мірона Бокуця—Воўкам.

Хадзілі яны разам, Мірон Воўк і Антось Шпэрка. Дваццаць пяць гадоў хадзілі яны ад вёскі да вёскі, ад мястэчка да мястэчка, гасцінцамі, прасёлкамі, хутарскімі сцежкамі. Наперадзе—вялікі, пануры, выпрастаны Мірон, ззаду—маленькі, ссутулены Антось. Будавалі цесляры дамы, гумны, свірны, лазні. І што-б не было зроблена іх рукамі—адменны мела выгляд. Нават калі здаралася калыску патрэбна было зрабіць, бывалі такія выпадкі і беглі людзі з гэтай пільнай справай да прахожых цесляроў, то і яна выходзіла з-пад іх рук інакш, чым у другіх—прыго-

жая, упрыгожаная рознымі разбярскімі цацкамі з мастацкім надпісам у прыгалоўі:

„РАСЦІ ЯК ДУП“

Антосевых рук разбярскі надпіс быў, бо жадаў Антось добра кожнаму на свеце і толькі на яго, Антосеву долю, дабро нeяк не выпадала. Не адобрываў Мірон гэтага Антосевага імкнення і пры выпадках сурова стараўся ўказаць яму на памылковасць такіх жыццёвых правіл.

Бывала так: заканчваюць работу цесляры і перад тым, як пакінуць зруб, ставяць у канцы яго жэрдку, на якую ўздзеты вянок да варонняга гнязда падобны. Значыць: скончана работа, гані, гаспадар, барыш, кладзі плату на бочку! А гаспадар здараўся розны. Адзін выкіне грошы на стол— ані дбае аб іх, і на цесляроў не гляне. Вымятайцеся, значыць! Скончаны справы! А другі гаспадар стаіць перад Міронам у худзенькіх лыковых лапцях, і ціхім умольным голасам гаворыць:

— Шчыра дзякую... Мірон Андрэевіч... Зрабіў ты мне хатку на пастаянне, усяго майго жыцця гэта радасць, праз усё жыццё на хатку гэтую ўзбіваўся... Але... Мірон Андрэевіч... пачакай з платай. Ласкі тваёй прашу... Плаціць у мяне няма чым... Хлеба прыкупіў... Пазыку з мяне здзёрлі, недоімкі спагналі. Ад валаснога старасты ратунку не было. Пачакай да восені!

Пaглядае на гаспадара Мірон, паглядае і Антось. А гаспадар гэты топчацца перад імі прыніжаны, работай і горам заціснуты чалавек, просіць...

Розны здараўся гаспадар...

Дык як-жа рабілі цесляры ў адным і ў другім выпадку? Антось нічога не мог зрабіць, у Міронавым веданні рашэнне спраў было. Выпрастаецца Мірон, збярэ грошы са стала і грымне багатаму гаспадару:

— Ты што мне гэтыя ласкуты, як дохлую жабу з падпечку выкідваеш?! Я табе шчыра рабіў, я табе сумленную работу даў, не варта душа твая сабачая гэткай работы! Дык ты мне грошы падай як мае быць, як чалавеку, з падзякай ды з пашанай! Сволач!

І пойдзе Мірон, грукне дзвярыма, аж шыбы звенчаць у хаце. А Антось стаіць ужо на двары, чакае з непакоем і толькі поўвярсты якія прайшоўшы, забягаючы збоку—несмела скажа:

— Мо‘ ты, Мірон, ласкавей бы як з людзьмі абыходзіўся... Работу страцім!

І не раней, як яшчэ праз поўвярсты, скупа кіне Мірон:

— Дурань! Ад нашае работы не адмовяцца!!! Павукі...

І змоўкне Антось. Уздыхне ціханька.

У другім выпадку, хаця і крыўдна Антосю, што Мірона просіць гаспадар, аднак пацягвае ён злёгку Мірона за руку, шэпча паціху:

— Прах яго, Мірон... Пачакаем і да восені...

Але Мірон—няўмольны быў: за дваццаць пяць гадоў не было выпадку, каб саступіў ці згадзіўся.

— Плаці ўсе спаўна, да аднэй капейкі!

— Дзеці з голаду памерці могуць!.. Мірон Адрэевіч!

— За дзяцей сваіх—сам павінен адказваць! Не маеш чым дзяцей карміць—палацаў не будуй, рабочых людзей не наймай, з мазаля майго не кпі! Я табе хату зрабіў і ты мне за гэта плаці спаўна!

І гаспадар збянтэжаны, бяспомачны, стаптаны Міронам, вінавата шаптаў:

— Я... зараз... пачакайце, Мірон Андрэевіч... Тут... да аднаго чалавека па грошы схаджу, мо‘ пазычыць...

І пазычаў, лез у кабалу і спаўна плаціў Мірону гаспадар.

А потым, вялося ўжо так. Ішлі ў карчму. А калі ішлі з карчмы

больш было ў Мірона гутаркі, ды і Антось больш адважным рабіўся і тагды—навучаў Мірон сваім жыццёвым правілам.

Пачынаў Антось:

— Чаму ты, Мірон, гэткі заядлы чалавек? Чаму ты не саступіш нікому, і калі горка нават просіць з вялікай патрэбы чалавек, не паслухаеш?!! А ледзь не тое, што з кулакамі да яго, да таго чалавека... Ёсць-жа грошы, можна было-б пачакаць да восені, хай-бы чалавек тую бяду куды сагнаў... Га?.. Мірон! Няхай-бы гэта быў багатыр які, не нашага раду, а то-ж лапцюжнік! Мех гора, ды гарнец слёз!..

— Не нашага раду, ён,—адказваў Мірон.—Якога ён нашага раду, калі ён над табою гаспадар? Мне справы да таго няма, ці багаты ён ці бедны... Мне справа аб тое абходзіць, што ён мой мазоль купляе. Ты яму спусці, пачакай да восені, а ён можа гэты зруб за тры цаны прадасць, на тваёй рабоце нажывецца, і потым скарынку табе праз вакно выкіне. Нашага раду той, хто на сякеры ці на малатку свой мазоль на хлеб прадае!!! Ты гэта можаш разумець?

І перш, чым Антось збіраўся з думкамі, каб адказаць, Мірон звычайна працягваў:

— Толькі той нашага раду, кажу табе, хто акрамя сякеры ды малатка нічога за душой не мае. Хто бяздомны, ды бяздольны, як мы з табою, і ты, Антошка, не шкадуй людзей. Звяры гэта ўсё адзін да аднаго. Калі ён купляе цябе, то літасці ад яго не чакай і вуха трымай востра! Сёння ён бедны, твой гаспадар, а заўтра скуру з роднага брата злупіў і ўжо ён сабе багаты. Бедны быў, мо' раз на жыцці мазаля твайго купляў, а багаты стаў—сто разоў купіць і дзвесці разоў прадасць. Чаго табе іх шкадаваць?!

Мірон абнімаў Антося за плечы, і так яны брылі ўдвух, уначы брылі, спатыкаліся. Калыхалася ў Антосевых вачах цемра і пакораны, ен ужо не спрабаваў гаварыць аб сваім.

— Ты жыцця не разумееш,—гаварыў Мірон.—У цябе сэрца, як воск, мяккае ды баязлівае. А жыццё наша—як гэтая чорная ноч. Трымайся за мяне, я свет прайшоў, я на катарзе быў, адзін я цябе не ўдам, бо толькі ў аднаго мяне таго звярынага няма ўнутры, адрокся я ад яго, з крывёй з-пад сэрца вырваў!!! Трус ты, Антошка, хліпкі чалавек! А ад мяне-ж нікому не будзе літасці, у мяне каменнае сэрца, я больш у крыўду не падамся, як пакрыўджаны ўжо... Хай мяне рабуюць, але здзекавацца над сабою я не дам. Не дапушчу!.. Будзь яны праклятымі ўсе!..

Антось маўчаў. Ён не мог знайсці адказу, супроцьставіць свае думк сіле Міронавых довадаў.

І яны брылі ўдвох па начных дарогах, абняўшыся за плечы ішлі. Так ішлі яны на працягу многіх гадоў неразлучныя таварышы, сябры.

А назаўтра зноў маўчаў Мірон.

Гэтак гадоў з пятнаццаць таму назад пачала хадзіць па слядах цесляроў маўклівая жанчына, Антосева жонка. Толькі на першую пару прыкмячаў яе Мірон, са здавальненнем адзначаючы з'яўленне свежых, акуратных лат на сваёй кашулі. Ды яшчэ—курыўся заўсёды воддаль ад зруба дымок—гатавала Марыля страву цеслярам.

Потым Мірон да гэтага прывык.

Так і хадзілі цесляры. На свеце адбываліся падзеі, што часам здрыгалі зямлю гулам далёкіх гармат. Зменьваўся свет, інакшымі шляхамі ішло жыццё. Сівы волас больш густым стаў у Міронавай барадзе, бровы яшчэ больш абвіслі ды наежыліся, яшчэ ніжэй ссутуліўся Антось і шапка авечая коўзалася на яго лысай галаве.

Ішлі гады. Але ўсюды і заўсёды аднолькавай была смалістая бурш-

тыновая сасна ці клейкая сіняватая ель, ці асіна горкая, смуродная гніль. Аднолькава дакучным і былі марозы альбо спякота, аднолькава знобкімі былі дажджы, аднолькавымі гразь і пыл дарог. Аднолькавымі былі для Мірона з Антосем дні і гады.

Адносіны са светам устаноўлены былі простыя, нескладаныя; за мазоль плацілі ім сухім кавалкам хлеба, зялёным закарузлым медзяком.

І калі з громам гармат, з агнём і дымам пажараў, з кулямётнай сакатнёй прышоў гарачы ліпень 1920 года, толькі тое і адбылося, што на пэўны час злезлі цесляры са зруба.

Выйшла так:

Улетку 1920 года працавалі Мірон з Антосем на выгане, там зруб стаяў. Усходзіла сонца, роснай была раніца, хадзілі па палях сівыя хвалі жыта яшчэ недаспелага, плылі з лагчын лёгка празрыстыя смугі тумаnoў. Звінелі жаўранкі, купаючыся ў сіняй вышыні ў шчодрых сонечных праменнях.

І от, гэтую сонечную раніцу патрос глухі ўдар, падобны да грымотнага раскату. І не змоўк яшчэ гул, як дзікі ўзвізг пакрыў перазвоны жаўранкаў і перапёлак. Узнікла воблачка высока над вёскай, з яго бліснула зарніца і нібы град зашалясцеў па зямлі недалёка ад зруба.

— Што тут такое ёсць?—здзіўўся Мірон.

— Гаў! Гаў! Гаў!—брахнуў за лесам артылерыйскі залп.

— Гэта палякі!—спуджана піскнуў Антось.—Палякі гэта!..

Тры воблачкі ўсплылі над стрэхамі хат.

Зноў гаўкнулі за лесам басавітыя сабакі.

І тры слупы зямлі ў бляску зелёнавага агню выраслі на вуліцы вёскі... Узвіхрылася салома з дахаў, паплыў густы дым...

Зноў страсянулася паветра. Страшэнная сіла ўдарыла па стрэхах. Узляцелі ўгару кроквы, жэрдкі, вялікі слуп агню нахіліўся і лізнуў бліжэйшыя цэлыя дахі...

Вёска гарэла. Мятусіліся людзі па вуліцах.

Двое коннікаў на пузатых з раздзмутымі ноздрамі конях праімчалі міма зруба.

Цесляры сядзелі нерухома. Анямелы са страху Антось глядзеў шырока адкрытымі вачыма, Мірон сударгава сціснуў тапарышча.

Вёска палала. Грымеў агонь. Гаўкала за лесам.

Да зрубу, на ўзгорак, па дарозе бегла светлавалосае дзіця у даўгой кашульцы. З-за шуму агня, з-за трэску і крыкаў з-за гулу выбухаў не чуваць было кволага дзіцячага голасу. Дзіця бегла з узнятымі тонкімі рукамі і вецер развяваў ільняныя валосікі...

— Сюды!—крыкнуў Мірон,—сюды бяжы!

Але ў гэты момант поблізу з жыта аднекуль, разлеглася:

До-до-до до-до...

Па дарозе ўзняўся пыл. Яго ўзбівалі кулі. У гэтым пылу яшчэ мігнулі ўзнятыя дзіцячыя рукі.

Паветра выла навокал... Са зруба пасыпаліся трэскі...

Цесляры саскочылі на зямлю.

Гарэла вёска суцэльным вогнішчам...

У пыле, на дарозе ляжаў падплываючы ў крыві, трупік яснавалосага дзіцяці.

Але перш, чым цесляры дабраліся да прырэчных кустоў, абодвы яны бачылі, як цераз жыта са страшным гулам сотняў капыт ішла ў атаку чырвоная конніца. Бліскалі на сонцы клінкі, ускідваліся конскія грывы ад ветра і ў пагрозным лёце шчыльнай масы людзей і коняй, магутнейшая, караючая сіла была...

— Бі іх!—нема закрычаў Антось, патрасаючы сякерай.—Бі іх! Хлопцы...

Дзіця... застрэлілі!.. І ён заплакаў на поўны голас і ўпаў на зямлю пад ногі Мірона.

Грукнула за лесам са два разы. Узляцела зямля далёка ззаду конніцы. Сціх кулямёт. Затрашчалі ў россып, у безладдзі стрэлы і ўжо здалёк разлеглася:

— Ур-ра-а-а!

— Дабеглі,—сказаў Мірон,—усыплюць панам перцу!

Антось усхліпваў, лежучы на зямлі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Уночы поле ахінаў туман, змешаны з дымам папялішча вёскі. Сядзелі цесляры пры рацэ, у кустах, распаліўшы невялікае вогнішча. Ціха было навокал. Паблісквалі скрозь змрок галавешкі на пажарышчы. На лугах недзе крычаў дзяргач і перасвістваліся кулічкі. У віры пад кустамі час ад часу ўсплёсквала рыба.

Было ціха.

Моўчкі сядзелі цесляры, ссутуленыя над вогнішчам.

І толькі тагды, як на краявідзе, далёка недзе, бліснула цмянай успышкай і гул цяжка прапоўз па ціхіх начных палях, Мірон, які маўчаў палову ночы, сказаў, выбіраючы з вогнішча вугалёк:

— Б'юць паноў большэвікі. Справядлівая справа!

Антось глядзеў на яго, чакаючы што далей скажа Мірон. А той доўга распальваў люльку, трымаючы вугалёк у жоўтых, пракураных, закарузлых пальцах.

— Справядлівая справа! Можна сказаць, проста святая справа...

Кінуў вугалёк і зноў змоўк Мірон.

Патрэсквала вогнішча, дагасаючы. Уцвярджалася глухая начная цішыня.

Потым Антось узняў галаву.

— Зноў гарыць!.. Глядзі, Мірон... Вунь, над лесам!

Мірон пaглядзеў. Расплывалася чырвонай плямай трывожнае зарава.

— Гарыць.—пацвердзіў Мірон.—Мусіць, нейкая вёска. Далёка...

І зноў памаўчалі.

Звонка усплёснула ў рацэ.

— Шчупак!—устрапянуўся Антось, рыбак заядлы.

— Мусіць, шчупак!—згадзіўся Мірон.—Мусіць, ён... ненасытнае горла. Глот!

І Мірон нечакана выпрастаўся.

— Памятай, Антошка, сёняшні дзень!—сказаў ён—Такія дні рэдка бываюць і мала каму дадзена тое бачыць, што мы сёння бачылі.

— Дзіця...—стлумлена сказаў Антось і апусціў галаву.

—Што дзіця?! Мала тых дзяцей загінула без прычыны? Гэта—крыўда! І вёску спалілі, і пабілі народу колькі, і хлеб дымам пайшоў, праца людская... Гэта крыўда. Я многа крыўды бачыў і сваёй і чужой. Але каб крыўдзіцель быў на месцы пакараны—да сёнешняга дня і не чуў і не бачыў. А сёння, Антон, крыўдзіцелю горка прышлося. На конскіх капытах яго разнеслі, на шаблях... Гэтага я ніколі не бачыў яшчэ.

І, памаўчаўшы, дадаў Мірон:

— Святая справа!

— Паб'юць!—сказаў Антось.—Да аднаго пана выкарчуюць!

— Відаць, што выкарчуюць. Нейначай. Людзі доўга цярпелі. Гнеў нестрыманы, за агонь мацнейшы!

І Мірон зноў выняў вугалёк з вогнішча.

— Але, не зжыць крыўды са свету, Антон!

І пакуль Мірон распальваў люльку, зноў глядзеў на яго ў чаканні Антось. А Мірон распальваў яе доўга.

— Не зжыць са свету крыўды, Антон! Крыўда стаіць на багацці, а багацце мае вялікую сілу, смага несцярпімая да яго ў чалавечай душы гнездзіцца. Кожны хоча багацець. А чорт так паставіў свет, што багацець можна толькі з таго, што ад другога адбярэш. А калі адбярэш, то гэта і ёсць крыўда. Вунь, шчупак глынуў якога-небудзь ляшча пад кустам, Шчупаку ў смак і на здароўе, а ляшчу смерць страшная. Тое і з чалавекам...

Туманы і дымы сустойваліся над полем. Крычаў блізка драч.

Патрэсквалі галавешкі на пажарышчы.

— Адных выдушаць, другія народзяцца. Смагу да багацця агнём не выпаліш, не вытруціш, чарвяком крывавым спіць пад сэрцам яна, да свайго часу ў кожнага сёння народжанага. Ад гэтага—крыўда векавечная на свеце. Ад гэтага—звер чалавек для чалавека. Як гэта можна было-б назаўсёды панства, багацце і крыўду зжыць—разумею я... А галава мая—сівая. На катарзе быў, колькі людзей бачыў разумных, якія толькі за тое праз жыццё ланцугі цягалі, што добрае мелі сэрца і разумную галаву... Сам думаў... Не выходзіць! Не ўгасіш тую смагу, не ўдушыш чарвяка крывавага... Звер для чалавека чалавек!..

— Каб гэта... багацце ад іх адабраць,—нясмела сказаў Антось.— Сіла-ж ёсць, вунь якая!

— Дык той, хто адбярэ, багатым будзе. Не адзін мне чорт хто нада мною пан: ці генерал Латоцкі, ці Лапавуха Сымон?!

А калі гэта ўсім пароўну тое багацце падзяліць. Усім скажам. Каторыя бедныя.

— Ну, то каторы і пражыве сваю частку, спатрэбіць яе, а каторы ў абарот пусціць і нажывецца, прайдзі-свет, у дзесяць разоў і потым ужо тую частку ад другога без вялікай цяжкасці адбярэ, а разам з часткай і скуру злупіць... І от табэ крыўда!

— А як-бы тым... такім ходу не даць?

— А як ты не дасі? Працаваць да яго не пойдзеш,—з голаду здохнеш. А пойдзеш працаваць, то ён, на тваіх жылах ды на касцях граючы, і будзе гэтае самае багацце гадаваць. З гэтага-ж і багацце! Лысы ты ўжо стаў, а не разумееш, на чым свет стаіць!

Мірон махнуў рукой. Змоўк.

Калыхаўся і плыў туман. Аднатонна крычаў драч. Усплёсквала сонная рыба ў рацэ.

— Заўтра мы пойдзем адгэтуль,—сказаў Мірон.—Згарэла вёска. Чорт ведае, калі яны цяпер адбудоўвацца будуць. Вайна...—Пойдзем,— згадзіўся Антось.

Узнімаўся над лесам далёкім крывавы ў туманах дымоў, ушчэрблены месяц...

І цесляры назаўтра пайшлі.

Хмарамі дымоў ахутвала зямлю вайна. Палалі ночы злавеснымі заравамі пажараў. Абвугленыя скілеты спаленых прыдарожных дрэў пагрозна ўзнімалі да цёмнага неба страшныя чорныя рукі свае. Ляжалі пры дарогах разваленыя папялішчы вёсак. Братнія магілы выросталі на пустых палях... Шумелі вятры ў спляценнях калючага дроту. Магутнымі галасамі вылі гарматы, ачышчаючы агнём зямлю ад векавечнай твані для таго, каб расцвіло на ёй дзівосным садам прыгожае, чалавечае жыццё.

Ішлі чырвоназорныя палкі пагрозным поступам на захад.

Бушавала грамадзянская вайна.

А потым—заціхла. Аддаліўся гул яе грымотнага поступу. Гады пайшлі.

І ў гэтыя гады, як і раней, хадзілі па свеце Мірон Бокуць і Антось

Літвак,—цесляры. Пануры, насуплены Мірон ішоў наперадзе. Ён абвёў за руку Антося міма агнёў і папялішчаў вайны, міма братніх магіл. Ён бачыў нешта сваё, ён ішоў сваёй адасобленай дарогай, Мірон Воўк. І за ім пакорна ішоў Антось з маўклівай і ціхай жанчынай.

І далейшыя годы здаваліся Мірону гэткімі-ж, як і раней. За сухі кавалак хлеба плацілі цесляры мазалём. У гэтым бачыў Мірон сцвярджэнне сваіх некалькі сказаных слоў аб багацці і крыўдзе, гэтым ён бачыў сцвярджэнне правільнасці сваёй жыццёвай лініі і ішоў далей абасобленымі дарогамі ўжо крыху нахілены, яшчэ больш пасівелы, пануры Мірон.

Але Антось, гэты слабы чалавек, што дваццаць з лішнім гадоў туляўся за Міронавымі плячыма, прымаючы крыўдную яго... абарону, убачыў інакшае ў новым жыцці. Як-бы абудзілася нешта далёкае і яшчэ неўсвядомленае, як-бы наблізілася да разумення тая думка, што драмала недзе глыбока, якую ён не раз будзіў, каб супроцьставіць яе сіле Міронавых довадаў, і ні разу гэта яму не ўдавалася.

Пачынаў часам супярэчыць Антось.

— Не так на свеце ёсць, Мірон, як ты кажаш. Не дарэмнай была тая кроў.

— Што не так?

— Лягчэй людзям жыць. Беднаце лягчэй.

— У кулакі лягчэй вылезці, у паны?!

— Сам бачыш: прыціскаюць кулакоў. Не даюць ім ходу, я-ж казаў некалі?! І не дадуюць!!!

— Аднаго ціснуць—другі расце. Для каго паноў не засталося—для нас яшчэ хопіць. Кожны мазоль наш купляе. Танны ён. Для нас не лепш, Антон! Не бачу лепшага!

Хадзілі Мірон Воўк і Антось Шпэрка, цесляры, аж да той пары, пакуль і на іх, занедбаных бедакоў, пашырыліся законы новага жыцця і паклалі канец шматгадоваму падарожжу, воўчай звярынай дружбе іх паклалі канец, перад кожным з іх адкрыўшы новыя дарогі і падараваўшы ім новую, чалавечую, шчырую роўнапраўную дружбу.

Гэта і ёсць тое, аб чым трэба расказаць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Цесляры працавалі на лясной паляне, узбоч прасёлкавай дарогі, што вяла ў вёску з лясістага ўзгор'я. Са зрубу відаць былі дахі хат. Яны цмянымі плямамі праступалі цераз бурае сітоўе прырэчных хмызнякоў. І яшчэ было відаць са зруба, з гэтай паляны на лясным узвышшы—роўнае поле ў белі снягоў, замкнутае на далёкіх ускраях суровымі і чорнымі абдымкамі лясоў.

Рабілі Мірон з Антосем хату Анупрэю Грузду, заможнаму чалавеку з гэтай вёскі. Грузд быў сухі і высокі з лысай галавой, з пудлівымі і злымі, як у пацука, вочкамі. Твар у яго быў, як кулачок, дробненькі, грудзі вузкія, але меў Грузд нечакана густы і зычны голас і акрамя таго, у роўнай-жа ступені нечаканую сілу. Ён лёгка ўзнімаў на рыштаванне канец шасцівяршковага бервяна. І нават калі нахіляўся і збіраў у палу нацярушаныя цеслярскімі сякерамі трэскі, у парывістых і хцівых спрытных руках яго праяўлялася гэтая сіла. І калі пазіраў Грузд куды, а пазіраў і азіраўся ён заўсёды—неўгасная жарлочнасць была ў яго вачах, вечны неўтаймаваны голад.

Мірон, паглядзеўшы на свайго гаспадара, сказаў увечары:

— Гэта не Грузд, а мухамора! Труцізна, а не чалавек!

Словам, усё было, як і ў даўнія гады, навокал Мірона з Антосем. Лясная паляна, лясная ломкая ціш, якая на вёрсты гоніць рэха сякер,

лес навокал, белая пляма поля. Халодная зімовая даль, глуш, спрадвечная і хітры хціві гаспадар.

І працавалі Мірон з Антосем. І павольна вырастаў пад соснамі ў гурбах сіневатага снегу васкова-жоўты зруб. Часта прыходзіў Грузд, збіраў трэскі, вачыма і рукамі абмацваў пазы і маўкліва, хутка адыходзіў прэч, ішоў у вёску і варочаўся праз гадзіну. Цэлую дарогу да зруба пратаптаў.

І вось адбылося тое, чаго ніколі не было.

Аднойчы пад вечар удзюбнуў Антось сваю сякеру надзвычайна неасцярожна блізка самага пазу, сеў і пачаў скручваць цыгарку. Мірон нездаволена паглядзеў на яго (ніколі Антось першым курыць не адважваўся) і сказаў:

— Перасадзі сякеру! Паз вунь вышчапіш!

— Чорт яго бяры!—бесклапотна адказаў Антось і закурыў.

Мірон спыніў работу і здзіўлена паглядзеў на яго.

— Табе што, трэска ў мазгі трапіла?

Антось моўчкі пасунуўся на рыштаванні бліжэй да Мірона. Той сядзеў ссутулены і апіраўся абодвума рукамі. Відаць Мірон стаміўся, бо твар у яго быў змучаны і цёмны.

— Я з табой вось пра што хачу гаварыць,—ціха сказаў Антось.— Я надумаўся ў калгас ісці.

— У кал-га-а-ас?

Мірон сеў на зрубе проста і пацягнуў з кішэні капшук з махоркай. Доўга распальваў люльку, пазіраючы пры гэтым скоса на Антося. А той пакрыху траціў сваю адвагу і ўпэўненасць, ёрзаў на бервяне і баяўся сустрэцца поглядам з Міронам. Мірон цяпер ужо разумеў, чаму вечарамі хадзіў Антось з жонкай у другую вёску, чаму яны шапталіся па кутках, хаваючыся ад яго. У гэтым убачыў Мірон горкую неўдзячнасць, простую здраду; спачатку ціханька падрыхтавацца, знайсці сабе месца, а потым ужо сабрацца на ўцёкі, пакідаючы старога друга ў адзіноцтве. А ці не ён, Мірон, стаяў, як дуб, наперадзе Антося дваццаць з лішнім год, абараняючы гэтага слабага чалавека ад навальных вятроў іх жабрацкага жыцця? Мірон паківаў галавою:

— Та-ак!

Антось маўчаў.

Шэрымі былі вячэрнія далі. Імкнулі над зямлей нізкія хмары, а вецер імчаў па палях, змятаў снег з узгоркаў і гнаў яго сыпкімі воблакамі скрозь шчаціннe завеяных хмызнякоў на адзінокія платы, на поле, на ціхія стрэхі хат.. Толькі тут каля зруба было зацішна, разбіваўся імпэт завірухі аб моцныя грудзі лесу і на паляне кругаваротам, як вада ў віры, у зацішным паветры асядаў дробны снежны пыл. Хісталіся ў вышыні гонкія сосны, прасцiралі чорныя лапы елі, трапяталі беластволыя, абмарожаныя бярозы. Кружыў, асядаў павольна снег на паляне.

— Сабака ты сабака!..—з гаркотай сказаў Мірон.—Сабака ты, Антось!

— Мірон! Паслухай!

— Сыйдзі з маіх вачэй!—са злосцю сказаў Мірон і адвярнуўся.

Але тут Антось нечакана, і можа ў першы раз у жыцці, узняў голаў.

— Ты чаго мяне лаеш?—спытаў ён голасна і ўзбуджана.—Чым ты мяне ўпікаеш? Ці ты можа мяне хлебам карміў?

Мірон маўчаў.

— Я сам сабе хлеб зарабляў. Калі ты часам за мяне заступаўся, за тое дзякаваць табе. Але заступа твая, Мірон, горкай мне была. Ні ты мяне за чалавека не лічыў, ні людзі. Шпэрка, Шпэрка і ёсць... І выходзіла, што я непатрэбны як бы чалавек, што я і чужога хлеба і чужога

веку заядаю. Няхай пад старасць я хаця па-людску пажыву. Досыць, хай яно згарыць такое жыццё!

— Каб табе гэткі розум дваццаць пяць год назад,—не адварочваючыся сказаў Мірон,—то-б надзівіў свету!

— Я ў цябе заўсёды быў дурнем. Ты мной камандваў, як хацеў, а сам не любіш, каб табой камандвалі.

— Камандваў таму, што ты жыць не ўмееш. Не на сваю карысць камандаваў. Скажы, ці спажыў я тваю капейку?.. Хоць поўграша я твайго калі ці ўжыліў?

— Гэтага не!—паспешна сказаў Антось,—гэтага не, што ты Мірон! Я толькі кажу, што ты мной камандваў. А я-ж чалавек! Не ў грошах справа, праваляцца няхай яны тыя грошы! Крыўдна мне было, горка мне было...

— Каб я табой не камандваў, даўно-б і касцей тваіх у зямлі не было,—панура ўсміхнуўся Мірон.— Сказаць проста, рукі ў цябе залатыя, але з катлом тваім—верная табе пагібель.

І Мірон адвярнуўся зноў. І гэты зневажлівы выгляд шырокіх Міронавых плеч, якія дваццаць пяць гадоў маячылі перад вачыма—вывеў Антося з цярпення, парадзіў злосць і ўпартасць у яго мяккім сэрцы.

— Ты мяне сабакам не абзывай!—крыкнуў ён, успомніўшы ўсе крыўды адразу і саскочыў на рыштаванне.—Завошта я ў цябе сабака? За тое, што словам без твайго дазволу азваўся? Што ты гэта, па панску на чалавека крычыш? Чаго ты вызверыўся?

Мірон, не адварачваючыся, сказаў:

— Не пан я, а такі самы як ты. Толькі тая розніца, што я сваё месца ведаю, а ты, дурань, двух крокаў без мяне ступіць не мог, і палез раптам, немаведама куды і чаго. А сабакам за тое назваў, што, учапіўшыся за бабскі падол, мяне адзінокага пакідаеш на старасці год!

Антось асекся на поўслове. Цяпер усё, што ён хацеў сказаць у злосці, разляцелася дымам, нават лёгкая радасць, якой зазнаў Антось ад першай сваёй перамогі над Міронам, ад таго, што мог ён павысіць голас, і нават на Мірона крычаць. І гэтай радасці не было. Антось сядзеў на бервяне і калупаў сінім аббітым пазногцем бурштынавае гняздо каменназастыглай смалы. Ён нічога не мог больш прыдумаць.

Моўчкі сядзеў і Мірон і сіні дымок віўся над яго касматай бараняй шапкай.

Кружыў над палянай снег..

Нарэшце Антось узбіўся на тое, што патрэбна было сказаць. І ён сказаў, ужо звычайным нясмелым голасам:

— Я пакідаць не хацеў цябе, Мірон. Я хацеў, каб і ты пайшоў у калгас.

—Ты мне байкі не расказвай—азваўся Мірон ужо больш спакойна.— Ты добра ведаеш, што ў калгас я не пайду.

— Чаму не пойдзеш? Адкуль мне гэта відаць было?

— Ат!—махнуў Мірон рукою.—Што там гутарыць!

Пасля гэтага абодва маўчалі яшчэ нейкі час. Потым Мірон злез з бервяна і падышоў па рыштаванні да Антося.

— Цяпер мы пагаворым—сказаў ён.—Гнеў у мяне ад сэрца адлёг. Ну, што-ж ты на сваю галаву прыдумаў?

Антось нічога не мог адказаць на такое пытанне.

— Вось мы з табой дваццаць пяць гадоў разам хадзілі, а бачыш, не патрапілі адзін аднаму? Ты на мяне крыўду сваю выказваеш, а можа ў мяне крыўда на цябе ёсць.

— Калі ёсць, дык скажы.

— Я не пра тое. Калі мы з табой не патрапілі пад канец жыцця, дык

што-ж гэта будзе, калі патрэбна людзям уаднэй кучы жыць, працаваць і дабро дзяліць?! Мы з табой, як родныя браты, і то цераз дваццаць пяць год расплявалiся!

Мiрон вытрас люльку i паклаў у кiшэню.

— Мыш на мыш кiдаецца, не толькi чалавек на чалавека! Збяруцца ў калгас i зараз вось такiя грузды ды такiх дурняў, як ты, асядлаюць, аж да смерцi не вылезеш! Чаму ён багаты? Таму, што ўмее тое багацце здабываць! I будзе круцiць ён, i будзе зубамi рваць, пакуль да голых касцей не абчысцiць людзей! Прыдумаў бяду на сваю лысую галаву!

— Прышоў iм канец,—сказаў Антось.—Высяляюць iх, у калгасы людзi iдуць. Сам бачыў учора на сходзе i чуў: усе iдуць i мяне клiкалi, Ты, кажуць, працавiты чалавек, iдзi да нас i таварыша вядзi: i ты нам патрэбны, i мы табе патрэбны i ўсiм хлеба будзе. Чаго вы, кажуць, валочыцеся, як буслы бяздомныя? А на гэтых кулакоў яны сiлу знойдуць. I прадстаўнiк партыi гаварыў...

— Я многа не люблю гаварыць, у мяне ад гэтага потым балiць галава. Ты слухай: прыдзе такi зубасты ў калгас. Як ён яшчэ быў адзiн, ды мо' крыху беднаваты, то вiдаць было цi ён сохне цi таўсцее. А там-жа ён будзе, як чорт у вiры, ты яго таўкачом у ступе не злавiш... Ты зробiш, ён з'есць, ты прыдбаеш, а ён украдзе. I ты-ж да яго па кавалак свайго хлеба пойдзеш, i ты-ж на яго да смерцi працаваць будзеш!

— Прадстаўнiк партыi сказаў: партыя будзе сама кiраваць. Мы ў яго ўсяк распытвалi! Улада хоча справядлiвасцi.

— Але што-ж ты з другога яго паганую душу вытрасеш? Пiльнаваць будзе партыя, каб не згроб ён, не ўкраў?

— Будзе пiльнаваць i пры тым у калгас кулакоў не прымаюць.

— Дык што-ж ты думаеш, хаця i Грузд. Кулаком ён нарадзiўся? Гэта толькi пан панам раджаўся, ды i то не ўсякi. I шчупак, калi ён малы быў, побач з карасём у траве хаваўся! Але ў яго зубы выраслi— а ў карася не. I як зубы падгадавалiся, сцеражыся тады карась... Можаш ты гэта разумець?

Антось маўчаў. Ен не мог нiчога сказаць Мiрону. Ён не мог знайсцi патрэбных слоў. Там, учора на сходзе, яго прыгарнулi да сябе незнаёмыя людзi толькi за тое, што ён працавiты чалавек. З iм гаварылi, як з роўным, i ён гаварыў з iмi як роўны. I зусiм непатрэбнымi тады здалiся шырокiя Мiронавы плечы. Крыўднае яго заступнiцтва. Сход пастанавiў: раскулачыць багацеяў, адабраць ад iх нарабаванае, жыць калгасам i працаваць усiм разам, вялiкай i дружнай сям'ёй i ў гэтым, як i ва ўсiх iх справах, абяцаў iм кiраўнiцтва i падтрымку прадстаўнiк партыi. Дзе-ж тут тое страшнае, аб якiм гаворыць Мiрон? У чым яно? У тым, што новыя Грузды могуць вырасцi? Як-жа яны вырастуць, калi iм не дадуць расцi? Дзе-ж можа якi-небудзь Грузд выстаяць супроць гэтай сiлы. I як гэта ўсё растлумачыць Мiрону, якi бачыць свет такiм, якi ён быў раней?!

У Антося не знаходзiлася слоў i, ён маўчаў.

А Мiрон гаварыў да яго i Антось блiзка бачыў яго пасечаны маршчынамi твар i бляск панурых вачэй за сiвымi брывамi.

— Давай мы, Антось, лепш па-старому дацягнемся. Разам працавалi, разам зараблялi, калi хто на нас нападаў, я адзiн за дваiх агрызаўся. Так мы, пакрыху, да бярозкi i дакуляемся.

— Напрыкрыла, Мiрон,—сказаў Антось цвёрда.—Ужо досыць сабачага жыцця. Я яго не хачу. Буду чалавекам, не Шпэркай. Новае жыццё будзе!

Збяруцца гаспадары, кожны сваё дабро мае, а ты з чым прыдзеш?

Табе-ж адразу ў батракі трэба, у хамут запрагацца! З чым ты ў калгас пойдзеш?

Антось стругаў вастрыем сякеры тонкую сасновую трэску. Жоўтыя валаконцы дрэва завіваліся спружынкай, адскаквалі і падалі на снег. Антось ведаў, што ў калгас ён усёроўна пойдзе, хоць Мірон і застанецца тут на зрубе адзін. Ён змяняе на калгас гэтае жабрацкае жыццё ў панурай засені Міронавых плеч. Досыць ужо!

З чым-жа ты, Антось, пойдзеш у калгас? Бабу сваю дурную прывядзеш?—насмешліва пытаў Мірон.—Прусакоў рэшата прынясеш на племя? Ды і тыя-ж прусакі з чужой печы! З чым пойдзеш?

— Во з чым пайду!—раптоўна крыкнуў Антось.

І паказаў рукі. Гэта былі чорныя цеслярскія рукі з пазбітымі пазногцямі, з мазалямі да самых касцей, са скурай прашмальцаванай тапарышчам і прасмоленай сокамі ўсіх гатункаў дрэў. Рукі былі ад сякеры пакрыўлены, пальцы былі скручаны і непаслухмяныя. Сам Антось, у лыкавых лапцях і палапленай камізэльцы, выглядаў вельмі несамавіта. Да таго яшчэ ватовая шапка коўзалася па лысай галаве, наяжджаючы на вочы.

— Фа-ацэтны калгаснік!—з усмешкай сказаў Мірон.—Ёсць на што паглядзець! Схавай ты свае гэтыя лапы! Ты з іх не здзеквайся яны цябе цэлы век хлебам кормяць!

Антось паправіў шапку і ўзяў світку, што вісела на рагу рыштавання.

— Дык усё-ткі пойдзеш?—ціха спытаў Мірон.

— Пайду!—адказаў Антось.

— Як сабе хочаш. Я застануся тут.

— У кулака?

— Хай сабе. Я ў крыўду не падамся. Гэтаму я ўжо навучаны. Дам сабе рады.

— Ну як хочаш!

— Ідзі, ідзі! Гэткіх дурняў там чакаюць. Напрацуешся на чужога дзядзьку! Кідаеш мяне, як труслівы сабака, а дзе знойдзеш такую заступу? Ты-ж свае галавы не маеш, ты-ж дагэтуль увесь век за маім хрыбтом сядзеў!? Дзе будзеш такую выгаду мець!

Антось хутка сышоў па драбінах з рыштавання, накінуў на плечы світку і нізка пакланіўся Мірону.

— Ліхам не ўпамінай мяне...—сказаў ён і адвярнуўся.

— Ідзі, ідзі!—ківаў галавой Мірон.—Ідзі!

І Антось пашоў. Глядзеў яму ўслед Мірон аж да тэй пары, пакуль не знік ён за дрэвамі. І нават чорнае хваёвае крыло, якое ён крануў, праходзячы, больш не хісталася, але ўсё яшчэ глядзеў услед яму Мірон.

Адышоў апошні чалавек... Цяпер Мірон быў зусім адзін. Нікога не было больш. Абкружаў яго чужы свет, на якім ужо шэсцьдзесят пяць гадоў хадзіў Мірон...

Так разыйшліся дарогі Антося Літвака і Мірона Бокуця, па празванню Воўк. Разыйшліся цераз дваццаць пяць гадоў. І ў гэтым убачыў Мірон чалавечую няўдзячнасць, труслівую здраду.

Нешта папаўзло па шчацэ да сівога вуса, па глыбокім зморшчаку... Мірон змахнуў скупую кроплю, узяў сякеру і прымерыўся да паза...

Звонкія ўдары сякеры разляглiся па лесе...

У туманах непагоды загасаў халодны лютаўскі дзень...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Назаўтра раніцой, калі выбіраўся на работу Мірон—прыйшла па інструмант Антосева жонка. Мірон выцягнуў з-пад лавы вялізную скураную торбу. Выбраў адтуль ватэрпас, адвес, моцны пяньковы шнур, некалькі жалезак гэбляў, важкі кляновы, уласнай работы фуган, звязку дробных стамесак, набор свярдлоў і шмат яшчэ што, і калі вылажыў усё гэта акуратным у рад на лаве, то сказаў коратка да Антосевай жонкі, што стаяла ў парозе, гаротна падпёршы далонню шчаку:

— Збірай, бабачка!

Жанчына выняла з-за пазухі мяшок і пачала складаць інструмант.

Паглядаючы на яе работу, Мірон сказаў упоўголаса:

— От мы з Антосем, так сказаць, і падзяліліся!

Жанчына глянула на яго спуджана і яшчэ хутчэй пачала завіхацца. Мяшок паглынаў свёрдлы, гэблі і ўсё іншае, што выдзеліў Антосю Мірон. Жанчына ўкалола палец, лізнула яго ў поспеху і зноў рабіла сваю работу.

Абвяжы палец хустачкай,—сказаў Мірон.—Не спяшайся!

— Нічога!—шэптам адказала яна і скоса глянула да печы. Там, выстаўляючы вострыя локці, пагардліва ўперлася ў бокі Груздова жонка. Яна гатавала снеданне. У яе быў галодны, па шчупачаму сцягнуты наперад твар. Яна яшчэ ўчора даведалася, што адзін з цесляроў ідзе ў калгас, і цяпер слухала настрыўшы вушы.

— То-то жывуць людзі!—сказаў Мірон —Дваццаць пяць гадоў нажывалі, а курыцы за адзін раз на хвасце панесці няма чаго!

Груздова жонка чмыхнула носам і зазірнула ў печ.

Марыля выпрасталася. Мяшок быў поўным.

— Як-жа ты панясеш?—спытаў Мірон,—цяжка!

— Ды ўжо-ж данясу як небудзь.

— Ну як-жа ў калгас вас прынялі?

— Учора прынялі. Антось ужо ў лес па бярвенне з мужчынамі паехаў...

Жанчына пастаяла момант у нерашучасці, глянула яшчэ раз на вострыя лапаткі груздовай бабы. Тая акрабатычна выгіналася перад прыпечкам, зазіраючы ў печ, дзе сквярлося і шыпела.

— А вы як?... Мірон Андрэевіч?.. Не пойдзеце?

— Ты ідзі сабе памаленьку!—сказаў Мірон і ўстаў.—Ідзі, ідзі, пра мяне не турбуйся!

— Бывайце-ж здаровы, Мірон Андрэевіч!—заспяшалася жанчына,—дай вам бог...

Яна завязла з мяшком у дзвярах, патузгалася, выцягнула яго ў сені...

... За Вашу ласку дай вам бог. . за помач..

— Ідзі, ідзі!—ківаў Мірон,—ідзі здарова, маладзіца!

... За вашую за дабрату!..

— Зачыняй дзверы!—злосна крыкнула Груздзіха.

... за вашую за....

Дзверы зачыніліся. Па падлозе паўзла яшчэ халодная пара.

— Ідзі, ідзі!—закончыў Мірон і дадаў мякка:—Дурная!

Ад печы жвава адвярнулася Груздзіха.

— У калгас пайшлі?

— Угу!—адказаў Мірон, запальваючы люльку.

Звар'яцелі людзі!

— Угу!

— То-то людзі наядуцца хлеба, не дай ты божа!

Мірон маўчаў.

— Сабралася галота, крапіўнікі, мякіннікі, спрадвечныя гультаі! А мамачкі мае, нагаспадараць!

— Цьфу!—сплюнуў Мірон. Люлька была нячышчанай.

— Правільна кажаце! Рабіць не хочуць, у халадку на пана хварэюць, калгасы павыдумлялі, бо кішка есці просіць! А каб ім трасца ў горла, поўны вочы пякельнай солі!

Дзверы адчыніліся і прасунулася ў хату гаспадарова галава.

— Лахаўка!—зароў Грузд.—Чорт! Языком аб прыпек чэшаш, дагэтуль каровы не поеныя, авечкі аж стогнуць! Печ стыне, хлеб не саджаны! Чаго разявіла халяву, чалавека ад работы адрываеш! Яму час на работу ісці, каб табе здохнуць! Падсадзі цялё пад карову, паскуда!

Гаспадарская галава знікла. Дзверы зачыніліся.

Груздзіха тауханула нагой курыцу, кінулася ў кут да хлебнай дзяжы, потым назад да печы, не ведаючы, за што схапіцца. На двары грымеў гаспадарскі бас.

У чорнай хаціне было холадна, вокны заплылі лёдам, ад кублаў з квашанымі буракамі, ад змёрзлай бульбы быў цяжкі дух. У гэтай чорнай палове не жылі, спраўляліся тут толькі розныя гаспадарскія справы. Цяпер тут спаў Мірон.

Груздзіха, вырачыўшы вочы, з тварам пасінелым ад натугі, несла хлебную дзяжу.

У гэты момант заглянула ў хату круглатварая дачка.

— Карову!.. пад цялё!.. Падсадзі!—задушана крыкнула Груздзіха.— Лярва!

Мірон плюнуў і вышаў з хаты.

— Жывуць людзі! Душацца як тая качка жабу паглынуўшы. Усё мала, усё больш хочацца глынуць, аж у горла не лезе. Цьфу! Карову пад цялё!

На двары Грузд з работнікам запрагалі гнедага жарабца ў маляваны вазок. Гэта быў спрытны, але слабы яшчэ конік. Ён круціўся на месцы, не станавіўся ў аглоблі, уступаў на іх, абдзіраючы дрэва шыпамі падкоў.

— Паломіць аглоблі!—роў Грузд,—дай яму пад бок! Трымай аглоблю, балван асінавы... Мацьі!..

І ён ірваў за цуглі, жарабец спуджана раззяваў зяпу і відаць было чыстае, ружовае яго паднябенне. Жарабец трос галавой і адступаў назад. Тагды Грузд размахнуўся і ўдарыў яго кулаком у храпу. Жарабок выскачыў з аглабель зусім.

— Паціху трэба,—нясмела сказаў батрак, маладзенькі хлапчук.—Ён пужлівы, шкода-ж каня!

— Маўчы!—гаўкнуў Грузд.—Пень асінавы! Мой конь ці твой?!

Мірон моўчкі прайшоў міма.

— Пан!—падумаў ён, узыходзячы на высокую гурбу снегу, што навеяла з вуліцы.—Ён над ім пан! І нада мною пан. Ах ты, нячыстая сіла!

Калі выходзіў на дарогу з вёскі, Мірон убачыў здалёк пад узгоркам Антосеву Марылю. Яна павольна, ледзь рухаючыся, сагнуўшыся пад мяшком, узбіралася на ўзгорак ад ракі. Ісці ёй, відаць, было цяжка, дарогу замяло снегам. Варушылася маленькая постаць далёка ў полі. Курыўся дым мяцеліцы.

— Буду чалавекам... Новае жыццё будзе...—прыпомніў Мірон Антосевы словы. І ён закончыў сваю думку:

— Тут душацца, у горла праз сілу пруць, косці людзям і жывёле крышаць, скуру з жывога і мёртвага дзяруць, а там бабка ў новае жыццё папаўзла!.. Пападзеш ты Груздам у лапы, як гэты жарэбчык. Нікуды ты ад іх не дзенешся!

Жаўцеў на паляне зруб, абвеяны снегам. Густа абступілі паляну дрэвы. Мірон упершыню без Антося прышоў на работу. Ён адразу узлез на зруб, скінуў кажух і ўзяўся засякаць вугал.

Па лесе разлягліся ўдары адзінокай сякеры.

* * *

Мірон працаваў. Часам прыходзіў Груздоў работнік дапамагаць бярвенні ўзнімаць, часцей наведваўся сам Грузд. Ён абыходзіў зруб з усіх бакоў, лез на рыштаванне, абмацваў пазы і час ад часу гаварыў:

— Тут яно, Мірон, як бы сказаць,—дзірачка!

— Каб не клін, ды не мох,—адказаў Мірон,—дык бы цесляр здох. Мохам запхнецца.

І ён бачыў тагды, як цямнее твар Грузда, як ён занепакоены шукае новых хібаў, аж да тэй пары, пакуль Мірон не скажа:

— Ды гэтае-ж бервяно яшчэ не прыпушчана.

Тады Грузд заспакойваецца і, пабегаўшы навокал зруба, адыходзіць.

Бралася на вясну. Хаця раніцамі і бывалі маразы, а вечары, афарбаваныя ў чырвань і халодную сінь, не адрозніваліся нічым ад зімовых такіх-жа вечароў, усё-ж падыход вясны быў відавочным. Дні былі ясныя, у поўдзень праменні сонца прабівалі халодную плынь вятроў, размагнічвалі мароз, і з дахаў, і з дрэў, у крышталевым ільсненні—падалі кроплі. Мароз хаваўся ў цень, ляжаў у лясным гушчары, туляўся па польных лагчынах і толькі увечары выходзіў залізваць ледзяным языком чорныя раны праталін.

І па лесе прыкмячалася змена. Цёмнай і ўрачыстай стала зелень хвой, з кожным днём усё больш чырванела гальё бяроз. Хутка выпусцяць пух асіны, абвешаюцца каралямі вольхі, набракнуць сокам клёны і бярозы. У лесе высвіствалі сініцы, крычалі, аглядаючы гнёзды, вароны, праз цэлы дзень ад усхода сонца да захаду на перабой Міронавай сякеры дзяўблі сухастой клапатлівыя дзятлы.

Набліжалася вясна.

Мірон сядзеў на зрубе, трымаючы ў зубах загасшую люльку. Лёгкі вецер калыхаўся на хвоях, чыстая сінь абнімала зямлю, прыпякала сонца зусім па веснавому, раставаў снег, гаманіла птушыная дробязь, ажывала зямля.

Мірон думаў.

Выходзіў на двор Грузд, прыслухоўваўся. Маўчала лясное рэха. Не працаваў цесляр. Спяшыў на паляну Грузд, знаходзіў яго на зрубе задуманага.

— Далягае што нібы, Мірон?—пытаў Грузд, шпыраючы вачыма па зрубе. Хвароба можа далягае? Тое я слухаю—ціха па лесе!

Далягае,—адказваў Мірон.—Ідзі, гаспадар, дадому, я сам свае справы ведаю!

Грузд таптаўся навакол зруба і адыходзіў нездаволены. І калі ішоў, то ўсім сваім вузкім хрыбтом адчуваў на сабе цяжкі погляд Мірона і ўвечары скардзіўся жонцы:

— Нікуды неварты гэты хвалёны цесляр. Сядзіць, як сава ў пакулле ўвязшая. У дзень поўвянца не прыпусціць і глядзіць на цябе, як чорт на пеўня. Слова яму страшна сказаць! Як мне, дык усюды шанцуе! Каб яно згарэла!

А Мірон праседжваў цэлыя поўдні, не ішоў на абед.

На свеце ішла вясна. Яе называлі першай большэвіцкай. Яна пагражала не толькі снегу. Удзірванелыя, спрадвечныя межы вузкіх загонаў

павінна была змыць з палёў магутнай сваёй паводкай першая большэвіцкая вясна. З кожным днём усё больш пахмурнеў Грузд, кляў калгасы.

Сядзеў ён моўчкі, падпёршы галаву і прыплюшчыўшы вочкі праз цэлыя вечары.

А насупраць яго, за тым-жа сталом сядзеў, панурыўшы галаву, Мірон. Ён думаў аб сваім.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вясна наступала.

Нават уначы не прыходзіў мароз, таяў, чэзнуў снег і паўставалі густыя туманы і месяц брыў у туманах разграбаючы іх сваімі праменнямі, І такія былі звонкія гэтыя ночы, што чуваць быў голас кожнага струменчыка пад снегам, які звінеў, прабіваючы сабе дарогу насустрач бурлівым патокам вясны.

У гэтыя ночы, высока ў туманах, не ведаючы адпачынку, з тугім свістам крыллаў і звонкім пераклікам, імчалі пералётныя стаі жураваў.

Па балотных і рачных разлівах крэкалі чародкі качак. У гэтыя ночы бадзяўся па лясах звер. У вазёрах, рэках, у прадушыны з-пад адталага лёду білася рыба.

Поўна галасоў было ў начах, цераз якія расштурхоўваючы туманы, брыў адзінокі месяц. Цёплы дух адталых сокаў зямлі, адвечны церпкі і гаркавы пах састойваўся над палямі ў гэтыя туманныя ночы.

Разгортвала сілы вясна.

Мірон у гэтыя ночы варочаўся з боку на бок і, нарэшце, знясілены бяссоннем, ішоў у сад, дзе пры канцы свірна былі складзены старыя калоды вулляў. Там ужо растаў снег, прасохла зямля. Сонца ў поўдзень пякло ў садзе так, што з'явілася кволая зяляніна ў кустах чорнай парэчкі.

Там і сядзеў Мірон адзін уначы на згрыбелых калодах вулляў. Да самай вёскі амаль падступаў чорны лес і там было таемнае жыццё, узбаламучанае наступам вясны. Крычалі і кугукалі зайцы звонка і тужліва. На далёкіх лясных узгор'ях, жартуючы каля нор, прарэзлівым узбрэхам адзываліся лісы і, блукаючы на няведамых лясных дарогах, час ад часу падаваў свой пануры голас адзінокі воўк.

І ў вёсцы па аборах і стайнях неспакойная была жывёла, пасля поўначы не было ўгамону пеўням. Неўмоўчны гул стаяў ад сабачага брэху.

І прыслухоўваючыся да ўсіх гэтых зыкаў, праседжваў занураны ў сваіх думах Мірон. Ішоў ён у цёмную хату, каб забыцца ў неспакойным старэчым сне толькі тагды, калі праступала святло зары, калі прыходзілі досвіткі і зімнаваты вецер усплываў над зямлёю, палохаючы туман.

Аж да тэй пары сядзеў ён ссутулены на струхлелых калодах, ад якіх пахла воскам і прагорклым старым мёдам. І ён не чуў нават, як бразгала клямка і выходзіў Грузд. Той апіраўся на тын і ўглядаўся ў сад. І заўсёды бачыў нахіленую постаць Мірона, які не адчуваў прысутнасці гаспадара і, тым больш, не ведаў, што з гаспадаром дзеецца, якія клопаты грызуць Груздову гаспадарскую душу.

— Чаго ён, трасца матары, сядзіць што ноч?—думаў Грузд.—Аб чым гэта ён задумаўся? Вечны галяк, пустая кішэнь, адна галава, што зарабіў, тое з'еў,—па чым тут ён замаркоціўся!

Глядзеў Грузд на панурую постаць Мірона... І нічога не разумеў.

Вясна прыйшла знянацку. Добрая будзе вясна! У папярэднія гады Грузд у гэты час таксама не спаў начэй. Але гэта было зусім інакшае бяссонне. Ён браў ліхтар і ішоў глядзець ці ў парадку яго коні, ці

усім задаў батрак сечкі, ці дагледзеў ён як след Груздову гордасць—кроўную матку з адменнай пароды першаронаў. Пасля гэтага ён зазіраў да кароў, заглядаў у авечы хлеў, заходзіў да свіней, а раней, як бяднейшы быў, нават курэй пералічваў на курасадні. Ці доўга якому паганцу шкоды нарабіць?

І як толькі дзе знаходзіў Грузд непарадкі—увесь дом станавіў дубка і перш за ўсё выганяў Грузд батрака перарабляць усё нанова. Гэта-ж ці жарты, вясна! Тут не толькі кожнае яйцо—кожнае каліва сена павінна быць на вучоце, павінна быць пушчана ў карысць! І ніводнай страчанай дарэмна жменькі мякіны не даравау нікому Грузд. І не дзівіліся ўжо суседзі, калі з поўначы грымеў на двары Груздоў распачлівы бас, разносячы праклёны і пагрозы на ўсю вёску.

Некалькі гадоў раней насіў Грузд бародку. За апошнія часы ад клопатаў яна вылезла, стала рэдкай і Грузд яе агаліў. А тагды—была барада, як мае быць. І любіў Грузд пры гутарках прапушчаць яе праз кулак. А гутаркі былі ў яго садзе, на калодах, там, дзе кожную ноч цяпер сядзіць цесляр. І гутаркі свае, прапушчаючы бародку праз кулак, вёў Грузд рашуча і проста, вылушчваў сэнс справы са слоўнай шалухі, як бабовае зерне з зялёнага струка.

— Так што, брацiку, гаспадарыць табе без каня не выпадзе. Хі-хі-хі! Якога чорта без клячы гаспадар! І зноў-ткі і дзяцей тваіх шкода. Узімку без хлеба—не жарты. Так што куды ні кінь...

Ён маўчаў пэўны час і жоўтыя валаскі працэджваліся праз кулак. Потым гаварыў мякка і сардэчна:

— А зрэшты—можна дапамагчы. Пару пудоў ячмяньку і жыта падпішу табе. Дай мне гоні на ўзгор'і, ды гоні пад гарэлай імшарай і на Кутніх лядах той кругленькі дзірванок. Я лянку там плёхну. А табе гародзік мой работнік аправіць, на поле коняй возьмеш, калі адпрацуеш потым ці касой, ці сярпом. Бабу на жніво падашлеш. А калі не дасць табе бог спосабу паправіцца да восені, гэткім-жа парадкам будзем гаварыць і знойдзем дзіру, як вылезці. Людзі свае.

Ён маўчаў і чакаў, пакуль скажа чалавек свае рашучае слова. І пакуль ён чакаў, прыжмурыўшы вострыя свае вочкі—жоўтая бародка ўвесь час лізала вялізны, сухі і чырвоны яго кулак.

А калі не згаджаўся чалавек, тагды з'яўляўся ў Грузда бас, грозны і грымотны і Грузд адным махам канчаў справу.

— Пайшоў вон! Не псуй паветра ў садзе! Я табе дапамагчы хацеў, а ты мяне ў злодзеі ўпісваеш!

І ўставаў з месца, ішоў прэч. А чалавек спалоханы і басам і рашучай груздовай хадой, раптоўна разумеў, што больш выхаду няма, што калі пойдзе Грузд і адмовіцца мець з ім справу—прыдзе ён з пустымі рукамі да галодных дзяцей. А так, хаця за кошт усёй сваёй зямлі і за кошт дармовай батрацкай працы, прынясе ён хаця які пуд жыта ды ячменю на крупнік. І бег ён ззаду за Груздом:

— Ты не злуй, Анісімавіч! Я-ж нічога, сцеражы бог!

Такія былі справы ў Грузда раней. Цяпер няма ні барады, ні таго дастатку. Адно засталіся—клопаты. Ды і яны зусім інакшыя. Раней меркаваў Грузд, дзе што сеяць, як з кім уладзіць гутарку, як што прадаць і якім чынам што купіць. І калі гэткая сакавітая ноч развіналася перад ім, то ўзнімалася ўнутры, недзе ў грудзях халодная сіла, якая прыўзнімала яго. Хадзіў Грузд па двары і думалася яму, што прыдзе такі час і будзе ён, Грузд, поўным уладаром. Гэта будзе яго зямля, уласная, свая, зямля яго вёскі. І людзі на гэтых палях будуць яго ўласнымі. І не толькі людзі, але кожная істота, нават той драч, што крычыць на балоце. Ён знёс сваё шэрае яйцо на яго груздовай зямлі, ён прыма-

цаваўся да гэтай зямлі, і таму ён ужо груздова птушка. Гэта яго ўласнае, як яго ўласны кавалак неба пад яго ўласнай зямлёй, як яго ўласныя людзі на яго ўласнай зямлі. Ад усіх спажыве Грузд, ад усіх выцісне кроплю карысці, кропля будзе далучацца да кроплі, яшчэ больш магутным будзе Грузд, яшчэ больш цопкай будзе сіла яго рук.

Такія думкі апаноўвалі Грузда ў былыя вёсны. Ён хмялеў ад іх, кідаўся з хаты ў хлеў, з хлева ў хату, з хаты на гумно. Яшчэ досвіткамі ён будзіў жонку і калі яна адразу не прачыналася, біў моўчкі і потым, калі яна ўціраючы слёзы ўставала, хапаў сякеру і ляцеў з парабкам у лес ці ехаў у мястэчка да знаёмага купца, і ўсё гэта ён рабіў з лаянкай, з гвалтам, з кулакамі і праклёнамі, падпарадкоўваў і людзей і жывёлу, лез угару.

І раптам сарвалася. Нечакана апынуўся Грузд унізе. Зрывалася не раз, зрывалася многа раз дагэтуль. Але гэта было па інакшаму. За апошнія гады сушылі груздову кішэню падаткі. Плаціў Грузд з плачам, з крыкам, спрачаўся за капейку, выпрашваў і вымольваў, шукаў сяброў і знаходзіў іх, прасіў дапамогі і атрымліваў яе і заставалася яшчэ ў яго ў свірні і ў кішэні, і перасыпалася, і перасушвалася, і пералічвалася, і адкладвалася ў патаемныя месцы, і хавалася там, і было гэта захаванай груздовай сілай, якую ён мог пры ўсякім выпадку развінуць, як магутную пружыну. І каля гэтых схаваных крыніц сваёй сілы скакаў і выкручваўся, і кляўся, і бажыўся Анупрэй Анісімавіч Грузд, і ўрываў, і ашукваў,—павялічваў сілу сваю. Чакаў і спадзяваўся; прыдзе такі дзень, будзе такі час, пакажа ён сілу сваю гэтым лапцюжнікам, што цяпер ціснуць яго з усіх бакоў так, што горкі пот цурком цячэ.

Зрывалася і раней. Напрыклад перад вайной у трынаццатым годзе ўвосень падпаліў нехта груздова гумно, поўнае хлеба. Не дапільнаваў, не ўгледзіў. Як выскачыў убачыў агонь,—схапіў аброць і пабег у павець, зачапіў аброць за маціцу, пачапіў повад за шыю, стаяў поўгадзіны, пакуль не заўважылі яго ў павеці, асветленага водблескам пажара. Убачылі бабы, узнялі гвалт, а Грузд тады пачаў хрыпець і таптацца па саломе, пільна трымаючыся таго, каб як зненацку і сапраўды не ўдушыцца. Знялі яго з пятлі, ляжаў ён на зямлі, выпруціўшы свае даўгія ногі, адлівалі яго добрыя людзі вадой, а потым раніцою з таго жалю, нанеслі яму хто пуд, хто два, а суседзі з фальваркаў і па мяшку і па два прывезлі. А потым Грузд, набраўшыся апэтыту, наняў трох удалых хлапцоў, апаліў аглоблі і ў чатыры канцы света паехалі яго падводы прасіць дапамогі пагарэльцу. На аднэй паехаў ён сам. Штоноч чатыры вазы хлеба прыяжджалі на двор да Грузда. Піў Грузд з хлопцамі не адну чарку і не дзве, а досвіткамі зноў выяжджалі падводы з апаленымі аглоблямі. І гэтак—амаль не да вясны. Ад'яжджаючы далёка, складаў хлеб Грузд па знаёмых хутарах і набраў яго столькі, што і з пяці ураджаяў не сабраў-бы, а ўвесну, у галодны час падшукаў Грузд добрага купца і спусціў частку хлеба, а другую пад працанты распазычыў. Груздавай стала яго кішэня адразу. Як скончыў гэтыя справы, сказаў да жонкі:

— Дай бог, баба, гарэць ды не галець! На наш з табою век, баба,— дурняў хопіць!

Зрывалася не раз і да гэтага і пасля гэтага. Але—было ўсё па інакшаму. Заўсёды выхад знаходзіў Анупрэй Анісімавіч. І нават як у апошнія гады падаткі яму далягалі і цесна станавілася, то хадзіў ён у падранай сярмязе ў сельсовет, гадзінамі стаяў у райвыканкоме, з клумкам хадзіў у цэнтр хадаком і галасіў, і маліў, і плакаў, і такі яго жаль да самога сябе агортваў, што хацелася стаць на рынку і набожную песню заспяваўшы, руку па мядзяк выцягнуць. І заўсёды знаходзіў Грузд то дурня, то свайго чалавека, і рабілася лягчэй.

Так рос, так багацеў Грузд, Анупрэй Анісімавіч, у розныя часы і гады. І лез угару, часам шпарчэй, часам больш марудна. І раптам трэснула ўся Груздова пабудова, трэснула глуха, страшна, як гнілое дрэва з-пад карэнняў, з выбаратам. І яшчэ не заваліласе дрэва Груздова, але пагібельны дало нахіл, і Грузд спрытна саскочыў з яго на самы ніз і стаў пад дрэвам сваім, пільнуючыся таго, каб яно не завалілася на яго, Анупрэя Анісімавіча, круглую галоўку. І таго не ведаў ён, што якраз больш і не было куды валіцца гэтаму дрэву.

Як гэта выйшла?

Выклікалі яго ў сельсовет. Там абкружылі самай што ні на ёсць галотай, самымі лапцюжнікамі, самымі заядлымі ворагамі Анупрэя Анісімавіча. За сталом сядзеў вусаты чалавек у скураной куртцы. Казалі пра яго, што гэта стары комуніст, што рабочы гэта з гораду і казалі яшчэ, што няма ў гэтага чалавека літасці да такіх, як Анупрэй Анісімавіч Грузд.

І як глянуў на гэтага чалавека Анупрэй Анісімавіч, то душа яго адразу занесла нагу на ніжэйшы сук і пачала на жываце з'яжджаць з дрэва свайго паціханьку ўніз. Стары даваў Грузду пытанні і абліваючыся потам і слязьмі, даў Грузд споведзь аб справах сваіх і днях, і плакаў горка на ворагаў сваіх, што за дабро яго ў гразь топчуць, што гатовы яго ў лыжцы вады ўтапіць.

Стары ківаў галавою і пісаў алоўкам і ніяк не згадаць было Грузду, што ён хавае пад сівеючымі вусамі: ці грымасу гневу, ці ўсмешку. І тое, і другое было дрэнна аднолькава. І таму сцякаў потам і сморкаўся, і плакаў, і адчуваў, як ніжэй ды ніжэй з'яжджае з дрэва ён, Анупрэй Анісімавіч Грузд. І ехаў ён так да тае пары, пакуль стары не сказаў:

— Ідзіце дадому. Пытанне будзе абгаворана на групе беднаты. І папярэджваю вас, што вы адказваеце за цэласць гаспадаркі. Усё павінна быць у цэласці, да апошняга цвіка! Інакш да вас будуць прыняты суровейшыя меры!

І былі ў голасе старога страшнаватыя ноткі. Скамячыў шапку Грузд, адчуўшы прыкрую пустату ў жываце, і зразумеў, што ён з дрэва ўжо злез, што стаіць ён на зямлі.

З хворай галавой прыехаў Грузд дадому, не спаў ноч, чакаў цэлы дзень, але ніхто да яго не ішоў і не ехаў. Прайшло яшчэ два дні, стала лягчэй, і думаў Анупрэй Анісімавіч памаленьку зноў на сваё дрэўца ўзбірацца, але тут раптоўна раскулачылі двух добрых яго суседзяў з наўкольных хутароў, потым яшчэ двух, потым чатырох, потым праз тыдзень у самай груздовай вёсцы арганізаваўся калгас. Тут зразумеў Анупрэй Анісімавіч, што на дрэва яму не ўзлезці, што яно выкарчоўваецца з карэннем і не толькі лезці на яго, а трэба пільнавацца, каб не грымнула яно на галаву, на кругленькую, як кулачок, дасціпную, разумную галоўку Анупрэя Анісімавіча Грузда. А як тут пільнавацца?

— Прадаць! Усё прадаць!—думаў Грузд.

Але тут-жа ўспамінаў:

... павінна быць у цэласці, да аднаго цвіка!

Гэта былі не пустыя словы! Выкручваўся на ложку Грузд, як на агні, уставаў, выходзіў на двор і тут яго абступала поўная галасоў, цёплая веснавая ноч.

Грузд глядзеў на дахі пабудоў, чуў, як мякка жуюць салому каровы, як стрыгуць авечкі сена, як хрумаюць сечку коні, ён прыглядаўся з жалем да гэтага ўсяго, што ўзвышалася перад ім падгнілым у карэннях

дрэвам і гатова грымнуць на яго і сцерці з зямлі, якую ён хацеў падабраць пад свой абцас.

І халоднай здавалася ноч, і пустой і варожай была яна, і ніякай вясны не магло быць на свеце, калі не будзе гаспадарыць, камандваць людзьмі і жывёлай ён, хітры, вопытны, разумны Грузд! Няма за каго ўчапіцца, ніхто не падсадзіць на дрэва, хаця-б да першага сучка. Няма ратунку для Анупрэя Анісімавіча Грузда!

І тады з'яўлялася страшная думка. Вось зараз... сярнічку пад павець. Абора і стайня замкнуты. Гуляй агонь! Мяці, падмятай, падчышчай усё, гуляй вецер над вёскай, над палямі! Гары ўсё!

І ледзянела сэрца. І рукой абмацваў Грузд каробку запалак у кішэні. Але... бачыў раптоўна Грузд чорную ноч, маўклівыя постаці людзей за сваёй спіной, бачыў сябе бяспомачнага, самлелага ад страху і чуў Грузд голас—каманду:

— Марш да ямы!

Так было некалі. У часы вайны. Грузд бачыў і запамятаў назаўсёды.

І... рука труслівa вылазіла з кішэні.

— Усё павінна быць у цэласці!

Апіраўся Грузд на тын, глядзеў у сад і бачыў на калодах вулляў постаць Мірона. Невядома, чаго і навошта сядзіць на яго ўлюбёным месцы чужы і незразумелы яму чалавек! Аб чым думае гэты валацуга? Аб чым гаруе паганы лапцюжнік, галадранец, Мірон Воўк?! Чаму ён не радуецца з яго, Груздовай, пагібелі? Чаму ён сядзіць адзінокі ўначы!

Гэта было так недарэчна, што са здзіўленнем глядзеў на яго з-за тыну Грузд, закляты і бязлітасны вораг Мірона і падобных да яго.

Так праходзілі веснавыя першыя, туманныя, ночы.

* * *

Дні праводзіў Грузд на ганку, абараняючыся ад сваіх гаспадарскіх думак. Думак гэтых было шмат, але магчымасці не было ніякай:

— Плугі не накладзены,—паўзла адна думка.—Лемяшы трэба з-пад саломы выцягнуць, ды ад таго кавалка, што ўвосень на станцыі ад стрэлачніка прыдбаў, на пару адвалаў мусіць адсекчы, работніка ў кузню паслаўшы...

Але тут-жа ўспамінаў Грузд, што работніка няма і што няма таксама ніякай патрэбы выцягваць лемяшы і адсякаць жалеза на адвалы.

— Усё павінна быць у цэласці!

Ад гэтага ён траціў розум, перабіраў нагамі, скрыгаў зубамі.

Потым яго вока зноў затрымлівалася на якой нібы дробязі і выпаўзала зноў гаспадарская думка:

— Насенне на сартыроўку пусціць, на пуньцы дах падзёрся... Падыйсці-б да крывога Мітрафана і ціхаматам пад арэнду канцавы дзірванок схапіць. А на пуньку хіба работніка ўскінуць ды няхай падлапіць саломкай.

Ён яшчэ думаў аб тым, ды аб другім і зноў задыхаўся і дрыгаў нагамі—заходзіўся сэрцам ад несцярпімай ненавісці.

Дайшло да таго, што аднойчы, ухапіўшыся за галаву, бегаў Грузд па двары, бегаў, падскакваў і выў, і роў на ўвесь голас. Спыніўся каля яго варот тугаваты на вуха дзед Клім. Ён ішоў на рэчку ставіць нераты. Убачыўшы Груздовы фокусы, ён здзіўлена спытаў:

— Чаго ты, суседзе, гарцуеш па двары, ліха матары! Шалёнага малака пакаштаваў, ці што?

Гэтым дзед напамінаў Грузду сухотную карову, якую ён за тры цаны прадаў некалі Клімавай дачцы—салдатцы, многадзетнай удаве.

Але Грузд не звярнуў увагі на выразную зачэпку і, каб нібы замаскавацца каб у смех і ў стыд не ўлезці яшчэ больш, усё гэтак-жа падскокваючы, крыкнуў:

— Зуб як агнём пячэ! О-о-о-о-е-е-ей!

— Зу-уб!—паківаў галавою Клім.—А каторы, клык, мусіць?

І не дачакаўшыся адказу, закончыў:

— Нічога сабе быў у цябе клык, Груздочак ты мой! То ты гэтым клыком народу перарэзаў. Цяпер-жа і паскачы, як пад клык пад'ехала, і паскачы і пагарцуй! У самы раз табе цяпер гарцаваць, сукін ты сын, Груздочак! Пагарцуй, пагарцуй! От так! Гоп-гоп! Ах ты-ж, якая шпіктакля!

А Грузд не ведаючы, што далей рабіць, разгублены, сапраўды падскокваў аж да тэй пары, пакуль не пайшоў стары сваёй дарогай.

Тагды Грузд пабег у хату, заваліўся на ложак і ў нечалавечай злосці парваў на шмаццё падушку, напусціўшы пуху поўны пакой.

А ўвечары, калі прыйшоў Мірон з работы, Грузд зноў сядзеў на ганку, і цесляр, моўчкі глянуўшы ў яго лютыя пацучыныя вочкі, аж здзівіўся таму напору ненавісці, якая калыхалася ў мутных гаспадарскіх зрэнках.

Так па крыху вар'яцеў Грузд. Але нечакана прыехаў на двор сусед Нічыпар Махоцька, гаспадар з хутара. І яшчэ седзячы на кані загаманіў:

— Стаў Міколу цудатворцу свечку, Анісімавіч! Ўратаваліся! Паехаў з сельсовета той чорт скураны, паўнаважны! Паехаў далей свет грабіць, нас з табою не чапіла матары яго чорт, сілы відаць не сабраў на нас!

— Паехаў?—мог толькі перапытаць Грузд.

Нічыпар грузна саскочыў з каня.

— Паехаў! Верны чалавек гаварыў, я не паверыў, сам у сельсовет памчаў, даведаўся. Паехаў!

У гэты вечар пілі гарэлку Махоцька з Груздом і як упіліся, адхінуў крысо Нічыпар, паказаў груба абструганы абрэз.

— На яго! На скуранога чорта прызапасіў! Мне не жыццё, але і табе магіла! Сам жыць не буду, але і табе не дам!

І тагды Грузд, абняўшы Нічыпара за плечы, расказаў, як ён наважыўся быў падпаліць сваю сядзібу, замкнуўшы жывёлу ў хлявах. І выходзіла па гутарцы Грузда, што зрабіў-бы ён гэта і рука не скаланулася б і не страшны яму расстрэл за падпал, бо ён, Грузд, адвеку адважны чалавек.

Пасля таго, як паехаў Нічыпар, доўга глядзеў услед яму Грузд, стоячы на гародах, аж пануль не ткнула яму ў п'яныя мазгі думка, што ён зноў гаспадар. Уціснуўшы рукі ў кішэні, ён крута за вярнуўся і, знарок грукаючы абсацамі, пайшоў на двор. І разглёгся Груздаўскі грымотны бас, азваўся пісклявы голас яго жонкі, забегала па двары гарбатая і ціхая сястра груздовай жонкі. І пайшло ўсё па-старому.

Хадзіў Грузд па двары вясёлы, глядзеў коням у зубы (ці няма прысоса), правяраў, ці добра выдаены каровы, і па старой памяці намуштраваў жарабца. Так ён хадзіў аж да самага вечара. А ўвечары, узяўшы ліхтар, пайшоў на гумно выцягваць з-пад саломы жалеза, што ў мінулым годзе прадаў яму знаёмы стрэлачнік.

І тут, не паспеў ён яшчэ дакрануцца да жалеза, як пачуліся асцярожныя крокі і жонка зашаптала яму на вуха:

— Прышоў да нашага цесляра той, што ў калгас упісаўся. У садзе на вуллях гутараць нешта патаемнае. Не разумею, Анупрэйка, сваім бабскім розумам, падыйдзі чуеш, стань пад тын, паслухай, можа, крый божа, пад нас падкопваюцца?

І адразу прапаў у Грузда настрой, устаў ён, паправіў салому, загасіў ліхтар і, пакінуўшы жонку на гумне, паціху пайшоў гародамі да сада, наўскасы, па раллі. Зноў труслівы халадок заварушыўся ўнутры, і Грузд тут-жа на хаду вырашыў:

— Заўтра я яго адпраўлю! Лішні неспакой. Падшукаю потым дзенебудзь чалавека якога, хай дакончыць. Чорт па ім, па гэтым Ваўку!

І падышоўшы да тына, ён пачаў слухаць.

Мірон і Антось сядзелі побач, на вуллях. Адзін з іх курыў. Чырвоны агоньчык тлеў у змроку.

— І я прышоў да цябе, Мірон, яшчэ раз,—сказаў Антось, працягваючы пачатую гаворку.—Як гэта ты нашыя дарогі разбіваеш? Я ў калгас пайшоў, ты ў кулака ў хаце сядзіш.

— Гэта ты дарогі разбіў,—сказаў Мірон задуменна і панура.

— Мне гэтае сабачча жыццё шыю нацерла. Я ў новае жыццё пайшоў. Там я роўны з усімі чалавек. А тут я быў з двух бакоў біты. Горка было, што нас з табою за людзей не лічаць, і па конскаму мы працуем. І яшчэ больш горка мне было, па праўдзе сказаць, што я і перад табою меншы, бо не ставала ў мяне духу супроць зграі свету ўпірацца. І трэба было тваёй дапамогі прасіць. Я пайшоў на добрае жыццё, Мірон, на чалавечае... І цябе зваў. Ты мяне зразу паслухаць не хацеў і не хочаш. І разбіліся нашыя дарогі пад старасць...

Мірон маўчаў.

— Пойдзем у калгас, Міронка! Мы з табой цесляры ўмелыя, у калгасе нам-бы гонар быў! Не тое, што сядзіш ты на гэтай Груздовай шыбяніцы дзень-у-дзень.

Мірон кашлянуў, але не абазваўся ні словам.

— Мне старшыня так і сказаў: прасі Мірона ў калгас. Патрэбныя, кажа, вы нам людзі, свае, кажа людзі. Чуеш? Свае! Свае людзі, працавітыя, адным словам—з мазалям! Чуеш, як аб нас свет разумее, а ты сядзіш у кулака ў хаце, бадай, не тое што на ласкавым хлебе. Няўжо ты, Мірон, выбачай на слове... не разумееш, што на свеце дзеецца?

Адказу не было.

— Я нічога не меў, уся гаспадарка мая тое, што ты мне з нашай торбы выдзеліў, кавалка даху пэўнага над галавой ніколі не было. А тут прывёў мяне старшыня калгаса і кажа: „Вось табе дом, Антось, жыві!“ Дом, браце ты мой, дом, як палац! Кулак жыў раней, мы з табой заўсёды ў такім доме далёка ад парога адыходзілі...

Антось уздыхнуў і ўсхвалёваным радасцю шэптам дадаў:

— ...а цяпер мая жонка там поўная гаспадыня, тры сям'і там разам жывуць, дружна, Мірон... па-людску...

Мірон маўчаў.

Антось развёў рукамі.

— Скажы ты мне, Мірон, чаму ты не ідзеш у калгас? Скажы, ты мне, чуеш?!

— Як магу я сваю праўду змяніць і другому паверыць,—азваўся Мірон,—толькі з-за таго, што ты пашоў у калгас. Зусім інакшае я тут убачыў, Антон. Тое ўбачыў на табе, што раней бачыў на другіх. Сваю выгаду шукаючы пакінуў ты мяне... І добра ты ведаеш, што не пайду я ў калгас, а прыходзіш угаварваеш, як маладзіцу замуж... Кінь! Няма чаго тут сваё сумленне ачышчаць... Я і так ведаю яго...

Мірон уздыхнуў і дадаў:

— Многа пакут я цярпеў да тае пары, пакуль праўду сваю пазнаў. І вельмі простая гэта праўда: не вер чалавеку!!! Стаяць на свеце людзі адзін супроць другога, чалавек чалавека зубамі гатоў парваць. Як я магу

думаць інакш? Ты-ж сам, як труслівы сабака, зрабіў! Таму табе і прышлося да спадобы... А мне там не месца.

(— Галава, чорт!—Грузд пераступіў з нагі на нагу і ціханька хмыкнуў.)

— Чаму я сабака, што ты гаворыш, Мірон!

— Праўду гавару... Пакінуў ты мяне і не аглянуўся назад. Сумленне сваё ачышчаць прыходзіш. А я адзін на свеце застаўся за ўсю маю ласку да цябе, за ўсё мае дабро. З голаду мне здохнуць давядзецца, бо я ўжо дрэнны работнік. Як у двох працавалі, непрыкметна было. Адзін застаўся—бачу: дрэнь я работнік. І зруб крыху папсаваў і ў рабоце не паспешна... Не зараблю сабе хлеба, от што... З голаду мерці прыдзецца... А ты мяне пакінуў...

(— Зру-у-у-уб!—жахнуўся Грузд—Папса-ва-а-а-аў!)

... — Кончым гутарку, Антось, ідзі дадому!

— Я не сумленне ачышчаць прыходжу! Мне крыўдна, што ты ў кулака сядзіш, смокча ён тваю кроў, як клоп... І не пакідаю цябе. Пойдзем разам!

— Мне адзін чорт, дзе будуць маю кроў смактаць... Адзін клоп мяне высмакча.

— ...Смокча тваю кроў кулак, а ты не разумееш жыцця, багацце яму нажываеш. Нядоўга яму засталося, крывасосу!

(— Не доўга!!!)

— ...Сорамна мне за цябе перад усім светам.

— Няма чаго. Мне цяпер усёроўна, што ты, што Грузд. Абодвы за сваю карысць загубіць чалавека гатовы...

Стала ціха.

— Кончым гутарку, Антон. Ідзі дадому.

— Не злуй, Мірон! Паслухай мяне яшчэ раз. Заблытаўся ты. Ад таго ты заблытаўся, што не верыш нікому, над капейкай дрыжыш, толькі аб сабе дбаеш, за сябе толькі ты, Мірон, баішся... Ты кажаш: Грузд і я—усё роўна. Я не Грузд... Я—чалавек. Не хацеў і не хачу быць Груздом!

— Хіба таму, што не можаш! Сілы не хопіць! Горла ў цябе вузкае!..

— Воўк!—нечакана крыкнуў Антось.—Горш за ваўка! Сабака! Гаспадарскай косткай цешышся, за сваю скуру баішся! Чалавечую душу сваю загубіў!

Мірон пагрозны і вялізны ўзняўся з калоды:

— В-вон!

І тагды аднекуль з ночы данёсся хрыплы задушаны рогат.

— Га-га-га! Ха-ха-ха!!! Правільна! Правільна сказаў! Не можаш! Не мо-о-о-жаш ты, сукін сын, быць Груздом! Ідзі, сволач, не збівай з дарогі чалавека! Вон пайшоў, бо спушчу сабаку! Ха-ха-ха! Кал-га-а-снікі! Лапцюжнікі! Сволач босая! Вон! Сам здохнеш перш, чым мне канец прыдзе!

Гэта рагатаў і крычаў ашалелы Грузд.

Антось стаяў анямелы, пакуль зразумеў, у чым справа. Потым вялікі гнеў ахапіў яго і сілу адчуў ён у сябе такую, як-бы стаялі за яго плячыма ўсе незлічаныя, на вялікую справу ўзнятыя, масы людзей. Як-бы павеяла магутным подыхам гэтай гіганцкай сілы, тут у гэтым садзе, у змроку ночы, дзе рагоча і захлёбваецца амаль звар'яцелы Грузд.

І Антось Літвак, калгаснік, зрабіў тое, на што ніколі не адважыўся-б, Антось Шпэрка, заштурханы цесляр. Ён падышоў да Мірона і крыкнуў яму ў твар:

— Гаспадар твой пад плотам брэша! Ідзі, падбрашы, дапамажы яму! Падкулачнік ты! Капеечная душа, воўк труслівы!

Мірон не азваўся ні словам.

Грузд бачыў, як хутка пашоў прэч Антось, чуў, як затрашчала галлё пад яго нагамі.

— Спусціць на яго сабаку, услед!—думаў Грузд.—Хай ён яму дасць пару гусакоў, порткі здзёршы! Т-ты г-гадзіна!

Але на палове дарогі да сабачае будкі насцігла Грузда трывожная гаспадарская думка і ўскубнула за сэрца:

— Зруб-жа папсаваны!

Грузд павярнуў назад. На ганку ўхапіў з-пад лаўкі ліхтар і, размахваючы ім, пабег цыбатай рыссю шлёпаючы па гразі ў напрамку да леса, на паляну.

Дабраўшыся да зруба, ён узлез на рыштаванне, запаліў ліхтар і доўга ляжаў на жываце на мокрых бярвеннях, спушчаючы ліхтар унутр зруба, аглядаючы зруб, уядаючыся поглядам у кожную шчыліну, у кожны паз. Пазы былі, як зліты, моцна ўсаджаны на шыпы былі бярвенні, шчыльна ляжаў у пазах акуратна падсечаны мох, вуглы былі апушчаны так, што нельга было-б і іголку ўваткнуць. І толькі пасля доўгіх намаганняў убачыў Грузд Міронаву памылку: крыху больш за іншых з аднаго і з другога боку выступалі канцавыя бярвенні сёмага вянца. Памыліўся Мірон у разліку, але так замаскаваў памылку акуратным падчосам, што амаль не было магчымасці яе заўважыць. Адразу палягчэла на душы ў Грузда, ён злез са зруба, загасіў ліхтар і тым-жа парадкам паспяшыў дадому. Натыкаючыся на дрэвы, спатыкаючыся аб карані, шлёпаючы па лужах на лясной сцежцы, Грузд кляў цемру, але запаліць ліхтар не адважыўся, шкадаваў газы і пакуль так ішоў, прышла да яго яшчэ адна гаспадарская думка:

— А я яму не заплачу! Скажу: папсаваў мне зруб, шкоды больш зрабіў, чым карысці... Пайшоў вон скажу, пад чортаву маць! Хто табе будзе за псуту плаціць!!! Няхай толькі скончыць зруб, дам яму фаеру!

Прышоўшы да гэтага рашэння, Грузд павесялеў, пачаў нават высвістваць, заходзячыся смехам над Міронавым глупствам, што такую дробязь ён за псуту лічыць. І так у добрым настроі і ў гаспадарскія думкі занураны, дайшоў ён да свайго двара і ўзышоў на ганак. І тут, нечаканай і страшнай здалася яму высокая, выпрастаная постаць, што ўзнялася насустрач. Ён адступіў на крок і стукнуўся патыліцай аб слуп ганка. Брахнуў ліхтар аб вострае груздова калена. І калі пазнаў Грузд Мірона—яму не стала лягчэй.

— Ты мне дакончыць не даў, Грузд!—хрыпла сказаў Мірон.—Я таму чалавеку сказаць хацеў, што не можа ён быць такім, як ты, таму, што не ў слязах людскіх, не ў крыві чалавечай мыў праз жыццё свае рукі, а ў поце горкім сваім. Гадзіна ты сіпатая, паганая мухамора!

Грузд прыціснуўся да слупа. Пабітае шкло хруснула пад нагой. Страх сціснуў басавітае Груздова горла.

— Калі я ў калгас не пайшоў, то не думай, што я табе брат,— наступаў на Грузда Мірон.—А чаму я ў калгас не іду—не твайго гэта розуму справа, паганец ты, глот! Не брат я табе, не сват, але і не парабак, не купіў ты мяне і не купіш за капейку, гадзіна!

— Куп-піў!—нечакана адшукаў сілы Грузд.—Купіў і куплю! Я—гаспадар!—заўтра-ж вон адгэтуль! Вон! Пад чортаву маць! Непатрэбна мне такіх работнікаў!

І змоўк аглушаны ўласным гвалтам.

Мірон падспупіў яшчэ бліжэй, прыблізіў твар, і Грузду зноў страшна стала.

— Не гаўкай!—пагрозна і раздзельна сказаў Мірон.—Не выганіш!

Зраблю работу—сам пайду, а ты мне заплаціш спаўна, як належыць. У нас гутарка кароткая!

— Не-не!..—прахрыпеў Грузд і асекся. Ён хацеў сказаць Мірону, што не заплаціць, бо той папсаваў зруб, але стрымала неасцярожнае слова цвярозая гаспадарская думка.

— Што не?!—спытаў Мірон.—Не заплаціш?

— На гаспадара не крычы!—знізіў голас Грузд.—Пад маім дахам жывеш. Мой хлеб спажываеш. Я табе таксама не радня, не раўня! Зробіш работу добра—будзе заплачана, не зробіш добра—выбачай! Ну, пусці, чаго загарадзіў дарогу!

Грузд асцярожна абмінуў Мірона і знік за дзвярыма. Бразнула клямка, Грузд абмацаў засоўку і перасунуў яе, зашчапіўшы дзверы. Мірон застаўся на ганку адзін.

— Начуй на двары!—зларадна ўсміхнуўся Грузд.—З намі ты, кіслая шэрсць, многа не пагуляеш. Катаржнік ты, праклятыі!

І ён стаяў у сенях, пазіраючы ў вузкае акенца да тае пары, пакуль Мірон не сышоў з ганку. Тагды Грузд адчыніў дзверы ў чорную хату і прабіраўся, спатыкаючыся на дзежкі і кублы, да вакна. Вакно выходзіла ў сад. Грузд утаропіўся ў яго, прыклеіўшыся потнай лысінай да цвілой шыбы, і ўбачыў пад свірнам, там дзе ляжаць калоды вулляў, мірны чырвоны агеньчык Міронавай люлькі.

— Ну то і пасядзі там ночку. Астынь крыху, воўк ты шалёны!—голасна сказаў Грузд і пайшоў у сваю, чыстую палову дома.

Там ён яшчэ доўга сядзеў на краі ложка. Абдумваў розныя справы. І думкі былі ўсе спакойныя і ўпэўненыя, усё было на сваім месцы, усё выходзіла на добрае для яго. Здавалася—зноў Грузд быў на сваім дрэве, трымаўся моцна за сукі. І як не гушкаўся ён на іх, жадаючы спрабаваць сілу карэнняў дрэва, стаяла яно, здавалася, моцна. І ад гэтага рад быў Грузд і заснуў зусім задаволены гэтым днём. І апошняй прыемнай думкай, было:

— А я яму не заплачу!

І яшчэ:

— Няхай там правэндзіцца на калодах за ноч! Не пушчу ў хату.

* * *

З самага золаку прасядзеў Мірон у садзе. Калі, гасячы ранішнія зоры, паўстала над лесам светлая пасма зары, Мірон пайшоў у павець. Там ён ляжаў на прэлай саломе, уздрыгваючы ад ранняй свежасці і колкіх незвыклых удараў сэрца. Ён ляжаў да тае пары, пакуль не разлёгся на дварэ закляты Груздоў бас і прарэзлівыя бабскія галасы.

Тагды Мірон выйшаў з павеці і пайшоў у хату за інструментам. Выходзячы адтуль, ён сустрэў на ганку Грузда.

— Добры дзень, пане майстру—ашчэрыў вялізныя зубы Грузд.— Хэ-хэ-хэ-хэ—спалася на вольным паветры? Снедаць у хаце будзеце, ці каторая баба да зруба паднясе?

Мірон словам не абазваўся, нават вачэй не ўзняў.

— Хэ-хэ-хэ,—паслаў яму ўслед Грузд.—Як пану да спадобы: хоча пан яблык—маеш пан яблык, хоча пан дулю—маеш пан дзве!

Мірон пайшоў у лес. Ён зрабіў выгляд, што не чуў Груздовых слоў. І як прышоў да зруба—павольна і прызвычаена ўзяўся за работу. Узнялося рэха па лесе, пагнала на вёрсты гулкія ўдары Міронавай сякеры.

Цесляр працаваў. Мерна ўзлятаючы ўгару, бліскала сякера, густа асыпаліся трэскі. Вецер кружыў на паляне, варушыў сівыя валасы не-

пакрытай галавы Мірона. Сонца ішло ўгару, пад лес. Мірон працаваў без перапынку.

Так было і ў даўныя гады. Здаралася і тагды, што не пускаў у хату Мірона ганарысты гаспадар, і тагды яшчэ ў твар Мірону смяяліся людзі. Многа крыўды бачыў на сваім жыцці Мірон, і за ўсё адплачваў як мог. Цяпер выходзіла інакш.

І цяпер ён думаў, павольна ўзносячы і апускаючы сякеру:

— Не адзін мне чорт, хто з мяне смяецца: ці Грузд Анупрэй, ці Антошка Літвак. Абы я сам з сябе не смяяўся. Раз такое табе выдалася жыццё—то і паспі ў поўнай меры ў сабачай будцы, і пахадзі, як належыць, за кавалкам хлеба, і калі плюнуць табе ў твар, мусіш абцерціся, бо не маеш ты сілы. З'ездзіўся конь! А як з'ездзіўся—то значыць хутка падковы аддзіраць будуць. І капыты прэч! І ў яму! Вадзіў Антошку, як старца за руку, дваццаць пяць гадоў, а ён мне ў морду плюнуў. Добра! Лепшага і чакаць не выпадала. Хадзіў праз жыццё, людзям жыллё будаваў, а сабе і кавалка даху над галавой не прыдбаў.—Таксама добра. Не адзін чорт, дзе чалавеку здохнуць: ці пад дахам, ці ў балоце? І выходзіць, што злавацца мне на Грузда няма чаго. Ён—гадзіна. І хто гадзіну ўбачыў, той адразу і ведае, што хоча яна да цябе, так ці інакш падабрацца і ўкусіць!

Мерна грукала сякера.

— І не варта мне было з Груздом з-за Антошкі зачэплівацца. Гэты ў глоты ўжо вылез, а той думае лезці. То мне вялікая бяда? Здарма, дурань стары, здароўе сабе псаваў праз ноч. Улез Антошка ў кулацкі дом—глядзі, сам праз пяць гадоў кулаком будзе.—Хай сабе і ціхай натуры быў чалавек і працавітага жыцця, але хіба-ж душу чалавечую згадаеш? Пацёмкі—чалавечая душа, а пад сэрцам чарвяк крывавы. Згадаеш ці што, калі гэты чарвяк сэрца засмокча, на нажыву, на рабунак, на зладзейства чалавека пацягне?

Мірон з усяго маху адсек сук.

— Бо не багацець-жа вам без рабунку! Не разбагацець без зладзейства!

І зноў грукала мерна сякера, нібы дыктуючы плаўнасць і спакой выпакутаваным міронавым думкам.

— Альбо ты на гары будзеш, альбо ўнізе, альбо на кані будзеш, альбо пад канём. Ці ты душыць будзеш, ці будуць душыць цябе самога. Так яно ёсць на свеце. І можа інакш было-б, каб увесь свет гэты вялікім агнём спаліла-б, і новыя людзі на свет нарадзіліся-б.

І выходзіць табе, Мірон, паціху да ямкі ехаць, лішняга гвалту не рабіць, адно з апошніх сіл абараняцца, каб на хрыбет не ўзлезлі табе, ды без часу не прыдушылі-б. Прапасці вам усім!

І Мірон зноў, з поўнага маху ўсадзіў сякеру ў паз і так пакінуў яе тырчма. Гул апошняга ўдару доўга таяў ў глыбі леса, а як усё сціхла—толькі вецер шумеў над агрэтымі сонцам верхавінамі.

Мірон быў цяпер спакойны. Больш выхаду ён не бачыў. У поўнай сіле звярыных сваіх законаў стаяла перад ім здань старога свету і гэтую здань ён лічыў поўнакроўнай, жывой істотай і нават цопкую хватку яе рук як бы адчуваў ён на сваім спрацаваным карку.

— Так мы паціху і пойдзем,—думаў Мірон.—дзень за днём—бліжэй да ямкі, дзень за днём ніжэй усё ды ніжэй. Не ўдалося жыццё змаладу не ў старасці яго папраўляць.

Мірон закурыў. Сонца грэла ў плечы. Вецер варушыў сівыя валасы непакрытай галавы. У лесе чуліся ціхія шолахі. Быў поўдзень веснавога сонечнага дня.

Мірон вырашыў усе пытанні, што ўзніклі перад ім, усе супярэч-

насці, што паставіла перад ім жыццё. І таму спакойным ён быў і нават ціхую радасць, адзіноцтва і спакою чуў у сабе Мірон. Прылівала да яго радасць, сатканая з ціхіх шолахаў абагрэтага сонцам лесу, авеяная пахам маладой зямлі, авеяная ветрам адзінокіх Міронавых дарог.

— Вось і ўсё,—цвярдзіў Мірон і ківаў галавой.—Вось яно і ўсё.

Нечаканы трэск галля разлёгся ў лесе. Пачуліся важкія крокі. Нехта бег па сцежцы. Мірон азірнуўся. І ў гэты самы момант вынырнуў з-пад хвоі Грузд. Ён момант стаяў выпрастаны, развёўшы рукі са сціснутымі кулакамі. Ён прыглядаўся да пануранай Міронавай постаці на зрубе. Грузд быў без шапкі, каўнер кашулі быў разарваны і развязаўся пояс.

—Чалавеча!—задушана крыкнуў Грузд,—ррабуюць! Р-р-ра-буюць мяне.

„Звар'яцеў ён ці што?"—падумаў Мірон.

Грузд бег да зрубу і трос кулакамі.

— Р-рабуюць мяне!... Р-рабуюць... чалавеча!!!—няпрытомна выкрыкваў ён на бягу.—Сярод белага дня! Р-ратунку!

Ён падбег да зруба, спыніўся пад рыштаваннем, ухапіўшыся за галаву, захістаўся. Згары Мірон бачыў ружовую кругленькую лысіну Грузда, абхопленую даўгімі пальцамі.

— Р-рраскулачваюць!—распачліва зароў Грузд,—раскулачваюць мяне! З-пад арышту збег! Р-р-ратунку-у-у!

Грузд загаласіў, заскуголіў.

Мірон сядзеў нерухома на бервяне, глядзеў уніз на шалеючага Грузда.

А той нечакана абарваў свой лямант, задраў галаву ўгару і глянуў на Мірона. Іх погляды сустрэліся. Мірон убачыў дробны, як кулачок, абцёклы слязмі твар, на якім варушыліся белыя, сляпымі ад непрытомнай ненавісці, вочы. Яны выпіралі, лезлі з-пад прыпухлых чырвоных павек—гэтыя шалёныя вочы. Агідную морду звера з вялікімі празрыстымі вушамі ўбачыў Мірон.

Грузд адзін момант глядзеў угару, выцягваючы шыю, глядзеў проста ў суровы, сівым воласам зарослы, Міронаў твар. І бачылі Груздовы да ўскраеў напоўненыя злосцю вочкі насмешлівы бляск халодных Міронавых вачэй.

Яшчэ глядзеў Грузд і хліпаў, а потым ухапіўся рукой за адно з бярвенняў рыштавання, дрыгнуў нагамі, падцягнуўся на руках і быў ужо на гары, побач з Міронам.

— Не спаліў!—хрыпла зашаптаў Грузд, нахіляючыся да Мірона.—Расстрэлу пабаяўся, гаспадарку шкадаваў... Думаў пройдзе. Думаў міне... абойдзецца... Рабуюць! Р-рабуюць! Р-р-раскулачва-а-а-ю-у-уць!

І зноў ухапіўся Грузд за галаву, захістаўся, завыў, зноў дзікі голас закалыхаўся па лесе.

Мірон не рухаўся з месца. Усё гэтак-жа глядзеў спакойна.

— Махоцьку раскулачылі-і-і-і...—выў Грузд.—За мяне ўзялі-ся!

Тагды Мірон устаў з месца.

Грузд адразу рэзка спыніў выццё. Яго вочкі зноў упёрліся ў твар Мірона.

— Пайшоў вон!—сказаў Мірон спакойна.

— Чалавеча!..

— Пайшоў вон!—павысіў голас Мірон.—Не разбівай мне галавы сваім лямантам! Распусціў сліну, гадзіна.

Грузд усунуў у кішэню руку, выхапіў адтуль скураны скрутак і з ліхаманкавай паспешнасцю пачаў яго звінаць. Мільганулі ў яго даўгіх пальцах грашовыя паперкі.

— Вось, чалавеча... Вось...—шаптаў Грузд, перабіраючы паперкі, нахіліўшыся над імі, абнюхваючы іх. Вось... зараз...

І выцягнуў руку да Мірона.

— На!

Мірон глядзеў на брудную лапу. У чырвоных валасатых пальцах былі заціснуты грошы.

— Бяры!—шаптаў Грузд.—Сорак... Чатыры чарвячкі... Гэта не за работу... Гэта так—за дружбу... Памятай, якія людзі на свеце былі! За работу асобна... За работу потым... Гэта за дружбу...

Мірон глядзеў на Грузда.

— Парэжам зруб!—шаптаў Грузд.—Бяры пяцьдзесят... Хай хоць зруба не будзе... Па вуглах! Бяры пяцьдзесят... Поўсоценку! Вуглы прэч... бярвенні напалам... Хай хоць зруба ім не будзе... З Ласёвай дзялянкі сасонкі здабытыя... Як свечка лес! Тросся... Ночы не спаў...Каб не ўкралі, каб чарвяк не сек... Каб не гніло дрэва... Цябе, лепшага майстра, знайшоў... Бяры шэсцьдзесят і плату за зруб асобна... Ты свой чалавек... За дружбу!

Чырвоныя пальцы цярушылі паперкі.

— Бяры!

— Пайшоў вон!—сказаў Мірон зноў.

Чала-в-е-е-ча!

— Сваю работу разбураць не буду... Век за псоты грошы не браў, век будаваў, не руйнаваў!

І тагды магутны Міронаў голас аглушальна ўдарыў у твар Грузду,

— Вон! Гадзіна! Прэч са зрубу!

Грузд ускочыў на ногі.

Не хочаш... Не хочаш?—закрычаў ён.—Ты рады маёй пагібелі, кіслая ты шэрсць, сібернік ты? Я сам! Сваімі рукамі. Маё!!!

Ён упіхнуў грошы ў кішэню і схапіў Міронаву сякеру. Бліснула лязо на сонцы і глыбока ўпілося ў бервяно, адшчэпліваючы паз.

— Та-а-ах!

— Маё!—раўнуў Грузд, узносячы сякеру.—Сваімі рукамі! Маё!

Але імклівы ўдар быў перахоплены. Грузда ззаду, нібы абцугамі, схапілі Міронавы рукі, крутнулі на месцы, сціснулі дужыя Груздовы локці. Сякера, высока ўзнесеная, захісталася над галовамі, абодвы перахіліліся, падаючы са зрубу.

— Пу-у-сці!—піснуў Грузд.

Прэч-ч!—крыкнуў Мірон.

Шырока раскінуўшы рукі, брыкаючы нагамі, Грузд грымнуў са зрубу.

Зноў згары ўбачыў Мірон белыя поўсляпыя вочы распрасцёртага на зямлі ворага і небяспеку зразумеў толькі тагды, калі Грузд пачаў уставаць, апіраючыся на рукаяць сякеры.

Га-а-а-а!—размахваючы сякерай зароў Грузд.—Смерць! У кавалкі!

Мірон нахіліўся і скочыў з рыштавання як раз у той момант, калі ўзляцела над зрубам з шалёнай сілай пушчаная сякера. Грузд прамахнуўся. Ён стаяў супроць Мірона, развёўшы рукі з растапыранымі пальцамі.

— Заду-у-ушу!—хрыплым шэптам заходзіўся Грузд.—Злосніка майго! Непрыяцеля! За-а-ду-шу-у-у!

А ў Мірона нечакана прачнулася маладая сіла забытых гадоў.

— Павук!—крыкнуў Мірон,—ліха-ж тваёй матары!

І зрабіў першы крок.

Рукі Грузда схапілі Мірона за горла, дзікая Груздова сіла збіла, зламала супраціўленне Міронавых рук. Перацяло дыханне, зашумела ў вушах кроў, але Мірон не адчуў страху, не згубіў развагі. Такі ўдар, ад якога ўпіваецца сякера па самую бародку, які перабівае з аднаго

разу вяршковы сасновы сук—магутны ўдар у лоб адкінуў Грузда назад і ён пакаціўся па зямлі.

Мірон абапёрся плячыма аб слуп рыштавання і цяжка дыхаў, не зводзячы воч з распрасцёртага на трэсках цела. Грузд, аглушаны, адзін момант ляжаў ціха. Потым падабраў пад сябе ногі і папрабаваў стаць на калені, павярнуўся на бок, прыўстаў і зноў выцягнуўся на зямлі, адкінуўшы ў бок правую руку.

Мірон сачыў за ім. Ён убачыў, што правая рука Грузда выцягваецца ўсё больш і левай рукой Грузд упіраецца ў зямлю, непрыкметна пасоўваючы ўсё цела наперад. Недалёка ад Грузда ляжаў кол, невялікі калок—падкладка. У Груздовых руках гэтага аружжа было-б досыць, каб разбіць чэрап Мірона на дробныя кавалкі.

— Ляжы ціха!—спакойна сказаў Мірон.

Грузд застагнаў, адварочваючы твар ад Мірона, і пачаў уздрыгваць усім целам. Гэта было падобна да сударгі і ні на момант не спыняла прасоўвання Груздовай рукі да кала.

— Ляжы ціха, кажу!—крыкнуў Мірон і зрабіў крок наперад.

Але ў гэты-ж момант Грузд мякка ўскочыў на ногі. У руках ён трымаў кол.

Яны зноў сталі адзін супроць другога.

— Заб'ю!—радасна крыкнуў Грузд.

— Кінь палена!—гэтак-жа спакойна, як і раней сказаў Мірон.—Кідай кол, кажу табе, Грузд!

— Заб'ю—з узрастаючай радасцю крыкнуў Грузд.—На месцы заб'ю!..

У яго вачах з'явіўся дзікі бляск. Грузд падступаў да Мірона бліжэй. І цяпер Мірон зрабіў крок назад. Грузд ступіў наперад, угледаючыся ў яго налітымі крывёю вачыма вар'ята. Мірон адступіў зноў. І зноў ступіў наперад Грузд. Зноў зрабіў крок назад Мірон і ўзбіўся на слуп рыштавання.

— Ага!—выкрыкнуў Грузд,—больш няма куды! Заб'ю!!!

Але ён не ўзносіў кала. Ён трымаў яго ў руцэ апушчаным.

— Кідай кол... Грузд...—пагрозна і хрыпла сказаў Мірон.

Грузд узяў кол і размахнуўся ім. У яго разбягаліся вочы, ён выскаляў зубы.

І ў адну сотую секунды зразумеў Мірон, што трэба рабіць. Ён схапіўся за канец бервяна, што ляжала на рыштаванні над яго галавой. І Грузд не паспеў ударыць калом. Чатырохвяршковае бервяно, скінутае з рыштавання рукой Мірона, ударыла яго ў грудзі. Грузд перакуліўся і ткнуўся тварам ў зямлю. Ён чуў, як Мірон скручвае яму рукі назад, але не мог супраціўляцца. У галаве стаяў гул, яна здавалася пустой, як-бы ўжо не было мазгоў у галаве Анупрэя Анісімавіча Грузда.

Потым Грузд адчуў, як яго ўзнімуюць з зямлі і ставяць на ногі. Ён адкрыў вочы і ўбачыў зялёны карагод хвой. Хвоі танцавалі на паляне. Ён яшчэ шырэй адкрыў вочы і хвоі сталі на сваё месца.

Грузд адчуў, што яго рукі звязаны. Ён паспрабаваў паварушыць імі. Немагчыма. Кісці рук былі моцна скручаны ззаду Міронавым пояснымі рэменем. Ён павярнуў галаву і ўбачыў Мірона. Той стаяў побач, распальваў люльку. Ён здаваўся спакойным.

Грузд скрывіў твар у плаксівую грымасу:

— Развяжы рукі, старая сцерва!

— Не выпадае!—холадна ўсміхнуўся Мірон.—Бо ты з-пад арышта збег і зруб зруйнаваць хацеў, шкоду зрабіць... І мяне пры тым забіць намагаўся. Думаеш гэта добра?.. Што?!

Грузд брудна вылаяўся. Сплюнуў на зямлю і пры гэтым прыгледзеўся: ці ёсць кроў. Крыві не было.

— Гэта, Грузд, не добра...—з выразным здзекам працягваў Мірон.— За гэта прыдзецца табе яшчэ горш, калі ўжо за тваю скуру ўзяліся. Будзе табе гафтаванка, Грузд! Я цябе зараз пад арышт павяду.

Голас Мірона быў спакойным, амаль лагодным. Але, калі Грузд глянуў яму ў вочы—спуджана адступіў далей.

— На старасці год прывялося мне аднаго крывасмока прыціснуць,— працягваў Мірон. І кругом—мая праўда. От, брат Грузд, як часам выпадае...

Грузд маўчаў.

Мірон сеў на калоду.

— Зараз пакуру сабе і павяду цябе пад арышт. Я цябе забіваць не буду. Я не такая сволач, як ты. Пад арышт аддам. Досыць табе людзей рабаваць, Грузд. Задавіўся! Усё ў горла не ўлезла, бачыш, не праглынуў! Стой ціха! Бо дальбог, гэтым кійком табе ногі паперабіваю!

— Сцерва старая!

— Гэта і ёсць тваё шчасце, што ўжо старая сцерва... Пакуль управіўся—рукі задрыжэлі... у маладыя гады я цябе аж цераз лес перакінуў-бы. Такіх чатыры малайцы на адну руку патрэбна мне было, ды і то мала!..

— Воўк!...

— І ты воўк. От, мы з табой і гутарым за тое, што абодвы ваўкі. Але я такі воўк, што ніколі чалавечага мяса не еў. А ты, брат, еў чалавечае мяса! От цяпер не скаштуеш больш чалавечынкі!

Мірон вытрас люльку аб пазногаць. Паклаў яе ў кішэню.

— Ну, досць! Пойдзем. Пад арышт павяду цябе.

І Мірон устаў. Падышоў да Грузда.

— Ідзі ўперад!

Грузд затаптаўся на месцы.

Мірон узяў яго за плячо. Але Грузд моцным рухам адштурхнуў яго руку. Тагды Міронавы пальцы кляшчамі ўпіліся ў плячо.

— Ідзі, Грузд!—пагрозна, задыхаючыся, сказаў Мірон.—Ідзі, пакуль яшчэ стрымаць гнеў свой магу.

Ён штурхнуў Грузда ўперад і аглушальна крыкнуў:

— Ідзі! Ідзі! Магіла табе тут будзе!

І Грузд, утуліўшы галаву ў плечы, азіраючыся па баках—пайшоў. За ім ішоў Мірон. Так яны прайшлі цераз паляну і засень леса акружыла іх. Пад хвояй Грузд раптоўна спыніўся і адвярнуўся да Мірона:

— У мяне ў кішэні... грошы... Дзвесці рублей... Вазьмі іх! Адкупляюся!!! развяжы мне рукі... Век буду бога за цябе маліць, Мірон Андрэевіч...

— Ідзі ўперад, кажу табе!

— Сцерва сівая!

Грузд скрыгануў зубамі і пайшоў.

— Не туляйся, ідзі проста!—папярэдзіў Мірон.—Нікуды не ўцячэш ад мяне, дастаўлю цябе, куды след! Ну, ну! Чуеш?!

Грудз ішоў проста, але крокі яго былі маруднымі. Уціснуўшы галаву ў плечы, ён шнырыў вачыма па баках. Ідучы ззаду, Мірон увесь час сачыў за яго рукамі. Але рэмень туга скручваў вялізныя валасатыя кісці. Толькі адна з Груздовых рук была сціснута ў кулак і гэта Мірон успрымаў, як пагрузу, і ўвесь час быў насцярожаны, чакаючы якога-небудзь выбрыка з боку Грузда.

Грузд спыніўся зноў.

— Куды ты мяне вядзеш, Мірон Андрэевіч?—плаксіва замармытаў ён.—Што гэта будзе са мной, ды божачка-ж ты наш!

— Ідзі, не хліпай! Бо-о-жачка! Які ты стаў лагодны, звярына ты

заядлая! Да начальства вяду, от куды вяду! Адкуль уцёк, туды і вяду. А што з табой будзе—адкуль мне ведаць? Калі цябе гаспадаркі рашаюць, то значыць па старому гэта называецца лішэнне ўсіх правоў састаяння!..

„... і ссылка ў катаржныя работы...—прыпомнілася Мірону.

— Правоў састаяння ў мяне не было,—думай Мірон.—Адна сякера была за поясам. А тачку я павазіў! Завошта?!

„За звера!—сам сабе адказаў ён.—Толькі інакшы быў звер, як гэты. Прыгожы быў звер, але мяса—еў! Краў чалавечае мяса! І згнілі мае маладыя гады на катарзе за чужую карысць...

І тут у мяккай зялёнай засені лесу—успомніў Мірон:

... Бескрайны шырокі стэп. Белая, спаленая сонцам, дарога... Пыл над дарогай і бразглівы шум многіх ланцугоў, шэрыя, нахіленыя спіны людзей, размораныя канвойныя плятуцца паабапал дарогі, трымаючы ў руках стрэльбы. Ідзе партыя ссыльна-катаржных. І над ім, разам з воблакам пылу, ідзе нудная песня:

... арестантики бездо-о-льные-е
Ка-а-торжники ве-е-чные
Вас мо-о-огилка ждет безвестная
Во сибирской во сторо-онушке.

... Катарга, катарга!!!

— От бы цябе туды!—падумаў Мірон пра Грузда.—Хай-бы ты пацягаў-б ланцугоў! Але цяпер няма катаргі! Я б цябе ўпёк, звера!

Грузд увесь час маўчаў.

Яны падыходзілі да рэчкі. Вада залівала берагі, кусты лазы і альховіка гвалтоўна калыхаліся пад несупынным ціскам плыні. Гарбаты масток без поручняў, невысока ўзнімаўся над вадой...

„Каб яшчэ ў рэчку не ўкінуўся!—падумаў Мірон.

Але тут-жа вырашыў:

— Не! Гэткі не ўкінецца.

І сапраўды: Грузд пайшоў надзвычайна асцярожна, высока паднімаючы ногі, баяўся, каб не раз'ехаліся накочаныя на масток дрэнна абчэсаныя бярвенні.

Яны ўзняліся на ўзгорак. Каля Груздовай сядзібы, што стаяла на водшыбе, было многа народу, цэлы натоўп. І як толькі Мірон з Груздом з'явіліся на дарозе, адтуль, з натоўпа вылучыліся двое ў шынелях і хутка пайшлі ім насустрач. Мірон прыглядзеўся. Гэта былі міліцыянеры.

— От, мы і прыйшлі, Грузд,—сказаў Мірон.

* * *

Быў складзены пратакол аб тым, што Грузд збегшы з-пад варты намерваўся зруйнаваць зруб, які з'яўляецца ўласнасцю калгаса, прычым прапанаваў грошы за гэта цесляру Мірону Бокуць і, калі той адмовіўся, паспрабаваў зрабіць гэта сам і пры аказанні яму супраціўлення з боку цесляра Мірона Бокуця раскулачваемы Грузд напаў на цесляра з сякерай, потым з калом (даўжыня два аршыны, таўшчыня—вяршок), але быў цесляром пераможаны і дастаўлены пад варту. У час дастаўлення, фізічнага супраціўлення не аказваў, аднак прапанаваў грашовы хабар цесляру Мірону Бокуць у памеры двухсот рублёў, ад чаго той адмовіўся.

Пратакол пісаў міліцыянер, малады хлапец. Ён быў надзвычайна сур'ёзны. Гэтым стараўся міліцыянер замаскаваць няёмкасць. Ён, асабліва моцна націскаючы пяро, напісаў, што Грузд збег з-пад варты малодшага міліцыянера Андрэя Ткачова ў той час, калі міліцыянер піў

ваду ў сенцах. Гэта было яго ўласнае прозвішча. І невядомы яшчэ, як паглядзяць на гэта ў Райміліцыі, і яшчэ было няёмка перад упаўнаважаным райкома партыі. Той сядзеў за сталом, церабіў сівы вус і здавалася ўвесь час, што ён надзвычайна нездаволены малодшым міліцыянерам Ткачовым.

Грузд сядзеў тут-жа на лаўцы. Ён абыякава аглядаў насы сваіх ботаў і толькі зрэдку маланкавым поглядам прабягаў па хаце. Потым зноў хаваў ныркія свае вочы пад ружовай пухлінай павек.

Мірон сядзеў за сталом супроць упаўнаважанага. Мірон курыў, і паглядаў час ад часу на рог стала, дзе міліцыянер, усё больш нахмурваючы твар, даканчваў пратакол.

Па хаце з кута ў кут хадзіў старшыня калгасу. Яго абсядалі з усіх бакоў першыя клопаты па гаспадарцы, яму хацелася хутчэй скончыць гісторыю з Груздом і выправіць яго вон з тэрыторыі калгаса.

У вокны падалі косыя праменні сонца.

За вокнамі разлягаліся шматлікія галасы.

Нарэшце міліцыянер адсунуў ад сябе паперу.

— Падпісвайце, таварышы!

Упаўнаважаны падпісаў пратакол, папярэдня прачытаўшы яго. Тое-ж зрабіў і Мірон, але падпісаў не атрамантам, а плоскім цеслярскім алоўкам. Міліцыянер падпісаўся апошнім і ўстаў.

— Можна весці?

Упаўнаважаны згадзіўся.

— Пойдзем, грамадзянін,—сурова сказаў міліцыянер.—І больш не спрабуйце ўцякаць.

Грузд узняўся з лаўкі і пайшоў наперадзе міліцыянера.

Калі за імі зачыніліся дзверы, устаў Мірон.

— Пачакайце,—спыніў яго ўпаўнаважаны.—У мяне ёсць да вас пара слоў. Сядайце, калі ласка.

Мірон затрымаўся, але не сеў.

— Гэта між іншым—сказаў упаўнаважаны.—Справа ўжо зроблена. Я хацеў вам сказаць, што вы не мелі права звязваць арыштаванаму рукі. Гэта гвалт. Нельга.

— Што мне яго на сабе несці было?—усміхнуўся Мірон.—Як малое дзіця?!

— Ва ўсякім разе не рукі звязваць. Калі ён вам не паддаваўся, вы маглі па-просту пакінуць яго на зрубе, прыйсці і заявіць. Многа шкоды ён не паспеў бы нарабіць за гэты час.

— А так, якая выйшла шкода?

— Сотні людзей бачылі Грузда са связанымі рукамі. Вы гэта разумееце? Уся вёска бачыла, і калгаснікі, і аднаасобнікі. Гэта шкодзіць нашай рабоце ў масах.

Мірон сеў на лаўку. Ён думаў некалькі часу, потым усміхнуўся зноў. Усмешка была злосная.

— Я Грузда прывёў не за тое, каб перад начальствам выслужыцца. У мяне з Груздам свае рахункі. А калі гэтак, то мог я там яго, у лесе, аж у зямлю ўкапаць. Калі ў мяне сіла ёсць большая, то тут маё і права. На гэтым свет стаіць. А калі вам не спадабалася, то можаце мяне пасадзіць у халодную.

— Няма за што вас у халодную садзіць. Вы зрабілі карысную справу; Грузд мог нашкодзіць. Але вы крыху перагнулі кій. Звязванне рук— гэта здзек. Можна было абыйсціся інакш.

Мірон пацінуў плячыма:

— Не разумею, мілы чалавек, аб чым кажаце. Што вам Грузда шкода?

— Грузда мне не шкода. Я вам хачу сказаць тое, што вы памыляецеся: свет на праве дужага не стаіць. Ужо заваліўся той свет. Калі чалавек дужы, то гэта не азначае, што ён правы. Тое, што вы застасавалі такую палітыку да Грузда—не вялікая бяда, гэта адабранае ад яго аружжа, і ён яго скаштаваў цяпер на сабе. Але, калі вы будзеце і на далей думаць, што права толькі ў таго, хто дужы, то вы яшчэ больш сур'ёзна памыліцеся! Гэты кулацкі жывадзёрскі закон для вас непатрэбны. Вы-ж батрак! Гэта закон нашага класавага ворага.

— Ну то і што?

— Я вам сказаў: цяпер інакшыя законы жыцця, інакшае жыццё. Трэба па інакшаму разумець і жыць.

— Гэта нельга,—адказаў Мірон.—Вы разумны чалавек і многа на свеце жылі. Пры тым, вы партыйны, жыццём кіруеце. Вы кажаце: класавы вораг. Для вас можа і класавы а для мяне кожны вораг. З мяне заўсёды карысць можа спагнаць і багаты і бедны. З маёй работы людзі заўсёды карысць маюць, а мне яе мала даюць. Голымі рукамі ад свету не абаронішся. Мне ўсе ворагі.

— Цяпер над вамі гаспадароў няма. Ідзіце ў калгас і працуйце. І вораг будзе агульным для ўсіх не для аднаго вас,—класавы вораг, кулак.

— У калгас я не пайду,—сказаў Мірон.—Не можа быць адзін агульны вораг для ўсіх, кожны чалавек для другога чалавека вораг. Кожны хоча багацець за чужы кошт, бо разбагацець можна толькі ад другога адабраўшы. Значыць і няма ніякага агульнага ворага. Кожны чалавек другому вораг.

Мірон асекся. Стары пастукваў пальцамі па стале і ва ўпор глядзеў на Мірона. Мірон стрымаў яго погляд і цвёрда закончыў.

— Чалавек для чалавека—звер! Я не ведаю класа ніякага. Ведаю адно: кожны мяне за сваю выгоду прадасць ці роўны ён мне, ці не. А раз ён ужо нажыўся на мне ці на другіх, то ён мне ўжо не роўня і не радня.

Мірон устаў.

— Я сабе пайду, мілы чалавек. Добра з вамі гутарыць. Але мы не згаворымся. Я Грузда прывёў, ён мой вораг, ён не мала мне за гэты час здароўя папсаваў.

— Хіба толькі вам?

— Хай з ім кожны па-свойму разбіраецца, калі ён і другім нарабіў. А вам от што скажу: калі я ў маладыя гады гэтак-жа ворага свайго крывавага пацiскаў, то дзесяць гадоў на катарзе ланцугі цягаў. А цяпер за гэта самае, вы, начальнік, са мной, як з роўным, гутарыце. Уцешна мне.

Мірон дакрануўся да шапкі і яго суровыя змаршчакі прасвятлелі.

— Я ўсё разумею. І скажу вам: не перарабіць вам чалавека. Хаця і ўсіх Груздоў выкарчуеце! Другія народзяцца! Не вырваць паганага таго чарвяка, што да нажывы цягне. А ад гэтага і крыўда і няпраўда і звер чалавек для чалавека... А чарвяка таго не здабудзеш... Пад сэрцам ён... У крыві... У кожнага... Ведаў я людзей роўных са мной. А потым няроўнымі сталі. І роўныя нам чарвячка таго ў сэрцы маюць і не выходзіць з імі на ворага ісці. Што ён сам на сябе пойдзе?..

Мірон памаўчаў і ўздыхнуў.

— Дык пайду я... Можна?!

Стары ўстаў.

— Ідзіце... А ўвечары заходзьце да мяне, сюды. Будзе сход.

Ён падаў Мірону руку.

— Пагутарым яшчэ, Мірон... як вас?

— ...Андрэевіч...

— Я бачу, мы з вамі амаль аднагодкі, Мірон Андрэевіч... Мне ёсць аб чым вам расказаць. Мы—браты па крыві. Я—рабочы, вы—батрак... І яшчэ больш пасвятлеў твар гэтага старога.

— Заходзьце, Мірон Андрэевіч...

І раптоўна зразумеў і адчуў Мірон у гэтым чалавеку вялікую сілу мудрай старасці і добрай чалавечай душы. Цёпла варухнулася сэрца. Паціскаючы яго бугравату мазольную далонь сказаў:

— Зайду, мілы чалавек!

Ён пайшоў да дзвярэй, але на парозе яго затрымаў голас упаўнаважанага:

— Хвілінку, Мірон Андрэевіч... Я забыўся на адно пытанне. Скажыце мне, калі ласка, каб гэты Грузд, хаця-б ён і кулак надзвычайна добра да вас адносіўся-б, ці прывялі-б вы яго сюды? А ці можа дапамаглі-б зруб папсуць?!

Мірон апраўіў пояс. Падумаў і адказаў:

— Зруба я не псаваў бы і яму гэтага не дазволіў бы: век будаваў я, не руйнаваў... А прывесці яго сюды—не прывёў-бы. Што ён з мяне здабытак меў, то я вам скажу, другія гэткі-ж здабытак з мяне маючы, горш, як з сабакам, са мной абыходзіліся... Так што не прывёў-бы... Дабро люблю памятаць і за яго аддзякваць...

Мірон адчыніў дзверы і, нахіліўшыся, пераступіў парог.

* * *

Мірон ішоў сцежкай з паляны. Хадзіў па сякеру і знайшоў яе ў зрубе. Забраў і пайшоў назад. І ні разу не агляну ўся на жоўтую вялізную скрыню няскончанага зруба. Нават не падумаў і аб тым, ад каго цяпер атрымоўваць плату.

Іншымі кірункамі ішлі Міронавы думкі...

Лес ціха гаманіў абагрэты сонцам. Хвоі млелі ў вільготнай цяплыні дня, гаркавы пах сокаў зямлі нёс з палёў шустры вецер. Ветру не было дзе прайсці ў лесе і найлепш было сцежкай, то ён і ішоў сцежкай насустрач Мірону. Ён лашчыў сівым воласам аброслы нахмураны твар чалавека, ён варушыў космы доўгіх валасоў, ён гушкаўся на доўгай поўсці баранняй шапкі, гэты жартаўлівы веснавы вецер. Ён нёс з сабою галасы шматлікіх полных ручаёў, ён стараўся паўтарыць крышталёва звонкую песню жаўранкаў, ён самаволіў у лесе—сын вечна-маладой вясны.

Ішоў насустрач маладому ветру чалавек.

Чалавек быў стары. Мірон Бокуць. Мірон Воўк. Цесляр.

Ён думаў. Паўставалі супярэчлівыя думкі. Яны былі дужымі, гэтыя думкі, народжаныя сёняшнім днём. У самай кароткай сутычцы яны лёгка перамагалі тое, што было мудрасцю доўгага і цяжкага жыцця, тое, што нарадзілася з несказаных пакут чалавечай істоты, і сцягам пагардлівага, абасобленага, воўчага адзіноцтва, узнялося над галавой чалавека, падараваўшы яму сілу замкненасці і звярынай самааховы.

— Мы—браты... Я—рабочы, вы—батрак...

Браты! Хто і калі сказаў Мірону Воўку слова „брат"?!

Цяпер гэтае слова сказана. Укрыты сілай улады чалавек, на скроні якога рысамі глыбокіх маршчын адзначаны этапы доўгага шляху, на далонях якога—невыводныя мазалі—такі чалавек сказаў гэтае слова.

— Мы—браты...—сказаў чалавек гэты Мірону.

А Мірон адказаў яму:

— Чалавек для чалавека—звер!

Ці з'яўляецца якасцю чалавека тое, калі ён ходзіць у жыцці воўчымі сцежкамі адзіноцтва, дбае толькі аб сабе, баіцца толькі за сябе і толькі сябе абараняе?! Чым гэта лепш за хмель нажывы, за прагнасць чалавечай крыві?..

Насустрач маладому ветру ішоў стары чалавек. Ён не перарваў думак і тагды, калі разгарнулася перад ім поле, калі ўбачыў ён з гэтага лясістага ўзвышша шырачэзную зямлю, што кадзіла вялікаму сонцу жыццяноснымі сваімі сокамі...

Галасы шматлікіх ручаеў, шум узбураных вод і мяккі шолах ветра, адвечны рух абуджаных сіл зямлі напаўняў дзень.

А сівы чалавек ішоў дарогай па полі, панурыўшы галаву, ссутулены і ціхі. Чалавек шукаў дарогі ў гэтым сонечным веснавым дні. Тая дарога, якой прайшоў ён сюды, канчалася...

І чым больш думаў чалавек, тым больш заблытваўся. Паўставалі цёмныя сілы, што ляжалі ў душы горкім асадкам вялікіх пакут... Цяпер у дзікім сваім супраціўленні, яны ўжо здольны былі задушыць кволыя і прыгожыя парасткі, народжаныя сёняшнім днём. І ўсё больш узнімаліся гэтыя сілы... І чалавек не мог знайсці дарогі.

Ён быў разгублены.

*ПРАЦЯГ БУДЗЕ*

ЯКУБ КОЛАС

# НА ШЛЯХАХ ВОЛІ

Працяг

## XXIII. КАСТРЫЧНІЦКАЯ НОЧ

Зіма ўжо ў вокны зазірала,
А над поўначнаю зямлёй
Сям-там сняжынак віўся рой.
Прадгор'е ціхае Урала
Удумнасць мудрую хавала
Пад беласнежнаю імглой.
Мароз патроху браўся ў сілы
І ўжо, відаць, як з году ў год,
На поўдзень ладзіўся ў паход,
У ледзяны, у белакрылы.
Сям-там рачулкі бег застылы
Хавалі боязна пад лёд.
Ужо далёка ззаду Кама,
Чапцы мінулі берагі,
І краявід пашоў другі:
Лясоў хваёвых панарама,
Азёраў срэбраныя плямы
У сіняй намітцы смугі...
Зірнеш—і пуста і бязлюдна,
Адвечнай недрасці пячаць.
Убога коміны тырчаць.
Дымкі з іх смычуцца марудна,
Бы сон насланы, неабудны
Не хоча смутны бой канчаць.
Пейзаж, малюнак непрывычны—
Не бачыў Шкунда іх даўно—
Зірне ў вагоннае акно.
Іх хіліць гэта акалічнасць
Яго настрой на лад лірычны,
Пытанне ставіць не адно,
Калі і як убогасць гэта,
І гэты бруд, і недрасць хат,
Задуха, лапці, голад, чад,
Што тут вякуюць з лета ў лета,
Так непарушана, без прасвету,
Калі ім будзе занядад?
Адказ тут просты і вядомы:
Рабочы сам і селянін

Павінны ўлады ўзяць пачын
Ї гаспадарства свайго дому
Вясці самім і больш нікому,—
Вось спосаб верны і адзін.
Ї гэты момант надыходзіць,
А Шкунда, пермскі дэлегат,
Якраз і едзе ў Петраград.
Наспела думка ўжо ў народзе
Урад часовы абясшкодзіць,
Гнілы і здрадніцкі урад.
Чым бліжай грозная сталіца,
Тым больш рух і неспакой.
Шынельны люд плыве ракой
Галодны, шэры, бледналіцы—
Пячаць акопаў і пазіцый...
Хто зладзіць з тлумнай талакой?
Куды плыве ўся гэта лава
Ї дзе запыніцца яна?
Астачарцела ёй вайна,
Ї саматугам свайго права
Шукае вольная аправа
Пакуты зведаўшы да дна.
Збанкрутаваў урад часовы.
Утраціў свой аўтарытэт
Сярод салдат іх камітэт.
„Далоў вайну!“ „Мір!“—гэта словы!
За іх стаяць яны гатовы.
Їх лозунг—Ленін і Совет!
Не возьмуць іх на мушку болей:
Салдаты за большэвікоў
Не пашкадуюць і штыкоў,
Урад часовы— ліхой долі!
Паваявалі—і даволі!
Вось іхны сказ цяпер якоў.
А Шкунда пільна—дзе адкрыта'
А дзе прытоена, цішком,
Праціяты „сышчыцкім“ душком,—
За імі сочыць дзелавіта,
Ї худашчавы твар заліты
Такім прыхаваным смяшком.
Ды ўжо і горад недалёк,
Ї хваля цёплая былін
У ім абуджвае ўспамін:
Калісь, чужынец адзінокі
Ї ён пакінуў свае крокі
На сцёртых плітах мастsavін.
Блукаў, абходзіў перашкоды,
Пакуль таварыш і зямляк
Не дапамог яму сяк-так...
Работа. Школа яго—сходы...
Зірнеш назад—Эх, годы, годы!
Тады-ж ён быў зусім юнак.
Ї колькі змен у часе гэтым!
Падзей, крывавых, баявых.
У бой гатоў у кожны міг

Успыхнуць зноў—за ўласць Советаў:
Песня гісторыі не спета,
І вір паўстання не заціх...

* * *

Над нізінай Петраграда
Вільгаць ночы сцеле шаты—
Вісне густа мрок зацяты
Над знямелым Летнім садам.
А ў тумане, як шкілеты,
Як прывіды цмяняць дрэвы.
Сумам, страхам неспадзевы
Аддаюць іх сілуэты.
Неспакойна і злавесна
У мяцежным карнавале
Па Няве трасуцца хвалі—
Ці ў тым жолабе ім цесна?
Бляск халодны, нерухомы,
У імгле павісшы слупам,
Свеціць людзям слепа, скупа,
Як гнілушкі ў лесе гномам.
У імжы знікаюць шпілі
Вежы цэркваў, цытадэлі.
У тумане, бы ў кудзелі,
Трызніць горад сны і былі.
У тумане цяжка, цесна.
Пыл імжакі тчэ палотны.
Ноч стаілася самотна,
Сад застыў, маўчыць балесна.

* * *

Прыглушаны гоман у воўне тумана,
Дзе голаў хавае Ісакій.
Падлічаны сілы жывога экрана,
Сігналаў чакаюць ваякі.
Абрыўкі каманды, нервовай размовы
Прарэзваюць холад завулкаў.
Дзесь цокаюць звонка і чотка падковы,
Дзесь пыхкае панцырнік гулка.
Нява раздзяляе варожыя штабы.
Напружанасць легла на Зімні—
Хіба абароняць Керэнскага бабы,
Калі Петрапаўлаўка грымне?
Калі загрукоча з-за мосту Аўрора,
Паслаўшы начынку ў шэсць цаляй,
І хлыне ў атаку рабочае мора
Ды рушаць матроскія хвалі?
Прыжмураны ў страсе фіранкамі шыбы,
Трывогай запоўнена ціша.
Застылі ў змяненні гранітныя глыбы—
Прысуд свой гісторыя піша.
А Смольны—вір-вірам і хмар нагушчэнне,
Энергія грознага току,

Бо ленінскі геній рассеяў сумненне
  І вызначыў межы патоку,
Азначыў і тэрмін апошняга бою,
  Бо далей маўчаць небяспечна:
Імперыялісты куюць ужо зброю
  На полымя бунту бясспрэчна.
Рыхтуе Керэнскі з кадэтамі ўкупе
  У спіну рабочым удары,
Няволю заводам і рабства халупам
  На радасць буржуйскай пачвары.
Мяцежнае мора матросаў, рабочых,
  Бунтарскіх салдат Петраграда
Гатовы аддаць яны немцу за вочы,
  Абы не рабочая ўлада.
Буржуйскаю злосцю ў падполле загнаны,
  Ён, Ленін, ён, сцяг новай эры,
Бічуе без жалю ілюзіі зману
  І згодніцтва, здраду эсэраў.
Настала мінута рашучага бою—
  Дыктуе гісторыя гэта.
Загад аддаў Ленін. Кліч кінут: „Да зброі!
  За поўную ўладу Советаў!..“
Прыглушаны гоман у воўне тумана—
  Вайны грамадзянскай адзнакі.
Падлічаны сілы жывога экрана,
  Сыгналаў чакаюць ваякі.

* * *

У зімнім палацы збянтэжанасць, страх.
  Крах, немінучы іх крах!
  Збег правадыр,
  Навакол іх—вір;
  Зумкаюць кулі
  У страшным адсвеце...
  Міністры, пішэце
  Ліст да бабулі!
Яны-ж не здаюцца—адцягваюць час—
  Цяжка ім вымавіць „пас“!
  Іх правадыр
  Не згодзен на мір,
  Ён на свабодзе
  І сілы збірае,
  Ды песня старая—
  Сашка не ў модзе!
Трасуцца міністры, аж носіць іх жах—
  Сіла іх—гук пусты, прах...
  Эх, гаспада!
  А ўлады шкада...
  Не! не здавацца
  „Мяцежнаму зброду“!
  Стаяць за свабоду
  І ратавацца!
Прыходзіць у Зімні „мяцежнік“—пасол—
  Здавайце народу прастол!

Рад ці не рад
Кацися, урад—
Час кончыўся твой!
Храбрацца міністры,
Рашэнні іх быстры—
Паслоў—пад канвой!
Аддан загад—у наступленне!
Гатовы к бою два бакі.
На штурм ідуць большэвікі,
І на халодныя каменні
Выходзяць роты, узводы, звенні,
Чырвонай гвардыі стралкі
І націскаюць крок за крокам
Іх баявыя ланцугі.
Заціснут Зімні ў абцугі
Абходам блізкім і далёкім
І сам ён—востраў адзінокі,
Дзе ўжо падмыты берагі.
Ды ён яшчэ аб чымсьці марыць—
Не ўзяты подступы ва двор.
Стрымаць ён тужыцца напор
І адвясці яго ўдары.
Няхай вакол гусцеюць хмары—
Ён пойдзе ім наперакор!
Ідуць поўкругам барыкады,
А кожны крок і кожны ход
Вартуе пільна кулямёт,
Гатовы куль пусціць каскады
Супроць бунтарскае армады,
І кулям вымеран палёт.
За барыкадамі напята
Чакаюць бою юнкеры,
А іх тут тысячы са тры.
А супраць гвардыя, салдаты
І ўвесь балтыцкі флот падняты—
Як пыл, змятуць іх крэйсэры.
А шквал падходзіць, гул мяцежны...
Замрэце юнкеры: ні-ні!
У змроку ўспыхваюць агні,
Ахвяраў прагне штык драпежны.
„Ура!“—і тупат віхрабежны
Гудзе ў знямелай цішыні.
І раптам—залп, сухі траскучы
Яму ў упор з-за барыкад,
Жалезны вывернуўшы град.
І пала многа ў гэтай бучы—
Усім пагібель немінуча,
І дрогнуў шквал, бяжыць назад.
Замінка, нават замяшанне,
А ў юнкероў другі настрой,
І кожны з іх цяпер—герой.
Але не дрэмле штаб паўстання,
Ён зорка ловіць міг вагання,
Ён толькі ўвязваецца ў бой,
Яго рэзервы не пачаты,

А сілы плёскаюць праз край.
Не цешся, вораг, пачакай,
Адказвай сам за свае страты!
І ў ход пускаюцца гарматы.
— Аўрора, слухай—пачынай!—
Жахнуў агонь, напорны, мгненны
І мрок прарваў на колькі міль.
Адміралцейскі блiснуў шпіль.
У строгай постаці нязменны,
Ісакій выплыў задуменны,
Абмыўшы водбліскам свой брыль.
І мрок злучаецца з туманам.
На момант ціш, і раптам гром,
Ускалыхнуўшы ўсё кругом,
Бяжыць па плошчы гураганам,
Стыхійным, бурным, нестрыманым
І страх разносіць з дому ў дом.
За ім страшыдлы з цытадэлі,
Міргнуўшы вокам агнявым,
У Зімні шлюць агонь і дым.
На крыллях грому мкнуць шрапнелі,
Як ім паказана па цэлі
І выюць маршам грабавым.
У бліску выбухаў, успышак
Гарыць, уздрыгвае Нява.
На штурм ізноў пашла братва.
Бягуць ударніцы ў зацішак—
Няма ратунку ад брацішак,
У Зімні мкне іх галава.
Рашучы міг і страшны момант!
І гул, і трэск, і рэў гармат—
Бурліць вулканам Петраград.
Хіснуўся вораг, вораг зломан,
І пераможны чуцён гоман
На левым флангу барыкад.
І, заглушаючы гарматы,
У гром зліваецца „ура“!
Гняздо крывавае цара
І форт апошні супастата
Ужо ў руках пролетарыята,
Як пераможцы-ўладара.
Парахавым дымком акуран
І Шкунда, пермскі дэлегат.
І так шчасліў ён і так рад.
У шчасці носіцца, як бура
Сярод маўклівых і панурых
Герояў гэтых барыкад.
Пашоў буржуй на-прапалую—
Звалілі ідала ў баю!
Жыццё за клас свой аддаю!
І Шкунда ў радасці цалуе
Паўстанцаў групу удалую
Ён помсту ўзяў за кроў сваю.

МІХАСЬ ЗАРЭЦКІ

# СЫМОН КАРЫЗНА

## Драматычная аповесць у 4-х актах

АСОБЫ

Сымон Карызна—загадчык сямігодкі, сакратар партыйнае ячэйкі.
Марына Паўлаўна—яго жонка.
Пацяроб—старшыня сельсовета, даўгі і калматы, як памяло.
Зелянюк—малады рабочы з горада, прысланы на работу па калектывізацыі.
Галілей—ён-жа селянін-бядняк Ахрэм Данілавіч Пунцік, стары мудрагель.
Вера—настаўніца пачатковае школы, дзяўчына прыгожая.
Цімахвей Міронавіч Гвардыян—хударлявы кулак з голым пергамінавым тварам. Былы кур'ер высачайшае камісіі па такіх-та і такіх-та справах.
Матруна Іванаўна—яго жонка, дробная, молепадобная жанчына.
Паўлюк—брат Гвардыяна, нікчэмны шалапутны мужык, п'яніца.
Віктар—сакратар комсамольскае ячэйкі.
Якуб Лакота—былы партызан і чырвонагвардзеец.
Прахор—селянін-бядняк.
Тацяна—яго дачка, маладая жанчына, разводка.
Сакратар райкома партыі.
Старшыня райкомаўскае камісіі.
Сябры бюро ячэйкі, сяляне, калгаснікі.

Месца дзеі—адзін з сельсоветаў БССР.

Час дзеі—год вялікага пералома.

## АКТ ПЕРШЫ

### СЦЭНА 1-я

**Кватэра Сымона Карызны. Марына Паўлаўна стаіць, уклянчыўшы на канапе, перад акном, узіраецца ў сіні вечаровы змрок.**

Галілей *(нячутна і няпрыметна з'явіўшыся ў парозе)* Кхе... Кхе...

Марына Паўлаўна *(здрыганулася)*. А, гэта вы, дзядзька Ахрэм? Я зараз запалю святло.

Галілей. Кхе... Кхе... вось зараз скончу сваю работу, дык зраблю вам, Марына Паўлаўна, электрычнасць... ветрачок, як у мяне.

Марына Паўлаўна. А пакуль што запалім лямпу. Сядайце, дзядзька Ахрэм! *(Паліць лямпу і сядае пры стале, глыбока засмучоная).*

Галілей *(падыходзіць бліжэй, спагадліва глядзіць на Марыну Паўлаўну, гаворыць так, нібы стараецца забавіць яе).* А я, Марына Паўлаўна, з печкай усё... ага... Цыркулярную печку раблю, цыркуляцыя, значыцца, духу. Хочу, каб без дыму. Дым цяплыню з хаты выносіць, Марына Паўлаўна.

Марына Паўлаўна *(з смутнай усмешкай).* Без дыму-ж агню не бывае, дзядзька Ахрэм.

Галілей. Хто яго ведае... кхе... кхе... трэба памеркаваць... ага... трэба памеркаваць...

Марына Паўлаўна. Што мне рабіць, дзядзька Ахрэм? Ці мне самой кончыць усё, ці чакаць, мо' ўладзіцца неяк, мо' мінецца гэта ў яго... Яму-ж скора ўжо сорак год, вы ведаеце? У нас-жа зусім дарослая дачка. Як гэта разумець, дзядзька Ахрэм, што рабіць?..

Галілей. Кхе... кхе... трэба памеркаваць... Стары дурней за маладога кахае... ага... Ды і свет цяпер такі пашоў. Гэткім светам няма чалавеку ніякага ўёму.

Марына Паўлаўна Я-ж не трымаю яго, дзядзька Ахрэм. Ён сам не хоча кідаць мяне.

Галілей. Пэўна, што не хоча... Кхе... кхе... Не хоча, бо да старое ласкі прывык, да абыходу. А і новае загарэлася. Вось і ламаецца чалавек.

Марына Паўлаўна. Праўда, што цяжка яму бывае таксама.

Галілей *(у раптоўным ажыўленні).* Я мяркую так, Марына Паўлаўна. Усё ламаецца, дык і чалавек мусіць ламацца. Не ў тым, дык у тым. Раз пературуска ўсяму... усяму пературуска... *(Таемна нахіляецца да Марыны Паўлаўны, шэпча змоўніцкім шэптам).* Да душы-ж усё ламаецца... усё чыста. Нешта будзе, нешта будзе... Можа новая рэволюцыя ідзе. Я--не ведаю... не ўцямлю. Думаю, думаю, я не надумаю нічога. Як вы ўважаеце, Марына Паўлаўна, у які бок гэта пойдзе?

Марына Паўлаўна. Не ведаю я, дзядзька Ахрэм. Пагаманіце з Сымонам, ён добра знаецца ў гэтым.

Галілей *(спалохана)*. Добра, добра... Я пагаманю з ім, я пагаманю...

Марына Паўлаўна *(лятуценна)*. Дзве сястры нас было. Ліда была год на тры старэйшая за мяне. Яна і больш адукаваная была чым я—шэсць класаў гімназіі скончыла. Усе думалі, што гэта ён дзеля яе, дзеля Лідкі ходзіць. А ў мяне і думкі не было, каб гэта як іначай. Бывала, пасяджу—пасяджу троху, ды ўцяку. Сорамна мне неяк і крыўдна і немаведама што. І доўга вялося так, покуль не паехала была Лідка да цёткі на нейкі час. А тады, ведаеце... *(Ажывіўшыся, абарачаецца да Галілея і заўважае, што яго ўжо няма)*. Знік дзядзька Ахрэм. *(На кухні чуваць цяжкія мужчынскія крокі)*. Сымон прыехаў... (*Уваходзіць Сымон Карызна. Ён кідае на крэсла зашаранелую хутру і ходзіць па пакою, тручы скалелыя рукі)*.

Карызна. Мароз аж трашчыць. Зусім адубеў.

Марына Паўлаўна. Я зараз пастаўлю самавар *(выходзіць)*.

Карызна (*ходзіць па пакою, адылі сунімаецца перад пісьмовым сталом, заўважае на ім ліст, адпячатвае і чытае—то ўголас, то ціха)*. Даражэнькі сынок Сымонка... не ведаем ці жыў ты... цяперашнім светам... богу душой вінават, а цябе... ці давядзецца ўбачыцца... як жывадзёраў якіх... у кулакі... раскулачваць, а мо' і высяляць... За вашай-жа, дзеткі, дапамогаю абжыліся. (*Кідае чытаць, палахліва азіраецца і з нервовай паспешнасцю хавае ліст пад груд кніжак. Адыходзіцца ад стала, сунімаецца сярод пакою*). Ну, вось і ўсё... Я—кулак. (*Спрабуе ўсміхнуцца*). Не яны, а я—кулак. „За вашай, дзеткі, дапамогай"... Так, я свядома рабіў іх кулакамі. *(Паўза)*. Ды ці толькі іх? (*Зноў натужна ўсміхаецца*) А цяпер будзем з гэтымі самымі кулакамі бязлітасна змагацца Ліквідаваць кулацтва, як клас... *(Рашуча)*. Што-ж, буду змагацца Буду шчыра праводзіць лінію партыі. Буду змагацца бязлітасна Я не пашкадую нікога! *(Узрушана кідаецца па пакою)*. Трэба спяшацца. Не можна траціць ні аднае хвіліны. Я мушу адзін з першых скончыць суцэльную калектывізацыю ў сваім сельсовеце! (*Спяшаючыся, апранае хутру і ідзе да дзвярэй. У дзвярах з'яўляецца Марына Паўлаўна)*.

Марына Паўлаўна. Сымон, я ведаю куды ты ідзеш.

Карызна. Што табе трэба, Марына?

Марына Паўлаўна (*нерашуча*). Сеня! Нам даўно ўжо трэба было пагаварыць...

Карызна. Аб чым?

Марына Паўлаўна. Я ведаю ўсё, ты дарма ад мяне хаваешся.

Карызна. Гэта ты што... пра Веру? Я не хаваюся... Вера мне падабаецца, я часта хаджу да яе, мы гутарым, абмяркоўваем нашы справы...

Марына Паўл. (*перапыняючы*). Гэта—не тое. Я не зайздрошчу, я не такая... Але ты чужы стаў нейкі... быццам няма цябе зусім... ці мяне няма... Разумееш?

Карызна няўцямна паціскае плячыма.

Марына Паўл. (*У раптоўнай навазе*). Сымон, чаму ты ўжо не канчаеш.

Карызна (*сумеўшыся*). Што—не канчаю?

Марына Паўл. Мы не звязаны нічым. Наштонам адно аднаму замінаць?

Карызна. Я не ведаю, Марына, што табетрэба.Не тое ў маёй галаве. (*Дасадліва махае рукою і ідзе ў дзверы*).

Марына Паўл. (*услед яму гарачкава*). Я не хочу, каб так было. Я не хочу, каб ты жыў так... надвая... Або яна—або я! (*Карызна пайшоў. Марына Паўлаўна ўраз абвяла і, разгубленая, ціха адыходзіцца ад дзвярэй*). Якая дурная... якая дурная... Нашто было так гаварыць?

СЦЭНА 2-я.

У пачатковай школе. Невялічкі чысты і ўтульны пакойчык настаўніцы Веры. Перш пусты, потым уваходзіць Вера—відочна зморaная, змардаваная. З хвіліну яна ў млявай нярухомасці стаіць на адным месцы, потым ідзе да стала, бярэ блок-нот і чытае.

Вера. Заўтра—драмгурток, кройка-шыццё, жаночы актыў... Наладзіць перапіску роляй... Падабраць літаратуру для жанчын... Узгадніць з сельсоветам... (*Заклапочана*). Нешта трэба ўзгадніць з сельсоветам... (*Цяжка ўздыхнуўшы, сядае на канапу. За дзвярмі чуваць гоман*). Скончыўся комсамольскі сход. (*Ідзе да дзвярэй, прачыняе іх і нечага выглядае*).

(За дзвярмі чуваць голас Зелянюка: „Галоўнае, хлопцы, добра разварушыць. Увязь за жывое, за нутро за самае! Хай пакрычаць, пагалёкаюць—значыць да дзела, значыць, добра і падумаюць над усім"...)

Вера. Зелянюк! Зайдзіце да мяне на хвілінку. (*Уваходзіць Зелянюк і комсамолец Віктар. Следам за імі неўзаметку ўцісьнуўся Галілей, стаў, як цень, у парозе*).

Зелянюк. Ну, і закруцілі, што называецца. Увесь Сівец заварушыўся! Няма тае хаты, дзе-б не бушавала цяпер, як у катле.

Віктар. Заўтра нашы хлопцы як след возьмуцца—не тое яшчэ будзе!

Вера. Зелянюк! Я хацела з вамі параіцца. Мне здаецца, што мы на жанчын мала ўвагі звяртаем. А яны-ж тут, бадай, галоўную ролю адыгрываюць. Калі не захоча баба, дык і мужчына не пойдзе ў калгас. А бабы крычаць, лямантуюць.

Зелянюк. Як на тым сходзе... памятаеце? Ой, і хітры наш мужычок! Бабу наперад—хай пакрычыць, пашалее—што з яе возьмеш?—а сам паслухае моўчкі, прыгледзіцца, можа ясней што пакажацца.

Галілей Кхе... Кхе... Жанчыне трэба крычаць. Яна крыкам гора сваё збывае... ага...

Зелянюк. А! Дзядзька Галілей! Слаўны вынаходца зямлі сівецкае!

Галілей (*ступіўшы два крокі наперад строга*). А я папытаю... ага... Вы мне праўду скажыце, таварыш... Што вы тут робіце? У які бок гэта вы? Ага...

Зелянюк. Рэволюцыю робім, дзядзька Галілей.

Галілей. Ну вось... ага... а тая ўжо скончылася?

Зелянюк. Якая тая?

Галілей. Што была супроць паноў.

Зелянюк. Гэта—тая самая, дзядзька Галілей. Толькі на другім перагоне. І цяпер супроць паноў, супроць кулака, заўтрашняга пана. Разумееце?

Галілей (*мармоча сам сабе*). А ў Цімахвея Міронавіча карова ацялілася... прыбытак... ага... (*бяжыць да дзвярэй і натыкаецца на Пацяроба і Карызну, якія ў гэты момант ўваходзяць у пакой*).

Пацяроб. Чакай, любачка, што гэта ты блытаешся тут пад нагамі?

Віктар. Дзядзька Галілей праўды дапытваецца... пра калектывізацыю..

Пацяроб. Праўды дапытваецца? *(Да Галілея, які памыкаецца абмінуць яго)* Якой-жа табе, родненькі, праўды не хапае? Ты што— незгодзен з чым-небудзь, га?

Галілей *(разгублена мітусіцца, не ведаючы, куды дзецца. Але бачыць, што ніякага выйсця няма і, набраўшыся духу, раптам крычыць з адчайнай смеласцю, якая палохае нават яго самога).* Згодзен з усім, з усім чыста! Але ты мне растлумач па сэнсу... ага... па сэнсу...

Пацяроб *(троху знізіўшы тон).* Што-ж табе, любачка, растлумачыць? Ты-ж кажы ясна, а не то што...

Галілей *(звычайным голасам).* Кхе... кхе... таварыш старшыня... цікаўлюся я... каб уцяміць усё гэта, значыцца... ага... што вось у жыццё цяпер праводзіцца...

Пацяроб *(аўтарытэтна).* Што праводзіцца, пытаеш? Праводзіцца суцэльная калектывізацыя сельскае гаспадаркі і ліквідацыя кулацтва, як класа, на базе суцэльнае калектывізацыі. Разумееш?

Галілей. Ага... Разумею, таварыш старшыня... разумею...

Пацяроб *(грозна).* А можна не разумееш, га? *(Галілей зноў памыкаецца цмыгнуць у дзверы, але Пацяроб вялічным жэстам сунімае яго).* Чакай! А ці разумееш ты, мой даражэнькі, хто гэта ўсё праводзіць? Гэта праводзіць партыя і савецкая ўлада. Улада!.. Разумееш? А хто ідзе насупроць—супроць каго ён, любачка, ідзе? га? Супроць каго ён ідзе, мой даражэнькі? *(Галілей нарэшце уцёк. Пацяроб падыходзіць да Веры, падлабуньваецца).* П'явачка...

Карызна *(узрушана ходзіць па пакою).* Гэтымі днямі склікаем агульны сход у Сіўцы. Канчаткова і рашуча становім пытанне пра калектыў. Трэба, нарэшце, рабіць тут нейкі лад.

Зелянюк. Роўна пяць дзён таму назад мы такі сход правалілі.

Карызна *(рэзка).* Ты што прапануеш?

Зелянюк. Мы разгарнулі ў Сіўцы шырокую падрыхтоўчую працу. Мабілізавалі комсамольцаў, актывістаў, перанеслі работу ў сялянскія хаты. Разумееш, Карызна, нам трэба нейкі час, каб сабраць моцны надзейны актыў, разбіць кулацкія махінацыі, добра арганізаваць беднату.

Пацяроб. А мой-жа ты залаценечкі! Гэта-ж ты да налецця будзеш тут арганізоўвацца. Любачка мая! Ты не ведаеш селяніна. З ім марудзіць не можна, раз, два, ды ў дамкі! *(Да Веры).* П'явачка, праўда?..

Зелянюк *(не зважаючы на Пацяроба).* Сёння Зарэчанцы пастанавілі, не чакаючы Сіўца, арганізаваць свой асобны калгас...

Карызна. Што, свой асобны калгас? Я гэтага не дапушчу, гэта партызаншчына, таварыш Зелянюк, гэта зрыў усёй нашай працы.

Зелянюк. Ты маеш рацыю. Гэта з майго боку — партызаншчына. Мне трэба было раней памеркавацца з ячэйкай. Але мая памылка не павінна адбіцца на агульнай справе. Зарэчанскі калгас будзе добрым прыкладам Сіўцу, ён дапаможа ў нашай рабоце. Там ўсё гатова, усе чакаюць. Не пайсці ім насустрэчу, значыць—загубіць усё...

Карызна. Я сваю думку сказаў. Я гэтага не дапушчу.

Зелянюк. Але-ж твая думка—гэта не думка ўсяе арганізацыі?

Карызна. Мы паставім гэта пытанне на ячэйцы.

Зелянюк *(моўчкі ідзе да дзвярэй, але сунімаецца і, стрымаўшы сваю гарачкавасць, з лагоднай усмешкай зварачаецца да Карызны).* Мы з табой, Карызна, так і пасварыцца гатовы. Самы час для гэтага... Ты, значыць, агульны сход думаеш усё-ткі збіраць?

Карызна *(таксама мяняе тон)*. Сёння, здаецца,—пятніца... Зробім, давай, у нядзелю, праз два дні, значыць...

Зелянюк. За гэтыя дні мы яшчэ ўправімся сёе-тое зрабіць... *(Да Віктара)*. Ты на Зарэчча? *(Абодва развітваюцца і выходзяць)*.

Пацяроб *(Заходзіцца раптам ад дзікага рогата)* Ха-ха-ха-ха!. Сымонка!.. а-ха-ха-ха-ха!.. Во, маладзец!... Во гэта так!.. ха-ха-ха-а-а...

Вера *(пакрыўджана)*. Сапраўды... робіць усё, што хоча, нібы ён тут начальнік нейкі. Раз ён прысланы пад загад сакратара ячэйкі, дык павінен усё рабіць так, як яму скажуць.

Пацяроб. Любачка, што яму адыходзіць? Адбыў тут сваё, дый—пырх, паляцеў, а мы тут сядзі, ды кукуй. Бач ты, рабочы з горада! А мы--хто? Не рабочыя? Яшчэ паглядзім, хто лепш патрапіць загнуць пролетарскую лінію!..

Карызна. Пацяроб! Я маю справу да Веры Міхайлаўны, нам трэба пагутарыць.

Пацяроб. Залаценечкі мой, калі ласка... мяне ўжо няма, любачка, ані няма. *(Ідзе да дзвярэй)*.

Вера. Заходзьце, таварыш Пацяроб!

Пацяроб. П'явачка! *(Ад дзвярэй да публікі)*. Смаркачы! Я вам за тры дні ўвесь сельсовет у калгас увапхну. Пішчом будуць лезці, а не то што... Цьфу! *(Выходзіць)*.

Карызна *(Пасля паўзы)*. Я не маю, Вера, ніякай справы.

Вера *(Усміхаючыся)*. Я ведаю...

Карызна *(падумаўшы)*. У Пацяроба надзвычай просты погляд на рэчы: ён упэўнены, што вярнуўся дзевятнаццаты год. Першае і асноўнае, што ён зрабіў, як пачалася ўся гэта завіруха,—начапіў на сябе наган.

Вера. Помніш, Карызна, як ты наракаў на шэрую плынь будзёншчыны, сумаваў па геройству мінулых дзён, па захапленню першых год рэволюцыі? Ты таксама—помніш?—чакаў, што вернецца дзевятнаццаты год.

Карызна. Так, я-б хацеў, каб вярнуўся дзевятнаццаты год. Тады было проста і ясна. Мы бачылі перад сабой адкрытага ворага, ненавідзелі яго непасрэднай арганічнай нянавісцю. Нянавісць гэта была ў нас з малых дзён. Я—помню—пана нашага зненавідзеў яшчэ тады, як ён злавіў мяне ў сваім заказаным бары і садраў з мяне шапку. Я ў дзевятнаццатым годзе імсціўся за гэтую шапку. А цяпер—не тое. *(Паўза)*. Вера... Цяпер вораг—ведаеш хто? Мой родны бацька... *(Устае, падыходзіць да Веры, гаворыць з наўмыснай выразнасцю)*. Майго бацьку раскулачылі і выслалі, як злоснага кулака. Ты спалохалася, Вера? Баішся? Пра гэта яшчэ ніхто не ведае тут. Я не хачу, каб ведалі. Ты не скажаш? Праўда, Вера, не скажаш?

Вера *(стараецца схаваць свой мімавольны спалох)*. Я—не... я так сабе... Я не баюся! (Парыўчата хапае яго за руку, крычыць з роспаччу, са слязьмі на вачах). Карызна! Не злуйся! Проста ты сказаў неяк раптам, такім голасам... Я не баюся... Чаго мне баяцца? *(Змоўніцкім тонам)*. Я нікому не скажу пра гэта. Не трэба, каб ведалі тут.

Карызна *(панура)*. Я не магу іх ненавідзець. Вера, чуеш? Я не магу іх ненавідзець! *(Сядае за стол, кладзе галаву на далоні)*.

Вера *(падыходзіць, ціха дакранаецца да яго валасоў)*. Не трэба так, гэта ў кожнага бывае. Ведаеш, я-ж таксама шкадавала. Да мяне прыходзіла Гвардыяніха—такая простая, няшчасная жанчына. Яны-ж дык-ого, якія злосныя кулакі, а мне ўсероўна шкода было яе...

папраўдзе... А ў цябе бацькі. *(Дзелавіта ўздыхнуўшы).* Бацькоў заўсёды шкода бывае...

Карызна. Яны папракаюць мяне, што я сам іх зрабіў кулакамі. Яны просяць у мяне дапамогі. А што я ім адкажу? Што зракаюся іх, што лічу ганебным называць іх сваімі бацькамі?.. Ды ці ў бацьках справа! Трэба зрачыся нечага большага, можа самога сябе... Цяжка, Вера, цяжка ісці па шляху, на якім сам панакідаў столькі камення...

Вера *(пяшчотна).* Трэба старацца, трэба дужа старацца... каб усё было добра, усё чысценька, каб ніхто ні да чаго не мог прычапіцца. Праўда... Тады і спакойны будзеш, зусім спакойны.

Карызна *(павесялеўшы).* Як ты, Вера... як ты сказала? Ха-ха! каб усё было добра, усё чысценька... У тваіх словах, Вера, цэлая праграма, цэлая жыццёвая філасофія. Каб усё было добра... Проста і ясна. *(Задумляецца).* Так, я мушу рабіць, каб усё было добра. *(З націскам).* Каб ніхто не мог прычапіцца... *(Зусім весела).* Вера! Як гэта? Як ты сказала? Як? *(Бярэ яе за рукі і з жартлівай настойнасцю зазірае ёй у вочы).*

Вера *(засароміўшыся).* Трэба старацца, трэба дужа-дужа старацца

## СЦЭНА 3-я

Кватэра Зелянюка—чыстая палавіна сялянскае хаты. На парозе дзвярэй, што ў другую палавіну, Зелянюкоў гаспадар Прахор падплятае атопак. На пяколку сядзіць Тацяна. Уваходзіць Зелянюк.

Зелянюк *(мінаючы Прахора).* Дармо, дармо, сядзіце! Што-ж гэта вы, дзядзька Прахор, лапаць падплятаеце, ды яшчэ атопак? Трэба боты насіць.

Прахор *(зачэпліва).* А хто-ж мне даў тыя боты, скажыце вы мне? Я ўжо даўно, пяты ўжо дзесятак гадоў чакаю, каб хто прышоў вось, як вы, ды й сказаў:—дзядзька Прахор, ты цэлы век свой працуеш, корміш і сябе і людзей, а не бачыш у жыцці ніякай прасветласці. На тебе, братачка, за гэта гамбурскія боты з шчыгрэневымі халявамі! На лепшае прабачай, дзядзька Прахор, іншым разам... *(Памаўчаўшы).* Не ідуць, ліха на іх! Не прыносяць!

Зелянюк. А ці спрабавалі вы, дзядзька Прахор, самі хадзіць па гэтыя боты?

Прахор. Хадзіў! Чаму не хадзіў? Пяць год хадзіў, пяць гадочкаў. І з царом хадзіў і на цара. Далі... во сюды, во... *(Сударгава торкае сябе кулаком у бок, мабыць, паказваючы на месца атрыманае некалі раны).*

Зелянюк. Слухайце, дзядзька Прахор, а Гвардыян ці ў ботах ходзіць?

Прахор. Гвардыян? Што Гвардыян? Гвардыян усіх не набуе.

Зелянюк. А Кандрацёнак?

Прахор. І Кандрацёнак.

Зелянюк. А Сахацкі?

Прахор. І Сахацкі.

Тацяна. Гвардыян пэўна што не набуе, але татка Гвардыяна дык бадай што набуў у добрыя боты? Ці мала некалі папарабіў на яго?

Прахор *(задзеты за жывое).* Што вы торкаеце іх? Што вы мне іх прыкладаеце? Яны мо'палавіну жыцця ў мяне адабралі! Яны кроў маю пілі! Яны ў маіх ботах ходзяць! Яны ўсе ў маіх ботах ходзяць! Што яны? Гэта—зладзеі. Разбойнікі!..

Зелянюк. Ха-ха-ха!.. Так іх, дзядзька Прахор, так іх...

Тацяна. Суціхніце, татка! Досыць вам ужо надакучаць чалавеку.

Прахор. А хто-ж за мяне будзе крычаць? Каму гэта ў галаве, што Прахор праз усё сваё жыццё у лапцях ходзіць, што ён свету яснага не бачыў, га? Хто будзе пра гэта крычаць? (*Ідзе на чорную палавіну, адтуль яшчэ нейкі час чуваць яго тонкі прарэзлівы голас. Тацяна хоча таксама ісці, але Зелянюк сунімае яе*).

Зелянюк. Сядзі, Тацяна, ты мне не замінаеш. У бацькі ў твайго злосць правільная, законная, але ён не ведае пакуль што, куды яе дзець. Дармо, мы ёй пакажам дарогу...

Тацяна. Хітры ты чалавек, ой, хітры!

Зелянюк. Трэба быць хітраму, Тацяначка. Як не будзеш хітры, дык нехта іншы знойдзецца на цябе хітрэйшы, і ты будзеш дурнем яму. А мы ўжо ці малы час былі дурнямі?

Тацяна. Цяпер вы ўжо хітрыя, а мы яшчэ дурні.

Зелянюк. Хто гэта—мы і вы?

Тацяна (*у замяшанні*). Ну, вы... гарадскія...

Зелянюк. Ты таксама хітрая, Тацяна. Каб не была ты хітрая, дык бы дасюль мардавалася ў свайго нялюбага мужыка, а то дык жывеш вось, як вольная птушка, водзіш за нос сівецкіх мужчын. Разумная ты баба, Тацяна!

Тацяна. А вой, пахваліў. Каб адно не перараніўся з хвальбою, бо яшчэ не знаеш мяне, што я за птушка. (*Паўза*).

Зелянюк. Якуб Лакота не прыходзіў?

Тацяна. Прыходзіў. Казаў, што неўзабаве надыдзе зноў. (*Паўза*). (*Зелянюк сядае за стол, перабірае паперы*).

Зелянюк. Тацяна!

Тацяна. Што?

Зелянюк. Я табе хачу пра Якуба сказаць. Ён дужа дарагі чалавек. Ён шчыры, сумленны, ён проста гарыць увесь... Ну, і ён... як табе гэта сказаць... троху да цябе... нешта такое...

Тацяна (*дасадліва перапыняе яго*). Ат! Кінь ты глупства рознае гаварыць.

Зелянюк (*смяецца*). Добра. Не буду. Дык вось што... Трэба бярэгчы яго... Ты яго, Тацяначка, беражы. Падтрымлівай яго. Будзеш, так? Абяцаеш гэта мне?

Тацяна. Ён нейкі... дужа добры такі... Яго ўсе чыста шкадуюць.

Зелянюк. А ты, Тацяна, шкадуй больш за ўсіх... (*Паўза. Потым на гаспадаровай палавіне чуваць тупат і галасы людзей*). Ці не ён там прышоў? (*Ідзе да дзвярэй*). А! Якуб Лакота! Хто там яшчэ? Заходзьце, заходзьце! Чым больш, тым лепш. (*Уваходзіць Якуб Лакота, Віктар і некалькі сялян, сярод якіх блытаецца п'янаваты Паўлюк Гвардыян, Зелянюк пільна ўглядаецца ў Лакоту*). А ты, Яша, не спаў і гэтую ноч. Ты паглядзі на сябе, да чаго ты падобны?

Лакота. Я спаў, здаецца. Ну пэўна, што спаў... (*Бачыць, што ніхто не верыць яму і вінавата ўсміхаецца*). Я-ж здаровы, зусім здаровы. Гэта проста так... (*Закашляўся. Адкашляўшыся дабрадушна ўсміхаецца*) Ну вось... Як толькі пойдзе гутарка пра здароўе, дык у мяне кашаль. Не трэба гаварыць аб гэтым... Скажы, браток, гэта праўда, што з нашым калгасам закаклюка нейкая здарылася, га? А тут вось адхлану не даюць. Калі рабіць, кажуць, дык рабіць.

1-шы селянін. Дык яно і пэўна што... адклад не ідзе на лад. Раз ужо ўва ўсіх закіпела, дык бы, як кажуць, пад гарачую руку.

Зелянюк. Хо-хо! Калі вы ўжо з гэтага насы павесілі, дык што-ж будзе далей?

2-гі селянін. Ну, насоў яшчэ ніхто не вешаў, а вось што рукі свярбяць дык свярбяць. Каб хаця іх заняць за што-небудзь.

Паўлюк *(вылазіць наперад і сморгае Зелянюка за рукаў)*. Таварыш...· быр... бры... таварыш брыгадзір...

Віктар *(адцягвае яго)*. Дзядзька Паўлюк! Калі ўжо глынуў якую кроплю, дык бы сядзеў ціханька...

Паўлюк. Ганіце мяне... ганіце мяне адусюль...

Зелянюк. Чакай, Віктар. Што ты хочаш, дзядзька Паўлюк?

Паўлюк. Ганіце мяне... Адусюль ганіце... прапашчы я чалавек. *(Канфідэнцыяльна)*. Я—п'яны. Мяне брат паіў... родны брат... Цімахвей Міронавіч... А я—Павел Міронавіч... Паўлюк... п'яніца... валацуга... *(нечага хапліва шукае за пазухай)*.

Віктар. Ну, вось, зараз будзе картку паказваць. Во ўжо няшчасце...

Паўлюк *(разгортвае брудную шмотку і дастае фатаграфію)*... Во... дачка... родная дачка... у гімназіі вучыў... у пятай клясе... Такая была... такая...

Тацяна. Дзядзька Паўлюк! Вы ўжо яе так зашмальцавалі, што там адзін фартух застаўся. *(Зелянюк разглядае фатаграфію)*.

Паўлюк *(слязліва)*. Памерла... Год лячыў... Цэлы год... У яго пазычаў, у брата.. Даваў... Скрозь даваў...

Зелянюк. Дык гэта-ж добра, калі даваў?

Паўлюк *(смяецца ціхім п'яным смяшком)*. Хі-хі-хі... Даваў... А зямлю забраў... А гаспадарку забраў... Хату, дзякуй яму, пакінуў... А я—валацуга... п'яніца... Ганіце мяне...

Зелянюк *(строга)*. Во што, дзядзька Паўлюк... Гнаць мы цябе ні адкуль не будзем, а хто цябе поіць і за што цябе поіць—гэта ты ўжо памяркуйся са сваім сумленнем... *(Паўлюк палахліва адціскаецца ўзад)*. Ну, хлопцы, не будзем марнаваць часу. Сёння Якуб Лакота пакажа нам нешта вельмі цікавае. Праўда, Яша?

Лакота *(у замяшанні)*. Выдумаў ужо... Нічога няма там цікавага...

Зелянюк. Дзядзька Прахор! Хадзіце, можа тут свае боты ўбачыце! Тацяна, падыходзь бліжэй!

Лакота *(ласкава)*. Ты можа не хочаш, Тацяначка?

(Усе збіраюцца вакол стала, на якім Лакота разгортвае вялікі аркуш паперы).

Лакота. Я ўзяў толькі агульны план... Гэта—наш Сівец. Вось—рэчка... Млын... Вось тут і Зарэчча наша. *(Да Віктара, які ўважна ўзіраецца ў план)*. Хочаш хату сваю знайсці? Не знойдзеш, Віктар, няма яе. Ты прабачай, але тут надта ўжо месца прыдатнае пад стадолы. Дык мы знеслі, тваю хацінку... Бачыш—даўгія жоўтыя палачкі... Гэта і ёсць новыя стадолы—тут будзе малочная ферма... А вось шырокая роўная фарба—гэта наша калгаснае поле... *(З дзяцінай радасцю)*. Вось тут, як станеш—не ўбачыш канца. Як вокам сігнуць—адно суцэльнае мора... А далей троху—бачыце?—зноў будынкі... Тут будзе цагельня, бо цэглы нам на першыя гады не адабрацца. Гэта—там, дзе глінішча, адтуль мы палякаў абстрэльвалі. *(Лятуценна ўсміхаецца)*. Помню, дужа смешна было... Там мы малыя, гуляючы, розныя пячуркі ў гліне капалі... агонь клалі ў іх, бульбу пяклі... Дык такія трапныя байніцы вышлі быццам сумысля пароблены... А з паўвярсты адсюль, во ў гэтым бары нас і зладзілі...

1-шы селянін. А вось тут вунь крывулькі—каго яны паказваюць?

Лакота. Гэта—сад. Вялікі пладовы сад—дваццаць гектараў... А сярод саду—бачыце?—таксама будынкі... Гэта для дзяцей: школа тут, дзіцячы сад...

Тацяна. Як у казцы ўсё роўна.

Лакота *(гарачыцца)*. Не казка гэта, Тацяначка. Усё тут вылічана да кропачкі. Усё разрахавана *(Яшчэ больш гарачыцца)*. Ды не тое яшчэ... Гэта на першыя гады. А потым—бачыш?—во тут, ад самага саду, на ўзгорку, над рэчкай—тут будзе—ведаеш,—што?—новы Сівец... Калгасны пасёлак... Новыя дамы... высокія, светлыя... Шырокія вуліцы... Зеляніна.

2-гі селянін. Во, каб гэта хаця мае ўнукі дажылі да такога шчасця.

Лакота *(у захапленні)*. Не ўнукі—мы!.. Мы дажывем!.. Мы самі... Мы дажывем... *(Моцна закашліваецца)*.

Зелянюк *(глыбока ўзрушаны)*. Дажывем, Яша, дажывем, любы! Усё будзе... І сады будуць. І дамы высокія. І зеляніна... Да ўсяго дойдзем, раз на дарогу вышлі! І ніхто—чуеш, Яша?—ніхто, ніякая сіла не саб'е нас з гэтае дарогі! Яна—наша. Мы заваявалі яе і здолеем абараніць. Мы будзем змагацца за яе так, як умеў змагацца наш слаўны партызан і чырвонагвардзеец Якуб Лакота! *(Падыходзіць да збянтэжанага Лакоты і горача цісне яму руку)*.

## АКТ ДРУГІ

### СЦЭНА 1-я

У хаце Цімахвея Міронавіча Гвардыяна. Вялікая чыстая святліца, у якой сабраны ўвесь бляск Гвардыянавага багацця. Цэлы пакой пазастаўлены розных гатункаў мэбляй. Усё стаіць у дасканалым парадку: паўз адну сцяну шнурам павыстаўлены крэслы—перш маленькія, потым большыя, яшчэ большыя і г. д. Паўз другую сцяну таксама плячо у плячо стаяць шафы. У двух процілеглых кутках стаіць па вялізным трумо, а ў трэцім кутку, што супроць абразоў, шырокае і глыбокае спружынавае крэсла. У гэтым крэсле, як на троне, засядае сам Цімахвей Міронавіч Гвардыян, а Паўлюк стаіць побач і, таямніча нахіляючыся да брата, робіць свой даклад.

Паўлюк... і яшчэ кажуць, што неўзабаве пачнуць раскулачваць... *(Смакуе гэтае слова)* раскулачваць...хі...хі...

Гвардыян *(дасадліва)*. Ну?

Паўлюк. Раскулачваць, значыцца... *(Зларадасна)*. Адбяруць конікаў, каровак, свіначак, авечак. Забяруць дабро ўсё чыста ... інвертал ... *(Азірае хату)*. І хату таксама не адкінуць. Пад праўленне калгаса акурат падыйдзе. *(Зважна)*. Ну, канечна, калі, скажам, у каго мэблі рознае многа...

Гвардыян *(нецярпліва)*. Хто табе гэта сказаў?

Паўлюк *(таямніча)* А ў Якуба Лакоты ёсць ужо планты на калгас... хі-хі... Дык у гэтых плантах ужо і конікі і кароўкі твае паказаны... і будыначкі ўсе, як адзін. Пра гэта яшчэ ніхто не ведае, а я ўжо знаю. Я—бядняк... разумееш? Мне ўсюды хады адкрыты... во... Я, калі хочаш, і на ячэйку пайду... і ў комуністы запішуся...

Гвардыян *(устае, падыходзіць да шафы, дастае пляшку з гарэлкай і налівае поўную шклянку)*. На, выпі...

Паўлюк *(ідзе да гарэлкі паволі, сцеражліва, як па кладцы, і ўжо з паўдарогі выцягвае наперад руку. Узяўшы шклянку, з момант

*трымае яе ў нейкім зачараваным аслупяненні і потым хапліва п'е, гулка чоўкаючы рухавым горлам. Выпіўшы, ідзе адразу да дзвярэй, нясучы на твары крывую горкую міну. Перад тым, як выйсці, безнадзейна махае рукой).* Які ўжо з мяне чалавек!..

Гвардыян *(правеўшы Паўлюка нярухома застылым поглядам).* Брат... *(Ідзе да крэсла, сядае і, важна адкашляўшыся, гукае валадарным тонам).* Матрёна! *(Убягае Гвардыяніха—дробная, молепадобная жанчына).* Прынясі мне, будучы, свежую бутэльку нарзану... *(Гвардыяніха выходзіць і праз момант урачыста ўносіць бутэльку нарзана і чарку. Аддае нарзан мужыку і знікае. Гвардыян адкаркоўвае бутэльку, налівае чарку, размашыста выпівае, моршчыцца, крэкча. Налівае другую, мецішца выпіць, але ў гэты момант у пакой убягае Галілей).*

Галілей. Дзень добры! *(Не сунімаючыся трусіцца цераз хату і сядае ў пышнае крэсла на покуце. Гэтая дэманстрацыя відавочна не ў смак Гвардыяну).*

Гвардыян *(стрыкліва).* Сядайце, Ахрэм Данілавіч!

Галілей. Сяджу ўжо, Цімахвей Міронавіч.

Гвардыян. Як маецеся, Ахрэм Данілавіч?

Галілей. Баюся, Цімахвей Міронавіч.

Гвардыян. Чаго-ж вы баіцеся, Ахрэм Данілавіч?

Галілей. Таго, чаго і вы, Цімахвей Міронавіч.

Гвардыян *(троху здэтанаваны).* Я дык што-ж, пэўная справа кулак, хе-хе-хе... А чаго-ж вам, будучы, баяцца?

Галілей. Кхе... кхе... Каб ведаў, дык не баяўся-б. Чалавек таго баіцца, чаго не бачыць, не разумее...

Гвардыян *(разважна).* Што праўда, то праўда. Каб гэта ведаў усё, што наперадзе, дык які страх! Хе-хе... Каб ведаў, дзе павалішся, дык бы лёг там спакойненька, яшчэ і саломкі падаслаў. *(Паўза).* Што-ж яны, будучы, зробяць вам. Ахрэм Данілавіч?

Галілей. Яны мне нічога не могуць зрабіць. Ці аб адным чалавеку страх? Вам, Цімахвей Міронавіч, будзе канец... ага... А ці варты вы таго ці не варты? Трэба памеркаваць... ага... Рэвалюцыя нейкая ідзе. Рэвалюцыя заўсёды шукае чые-небудзь пагібелі. З гэтае пагібелі—іншым шчасце. Можа з нашае пагібелі будзе некаму шчасце... ага... Я не ведаю... не разумею... Нічога не разумею...

Гвардыян. Не разумееце?

Галілей. І нічога я вам не скажу.

Гвардыян. Не скажаце? (*Паўза*). Гвардыян пачынае дрыжэць і вусны ў яго замест усмешкі расцягваюцца ўбогай разгубленай грымасай). Можа, скажаце, зямлю адбяруць?

Галілей. Кхе... кхе... адбяруць.

Гвардыян. Можа, скажаце, гаспадарку рашаць?

Галілей. Кхе... кхе... і рашаць.

Гвардыян (*усё больш распаляецца).* Можа і хату? І тое, што у хаце? Га? І тое, што ў хаце? Можа скрыні пачысцяць, кішэні павывarочваюць? Можа сарочку здзяруць? Ну? Кажы! Ну? Кажы!.. *(Падступае да Галілея).* А можа ты брэшаш, га? Брэшаш, Галілей, го-го-го!.. Брэшаш!.. Брэшаш!.. Не загубяць бязвіннага чалавека! Няма таго закона! Закона няма!

Галілей *(скарагаворкай).* А ўчора я трактар бачыў... ага... Ішоў некуды праз наша мястэчка. Тах-тах-тах-тах... І жук поўз па дарозе. Жучок. Проста—чорны жучок... Кхе...кхе... Дык трактар пашоў, а жучок застаўся... раструшчыў трактар жучка. І ніхто не пашкадаваў. Раструшчыў, Цімахвей Міронаніч, ага... раструшчыў.

Гвардыян. А што гэта па твойму—трактар?

Галілей (*з трыумфам*). Ага... Вось не ведаю... кхе... кхе... Не разумею, Цімахвей Міронавіч, не разумею. І нічога не скажу... ага... (*зрываецца з месца і, не развітаўшыся нават, выбягае з хаты*).

Гвардыян (*нейкі час стаіць асалапелы на адным месцы*). Разбой... Гэта-ж чысты разбой! Сярод белага дня рабаваць чалавека... Што-ж гэта будзе? Што-ж гэта будзе? (*Зноў стаіць моўчкі, потым голы пергамінавы твар яго крывіцца ў страшэнную жабіну грымасу, ён туга перахіляецца наперад і крычыць адушаным злосцю голасам*). Але-ж чакайце, браточкі, не адзін Гвардыян ёсць на свеце? Усіх не ймеш—не праўда ваша! Мы-ж таксама не будзем сядзець, склаўшы рукі, мы таксама нешта будзем рабіць. Чакайце, мае даражэнькія! (*Мітусіцца на месцы, нібы шукае, за што ўхапіцца, потым ахамянуўшыся крычыць*). Матрёна, Матрёна. (*Убягае Гвардыяніха*). Дай мне, будучы, мой добры пінджак.

(Пачынаецца цэрэмонія надзявання „добрага пінджака". Хоць „пінджак" вісіць тут-жа, у першай ад Гвардыянавага трона шафе, але бярэ яго канечна „Матрёна" і, трымаючы на выцягнутых уперад руках, падыходзіць да Гвардыяна з набожнай, блізкай да спалоху, павагай. Гвардыян ужо загадзя абярнуўся спіной на сустрэчу „добраму пінджаку" і выставіў назад скачарэжаныя рукі. „Матрёна", заціяўшы дух, напінае на гэтыя рукі няслухмяныя рукавы. Надзеўшы пінджак, Гвардыян злосным рашучым крокам выходзіць з пакою. Гвардыяніха з хвіліну стаіць, узняўшыся на цыпачкі, слухае, пакуль ляпнуць надворныя дзверы. Тады, палахліва азірнуўшыся, бяжыць да Гвардыянавага трона, сядае на ім і жаласна падпірае рукой галаву).

Гвардыяніха (*дужа трагічна*). Божа мой, божа! За што я такая няшчасная! Дзе маё харство! Дзе мая прасветлая маладосць? (*Плача*). А я-ж у гімназіі вучылася, а я-ж на гітары іграла... (*Трошку паплакаўшы, выцірае кулачком слёзы, уздыхае, зноў з хвілінку сядзіць, падпёршы рукой галаву, і раптам заводзіць тонкім кволым галаскам*).

Ветер пронесся над речкою сонной

Тихо шумит очерет...

## СЦЭНА 2-я

Кватэра Карызны. Марына Паўлаўна і Тацяна збіраюць рэчы, Галілей муляецца ў парозе.

Тацяна. І каб гэта я ды нейкі там сорам замела? Гэта—мой гонар, што я не захацела, як каторыя іншыя, век гараваць, ды дала сама сабе рады. А то—прыходжу, а яна сядзіць, асалавеўшы, як не жывая ўсё-роўна.

Марына Паўл. (*да Галілея*). Ці добра я раблю, дзядзька Ахрэм? Вы-ж ведаеце усё, я-ж нікому апроч вас не гаварыла пра гэта, пра наша...

Галілей. Кхе... кхе... Трэба памеркаваць... ага... Трэба памеркаваць...

Марына Паўл. Я не ведаю... Здаецца, усё я абдумала, абмеркавала. Усё нібы паказвае на тое, што так трэба зрабіць. А можа не? Можа дрэнна так будзе? Я не пра сябе... Нават не пра яго... Я не ведаю, як будзе дачцэ...

Галілей (*рашуча*). Усім будзе лепей... ага... усім лепей.

Тацяна. Цяпер-жа ўсё нанова перарабляюць, дык вось і мы сваё жыццё па-новаму павядзем. Пойдзем з табой, Марына, па сходах, па калгасах, актывісткамі станем. Дзве разводкі... А што-ж? Наша справа

такая—плюём на ўсё, на ўсякія там плёткі-шмоткі ды жывём, як самі захочам. Ці праўда, дзядзька Ахрэм?

Галілей строга зірнуў на яе, даючы зразумець, што ён жартаў не любіць.

Тацяна *(ранейшым тонам)*. Пажывеш спачатку ў нас на Зарэччы— у Якуба Лакоты каморка такая ёсць... Мы яе сяк-так абсталюем... Вось і дзядзька Ахрэм нам паможа, ён-жа ў нас майстра знатны, хоць што прымудрыць.

Галілей *(радасна страпянуўшыся)*. Ага... Трэба памеркаваць. Мы зробім... Можна электрычнасць... ага... ветрачок...

Марына Паўл. *(з мімавольнай усмешкай)*. Кіньце вы, дзядзька Ахрэм! Якая вам тут электрычнасць. *(Азіраецца)*. Ну, здаецца усё. *(Знясіленая сядае сярод хаты на клумак і раптам пачынае плакаць)*.

Галілей *(збянтэжаны, тупае каля Тацяны)*. Гэта, Тацяначка, добрыя слёзы... ага... Хай плача, Тацяначка, хай плача... гэта добра...

(Уваходзіць Сымон Карызна. Здзіўлены сунімаецца ў парозе).

Марына Паўл. *(схапянуўшыся)*. Тацяначка! вазьмі гэты клумак, нясі... Дзядзька Ахрэм, памажыце... Я зараз... Я зараз пайду... *(Галілей і Тацяна выходзяць. Карызна ідзе да стала, кладзе партфель і моўчкі стаіць, чакаючы тлумачэнняў)*. Дык я пайду, Сымон. Я ужо дамовілася, буду жыць пакуль што ў Зарэччы, у Якуба Лакоты... там ёсць пакойчык такі... А далей будзе відаць...

Карызна *(з фальшывым абурэннем)*. Што гэта ты, Марына? Што ты надумала?

Марына Паўл. *(горка ўсміхнуўшыся)*. Я не толькі для цябе гэта раблю, а і для сябе. Мне будзе лягчэй. *(Памаўчаўшы)*. Мне-ж таксама, Сымон, трэба жыць... яшчэ...

Карызна. Ну што-ж, можа так будзе і лепей... Мы-ж, Марына, усё роўна не будзем чужыя, праўда? У нас-жа яшчэ астаецца дачка?

Марына Паўл. *(ціха і смутна)*. У нас астаецца дачка. *(Працяжная паўза, якая цяжарыць абоіх. Марына Паўлаўна хоча нешта сказаць, ды не важыцца)*. Сымон... Я хацела яшчэ сказаць табе...

Карызна *(настаярожана)*. Ну?

Марына Паўл. Гэта не мой клопат, я ведаю. Ты не злуйся, Сымон...

Карызна *(стараючыся быць ласкавым)*. Гавары, Марына, усё гавары...

Марына Паўл. Ты ўжо другі ліст атрымаў... Я ведаю ад каго гэтыя лісты.

Карызна *(спалохана)*. Ты чытала?

Марына Паўл. Што ты, Сымон? Але-ж я бачу ўсё... Я разумею. *(Падыходзіць бліжэй да яго)*. Нашто ты мучыш сябе? Ты скажы усё... каму трэба... Табе нічога не будзе, ты-ж не вінаваты.

Карызна *(відавочна ўсхваляваны, хоча скончыць гутарку)*. Так, так... Я не вінават... Добра, Марына, добра што сказала. Усё будзе добра, ты не турбуйся. Я ўжо зусім спакойны. *(Ласкава дакранаецца да яе рукі)*. Мы-ж будзем бачыцца з табой, так? А дачцэ ты нічога не будзеш пісаць пакуль што?

Марына Паўл. *(у немарасці)*. Не, не буду. *(Ціха, як у забыцці выходзіць з пакою)*.

Карызна.. Не развіталася. *(Ходзіць па пакою, потым сунімаецца і амаль што весела азіраецца наўкола)*. Такое ўражанне, як быццам, пераехаў куды на новае месца *(Ідзе да пісьмовага стала, дастае з-пад груды кніжак лісты і рве іх на дробныя кавалачкі, прыгавар-ваючы з хітрым смяшком)*. Каб ніхто ні да чога не мог прычапіцца...

## СЦЭНА 3-я

Прэзідыум схода, сярод якога Якуб Лакота, Пацяроб, Зелянюк і інш. Старшыня Якуб Лакота. Сымон Карызна робіць даклад пра калектывізацыю сельскае гаспадаркі. Публікі не відаць, але добра чуваць усё, што дзеецца ў залі.

Зелянюк *(жваваківае ў публіку, кліча некага да сябе. Праз момант на сцэну ўваходзіць комсамолец Віктар. Зелянюк сустракае яго і адводзіць ў бок).* Ну, як?

Віктар *(радасна ўсхваляваны)* Усё добра. Усё у парадку. Апроч мяне выступіць восем чалавек—тры нашых і пяць сівецкіх. Хай толькі падкнуцца, мы такога гасу дадзім! Мы адно пачакаем... *(Сам сябе перапыняе).* Гвардыян прывалокся. Не трэба было гэту погань на сход пускаць.

Зелянюк. Дармо. У адкрытую лепш. Ты выступіш першы—так, як умаўляліся... Помніш? Я дам знак. Пакуль не трэба, нс лезь. Ну, пашоў. *(Віктар выходзіць. Зелянюк сядае на сваё месца).*

Карызна *(канчае даклад).* Усе, як адзін, на барацьбу за суцэльную калектывізацыю! Усе, як адзін, на барацьбу за новую соцыялістычную гаспадарку! Хай жыве арганізатар і кіраўнік працоўных—комуністычная партыя! *(У залі халоднае маўчанне, Карызна, троху здэтанаваны, займае сваё месца ў прэзідыуме).*

Лакота. Таварышы! Можа будуць якія запытанні дакладчыку? *(Маўчанне).* Запытанні ёсць? Няма запытанняў ні ў кога? *(Маўчанне).* Пяройдзем да спрэчак. Хто хоча слова? *(Маўчанне).* Хто хоча слова. *(Зноў маўчанне).* Няўжо ніхто не хоча выказацца? Пачынайце, таварышы! *(Паўза). Потым чуваць вісклівы жаночы голас.* „Век звекавалі, а гэткага ліха не бачылі... Як жылі, так і жыць будзем, вось наша слова! *(Голас адразу губляецца ў цэлай віхуры крыку і ляманту, які раптам выбухнуў у залі. Якуб Лакота стараецца ўціхамірыць баб, але марна. Тады з усяго хору галасоў вылучаецца адзін, які набірае ўсё большую і большую сілу і нарэшце гучыць упэўнена, цвёрда, перамагаючы агульны тлум. Гэта гаворыць Тацяна. Якуб Лакота і Зелянюк энергічнымі жэстамі запрашаюць яе на сцэну і яна выходзіць, не перапыняючы свае мовы).*

Тацяна... самі не ведаеце, чаго і што. Ці-ж мала ты, каторая, пагаравала, пабедавала? Ці-ж у цябе было калі шчасце ў жыцці, ці ты свету калі яснага забачыла? Або! Каб мне столькі радасці, колькі кожная слёз папаліла за свой век. Дурныя і больш нічога. Замест таго, каб падумаць, памеркаваць, можа нейкую прасветласць знайсці ў жыцці, дык яны—няма ведама што... Як была быдлам у свайго мужыка, так і будзеш давеку. А тут што—не ягонай гэта злосцю крычым, не ён гэта нацкаваў цябе каторую? Вунь яны стаяць, маўчаць, як вады набраўшы. Хай дурныя бабы крычаць, хай апастыляюцца, а мы, разумненькія, памаўчым, пачакаем, паглядзім як яно куды... Што, няпраўда? Га? Мо' няпраўду кажу? Свінні вы, а не людзі.. *(Чуваць штучны рэдзенькі смех мужчын. Бабы зноў залямантавалі. Чуваць паасобныя выкрыкі: „А твой дзе? Куды ён цябе вучыць?“ „Сама скруцілася ад свайго, дык ужо вычварае!“ „Распусніца“, „Табе толькі калгасу і трэба. Там многа будзе...“ Тацяна з хвіліну стаіць, ашаломленая нечаканай бурай бруднае лаянкі, потым, кінуўшы ў бок прэзідыума поўны крыўды і роспачы погляд паволі выходзіць са сцэны і ідзе ў зал,*

*у гушчу злоснага бабскага тлуму. На яе месцы з'яўляецца Зелянюк—ён падымае руку, паказваючы, што хоча гаварыць. Шум сціхае).*

З е л я н ю к *(ціха і цвёрда).* Хто з вас, цётачкі, хоча сказаць што дрэннае пра Тацяну? Хто яе ведае добра .. Ну кажы першая.. Ты? *(Ён наўгад торкае пальцам у нейкую жанчыну, адказу няма. У залі напружанае маўчанне. Паўза).* Крыкам ніякага сэнсу не дойдзеш. Будзем гаварыць спакойна. Хто хоча гаварыць—прасі слова у старшыні схода. *( З наўмыснай павольнасцю ідзе на сваё месца).*

Л а к о т а. Хто яшчэ хоча слова?

(Чуваць стрыманыя галасы „Прахор выходзі“ „Прасі слова—Прахор“!).

П р а х о р *(за сцэнай).* Што там слова? Якое там слова? Што буду я табе гаварыць, га? Што буду я гаварыць? *(Выпхнуты натоўпам з'яўляецца на сцэне).* Яно ўсё добра выходзіць, усё чысценька. Мужык дурны, дык—на табе—паможам, значыцца, жыццё, будаваць. *(Едка віскліва).* А дзе вы былі, мае даражэнькія, як я пні карчаваў на лядзе, як сваімі крывымі пальцамі раскалупваў кожны во гэткі кавалачак, каб пасеяць каліва збожжа? Ці прышлі вы тады, га? Ці памаглі мне? А то дык—ого! на гатовенькае!... Дабрадзеі вялікія!.. (*Спачувальны гоман публікі заглушае ягоныя словы і ён сыходзіць са сцэны, яшчэ нешта выкрыкваючы па дарозе*).

Л а к о т а *(марна стараецца ўціхамірыць сход).* Ціха, таварышы! Хто просіць слова? Хто там? Ага, Гвардыян... Слова мае Гвардыян. *(У залі цішэе. Цімахвей Міронавіч Гвардыян з дзелавіта заклапочанай мінай на сваім голым пергамінавым твары спакваля выпаўзае на сцэну).*

Г в а р д ы я н. Яжэлі ўсё натуральна прааналізіраваць, дык яно, будучы, няма чаго, мужчынкі, крычаць. Таварышы, каторыя зноў-жа з гораду *(Далікатны зірк у бок Зелянюка)* і каторыя, будучы, таксама нашы свае месныя працоўнікі (*поўны пашаны жэст да Карызны*) яны-ж не так сабе гэта, як яно выражаецца, цапу-лапу. Кожны, будучы, з свайго розуму аб'ясняецца. І нам здаецца, што крычаць не трэба зусім, а трэба, будучы, паслухаць усе іхныя прадлажэнні, пракрасна абдумаць іх і, будучы, абмеркаваць. А можа хто пойдзе ў гэты калгас, што вы думаеце? Можа і будуць ахвотнікі? Ты-ж людзям не закажаш, калі ён, будучы, хоча пайсці, дык ён і пойдзе. Мы, канечна, не нафпроціў калгаса, і трэба паслухаць людзей, раз яны спецыяльна на гэта прыстаўлены... *(у залі чуваць лёгкі смяшок, спачувальныя рэплікі. Зелюнюк, відавочна раздражнены „будучы, пракраснай“ Гвардыянавай прамовай, дае знакі ў публіку, што час распачаць бой. Але ў гэты момант панура ўзнімаецца з свайго месца манументальны Пацяроб).*

П а ц я р о б *(падыходзіць да Карызны і, бачком схіліўшы да яго галаву, з грэблівай мінай пытаецца).* Сымонка! Лупсянуць?

К а р ы з н а. Смалі, браток, толькі не надта.

П а ц я р о б *(вялічным жэстам супакойвае Карызну і адразу з месца, нават не папрасіўшы слова, зачынае).* Любачкі мае! Залаценькія! Што гэта вы сабе думаеце? *(Робіць многазначную паўзу, пад час якой дакорліва ківае галавой, упяўшы погляд сабе пад ногі. Потым ураз узнімае галаву і знаходзіць вачмі Гвардыяна).* Гвардыян! Ты нас за дурняў маеш, ці што? *(Вытрымаўшы паўзу, грозна).* За дурня маеш, кажу, га? *(Перакрыўляе).* Ты не проціф калгаса? Можа хто і пойдзе? Га? Дазваляеш? (*Зноў памаўчаўшы, заводзіць тоненька, падчэплівa*). Ты, любачка, ведаеш, хто гэта пра-

водзіць калектывізацыю? Ты ведаеш, супроць каго ты ідзеш? Калектывізацыю праводзіць партыя і совецкая ўлада. Улада!... (*Нахіляецца наперад і ціханька, нават ласкава запытвае*). Ты супроць совецкай улады? (*Памаўчаўшы, рашуча сігае на два крокі ў бок, нібы змяняючы ўстаноўку сваё прамовы, і пачынае мітынгаваць*). Таварышы! Ці-ж мы не сумленныя грамадзяне? Ці-ж мы не лілі кроў за нашу родную совецкую ўладу? Няўжо мы пойдзем супроць таго, што праводзіць улада, каб нам-жа, цёмным дурным мужыкам было лепей? Хто адважыцца—я пытаю, хто адважыцца з нас пайсці насупроць гэтага мерапрыемства, га? Хто пойдзе насупроць, я пытаю?

Голас знатоўпу. Дык навошта нас на сходы цягаць? Вывесілі-б загад, дый па тым.

Зелянюк (*да Карызны*). Трэба спыніць яго, ён разгоніць сход.

Карызна (*рэзка*). Я сам ведаю, што мне рабіць.

Пацяроб. А! Нашто на сходы? Табе сходаў нятрэба, ты супроць сходаў? Таварышы! Гэта гаворыць класавы вораг,—гэта контррэволюцыянер! Я ведаю цябе, залаценькі, я патрабую даць табе рады. Не бойся, любачка, не бойся! (*Шум у залі перапыняе яго. Чуваць галасы: „Які гэта сход“, „Што ён там вычварае!“ „Разыходзься, народ!“ „Хай самі ў калгас ідуць!)“*. Прашу не перапыняць! Я не дазволю зрываць сход! Я вас ведаю, кулацкія падпявалы! Ворагі класавыя—во хто вы! (*Шум расце. Крыкі: „Як ворагі, дык на што з намі гаварыць. „Гайда да дому!“ Чуваць стук мэблі і безладны тупат людзей*). Куды гэта, га? Уцякаць? Уцякаць? Не пушчу! Хто пойдзе са сходу, той вораг совецкае ўлады! Контррэволюцыянеры, назад! (*З усіх капытоў кідаецца ў зал, дзе чуваць, ваюе з наравістымі грамадзянамі. Агульны вэрлах. Старшыня адчайна кліча да парадку. Да Карызны падыходзіць Зелянюк—ён увесь дрыжыць, ледзьве стрымлівае сваё абурэнне*).

Зелянюк (*крычыць з нязвыклай для яго рэзкасцю*). Ты сарваў сход! Ты праваліў калектывізацыю!

Карызна (*у шалёнай злосці*. Блазнюк! За свае ўчынкі буду адказваць я сам!

## СЦЭНА 4-я

Кватэра Веры. На стале цмее забытая лямпа, асвятляючы пакой слабым дрыготным светам. Вера спіць, стуліўшыся ў куточку канапы. Чуваць, як нехта бразгае ў дзверы.

Вера (*прахапіўшыся*). Што гэта? Хто там? (*Выходзіць за дзверы і праз момант варочаецца з Сымонам Карызнам*). А я, ведаеш, як прышла—зморaная-зморaная—дай, думаю, пасяджу хвілінку, перадыхну. Вось і перадыхнула... Чакай, я напраўлю лямпу... Не ведаеш, якая гадзіна?

Карызна. Позна ўжо... Прабачай, Вера, што я цябе патурбаваў. Я ўбачыў аганёк у акне і наважыўся зайсці.

Вера. А дзе ты быў так позна?

Карызна (*дасадліва*). А ліха яго ведае... Пасля гэтага праклятага схода я ашалеў... Не магу ў хаце сядзець. Хаджу вось цэлую ноч, бадзяюся... (*Паўза*). Я-ж адзін цяпер. Вера. Сёння... ці праўда, учора пашла ад мяне мая жонка... Мы разыйшліся.

Вера (*амаль не радасна*). Разыйшліся? (*Схамянулася, засаромілася свайго мімавольнага ўзрушэння*). Мы нядаўна сустракаліся з ёю, гаварылі... Яна такая добрая, такая добрая...

Карызна. І вось я адзін... я адзін...

Вера. Цябе знерваваў гэты сход. Як гэта вышла няўдала!

Карызна. Ён сказаў мне, што я праваліў калектывізацыю... ён ужо вінаваціць мяне. *(Злосна)*. Што яму ад мяне трэба, гэтаму падшывальцу? Якое ён права мае сачыць за кожным маім учынкам?

Вера. Ты пра Зелянюка? Гэта проста немагчыма. Ён ні з кім і ні з чым не лічыцца. Што значыць—праваліў калектывізацыю? Што сход не ўдаўся? У іншых вёсках па дзесяць сходаў збіралі, пакуль сёе-тое зрабілі.

Карызна *(з усмешкай)*. Пацяроб кажа, што гэта нават добра. Не папужаўшы іх, кажа, нічога не выйдзе. Іх трэба пужаць... разумееш? Іх трэба пужаць.., Так можна гаварыць пра таго, каго не любіш, кім пагарджаеш. Ну, што-ж... У мяне яшчэ горш... я іх ненавіджу... ненавіджу... Там на сходзе быў момант, калі ў мяне з'явілася дзікае жаданне перастраляць іх. *(Паўза)*. Іх.. ха-ха... Каго гэта іх?

Вера *(ціха, інтымна)*. Скажы, Карызна, а ты верыш ў гэта ва ўсё? Шчыра верыш?

Карызна *(памаўчаўшы)*. Я доўга жыў зусім іншымі марамі... Бачыў я зусім іншую краіну, рабіў я для яе зусім іншы дабрабыт, не такі, як... усё гэта... варожы гэтаму... Я павінен разбураць цяпер тое, што дагэтуль тварыў... Але я веру ў гэтае разбурэнне! Буду я рабіць яго—жорстка, бязлітасна! Я не пашкадую нікога, нават самога сябе!

Вера *(тым самым тонам)*. А ці верыш ты ў тое, у другое? Ці верыш ты, што будзе лепей?

Карызна *(горача)*. Я мушу верыць! Я—комуніст! Я не хочу быць здраднікам! Я не хачу, каб мяне выкінулі вон, як непатрэбнае смецце... Буду змагацца! Я пакажу яшчэ, хто чаго варты!..

Вера *(двелавіта)*. Трэба верыць... Пэўна, што трэба верыць.

Карызна. Мне стаў на дарозе гэты блазнюк. Ён як цень, які над маёй галавой. Ён не дае мне спакою. *(З цвёрдай навагай)*. Заўтра-ж еду ў раён і патрабую, каб яго прыбралі адсюль. Паглядзім, каму з нас паверацъ... Ха-ха!..

Вера *(падыходзіць да яго, ласкава)*. Не трэба быць такім злым. *(Пяшчотна туліцца да яго)*.

Карызна *(абнімае яе)*. Ты... кахаеш? Ты па праўдзе кахаеш? Скажы, кахаеш?

Вера *(саромліва)*. Ну, кахаю-ж вядома, кахаю... Ці ты не бачыш?

Карызна *(моцна прыціскае яе да сябе, потым бярэ ў абедзве рукі яе галаву і, адхіліўшы ад сябе, глядзіць ёй у твар настойным праніклівым позіркам)*. А калі зломіць жыццё... калі выкінуць, як непатрэбнае смецце... Што тады? Вера, што тады?

Вера. Не трэба так гаварыць! *(Вырывае галаву і хавае твар у яго на грудзях)*.

## АКТ ТРЭЦІ

### СЦЭНА 1-я

Хата Якуба Лакоты. З аднаго боку дзверы ў каморку, дзе жыве Марына Паўлаўна. Перад дзвярыма тупае Галілей.

Галілей. Кхе... кхе... *(Ляпае ў дзверы)*. Кхе... кхе...

Марына Паўл. *(з'яўляецца з уваходных дзвярэй)*. Дзень добры дзядзька Ахрэм. Вы да мяне?

Галілей. Не то што... ага... Я зайшоў, аж нікога няма... ага... нікогачка..

Марына Паўл. *(падыходзіць да стала, кладзе на яго груд папер. Гаворыць весела, бадзёра).* Бачыце, дзядзька Ахрэм? Я ўжо і работу знайшла сабе. Хадзіла вось па Зарэччы перапісвала сродкі вытворчасці. Тут-жа мала не ўсе гаспадары ў калгас пайшлі. А не хацелі дазволіць, колькі барацьбы было... *(Сядае за стол, раскладае паперы).* Трэба падагуліць усё, скласці спісы. Я ў іх, дзядзька Ахрэм, нібы за сакратара ў калгасе.

Галілей *(падбягае да яе, таямніча шэпча).* А ў нас, у Сіўцы, пачынаецца ўжо... ага... пачынаецца...

Марына Паўл. Што пачынаецца?

Галілей. Можа рэволюцыя, а можа так сабе... пужаюць... ага...

Марына Паўл. Нічога я не разумею, дзядзька Ахрэм.

Галілей *(трыўмфуючы).* А я разумею... ага... разумею... Я ўсё разумею... Яны баяцца... ага... Яны самі баяцца... во што... баяцца...

Марына Паўл. *(затурбавалася).* Хто баіцца? Дзядзька Ахрэм, пра каго вы гаворыце? *(Уваходзіць Зелянюк).*

Галілей. Кхе... кхе... Трэба памеркаваць... ага... трэба памеркаваць... *(Бяжыць да дзвярэй).*

Зелянюк. Куды-ж вы, дзядзька Галілей?

Галілей *(паспешна).* Пабягу... пабягу... *(Выбягае).*

Зелянюк *(падыходзіць да Марыны Паўлаўны).* Лакоты няма?

Марына Паўл. Зараз прыдзе.

Зелянюк. Ну, як працуецца? Весялей троху стала, праўда?

Марына Паўл. *(ажывіўшыся).* Добра, таварыш Зелянюк, зусім добра. У працы ўсё забываецца. Быццам нейкі нядобры сон... даўны-даўны. *(Сарамліва ўсміхнуўшыся).* Я, калі з ім сустракаюся, дык таксама неяк... ні злосці ніякай, нічога... Быццам нанава ўбачыла, як тады, дзяўчынаю. А ён дык усё ўцякае, нібы баіцца чаго.

Зелянюк *(многазначна).* Баіцца? *(Паўза).* Можа і баіцца...

Марына Паўл. *(зноў затурбавалася).* Таварыш Зелянюк! Скажыце мне, што там робіцца ў Сіўцы?

Зелянюк. Тое, што ўсюды, Марына Паўлаўна: класавая барацьба. *(У задуменні ходзіць па пакою).* Якая страшная паслядоўнасць... Невялічкая шчылінка зараз-жа вырастае ў прорву. Момант сумнення, няўпэўненасці абарачаецца ў здраду. І часам прыходзіцца бачыць ворага ў тым, хто стаіць поплеч з табою...

(Марына Паўлаўна з кожным яго словам ўсё больш і больш хвалюецца. Уваходзіць Тацяна і Вера).

Зелянюк. Ну, як там жанчыны? Сход правялі?

Тацяна *(пахмура).* Не было схода; ніхто не прышоў.

Вера. Я-ж казала вам, Зелянюк, што мы на жанчын зусім мала ўвагі звяртаем.

Марына Паўл. *(трывожна).* Тацяначка! Чаму яны не прышлі?

Тацяна *(тым-жа тонам).* Пацяроб па хатах ходзіць, у калгас запісвае.

Вера *(заклапочана).* Зелянюк! Што-ж нам рабіць? Учора на кройкушыццё не прышлі. І драмгурток правальваецца... і малапісьменныя... У вас тут дык усё па новаму, у вас зусім інакшая справа пайшла...

Зелянюк. Значыць, трэба рабіць так, як робіцца тут.

Вера *(амаль не ў роспачы).* Дык-жа мы хочам рабіць! Мы стараемся! *(Энергічна).* Тацяна! Я пайду пагавару з нашымі жанчынамі. Мы збярэм яшчэ сход... Мы паставім пытанне... *(Ідзе да дзвярэй, але варочаецца і падыходзіць да Марыны Паўлаўны).* Марына Паўлаўна! Нам з вамі трэба апрацаваць пратакол мінулага схода.

Марына Паўл. *(холадна).* Я цяпер не магу. Можна ўвечары.

Вера *(з момант моўчкі глядзіць на яе, потым гаворыць ціха, пакорна).* За што вы мяне ненавідзіце?

Марына Паўл. *(у вялікім замяшанні).* Я вас... я не разумею...

Вера. Я не зрабіла злачынства. Я не вінавата ні ў чым.

Марына Паўл. *(у раптоўным абурэнні).* Вы... ні ў чым... *(Глядзіць на яе з несхаванай нянавісцю, але перамагае сябе і стрымана тлумачыць).* Я не за сябе турбуюся... мне ўсё роўна. У нас ёсць дачка...

Вера *(з шчырым захапленнем).* Я знаю вашу дачку! Мы з ёй улетку хадзілі ў лес, купаліся разам. Яна такая добрая, слаўная, вясёлая! Мы з ёй умаўляліся нават перапісвацца, сапраўды, але неяк не вышла... Яна такая прыгожая, такая разумная! *(Хапае абяззброеную Марыну Паўлаўну за руку і моцна цісне яе).* Ну, я пайшла. Мы яшчэ пагутарым з вамі. Добра? Я ўвечары прыду пратакол перапісваць. Бывайце! *(Выходзіць. Марына Паўлаўна бязвольна апускаецца на зэдлік. Зелянюк і Таццяна многазначна пераглядаюцца. Доўгая, прыкрая паўза, якую разрывае раптоўны шум за дзвярмі. Чуваць вясёлыя ўзбуджаныя галасы, спаміж якіх вылучаецца голас Якуба Лакоты).*

Зелянюк. А вось, здаецца, і сам старшыня калгаса.

(Уваходзіць Якуб Лакота і некалькі чалавек калгаснікаў).

Лакота *(вясёлы, радасны).* Гэта будзе наш першы крок, першая супольная справа. *(Да Зелянюка).* Ты разумееш? Зараз усе, як адзін, семдзесят пяць падвод выяжджае па лес на калгасную будоўлю. Будзем перш-на-перш стадолу будаваць... пад абагуленую жывёлу... *(Да Марыны Паўлаўны).* Віктар не прыходзіў?

Марына Паўл. Яшчэ не прыходзіў.

Лакота. Ён павінен запіску прынесці з сельсовета. Ну, а як у Сіўцы?

Зелянюк *(адводзіць яго ў бок).* Карызна з Пацяробам гвалтам у калгас запісваюць. Усе страшэнна абураны. Наша падрыхтоўчая праца разлятаецца ў прах. Кулакі заварушыліся ўва ўсіх кутках, выкарыстоўваюць агульнае нездавальненне.

Лакота. Пашалелі яны ці што? Гэта-ж правал усяе работы!

Зелянюк. Я патрабаваў склікання экстрэнага схода ячэйкі. Там пагаворым. А пакуль што трэба тут мацней вузел закручваць...

Лакота. Ды мы ўжо, братка, закруцім...

Зелянюк. Галоўнае, каб адразу пачулася, што ўжо неяк разам, дружна, што ўжо нешта робіцца... разумееш? *(Да калгаснікаў).* Ну, як, хлопцы, грымім?

Калгаснікі:
А чаму не грымець! Абы ахвота!
Нам цяпер толькі разгону давай!
Ужо сівецкія да нас просяцца!

(За акном чуваць, як пад'язджаюць падводчыкі).

Лакота *(глядзіць у вакно).* Вось і збіраюцца ўжо. Раз, два, тры, чатыры... Уга! Цэлы абоз... А вунь і Віктар смаліць. Ну, гайда! Паехалі! *(Уваходзіць Віктар).* Гатова ўсё?

Віктар. Пацяроб запіскі на лес не даў. *(Агульнае замяшанне).*

Лакота. Як гэта не даў. Чаму не даў?

Віктар. Сказаў, што гэта—партызаншчына. Сказаў, што да заўтрага ён увесь Сівец загоніць у калгас і наш зачыніць тады, бо будзе адзін агульны. *(Злосна).* Яны робяць там чыстую контррэволюцыю.

Лакота *(збянтэжана).* Што-ж гэта? Як-жа гэта? Так дружна ўсё, зладна... *(З навагаю).* Дык-жа хай будзе, што будзе! Едзем так!

Я сам паеду... Няўжо без Пацяробаўскае запіскі нам веры не дадуць! Не адправяць назад з пустымі рукамі, няпраўда!... Едзем!

Т а ц я н а *(мякка, але рашуча).* Ты не паедзеш, Якуб. За блізкі свет ды ў гэткую сцюжу... Ты-ж зляжаш зусім...

Л а к о т а. Тацяначка! І ты супроць мяне?

Т а ц я н а *(ласкава).* Я за цябе, Якуб, за цябе...

З е л я н ю к. Ты не паедзеш—старшыні калгаса знойдзецца іншая праца. *(Да Віктара).* Віктар, збірайся. Паедзеш з імі і зробіш усё, што трэба.

В і к т а р. Слухаю. *(Памкнуўся ісці, але нешта ўспомніў, затрымаўся).* Чакай, табе вось ліст нейкі перадалі. *(Дастае ліст, аддае Зелянюку. Той распячатвае, чытае. Агульнае напружанае чаканне).*

З е л я н ю к *(прачытаўшы ліст).* Райком прапануе мне зараз-жа пераехаць на працу ў Дубавіцкі сельсовет... Я разумею, што гэта значыць.

Л а к о т а *(трывожна).* І ты што... можа паедзеш?

З е л я н ю к *(хвілінку падумаўшы).* Так, я паеду. Але не туды, куды яны думаюць. Гэты нумар ім не ўдасца! *(Да ўсіх).* Ну, хлопцы, гайда! Паехалі! *(Калгаснікі, Віктар і Зелянюк выходзяць)*

Л а к о т а *(ідзе следам за імі).* Як так, дык і так... Едзце, браточкі! Смаліце! Ды цераз Сівец абавязкова! Ды з песнямі, з песнямі! *(Выходзяць).*

М а р ы н а П а ў л. Што гэта робіцца там? Што яны сабе думаюць? *(З раптоўнай навагай).* Тацяначка, я пайду... Мне трэба ў адно месца... Я пайду... Я пайду... *(Паспешна выходзіць).*

Т а ц я н а. Марына. Чакай! Марына! Куды ты? А каб цябе..
(Уваходзіць Я к у б Л а к о т а).

Л а к о т а. Ну, паехалі.. выправіў. Семдзесят пяць падвод, як адна. *(Чуваць нястройная, але дружная песня).* Чуеш, Тацяначка? Чуеш? *(Здаволена смяецца і закашліваецца).*

Т а ц я н а *(падыходзіць да яго, гаворыць з глыбокай спагадай).* Ты-ж хворы зусім, Якубка. Ты дужа многа працуеш...

Л а к о т а. Я не многа, Тацяначка! Я толькі трошачку. Я-б хацеў так працаваць, каб усё, усё чыста адразу зрабіць!

Т а ц я н а *(ласкава абнімае яго).* Зелянюк казаў, што цябе трэба бярэгчы...

Л а к о т а *(усхваляваны).* Тацяначка! Якая ты добрая... Якая ты... якая ты... *(Зноў моцна закашліваецца).*

## С Ц Э Н А 2-я

У Галілеявай хацёнцы. Невялічкае памяшканне пазастаўлена розным начыннем, пазакідана рознымі матэрыяламі. У хаце нікога няма—толькі ўважна прыгледзіўшыся можна заўважыць рэдзенькую бародку Галілея, якая тырчыць з высокіх—пад столлю—палацяў. Нехта настойна ляпае ў дзверы.

Г о л а с з-за д з в я р э й. Адчыніцеся, Ахрэм Данілавіч! Я, будучы, на адну секунду да вас.

(Раптам дзверы самі па сабе адчыняюцца і, упусціўшы ў хату Цімахвея Міронавіча Гвардыяна, зноў зачыняюцца).

Г в а р д ы я н *(асалапела азіраецца на бакі, не знаходзячы гаспадара).* Ну і механіка. Самі адчыняюцца і самі, будучы, зачыняюцца. Як у той казцы ўсероўна.

Г а л і л е й *(з палацяў).* А гэта я за вяровачку... ага... за вяровачку Ніякай асаблівай механікі.

Гвардыян. Хе-хе-хе.. А я іду гэта па вуліцы, гляджу—ветрачок сабе круціцца памаленьку—дай, думаю, заскочу да Ахрэма Данілавіча. Ён-жа мяне таксама, будучы, не мінае.

Галілей. Кхе... кхе... Абміну, Цімахвей Міронавіч, ага... абміну...

Гвардыян. Ну, дык можа, дасць бог, іншыя добрыя людзі не абмінуць.

Галілей. І людзі абмінуць... і ўсе абмінуць. Як жучка таго... ага... як жучка на дарозе.

Гвардыян. Хе-хе-хе... Вы гэта вунь куды. Ахрэм Данілавіч! А ці не старыя вы ўжо, каб за тым трактарам гнацца, га?

Галілей. А я трушком... ага... а я подбежкам. Можа і даганю..

Гвардыян. Гэта то так, як яно выражаецца... уцёк не ўцёк, а пабегчы можна. Адно глядзіце, Ахрэм Данілавіч, каб трактар той, будучы, не паламаўся. Чулі, што на сяле робіцца? Чулі, што яны вырабляюць? Ні беднякоў не глядзяць ужо, ні кулакоў—усе пад адзін капыл пашлі, усім роўная ласка... *(Узвышае тон)*. Увесь народ паднялі. І ўвесь народ гвалту крычыць! Што будзе толькі? Што будзе?

Галілей. Не ведаю я... нічога не ведаю... Можа і рэволюцыя будзе... ага... а можа так сабе...

Гвардыян *(усё больш распаляецца)*. Рэволюцыя? Рэволюцыя? А галоў яны не паскручваюць з гэткай рэволюцыяй, га?

Галілей. І галовы паскручваюць... ага... паскручваюць. Вам першаму скруцяць, Цімахвей Міронавіч...

Гвардыян *(крычыць)*. Мне? Усё мне? А табе што—не скруцяць? Ты лепшы, га? На цябе паглядзяць? Чакай, браточак, усім будзе досыць! Да ўсіх дабяруцца! Усю механіку тваю параскідаюць! Усю мудрасць тваю размудруюць! На звод пашло ўсё. На звод! На разбурэнне пашло. *(У гэты момант Галілей торгае за нейкую вяровачку і палаці, на якіх ён ляжыць, плаўна спускаюцца долу. Гвардыян спалохана адскаквае ў бок)*. Цьфу ты, нячыстая сіла!

Галілей *(саскочыў з палацяў і жвава наступае на збянтэжанага Гвардыяна)*. А ў Зарэччы стадолу будуюць вялікую. У лес паехалі... ага... песні пелі... І электрычнасць будзе... І ацяпленне... І абвадненне... І механіка будзе... ага... механіка...

Гвардыян *(схамянуўся, бярэ свой звычайны тон)*. Дык гэта-ж хай бог памагае, як яно выражаецца... Калі-б так усё добра пашло, дык хто-б яго, будучы... *(Здрыгануўшыся, азіраецца на дзверы, якія ў гэты момант ціха прачыняюцца, прапускаючы ў сябе перш чырвоны нос, а потым і ўсю недарэчную галаву Паўлюка Гвардыяна)*.

Паўлюк *(смяецца сіпучым здушаным смехам)*. Хі-хі-хі...

Гвардыян *(устрывожана)*. Што табе трэба? Чаго ты цягаешся за мной, як сабака?

Паўлюк *(хітра падмігвае яму)*. Ідуць...

Гвардыян. Хто ідзе?

Паўлюк *(душыцца ад смеху)*. Раскулачваць будзем... Хі-хі-хі...

Гвардыян *(як мага стараецца вярнуць сваю амбіцыю)*. Гэта ці не ты мяне, будучы, раскулачваць будзеш?

Паўлюк *(хістаючыся, падыходзіць да брата і з наўмыснай пакорлівасцю кланяецца яму)*. Братачка, дабрадзеечка... Дзякуй табе за ўсё... За ласку тваю, за апеку... За грошыкі твае дзякуй... за гарэлачку... *(Ловіць за руку Гвардыяна, нібы хоча пацалаваць)*.

Гвардыян *(спуджана адшаснуўся ў бок)*. Пашоў вон! Напіўся, як свіння...

Паўлюк *(да Галілея тонам даверлівага прызнання)*. Напіўся... праўда... *(Нахіляецца да яго і шэпча)*. Пятнаццаць год чакаў гэтага свята... Пятнаццаць год... Раскулачваць... хі-хі-хі...

Гвардыян *(увесь калоціцца ад злосці і страху)*. Дык табе свята, паскуднік, свята? Ты братавай пагібелі рад? Я цябе, будучы... *(Грозна наступае на брата, той выбягае, не перапыняючы свайго жудаснага смеха)*.

Галілей *(з раптоўнай рашучасцю)*. А вы ідзіце, будучы, вон, Цімахвей Міронавіч!

Гвардыян *(з момант асалапела глядзіць на яго)*. Гоніш? Гоніш, Галілей? Гоніш? За пашану, за добрае слова?

Галілей. Ганю... ага... ганю. І з пашанай разам... І з добрым словам...

Гвардыян *(ад парога)*. Чакай-жа, злыдзень няшчасны! Яшчэ прыдзе коза да воза!

Галілей *(злосна плюе яму ў след)*. Цьфу... Цьфу... Цьфу...

### СЦЭНА 3-я

Кватэра Карызны. Пацяроб дакладвае Карызну пра ход калектывізацыі.

Пацяроб. Вось і ўсё, любачка! Пратакол—як належыць, усе фармальнасці. Уласнаручныя подпісы гаспадароў. (*Пяшчотна*). Раз ты, залаценечкі, падпісаўся, дык з табой ужо інакшая і гутарка. Назад адны ракі поўзаюць. А што табе кароўку не хочацца аддаваць, дык мы, любачка, разумеем і спачуваем. Мы самі возьмем.

Карызна *(неймаверна)*. І гатова ўжо, га? Пацяроб! Гатова?

Пацяроб *(з адмысловым жэстам)*. Пфэ!

Карызна. А што-ж далей? Як далей будзе?

Пацяроб. Сымонка! Золатка!.. Усё пойдзе, як пяруном высмаліць. Раскудлачыў, у калгас напісаў, а цяпер, дасць бог, і жыўнасць абагулю. Усё-ж па плану. План, мой даражэнькі, гэта—соцыялізм...

Карызна *(рашуча)*. Заўтра-ж распускаем калгас у Зарэччы. Пастанова была—дазволіць часова да ўтварэння агульнага калектыва ў Сіўцы. *(Зларадасна)*. І ніводнага з тых баламутаў да кіраўніцтва ні блізка! Ха-ха! Я пакажу вам гэтую зелянюкоўшчыну!

Пацяроб. Ты прабачай, Сымонка, але я ўжо і назву даў нашаму калгасу—„Гром рэволюцыі“... Як табе, золатка, ці падабаецца?

Карызна. Добра, добра. Грымі, Пацяроб, грымі!

Пацяроб. Ну, я пайшоў, любачка! А то мае хлопцы там без мяне могуць тэмпы згубіць... Арыувар *(Выходзіць)*.

Карызна *(падумаўшы)*. Часам і дурны Пацяроб можа саслужыць добрую службу.

(Уваходзіць Марына Паўлаўна).

Карызна *(здэтанаваўся, але зараз-жа авалодаў сабой)*. А, гэта ты, Марына... Як добра, што ты прышла. Сядай, калі ласка... Я акурат атрымаў сёння ліст ад дачкі. Ты ёй мусіць яшчэ нічога не пісала? Яна не ведае... Яна піша нам абаім. На, пачытай! *(Марына Паўлаўна хоча ўзяць, але рукі ў яе дрыжаць і яна ўпускае паперу. Карызна заўважае яе хваляванне)*. Марына, што з табой?

Марына Паўлаўна *(у замяшанні)*. Я прышла ўзяць рэчы... Мне некаторыя рэчы патрэбны... *(ідзе да шафы)*.

Карызна *(падазрона)*. Што-ж, бяры, калі ласка. *(Сядае за стол)*.

Марына Паўл. *(з хвіліну поркаецца ў шафе, потым падыходзіць да Карызны, ціха дакранаецца да яго рукі)*. Сымон! Нашто ты мучыш сябе?

Карызна. Ты пра што? Ты пра гэта... пра калектывізацыю? Ты не разумееш, Марына... Гэта—трэба. Гэта суровая неабходнасць рэволюцыі... Рэволюцыя патрабуе некаторае... жорсткасці...

Марына Паўл. *(рашуча)*. Няпраўда, гэтага не трэба. Гэта робяць не так, як ты... Ты мучыш і сябе і ўсіх. Ты ў сябе носіш атруту і сам не хочаш пазбыцца яе... Нашто ты так робіш?

Карызна *(ледзве стрымлівае злосць)*. Ты што, угаворваць прышла? Мо' падаслалі?

Марына Паўл. *(горача)*. Я не дапушчу гэтага! Я не магу дапусціць... Ты сам сябе губіш! Ты не тэй дарогай ідзеш, якой трэбаісці. Комуністы не так робяць... Ім гэтага не патрэбна. Ты баішся і таму на гэта ідзеш...

Карызна *(падыходзіць да яе ўсутыч і гаворыць з бязлітаснай едкасцю)*. Ты пэўна забылася, што мы ўжо не муж і жонка?

Марына Паўл. *(Збянтэжылася, абвяла... Знібёная, асаромленая сунецца зноў да шафы, адчыняе дзверцы, стаіць перад імі з хвіліну, зноў зачыняе і ідзе да выходных дзвярэй)*. Я не магу так... Я ўсёроўна не магу быць спакойнай... Я мушу нешта рабіць...

Карызна. Гэта справа твая. *(Марына Паўлаўна пайшла. Карызна з момант сядзіць моўчкі, потым зрываецца з месца, пачынае ўзрушана хадзіць па пакою)*. Яшчэ паглядзім, якой дарогай трэба ісці: тэй ці не тэй. *(За сцэнай чуваць шум, гоман, крык, з якога вылучаецца дзікі Пацяробаў голас)*. Што там такое? *(Падыходзіць да вакна, глядзіць у яго. У пакой улятае раз'юшаны Пацяроб)*.

Пацяроб. Падвучылі! Гэта падвучылі, я ведаю!.. Кулацкая зграя! Контррэволюцыя! *(Кідаецца па пакою, трасучы нейкімі пакомчанымі паперкамі)*. Гэта не самі, не-не, не самі! Я ведаю. Я вас ведаю, мае даражэнькія!...

Карызна. Што гэта? Што ў цябе там? *(Мала не сілком вырывае ў Пацяроба адну паперку і чытае)* „У віду свае хваробы і як я не супроць калгаса, але прашу нас выпісаць з грому і рэвалюцыі“.. *(Неўцямна глядзіць на Пацяроба)*.

Пацяроб *(рэзка змяніўшы тон)*. Ага? Бачыш, любачка, бачыш? А я што табе казаў, мой залаценечкі, га? Цырамоніцца з імі? Цырамоніцца?

Карызна *(б'е кулаком аб стол)*. Дык-жа годзе! Мы знойдзем спосаб, як прыбраць тых, хто становіцца нам на дарозе! Мы яшчэ паваюем! Мы па-ва-ю-ем!.

## СЦЭНА 4-я

Паседжанне бюро ячэйкі. Сярод прысутных—Сымон Карызна, Пацяроб, Якуб Лакота, камсамолец Віктар.

Карызна. Таварышы! Сёнешнее паседжанне бюро склікана не выпадкова. Падзеі, што за астатні час разгарнуліся ў нашым мястэчку, вымагаюць ад нас па-большэвіцкі рашучых рэволюцыйных захадаў. Колектывізацыя, удала распачатая ў Сіўцы, сустрэла шалёнае супраціўленне з боку пэўнае часткі жыхарства. Для нас зусім ясна,

што ўсёй гэтай кампаніяй кіруе невялічкая купка кулакоў і падкулачнікаў, якой мы самі, таварышы, патураем сваёй мяккасцю і нерашучасцю. Так далей быць не павінна. Не спыняючыся перад самымі жорсткімі рэвалюцыйнымі захадамі, мы павінны выбіць зброю з рук контррэвалюцыі, павінны адным ударам разбурыць усё гэтае кулацкае контррэвалюцыйнае гняздо. *(Пауза).* На грунце адпаведных дырэктыў мы маем права ў выпадку патрэбы злосных кулакоў, якія актыўна змагаюцца супроць мерапрыемстваў совецкае ўлады, выселяць з межаў нашага раёна. Мы мусім скарыстаць гэтае права, бо гэтага вымагае ад нас рэвалюцыйная неабходнасць... Хто хоча сказаць што па гэтым пытанні? *(Доўгая напружаная пауза).* Я думаю, таварышы, што тут асаблівых спрэчак не можа быць. Там не спрачаюцца, дзе трэба дзейнічаць рашуча і дружна. Я прапаную адразу-ж распачаць канкрэтнае абмеркаванне, каго неабходна выселіць...

Пацяроб *(весела).* Любачкі мае! Я-ж іх усіх як аблупленых... *(Заўважыў, што трапіў не ў тон і троху сумеўся).*

Карызна. Слова для прапазіцыі мае таварыш Пацяроб.

Пацяроб. Ну, першы будзе, не іначэй, Цімахвей Міронавіч... Гвардыян, значыцца. *(Усе выказваюць згоду).* Потым, пэўная рэч, Кандрацёнак Максім. *(Таксама ўсе згодны).* Сахацкага не абмінуць... ніяк не абмінуць... *(Усе згодны).* Прахора таксама...

Сябра бюро. Прахор-жа не кулак. Прахора мы заўсёды мелі за бедняка.

Пацяроб. Любачка, ён горш за ўсякага кулака. Ён увесь Сівец баламуціць. Ён гэты калгас жыўцом-бы праглынуў. Дый дачка яго недалёка ад бацькі пашла... *(З грубым закідам).* Праўда, што некаторым можа гэта будзе і не ў нос, калі скажам там якія сардэчныя справы ці што...

Лакота *(абурана).* Таварышы... гэты агідны закід... Я лічу, што паводзіны Пацяроба...

Віктар *(перапыняючы яго, цвёрда).* Прахор не кулак. Што ён нездаволены, што злуе няма ведама на каго і за што—гэта іншая рэч. Можа мы самі ў гэтым вінаваты...

Пацяроб *(насмешліва).* Можа мы самі, золатка, вінаваты?

Віктар. Мы не звярнулі дасюль на яго належнае ўвагі, не апрацавалі яго, не накіравалі куды належыць ягоную, можа і зусім справядлівую злосць. Мы самі дапусцілі, што яго сталі выкарыстоўваць кулакі.

Карызна *(падчэплівa).* Ты, значыць, супроць высялення Прахора?

Віктар. Так, я супроць гэтага.

Карызна. А супроць высялення Цімахвея Міронавіча Гвардыяна—таксама? *(Не даючы адказаць).* Мы возьмем гэта на ўвагу, таварыш сакратар комсамольскай ячэйкі... Гавары далей, Пацяроб...

Пацяроб *(чытае шпарка, не спыняючыся).* Шаўцова Ігната, Арсена Ходзьку, Маляўку Сідара, Пётра Лазарэнка, Янку Дзяніскевіча, Нічыпара Гойду, Мар'ю Ліпніцкую, Хведара Барысевіча, Піліпа Барысевіча, Загароўскага Саўку. Усе.

Карызна. Таварышы. Я стаўлю на галасаванне ўвесь спіс...

Віктар. У гэтым спісе палавіна беднякоў і сераднякоў.

Лакота. Такую справу нельга вырашаць агульным галасаваннем. Трэба абмеркаваць паасобку.

Карызна. Я стаўлю на галасаванне ўвесь спіс. Хто супроць?

Віктар. Я катэгорычна пратэстую! Гэта—неправільная, непартыйная пастаноўка пытання.

Карызна *(з'едліва)*. Вы нас потым навучыце па партыйнаму ставіць пытанні, таварыш комсамолец! Хто супроць гэтага спіска? *(Агульнае маўчанне)*. Будзем лічыць прынятым. Таварышы! Я мушу дадаць яшчэ, што гэтую аперацыю мы правядзем у вельмі абмежаваны тэрмін. Заўтра ўвечары ўсе, хто падлягае высяленню, павінны быць дастаўлены на чыгуначную станцыю. Адказным за высяленне, я лічу, трэба вызначыць таварыша Пацяроба. Супярэчанняў няма? *(Маўчанне. На твары ў Карызны мільгае зласлівая ўсмешка)*. Гэта па самым Сіўцы. Што да Зарэчча, дык я ўважаю, што гэтай справай павінны кіраваць таварышы з мясцовых жыхароў. Таму я прапаную адказным за высяленне кулакоў у Зарэччы вызначыць Якуба Лакоту. Супярэчанняў няма? *(Маўчанне)*. На гэтым, таварышы, экстрэнае паседжанне бюро ячэйкі лічу закрытым. Вызначаным таварышам прапануецца зараз-жа прыступіць да выканання сваіх абавязкаў. *(У напружанай цішы прысутныя пачынаюць разыходзіцца)*.

Лакота *(з момант сядзіць нерухома, потым парыўчата ўстае, падыходзіць да Карызны і гаворыць у страшным хваляванні)*. Я пайду, таварыш Карызна... я выканаю... Ты памыліўся, калі падумаў, што Якуб Лакота пашкадуе блізкага яму чалавека. Якуб Лакота не гэта аддаў на рэволюцыю... Але помні, Карызна, што за такія злачынствы бывае адплата! *(Шпарка выходзіць з пакою)*.

## АКТ ЧАЦВЕРТЫ

### СЦЭНА 1-я

**У райкоме партыі. Сакратар райкома сядзіць за пісьмовым сталом, унурыўшыся ў паперы. Звоніць тэлефон.**

Сакр. Райкома *(бярэ трубку)*. Райком... Так, сакратар райкома. А! Сівецкая рэспубліка загаварыла... Добры дзень... Ну, як?.. Наладжваецца? Колькі? Шэсдзесят пяць? Не брэшаш? Сівец крануўся? Так, так... Добра, малайцы... Як Зелянюк?.. Паехаў?.. Так, так... атмасфера, кажаш... добра... вельмі добра... Што? на высяленне? Зацверджаны... Ага... разумею... разумею... *(у дзвярах паказваецца Зелянюк. Сакратар райкома махае яму рукой, запрашаючы ўвайсці, Зелянюк уваходзіць)*. Калі нарада? Заўтра з рання.., так, так... *(Паказвае Зелянюку на крэсла, каб сеў)*. Не можаш? Пацяроба? Давай Пацяроба... Больш нічога? Бывай... бывай... *(Кладзе трубку і дапытліва ўзіраецца ў Зелянюка)*. Скардзіцца прыехаў?

Зелянюк. Не люблю і не ўмею.

Сакр. Райкома. Табе, здаецца, далі накіраванне ў Дубавіцкі сельсовет?

Зелянюк. Так.

Сакр. Райкома. Ну, і што-ж?

Зелянюк. Я пакуль што прыехаў сюды.

Сакр. Райкома *(з усмешкай)*. Заблудзіўся, значыць? Ну-ну, я слухаю.

Зелянюк. Будзем гаварыць проста: я прыехаў сюды, каб спыніць антыпартыйную работу Сымона Карызны.

Сакр. Райкома. Спакойна, Зелянюк, спакойна... Ты маеш справу з старым партыйцам, і такое абвінавачванне трэба ставіць падумаўшы.

Зелянюк. Я цалкам адказваю за свае словы. Карызна вядзе шкодную антыпартыйную работу. Гонячыся за пустымі лічбамі, ён прымусова запісвае ў калгас, тэрарызуе насельніцтва і гэтым падрывае аўтарытэт партыі. Кулакі скарыстоўваюць гэта і ўзнімаюць агульнае абурэнне насельніцтва. Той перадавы беспартыйны актыў, які нам удалося сабраць да гэтага часу, Карызна свядома разбівае. У сваёй раз'юшанай дзейнасці ён канчаткова страціў усякае пачуццё, сцёр усякія межы паміж кулаком і бедняком...

Сакр. Райкома. Факты, Зелянюк, факты...

Зелянюк. Я маю факты! У гэтую хвіліну Карызна з Пяцяробам праводзяць высяленне з сельсовета злосных кулакоў—контррэвалюцыянераў. Я толькі што атрымаў пэўныя весткі, што сярод гэтых „злосных кулакоў" палавіна беднякоў і сераднякоў, якія высяляюцца толькі таму, што замінаюць Карызну праводзіць яго асабістыя планы.

Сакр. Райкома. Спісы на высяленне зацверджаны намі.

Зелянюк. Што? Вы санкцыянавалі высяленне беднякоў?

Сакр. Райкома. Там былі іншыя даныя.

Зелянюк *(ускаквае)*. Гэта ашуканства!

Сакр. Райкома *(таксама ўстае, але стараецца стрымаць сваё абурэнне)*. Таварыш Зелянюк! Мы маем права верыць цэлай арганізацыі больш, чымся аднаму пакрыўджанаму партыйцу. *(Зелянюк памыкаецца супярэчыць)*. Чакай! На гэтым мы гутарку скончым. Факты, аб якіх ты казаў, мы праверым...

Зелянюк. Не правяраць, а дзейнічаць трэба, пакуль не позна!

Сакр. Райкома. Таварыш Зелянюк! Я прапаную табе зараз-жа выехаць туды, куды накіраваў цябе камітэт партыі.

Зелянюк. Я выеду туды праз два дні.

Сакр. Райкома. Ты выедзеш туды зараз-жа.

Зелянюк. Я выеду праз два дні. Мне трэба роўна два дні на тое, каб з'ездзіць у цэнтр.

Сакр. Райкома *(ціха і многазначна)*. Зелянюк! Ты ведаеш, што значыць невыкананне баявога загада?

Зелянюк. Бываюць выпадкі, калі баец мае права не выканаць загад камандзіра. *(Доўгая напружаная паўза. Нехта нясмела ляпае ў дзверы)*.

Сакр. Райкома. Уваходзце! *(Уваходзіць Марына Паўлаўна)*.

Марына Паўл. Можна да вас, таварыш сакратар? *(Убачыла Зелянюка, радасна ажывілася)*. А! Таварыш Зелянюк! І вы тут? Як гэта добра!

Зелянюк *(сакратару райкома)*. Жонка Сымона Карызны.

Сакр. Райкома. Калі ласка, сядайце. Чым магу служыць?

Марына Паўл. *(хвалюецца)*. Я прышла пагаварыць з вамі пра свайго мужа... пра свайго былога мужа... Я раскажу ўсё... усё што знаю... Ён сам павінен быў расказаць вам... Гэта вельмі важна, таварыш сакратар, вельмі важна...

Сакр. Райкома *(хвілінку падумаўшы)*. Таварыш Зелянюк, калі ласка, пазволь нам пагутарыць сам на сам. *(Зелянюк моўчкі ідзе да дзвярэй)*.

## СЦЭНА 2-я

Кватэра Карызны. **Карызна** за пісьмовым сталом перабірае паперы.

Карызна *(чытае)*... паведамляю, што ў нашай вёсцы калектывізацыя праведзена на восемдзесят процантаў... *(Адкладае паперку, бярэ другую)*. Рудавічы... на восемдзесят пяць... Цярэшан—дзевяноста... Сасноўка... семдзесят пяць... малавата... Грузды... дзевяноста... *(Весела)*. І Сівец—поўных сто процантаў... *(Бярэ паперу і піша)*. Тэлефонаграма... райкому партыі... выканкому... Пад выпрабаваным кіраўніцтвам... *(Закрэслівае)*. Трэба прасцей і ясней. *(Піша)*. Паведамляю, што на сёняшні дзень суцэльная калектывізацыя ў Сівецкім сельсовеце ў асноўным скончана. *(Думае)*. Трэба ўставіць пра супраціўленне. *(Піша)*. Не гледзячы на шалёнае супраціўленне кулацтва... і яго прыспешнікаў... вось так... Вядзем работу па ўмацаванню... *(Закрэслівае)*. Па далейшаму ўмацаванню калгасаў... і кропка... Сакратар ячэйкі... Старшыня сельсовета... *(Устае, апранаецца)*. І цяпер Сымон Карызна можа нарэшце ўздыхнуць больш-менш свабодна. *(Бярэ тэлефонаграму і ідзе да дзвярэй. За дзвярмі чуваць галасы)*. Некага-ж нясе не ў пару. *(Адчыняе дзверы і, здрыгануўшыся, адступае назад, але зараз-жа стрымлівае сваё замяшанне)*. Калі ласка, заходзце!

(Уваходзіць Зелянюк і яшчэ два незнаёмыя мужчыны).

Незнаёмы. Таварыш Карызна? Добры дзень? Мы вас пакуль што патурбуем усяго на адну хвілінку...

Карызна. Сядайце, калі ласка!

Незнаёмы. Дзякую. Мы зараз-жа пойдзем. Мы зайшлі толькі паведаміць вас пра наш прыезд. Мы спыніліся ў нардоме. *(Убачыўшы на Карызнавым твары маўклівае запытанне, паспешна тлумачыць)*. Вы пэўна яшчэ не ў курсе справы... Бачыце, райком вылучыў спецыяльную камісію для праверкі партыйнай і совецкай работы ў вашым сельсовеце. Гэта ў сувязі з апошнімі падзеямі... прымусовы запіс у калгас, высяленне і г. д. Разумееце? Да рэчы, з раёна далі загад аб затрыманні вашых высяленцаў, так што мы здолеем гэтую справу пераглядзець... Вы ўвечары можаце да нас зайсці? *(Карызна маўчыць)*. Ну, добра, мы потым пагутарым. Пашлі... *(Ідуць да дзвярэй, але Зелянюк варочаецца і астаецца ў пакоі. Карызна сядзіць унурыўшыся, быццам нічога не бачыць і не чуе)*.

Зелянюк. Карызна! Партыя ведае ўсё!

Карызна *(пасля паўзы)*. Ты што—хочаш першы судзіць?

Зелянюк. Для мяне зусім ясна, што ў партыі ты застацца не можаш.

Карызна. Ну, дык што табе трэба?

Зелянюк. Мне—нічога. Я гавару аб тым, што трэба табе.

Карызна *(панура)*. І мне нічога не трэба.

Зелянюк. Давай, Карызна, прасцей... без рамантыкі. Ты не з тых, што ў такіх выпадках канчаюць жыццё самагубствам. Ты—жывучы.

Карызна *(крычыць у раптоўнай злосці)*. Дык што ты ад мяне хочаш?

Зелянюк. Я хачу напомніць табе пра тое, пра што ты цяпер асабліва не павінен забывацца. *(З націскам)*. Партыя карае, але не мсціцца. І ты можаш...

Карызна *(перапыняе)*. Гэта што: вялікадушнасць пераможцы, ці проста здзек?

Зелянюк. Мне-б хацелася яшчэ раз сустрэцца з табой... у іншых абставінах... Ну, бывай! *(Выходзіць. Карызна сядзіць, пахіліўшы галаву. Доўгая паўза. Потым ціха прачыняюцца дзверы і ў іх паказваецца калматая галава Пацяроба. Ён уваходзіць у пакой, падыходзіць да ўнуранага ў сябе Карызны і схіляецца над ім).*

Пацяроб. Сымон! Ку-ку?..

Карызна *(неўцямна глядзіць на яго. Пацяроб заходзіцца дзікім вар'яцкім смехам).* Табе смешна?

Пацяроб. Асэсары... Асэсары прыехалі... Асэсары... ха-ха-ха-ха!.. *(Раптам перарывае смех і крывіць твар у іранічна-плаксівую міну).* А я ўжо, Сымонка, кулдык... Прышла паперка з раёна, каб зараз-жа перадаў справы намесніку. *(Кпліва).* А ты, любачка, таксама маеш паперку?

Карызна *(дасадліва махнуўшы рукой).* Ці аб гэтым справа?

Пацяроб. Аб чым-жа, золатка?

Карызна *(разгублена).* Няма нічога... разумееш? Нічога няма... Гарадзілі мы з табой, гарадзілі... І раптам—пуста.

Пацяроб *(з грозным абурэннем).* Гэта мы пабачым яшчэ, як яно пуста! Яны думаюць, што яны толькі разумеюць? А можа мы бралі лінію на поўную перамогу соцыялізма? Можа мы наперадзе ўсіх ішлі ўдарным штурмам, каб дагнаць і перагнаць? Мы таксама кроў лілі за совецкую ўладу! Мы таксама рабочымі на фабрыцы працавалі і ведаем, як гнуць пролетарскую лінію...

Карызна. Ну і дурны-ж ты, Пацяроб, да немагчымасці.

Пацяроб *(споспрыску).* Мы яшчэ паглядзім, хто на чыё пераверне!.. *(Ахамянуўся).* А ты, Сымонка, разумны? *(Рагоча злосным, паскудным смехам, які, відаць, страшэнна нервуе Карызну).*

Карызна *(устае, ладзіцца ісці).* Ну, я пайду...

Пацяроб *(нахабна і хітра падміргнуўшы).* Сымонка! Куды-ж гэта ты, даражэнькі?

Карызна *(з наўмысна рэзкай адкрытасцю).* Да Веры.

Пацяроб. Схадзі, Сымонка! Схадзі, любачка. *(Убачыўшы праз вакно).* Ды няма чаго і турбавацца—яна вунь сама сюды ідзе. Яна паспагадае, золатка... Яна паспагадае...

Карызна *(даведзены да шалу).* Пашоў вон!

Пацяроб. Іду, любачка, іду. Арыувар! *(Выходзячы, сустракаецца ў дзвярах з Верай).* П'явачка!

Карызна. І як я мог плячо ў плячо працаваць з гэтым чалавекам?

Вера *(з парога).* Што здарылася, Карызна? Кажуць, нейкая камісія прыехала? Што ёй тут трэба?

Карызна. Заходзь, Вера, заходзь! Сядай, калі ласка. Ты-ж у мяне такі рэдкі госць... *(У моцным узрушэнні ходзіць па пакою).*

Вера *(мякка стрымліваючы яго зазірае ў твар).* Мусіць дужа непрыемнае нешта? *(З ласкавым дакорам).* Ты мне не хочаш сказаць?

Карызна *(у замяшанні).* Во што, Вера... *(спрабуе ўсміхнуцца).* Помніш неяк раз мы гаварылі... калі зломіць жыццё... калі выкінуць, як непатрэбнае смецце...

Вера *(спагадліва).* Табе дужа цяжка?

Карызна. Не вышла ў мяне, Вера, нічога не вышла. *(Падумаўшы).* Праўда, гэтага трэба было чакаць. Я ішоў, Вера, на вялікую рызыку.

Вера. Нашто ты рабіў так... не так як трэба?

Карызна *(з тэй самай натужнай усмешкай).* Ты неяк казала мне: трэба старацца, каб усё было добра, усё—чысценька, каб ніхто

ні да чога не мог прычапіцца. Так цяжка рабіць, Вера, так надзвычайна цяжка рабіць.

Вера *(з трывогай)*. Што-ж цяпер будзе?

Карызна. Што цяпер будзе? Мяне напэўна выключаць з партыі. Можа аддадуць пад суд... *(Хвараеіта ажывіўся)*. Гэта—не тое... не ў тым сэнс. Пуста, Вера, во што... Няма нічога, няма за што зачапіцца. Галоўнае—мінулага няма ў мяне. Няма на што абаперціся, каб ступіць у будучыню. *(Саркастычна)*. Няма падставы для будучыні.

Вера *(амаль спалохана)*. Я не разумею цябе... Што гэта значыць?

Карызна *(заўважыўў Верын спалох і з горкай усмешкай глядзіць на яе)*. Калі згубіш усё, дык шкадуеш нават таго, чым раней пагарджаў. Я здаецца пачынаю шкадаваць, што разлучыўся са сваёй жонкай.

Вера *(у радасным ажыўленні)*. Ты хочаш зноў сыйсціся з ёй?

Карызна. О, не! Мы з ёю не сыйдземся больш. Гэта было-б занадта ўжо проста. *(Адышоўся ад Веры, задумаўся)*.

Вера *(падыходзячы да яго, гаворыць з глыбокай, блізкай да слёз спагадай)*. Карызна! Я дужа, дужа хачу, каб табе было добра... *(Карызна маўчыць. Вера з хвілінку стаіць каля яго, потым ціха выходзіць з пакою)*.

Карызна *(астаўшыся адзін)*. Ну, што-ж, астаецца адно: атрымаць заслужаную адплату.

## СЦЭНА 3-я

### (Эпілог).

Куток двара ў калгасе. Рознае начынне. Галілей круціцца вакол сявялкі, рапаруе яе. Ён дужа спяшаецца і дужа захоплены сваёй работай. Яго гарачкавая, неспамерная праца, энергія знаходзіць сабе раптам зусім недарэчнае выйсце: стары заводзіць песню. Ён пяе ціханька, манатонна, тоненькім рэчытатывам.

Галілей *(пяе)*...

І ў ра-кі-та-вым кус-точ-ку
за-шча-бе-ча са-ла-вей-ка...

(З боку з'яўляецца Тацяна. *Яна слухае і ўсміхаецца*).

Тацяна. Дужа добра, дзядзька Ахрэм, спяваеце. Голас у вас такі нейкі далікатны.

Галілей *(ад сораму не ведае куды дзецца)*. Маніш... ага... Маніш, Тацяна! Ніхто не спеваў... ніхто... Гэта маладыя пяюць... ага... маладыя.

Тацяна. Ці тут старшыні калгаса не было?

Галілей *(яшчэ ў злосці)*. Не было... ага... Нікога тут не было... нікога...

Тацяна. А вы не злуйцеся, дзядзька Ахрэм. Можа я і не чула зусім, як вы спяваеце, можа гэта я так, пасмяялася.

(Галілей злосна завіхаецца каля сявялкі. Недзе чуваць тонкі вісклівы голас Прахора).

Прахор *(за сцэнай)*. Зладзеі! Жулікі! Крывапіўцы! Не папаліся вы мне пад гарачую руку!..

Тацяна. Ізноў нечага татка крычыць. Мусіць так і да смерці не супакоіцца. Бывайце, дзядзька Ахрэм! *(Адыходзіць)*.

Прахор *(валачэ стары растрыбушаны хамут і злосна кідае яго на дол)*. Хіба ў іх гэткае было, га? Каб мне столькі здароўя, сколькі ў таго Гвардыяна было ўсяго ўсякага! Папрадавалі, зладзеі, парасторкалі! А нам ашмёткі пакінулі!..

Галілей. І ашмёткі трэба... ага... Ашмёткамі можна дзіркі залатаць...
Прахор. Хай бы ён тое аддаў, што з мяне аднаго кроўю выцягнуў!
Галілей. І ты—ашмётка... І табой нейкую дзірку залатаюць...
Прахор. Хто, я—ашмётка? Я?
Галілей. Кхе... кхе... І я таксама... і я... З нас новага не скроіш... Мы толькі на латкі... ага... на латкі...

(Уваходзіць Якуб Лакота)

Лакота. Гатова, га? Ці ўсё ў парадку, дзядзька Ахрэм?
Галілей. Гатова... ага... у парадку...
Лакота. Там ужо чакаюць. Гэта-ж, браточкі, цэлае свята. Першая сяўба... Першая большэвіцкая сяўба... *(Хапае везці сявялку, але нязмога).* Не, не падужаю... *(Закашляўся).*
Прахор. Чакай, можа вось старая ашмётка дасць якой рады. *(Бярэцца за сявялку).*

(Убягае Віктар).

Віктар *(усхваляваны).* Дзядзька Якуб! Там ужо цэлы натоўп сабраўшыся. Уся моладзь... і старыя таксама... Трэба лятучы мітынг... Нешта сказаць трэба, адзначыць... Хадзем хутчэй! *(Прахор, Лакота, Віктар адыходзяць, вязучы за сабой сявялку).*
Галілей *(сам сабе).* Чалавек—што гузік... ага... Яму тады добра, як да чаго-небудзь прышыты... *(Прыслухоўваецца. За сцэнай пачынаецца мітынг).*
Віктар *(за сцэнай).* Слова мае старшыня аб'яднанага Сівецкага калгаса Якуб Лакота.
Лакота *(за сцэнай).* Таварышы! Зараз мы кінем першыя зерняты ў нашу новую калгасную глебу, у наша новае агульнае поле. Нам не лёгка было дайсці да свае першае большэвіцкае колектыўнае сяўбы. Наш шлях быў цяжкі, на ім многа было каўдобін, у якіх мы часам здорава грузлі. Але пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі мы перамаглі ўсе перашкоды і вышлі на роўную цвёрдую дарогу, якая вядзе да соцыялізма. Таварышы! Я павінен адзначыць тут тую энергію і дружнасць, з якой мы падрыхтаваліся да сяўбы. Некаторыя з нас паказалі ўзоры ўдарнай, сапраўды большэвіцкай, самаадданай працы. І першы з іх наш паважаны тэхнік і вынаходца Ахрэм Данілавіч Пунцік, або, як мы прывыклі зваць яго—Галілей. *(Чуваць крыкі: „Галілей! Дзе Галілей? Давайце сюды Галілея!" Галілей хаваецца ў закутак).*
Віктар *(убягае на сцэну).* Дзе-ж ён дзеўся? Галілей! Галілей!.. *(Выбягае).*
Галілей *(спакойна разважае сам з сабой).* Кхе... кхе... Цімахвей Міронавіч паехаў, а Лакота крычыць... Адным пагібель, а другім—шчасце.
Лакота *(за сцэнай).* Таварышы! Я спадзяюся, што гэта наша дружнасць, гэта энергія, гэтая адданасць калектыву не толькі не аслабне, а будзе расці з кожным днём, з кожнай гадзінай. Хай-жа гэты дзень, дзень першай большэвіцкай сяўбы будзе зарукай таму, што зерняты новага соцыялістычнага жыцця, якія пасеяла ў нас комуністычная партыя, узыйдуць і забуяюць свежай сакавітай рунню!

(Агульны ўзбуджаны гоман натоўпу).

Галілей *(сярдзіта, нібы спрачаецца з кім).* А рэволюцыя—няпраўда!—любіць людзей... мусіць любіць... ага... Яна іх вядзе некуды. Яна любіць... ага... шкадуе... Б'ючы шкадуе... вось...

(Уваходзіць Якуб Лакота)

Лакота. Дзе-ж ён дзеўся той Галілей? І патрапіць-жа ўцячы пад самую гарачую хвіліну...

Тацяна *(з-за сцэны).* Старшыня! Таварыш старшыня! *(Уваходзіць).* Я ўжо цеперся шукаю цябе.

Лакота *(жартліва).* Што скажаш, таварыш брыгадзір?

Галілей. І бабскія брыгады парабілі... ага.. бабы таксама крычаць...

Тацяна *(крычыць).* Што-ж гэта за работа такая? Закамандвалі, каб калгасны гарод рабілі, а тады хвастом накрыліся? А насенне дзе, што вы казалі з раёна даставіце? А чым-ж мы сеяць будзем? га? Толькі крычаць, а самі палец аб палец не ўдараць!.. *(Раптам абрывае сярдзіты тон, гаворыць чула, спагадліва).* Якубка, ты-ж змарнеў зусім. Што ты робіш? Хоць-бы адпачыў троху, а то і дзень і ноч. . і дзень і ноч...

Галілей *(узрушана).* Шкадуе... ага... шкадуе...

Лакота. Некалі, Тацяначка! Які-ж цяпер адпачынак? Ды я паздаравеў ужо... Я здаровы, зусім здаровы... Гэта проста так...

Тацяна. І жывеш ты неяк не па-людску. Чысты бабыль! Каб хаця хто даглядзеў цябе, як чалавека...

Лакота. Тацяначка... А можа-б ты... можа-б мы...

Тацяна. Я ўжо думала, зайду мо' калі, хоць у хаце ў яго папарадкую, у бабыля ў гэтага няшчаснага...

Лакота. Тацяначка... Назусім? Назаўсёды?

Тацяна *(уздыхнула).* Я ўжо была адзін раз „назаўсёды" ды зараклася...

Галілей *(не ўцерпеў, выскачыў з свайго закутка).* А заракацца не трэба... ага.. не трэба... Калі ісці, дык ісці...

Тацяна *(усміхаючыся).* А во і сват знайшоўся... Ды яшчэ які сват...

Галілей *(сярдзіта).* І жывіце сабе... ага... Жывіце сабе, колькі хочаце... *(Махае рукой і бяжыць у глыбіню сцэны).*

КАНЕЦ.

М. ДЗЕХЦЯР

# ПОМНІК

Востры кавалак неба пазірае на зямлю, як праз рэдкую фіранку. Калі стаіш на вышках рыштавання, адчуваеш, як блізка над галавой вісіць неба, як лагодна ў нагах распрасцёрся горад з белымі, новымі, асляпляючымі будынкамі, з башнямі і комінамі, якія вартуюць яго з усіх канцоў. Родны горад з блізкімі людзьмі і ўсё навакольнае пазірае так блізка, люба. На дзесяць галоў выглядаеш вышэй усіх. Усё навакол такое дробнае, а ты такі вялікі. Вось выпрастай руку і хапіся за чуб дрэва, што хістаецца на краі гарызонта, шчыпні срэбны колас, што ківае галавой на зялёным полі, пляснi далонню па рэчцы, што змяіцца вакол гораду, лашчыць і аблізвае берагі свае.

Цёплы, веснавы дзень над нашымі галовамі, смугла-тлустым бляскам пераліваюцца нашы целы на сонцы. Плюхаю дайніцу гарачай налiўкі ў скрыню сухога цэменту. Сіні дымок вылятае са скрынкі і расцякаецца кучаравым туманам над галавою.

Мой таварыш, Гаркавы, малады, высокі плячысты муляр з насунутымі на нос акулярамі, трэцца аб мой бок, як мядведзь. Вось гэты блізарукі Гаркавы зацягвае шнур на ранце сцяны, хтосці збоку ціха зацягвае песню. Я таксама спяваю і мурую. У густой калэжыне залiўкі намочваюцца цаглiны. Кіслы пах ідзе са сцяны і казыча ноздры.

Пахне вапнай, потам, сонцам, пахне вясной.

Недалёка ад нас над тонкай аднацаглянай сцяной ківаецца, як жывая, гіпсавая статуя-помнік, наш інструктар *Хема Маляўскі*. Ціха скоса ён кідае на нас кароткія ўрыўчатыя позіркі. Яго вока здалёк умее заўважаць ляпсус, здалёку бачыць, калі цэгла кладзецца пуката. Тады ён падыходзіць да нас з малой правілкай у руцэ, нібы збіраецца адсцёбаць нас, і ціхім слабым голасам кажа:

— А ну, даражэнькае дзіцятка, прыкінь вочкам, твая цаглiнка просіцца ў вельмі благое месца, пуза збі, даражэнькі, на вяршок ніжэй, ты можаш яшчэ залезці ў Лагішы са сваёй сцяной. Паддавай, сынок, без мудрагельства, без выкрунтасаў.

Кельня трасецца у яго кароткіх руках, як кавалак жывога срэбра. На вялікае дзіця падобны наш інструктар Хема Маляўскі. На яго суха-зарослым твары тырчаць дзве вострыя сківіцы, як з дрэва высечаныя. Ад старога пахне такім здаровым пахам старога будаўніка. Гаворыць, нібы цвёрдую скарынку жуе, і моршчыцца ад абурэння яго маленькая бялявая бародка. Мы любім яго, старога, за прастату, за даступнасць, завем яго—бацька. Дзесяць хлапцоў нашых ён вучыць мулярцы. У першую раніцу нашага прыходу на будоўлю, калі мы ўпершыню ўзялі кельні ў рукі, нас спаравалі са старым. Ён неяк прыдуркавата аглядзеў нас кароткім, густым позіркам, пасадзіў вакол сябе, як на вяселлі, і ціха сказаў:

— Чуеце, дзівачкі, за работай ні аб чым не думайце, выкіньце з галавы сваіх каханачак. Вы можаце заглядзецца на прыгожую дзяўчыну на тротуары і бухнуць, дзівачкі мае, з рыштавання, аж халера вас возьме. Работа, чарцяняты, гэта вам не гулянькі, работа...

Ён не дагаварыў. Яго правая рука крышачку прыўзнялася.

— Не паслухаеце мяне, дзівачкі, зраблю з вас варэнікі.

Спакойна сказаў гэта наш стары інструктар, тры разы скорчылася белая фалда ў яго белай барадзе. Тры разы сплюшчыліся яго рэдкія, амаль голыя, павекі і тры разы зноў распюшчыліся. Аднаму з нас ён урэпіўся ў рэдкую чупрыну, страсянуў свавольную галаву і сказаў:

— Хто з вас добра пастараецца, таго вазьму за зяця.

— Ён мае прыгожую дачку. Яна электраманцёрка, дык пабачым, які аганёк яна запаліць уначы. Ён пазнаёміць нас са сваёй дачкой толькі, каб мы былі людзьмі...

Ён ледзь прыкметна аблізнуўся і запытаўся:

— Колькі жанатых „дзівачкоў“ сярод вас—падымі рукі!

Ніхто з нас не падняў рукі. Спуджана пазіралі мы на нашага старога інструктара і на загостраныя адточаныя скіўіцы яго зарасла-сухога твару. Нам здавалася, што стары правіць жарцікі над намі, хоча выпрабаваць нас. Ён так ціха дыхаў каля нас, аглядаў зайздроснымі густымі позіркамі.

Было гэта ў той дзень, калі першая дайніца цёплай вапны закіпела ў нашых скрынках сухога цэменту. Пад вечар таго дня мы адчулі, як хрусцяць нашы косці пад скурай. Мы адчулі смак працы і поту, нехаця мы абмацвалі свае мяккія, зусім маладыя мускулы.

* *
*

Разам з раніцай, разам з днём карабкаемся на вышкі рыштаванняў, дзесяць маладых хлапцоў, першым наш бацька—інструктар Хема Маляўскі. Халаднаватая раніца сціскае цела. Цвёрдыя, як печань, робяцца мускулы. Цёплымі рукамі дакранаемся да халоднай шэрані на сцяне. І расцякаецца срэбная шэрань на пальцах. Здаравеннае „дзень добры“ аддае табе электрычны падымальнік, ірвануўшыся ўгору з нагружанай платформай матэрыялаў. Ранішнія мулярскія галасы ўзнімаюцца да неба так высока, звонячы далёкім, рассыпчатым рэхам. Чукатам сякер пераклікаюцца цесляры. На тоўстых паясах бетону поркаюцца бетоншчыкі, крычаць арматуршчыкі.

— Гэй, матэрыял і матэрыял!

Ачышчаецца свежая раніца. Новае сонца над нашымі галовамі. На блізкім полі мігціцца малочны туман. На заплямленым гарызонце вырысоўваюцца каракулевыя вершаліны леса. Мігцяцца золатам гарадскія вежы.

— Добры дзень, горад! Добры дзень, свет!

Замешваю сваю скрынку цвёрдага цэменту. Зацягваем шпагатовыя шнуры на ранты сцен. Раззвоньваецца сталь нашых кельняў.

— Гэй, матэрыял! матэрыял!—вымагаюць будзённыя галасы муляроў.

* *
*

Моцна запомнілі словы інструктара:

— Хто добра пастараецца, той будзе маім зяцем.

Ніхто з нас не бачыў яшчэ яго дачкі. У думках мы ўяўляем сабе яе выгляд. Адны казалі, што яна, мабыць, рыжая, другія—бландынка з вяснушкамі на твары і трэція казалі—не рыжая і не бландынка, а брунетка з вусікамі; да трэціх належалі Гаркавы і Монча Бураўчык. Два дзівачкі—„супрацоўнікі“. Асалода брыгадная.

Гаркавы—высокі, панураваты, дужы, як сцяна, слуп у акулярах.

Монча—нізкі, тонкі, сімпатычны, як чорт, разумны, як качка.

Пасля работы мы сачылі, на якую вулачку скіруе наш інструктар. Гаркавы даў слова, што ён мусіць пабачыцца з інструктаравай дачкой першым, і калі яна спадабаецца яму, ён так пастараецца, што на фронце мулярскі ўсіх нас у рукаў заткне, хоць зубы зломіць, а інструктараву дачку ўгрызе.

Цэлы дзень ён ліп да інструктара, натурыста, усё прыставаў да яго, усё распытваўся:

— Колькі дзяцей меў ён, інструктар, і чаму ў яго так мала дзяўчат. І яшчэ пытаўся ў яго, ці магчыма гэта, каб дзесяць хлапцоў пакахалі адну дзяўчыну і вышлі сухімі з кахання.

Інструктар не адказаў яму нічога, ён узяў яго за кончык носа сказаў, што ён блазан і вялікі дылда.

Пасля работы Гаркавы разам з ім пайшоў дахаты. Мы не хацелі перашкаджаць яму. Ідучы за імі мы бачылі, як яны завярнулі ў завулак і зніклі ў высокай мураванай браме. Монча Бураўчык, самы малодшы ў брыгадзе—разумная качка—адкалоўся ад нас і застаўся мерзнуць каля брамы. Расказваюць, што ён усю ноч дзяжурыў каля брамы тае камяніцы і на заўтра меў-ткі, што расказваць.

Па-першае, ён чуў, як Гаркавы спяваў на балконе тае камяніцы. Да самай поўначы спяваў дзікія песні. Дачка інструктара не бландзінка і не рыжая, яна сапраўды брунетка, але без вусікаў. Відаць, дробненькая. Крышталёвыя вочкі і плямка на лбе. Па-другое, ён бачыў, як Гаркавы прыпаў акулярамі да дзяўчыніных ног і прасіўся ў яе:

— Асінька, любая, пакахай мяне, ружовая галіначка!

Да трэцяй гадзіны ўначы Гаркавы кленчыў і прасіўся:

— Асінька, любая!

Монча Бураўчык расказваў гэта сур'ёзна і паважна. Пры гэтым ён спрытна фыркаў сваім вузка-доўгім носікам. На яго вострым лбе дрыжэла скура. Ніхто не паверыў бы, што ён хлусіць. Восем нашых пападалі ад смеху на скрынкі з цэментам і запэцкалі жываты ў вапну. Інструктар хапіўся за страпіла штагі і ад смеху чуць не перакуліўся і чуць не згубіў сваю мяккую бараду разам з падбародкам.

Гаркавы таксама вельмі хацеў пасмяяцца, яго акуляры спавіліся толькі густою расой. І на шырокіх шчоках паказаліся рэдкія чырвоныя плямы.

* * *

Як прыгожа запаляецца горад ў летні вечар. Вуліцы гусцеюць парачкамі. У камяніцах мігцяцца гострыя чырвоныя аганькі. Густа абсыпаецца кветкамі неба.

У садзе „Профінтэрн“ сягоння масоўка. Мы ўмовіліся ўсе спаткацца там. Магчыма, і дачку інструктара сустрэнем.

Гаркавы мінае нас. Ён шукае сцежачку выкруціцца як-небудзь з нашай кампаніі. Монча Бураўчык сочыць за ім. Ён шукае сцежачку, каб як-небудзь сыйсціся з ім.

Сягоння Гаркавы так пышна прыфранціўся, як хлопец з ЗАГСа. Ён блішчыць з ног да галавы. Шэры касцюм моршчыцца на яго выгнутых высокіх плячах, гострымі шкелкамі пабліскваюць акуляры, ад яго пахне такім смачным пахам, як ад сажалкі пахне ад яго.

Монча быў так проста апранены—чорная сатынавая кашуля, чырвоны паясок з доўгімі кутасамі, заламаная кепка—франт вышэйшага рангу.

— Ова! якая прыгожая прырода! І светлая фантазія разыгралася ў яго ледзь косых вачах.

Як ваўчок, ён цёрся каля Гаркавага. Зірнуўшы на іх абодвух, можна было сказаць, што Гаркавы можа пасадзіць сабе Мончу на плечы, як папугая, паставіць на галаву і пусціцца з ім у скокі. Гаркавы стрымліваецца, рахманы, але відаць, што чалавек не можа цярпець, калі гэтакая задрыга скача за ім. Хочацца на яго, на Мончу, стрэльнуць параю славечкаў, каб у таго зубы закалаціліся. Але ён не можа зрабіць гэта, бо Монча гострыць яму такія прыяцельскія дэлікатэсы, так разумна ўсміхаецца і ціханька пытаецца:

— Яна цалуецца, Гаркавачка, інструктарава дачка цалуецца з хлопцамі?

У цяні вячэрніх дрэў можна было толькі пабачыць, як гостра бліснулі Гаркавіны акуляры. Ён нічога не адказаў, толькі так павярнуў да яго галаву бледнай шчакой, што адказваць ужо не трэба было.

У садзе ўсё глыбей і далей крышыліся тонкія пасачкі жаўцістага святла, згубленыя лямпачкамі, заблытанымі ў вецці. Усё бліжэй і бліжэй даносіліся шумныя гулы аркестра. Птушкі, захутаныя ў начных гняздзечках, уторылі абрыўчатымі піскамі.

На блізкім мосціку адстуквалі тахт дзесяць пар ног, знізу серабрылася маленькая рэчка і пляскала ў далоні каля берагоў. Гаркавы зусім знік з нашых вачэй. Толькі збянтэжаны Монча Бураўчык застаўся стаяць ля варот стадыёна.

— Гэты бурлак падчапіў ужо яе,—зайздросна-кусліва буркнуў Монча, ссоўваючы кепку на самую патыліцу.

А там, на стадыёне, Монча хутка знік, у далёкіх сплеценых алеях затрымаўся яго цень. Ён прысеў на доўгай высокай лаве, з хвіліну аглядаў пустое неба і зусім не прыкмеціў, што на другім канцы лавы ў поўцені дрэва сядзіць, абняўшыся, парачка і шэпчацца. Ён пачаў кашляць.

Захопленая гаворкай парачка—дзве родныя зязюлі—зусім не прыслухоўвалася, як чалавек пакутуе праз кашаль. Монча пачаў коўзацца па сухой лаве, пакуль яго бок не стукнуўся аб мяккі дзяўчынін бок.

Дзяўчына павярнула да яго вузка-смуглы твар і бліснула параю зрэнак.

— Выбачайце!—праказаў ён так далікатна, наматваючы на палец кутас паяска.

— Можна пазнаёміцца, таварышка?

Якім чынам, адкуль раптоўна вырасла галава з акулярамі, аганёк запаліўся ў акулярах, полымя ў вачах. Монча ўстрапянуўся, пабачыўшы галаву ў акулярах. Праз хвіліну ён спрабаваў вольна ўздыхнуць, выблытваючы палец з кутасіка. Моцна абрывіста сапучы, ён сказаў:

— Ах, якая залатая ноч, ноч для вялікіх каханняў.

Знехаця галава ў акулярах адказала яму:

— Так, залатая ноч для вялікіх каханняў.

Па пырсках аганька ў акулярах відаць было, што галава хоча сказаць яму:

— Дарагі братка, зрабі ласку, выносся са сваёй залатой ночкай, дай людзям праглынуць пару слоў.

Але Мончы гавары ні гавары—усё роўна. Ён так ёмка прымасціўся на зэдліку, нібы збіраўся тут заначаваць. Рукамі ён абняў поручні, вачыма ўпіўся ў неба, а пашчэплены носік задзіраўся і апускаўся. Монча пазіраў на неба і бачыў, як перастройваюцца зоркі, мяняюцца месцамі. Яму здавалася, што на галінках дрэў вісяць шнурочкі зор і збянтэжаны месяц блытаецца ў вецці і шукае прапаўшых зорак.

Цяпер вяснавы вечар. Апошні маёвы вечар. Наперадзе пазірае шмат дробных дзён, любых дзён, летніх запоўненых працай, вясёлай братвой

на будоўлі. Кожны дзень ты падрастаеш на многа вяршкоў, усё вышэй у неба ўрэзваешся з шырокай цаглянай сцяной.

Блізкім робіцца неба, родная зямля. І хочацца абняць усё зямное. Неба хочацца пагладзіць далоняй.

— Поўнае неба зорак. Зямля абсыпана агенькамі. У агністасці зямлі люляецца неба, апускаецца бурлівая вясновая ноч і абнімае зямлю шырокімі распасцёртымі рукамі.

Монча занадта задумаўся, занадта захапіўся вясновым вечарам, апошнім маёвым вечарам.

Ён пачаў азірацца пасля хвіліннай задуманасці. Лава, на якой ён сядзеў, была пустая. Маленечкая забытая насовачка валялася, як малое застрэленае птушанё.

У садзе, на вецці, па адным гаслі гострыя агенькі. Гучнае рэха аркестраў адбівалася цяжэй і ніжэй. Радзей звінелі галасы на стадыёне, які выглядаў з-пад алей кавалкам асветленага неба. Сур'ёзней, задумней выглядаў сад. Толькі мацней запахла зялёным лісцем, цветам і салодкім веццем.

Дзесяць нас крочыла ў сад. Дзевятнаццаць нас крочыла з саду. Кожны меў сабе парачку, толькі адзін Монча Бураўчык не меў сабе парачкі. Ён ішоў за намі, трымаў маленькую насовачку ў руцэ і ўсё распытваўся—хто тут інструктарава дачка.

* * *

Мы смяяліся з нашага інструктара, калі ён пачынаў хваліцца сваёй дачкой. Як прыгожа ён разводзіў рукамі і яго светлыя павекі заплюшчваліся.

За сваю дачку ён ні кроплі не клапоціцца. Так гаварыў ён. Ні валасочка не траціць на яе. Эх, каб у яго было пабольш гэткіх дачок. Ён гаварыў гэта спакуслівым голасам. З вачэй бруіўся смяшок і з грудзей вырываўся тоненькі ўздых.

— За вас, маладыя чарцяняты, ламлю галаву. Хто ведае, дзівачкі, што з вас можа выйсці. Шмат дарог для вас адчынена, вы можаце яшчэ папасці на паскудны шлях.

А часам ён гаварыў зусім інакш. Мяняліся колеры на яго вузкім твары, запаляліся іскры між голых павек.

— З вас, маладыя чарцяняты, могуць яшчэ выйсці геніі. Вялікія людзі могуць выйсці з вас, вамі, дзівачкі, можа прашумець свет.

Па словах яго відаць было, што чалавек зайздросціць нам. Яму хацелася памаладзець. Дык ён пазіраў на нас такімі прагнымі вачыма. Маленькі ўздых палахліва ўстрасаў жылу на шыі.

— Маладыя чарцяняты,—строга казаў ён раптам, разглядаючы нас густым суровым позіркам.—Не ў адной калысцы калыхала нас маці, розным малаком карміла нас маці. Малако нашых матак было змешана з крывёй. Сэрца нашых матак мы, як п'яўкі, высмоктвалі ў маленстве.

Вельмі часта ён напамінаў нам пра гэта. Напамінаў, галоўным чынам, тады, калі палове з нас кроў хлыне ў скроні, разгуляецца пасярод белага дня і мы расцягваліся на рыштаваннях і грэлі свае пупкі на сонцы.

Тады ён падкрадаўся да нас на цыпачках. Спачатку кідаў пару добрых слоў, і калі гэта не памагала, адварочваўся ў бок і расціраў кавалак мяккага шчэбеню ў пальцах. Мы не маглі глядзець, як у інструктара пачынала моршчыцца белая барада, крывіліся лагодныя вочы. Раптам мы насцярожваліся, і як жывыя, вырасталі перад намі яго словы, якія ён любіў паўтараць.

— Не час драмаць, чарцяняты. Мы распачалі вялікую працу.

Мы любілі слухаць слабы голас інструктара, нават злосны любілі слухаць. Мы любілі адчуваць яго дыханне каля сябе. Яго гостры позірк узбуджаў у нас жывыя мроі.

Часам пасля добрага дня працы, калі радзеюць колеры дня, калі сонечныя плямы ляжаць згаслыя у пустых пахучых чанах, як згусткі запёкшайся крыві, інструктар збіраў нас вакол сябе і казаў нам казку пра адну маладосць... Яго слаўныя вочы набягалі раптам крывёй, запальвалася ад абурэння яго белая бародка.

Як нямыя, сядзелі мы навакол яго з такімі шырокімі і насцярожанымі зрэнкамі. Прагна пазіралі нашы вочы ў пляскаты твар добрага інструктара. Ён гаворыць нам, каб мы былі людзьмі, шанавалі сваю маладосць. Адказваем:

— Будзем людзьмі, будзем шанаваць сваю маладосць.

Ён ускакваў раптам узрадаваны і нам здавалася, што ён зараз паляціць.

Мы пазіралі ў яго затуманеныя вочы і нам здавалася, што ў іх палыхае ненавісць і гэтыя вочы ўпэўнена наказваюць, што тая гісторыя зноў не вернецца, што мы і ведаць не будзем гэткай маладосці. Пачалася новая гісторыя, новая маладосць у нашых руках, яна—маладосць новая. На сваіх плячах мы нясем гісторыю. Нашымі кельнямі муруем яе.

Мы шчыльней спрасоўваліся вакол яго, скручваліся нібы ў клубок. Нам, дзесяці „чарцянятам“ ад вялікай радасці хацелася разарваць на кавалкі нашага добрага інструктара і схаваць яго старыя косці ў сябе пад спецоўкай.

Нам усім хочацца мець дачку інструктара. Дачку, якая запальвае агні на шэрым свеце, асвятляе ночы і гарады. Запаляе неба і зямлю— яна электраманцёрка, яго дачка, і аднаго з нас, кажа інструктар, ён возьме за жаніха і усе мы кахаем яго дачку (якой мы яшчэ ніколі не бачылі). Мы просім яго, каб ён пазнаёміў нас са сваёй дачкой, дык ён абяцае нам, што пазнаёміць, толькі каб мы людзьмі былі.

Задумліваемся і не ведаем, у чые рукі пападзе інструктарава дачка

* * *

Мне хочацца шмат расказаць, ёсць пра што расказаць, многа расказаць, як мы любілі нашага інструктара Хему Маляўскага, і кожны з нас хацеў быць яго зяцем.

У яго прыгожая дачка (так мы уяўляем сабе), яна завецца Асяй (нам люба гэта імя) і працуе на электрастанцыі. Яна, мабыць, дужая, вясёлая, у яе дробны твар брунеткі, з вузкімі вачыма, з тонкімі магніцікамі, якія пазіраюць так глыбока, палка.

Кожны вечар, калі горад запальваецца агнямі, як светлымі мроямі, нам здаецца, што яна ўсходзіць над горадам такая высокая і прыгожая і ўключае ток і вось раптоўна ўспыхваюць жмені вялікіх агнёў. Запалыхае неба вострымі бронзавымі колерамі, загарыцца свет, і мы таксама гарым... Наш інструктар ведае, што мы кахаем яго дачку, ён чуе— мы часта успамінаем яе імя. Ён ужо каецца, што расказаў нам пра яе. Спачатку ён думаў, што мы зусім ціхенькія, аказваецца—жар-полымя! І не дакраніся!

— Чарцяняты!—сказаў ён аднойчы.—Сцеражыце косці, дзівачкі! Пакуль не скончылі будоўлі, дачкі усёроўна не аддам вам.

І нам хочацца як найхутчэй завяршыць будоўлю. Толькі трэці паверх муруем, яшчэ два паверхі павінны быць гатовы да кастрычніцкіх свят. І нам робіцца так прыкра, калі інструктар скажа гэтыя словы, мы крыўдзімся на яго, і кельні валяцца з рук.

Гарачы ліпеньскі дзень. Асмаленае неба корчыцца над галавой. Смага сушыць у роце. На вышках будынку раскінулася наша брыгада. Над вузкай сценкай нагінаецца наш інструктар, такі дробны, заклапочаны, здаецца, во-во зваліцца. Ніхто яго не падтрымлівае, толькі вузкая сценка падперла яму грудзі і ён плавае на ёй, нібы рэжа ваду кельняй, срэбнай.

Мы сёння пайшлі спаборнічаць, на вялікае спаборніцтва пайшлі мы. У гэткі дзень добра спаборнічаць. Яшчэ раніцай мы заключылі між сабою соцумову. Ніхто з нас не прыкмеціў, як Монча Бураўчык у канцы ўмовы прыпісаў некалькі слоў:

— Выклікаю Гаркавага на дуэль!

Мы прыкмецілі толькі—штосці адбываецца ў Мончыных вачах. Нейкая зморшчынка загарваецца ў зрэнках. Яны абодва, ён і Гаркавы, працавалі ў той дзень у асобным куточку. Абодва стаялі на перамычках.

Гаркавы быў такі сур'ёзна-задумлівы, хмара ляжала на яго спушчаных акулярах. Дрыжэла вялікая кельня ў руках. Яго голыя плечы моцна моршчыліся. Як галодны мядзведзь, стаяў ён над сваёй вялікай скрыняй „масы" і пляскаў вялікімі запечанымі кавалкамі па сцяне.

Монча Бураўчык выглядаў вялікай тлеючай галавешкай. Спрытна так шкробаў ён, ціха так моргалі яго спацелыя вочы. На яго схудалых плячах збегліся маршчакі, нібы хтосці абматаў яго вяроўкамі. Ніхто з нас не ведаў, што адбываецца паміж імі. Мы не ведалі, што яны ўмовіліся паміж сабою:

— Хто выйграе спаборніцтва, той ажэніцца з дзяўчынай.

Увесь дзень яны не перакінуліся ніводным словам. З абодвух сцякала такая светлая, як чыстая крыніца вада.

Кожны з нас быў заклапочаны каля сваёй скрынкі, каля сваёй часткі сцяны. Кожны адчуваў, як бруіцца-пераліваецца кроў у жылах. Пот уласнай працы адчуваў кожны.

Ніхто не падганяў мяне спаборнічаць, самому хочацца спаборнічаць.

Хлопцы з брыгады смяюцца з мяне. Кажуць што я фантазірую, што маёй прыгожай фізіяноміі не да твару фантазіі. Адказваю хлапцам,—што большэвікі маюць багатую фантазію.

Смяюцца хлопцы і я таксама смяюся, і робіцца так салодка, так добра, усё нутро заходзіцца смехам.

Цяпер канчаем якраз апошнюю рату дзённага спаборніцтва. Нашы чаны пусцеюць. Чэрпаем дайніцамі густую апошнюю смятану заліўкі. А сонца яшчэ так моцна грэе, за спіной стаіць яно і здаецца, сонца палохаецца нас. Калоціцца такая агністая штука і пырскае цеплынёю. Улагоджвае нас сонца, песціць, аблівае бронзай нашы целы. Яно асмуглявіла нас, як добры мармур. Мы зрабіліся падобнымі да помнікаў. Самы прыгожы помнік—гэта наш стары інструктар—Хема Маляўскі.

Ён так шчыльна прытуліўся да нас і вочы яго сочаць за кожным рухам нашай рукі. На кожную цагліну падае яго позірк і замуроўваецца ў сцяну. Ён не адстае ад нас у спаборніцтве. Ён варушыцца так павольна, але імпэтна падаюць цагліны пад яго кароткімі рукамі.

Ён ціха спявае. Белая барodка прамяніцца. Пырскі вапны дрыжаць на яго вузкім лобе. Голас яго чутны ўсё слабей і слабей, але мацней свецяцца яго блізкія, густыя вочы.

* * *

За лета мы на шмат выраслі. Сталі такімі вялікімі, сур'ёзнымі. Нашы твары пасмуглелі, пачарнелі. Рукі зрабіліся такімі вільготнымі, пружыністымі. Будоўля паднялася ў тры разы вышэй. Кожны дзень

падрастаем на шмат пластоў. Во-во залезем высока ў неба—неба блізка ад нас, як зямля, у воблачнай вострай лазуры адлюстроўваюцца нашы загарэлыя целы. У хмарах відаць, як мы муруем. Вось мы выглядаем маленькімі вавучанятамі, вось—калматымі мядзведзікамі, а вось, як сланы, цяжка нагружаныя.

Вышэй за нас усіх вырас Монча Бураўчык. Ён стаў падобным да негра, востра блішчэў рот белых зубоў, у самкненых маршчынах на лобе ўлегліся яго дзевятнаццаць гадоў.

Гаркавы зрабіўся яшчэ больш панурым, апушчаным.

Не было часу многа баламуціць з Гаркавым. Мы гналі ўсё бліжэй і бліжэй да карнізаў. Зранку да вечара не змаўкае гул галасоў і свіргатанне тачак на будоўлі. Гучна тупаюць ногі насільшчыкаў на штагах. Штагі гушкаюць на сабе насільшчыкаў з нагружанымі козламі на плячах і мы купаемся ў жоўтым пыле.

Зараз во зараз возьмемся муравацъ высокую фабрычную трубу. Уяўляем сабе, як прыгожа і слаўна будзе назіраць навакол гэта высокая стройная махіна. Кудлы дыма ўскруццяцца ў неба, як вялікія птахі, расплывуцца ў паветры, расцякуцца, запахне дымам, мазутам, каменным вугалем.

На далёкім гарызонце палахліва закалышуцца тры маладыя сасонкі. Стары дуб хрусне і прыкладзе вуха да долу. З зямлі хлыне гарачая, срэбная крыніца, кавалкі залатога агню выкіне з сябе зямля. Абноўленымі будзем крочыць сваімі здаровымі нагамі па нашай зямлі. Моцна загучаць нашы цвёрдыя падэшвы. У цёплай расе зямлі намокнуць нашыя ногі, у срэбных крыніцах апалошчуцца нашы целы.

Мы будзем крочыць і крочыць, сігаць і сігаць, за намі будуць сунуцца сілуэты цяжкіх, сканаўшых дзён, мы ўспомнім свае босыя ногі, якія ступалі па куслівай вапне. Мы ўспомнім свае галодныя раты, якія смакавалі худую фашырку. Спакойна пазіралі нашы вочы сонцу ў твар, у сонечных кастрах гарэлі нашы непакрытыя галовы.

Мы помнім сваіх бацькоў і братоў, згарэўшых у полымі каля геройскага Перакопа, нашы худыя матулі стаялі заплаканыя на шляхах і выглядвалі сваіх сыноў.

Раслі мы дробныя, засмяглыя. Ніхто не калыхаў нашых калысак. Самі сабой гушкаліся нашы калысачкі і кідаліся, як кавалачкі болю.

Мы раслі і раслі, і вось мы—вялікія, гляньце, якія мы вялікія, якія высокія. Мы мераемся кожны дзень, спаборнічаем на рост. Вышэй будоўлі хочам вырасці. Моцны фундамент змураваны пад нагамі.

І лета ўжо ўцякае. Высока над горадам узвысіліся мы. Адыходзяць апошнія дні кастрычніка. Дні яшчэ даволі гарачыя. Вечары робяцца халаднаватымі, пругкімі.

Ужо два тыдні як мы працуем вечарамі і выхаднымі днямі. Да Кастрычніцкага свята павінны быць закончаны сцены. У прадсвяточныя вечары адчуваем смутак, любы смутак сціскае сэрца. Сумуеш, і сам не ведаеш чаго.

Монча і Гаркавы сумуюць больш за ўсіх.

Гаркавы маўчыць. Відаць, як крышацца кавалачкі жывых праменняў пад яго рукамі, вялікія чырвоныя плямы адлюстроўваюцца ў яго акулярах. Цэмент на кельні зрабіўся сіня-жоўтым. Ён падобны на густую, запечаную фарбу. Чырванейшай робіцца цэгла, як вялікія пліткі золата, кладзецца яна на сцяну. У сінім дыме палошчыцца будоўля ў вечары. Ланцуг запаленых лямпачак аздабляе голае, дужае цела будоўлі.

На высокай пірамідзе працуе брыгада ў глыбокі кастрычніцкі вечар. Вось ківаецца каля нас старэнькі інструктар, яго зарослая галава

ківаецца, як вялікі кавалак радасці. Сыплюцца стружкі сівых валаскоў на яго пакамечаны пінжак.

— Хема,—кажам да яго.—Бацька, прыляж на хвіліначку,—упрашваем яго, але ён не слухае нас, нічога нам не адказвае, чуем толькі, як хрумсціць шчэбень пад яго худым малаточкам. Русымі агнямі праменяцца абапал яго скалкі.

За апошні час ён зусім змяніўся, наш стары інструктар. Ён зрабіўся белым, як дзень, заклапочаным, як ноч, яго малыя цвёрдыя рукі трасуцца.

Але сёння ўдзень ён сказаў, гледзячы на далёкія шпіцы гарадскіх камяніц:

— Сёння мне стукнула семдзесят год, дзівачкі,—і змахнуў кветку сівых валасоў з пафарбаванага пінжака.

— Семдзесят год, як адзін дзень.

Неяк дзіўна пазіралі мы на нашага інструктара, і на падаючыя сівыя стружкі яго барады. Нам здавалася, што ён кпіць з нас, бо нам ён здаваўся зусім маладым. Яго густыя вочы так глыбока пазіраюць на нас, толькі колеры мяняюцца ў зялёных водблісках вачэй.

— На пенсію,—кажам,—пераходзь. Саюз будаўнікоў даўно вызначыў яму пенсію.

Яму хочацца завяршыць яшчэ з намі будоўлю. Яму хочацца выпусціць нас з вялікімі разрадамі. Каб мы вышлі кваліфікаванымі, са спрытнымі рукамі сапраўдных будаўнікоў.

І калі запаляецца вечар і на нашых тварах гаснуць вочы ад завялікага святла, мы чуем, як інструктар ціха гаворыць нам сваім хрыпаватым голасам.

— Мая дачушка ўключыла ўжо ток...

Яшчэ мацней праменіцца святло ў нашых вачах. Смутак і мары кранулі скронь, павеялі ў сэрцы, і нам здаецца, што ў дроціку электрычнай лямпкі люструецца дзяўчынін твар. Замроеныя вочы пазіраюць на нас так спакусліва-востра, рукі мяккія, дзявочыя паварочваюць рубільнікаву ручку, і запальваюцца новыя агні, усходзяць крыніцы новага святла, разгараецца свет і мы таксама гарым.

— Агні! Агні! Агні!—іскры апякаюць рукі. Распрыскваюцца пылам пад горадам.

Асветлены горад прывабна-прыгожы. Недзе чакае дзяўчына ў гарадскім скверы, але сёння мы не можам бачыцца з ёю. Заўтра спытаем яе. І нам балюча, што мы не можам пабачыць яе сёння. Напэўна сумуе, маладое дзявочае сэрца. Вось мы пазіраем на яе, а яна не бачыць нас. Саграваем яе сэрца сваім позіркам. Нашы галасы ўзбуджаюць у ёй гарачыя пачуцці.

Пругкая ноч прыслухоўваецца да сталёвага звону нашых кельняў, з нашых скрынак усходзіць рудовая фарба да самага неба, так празрыста, так высока.

Замешваю сваю цвёрдую скрынку цэмента. Мая маленькая рыдлёвачка усмокваецца кваснай масай, гарачая вапна хлюпоча і бульбоча крышталёвымі бурбалкамі. У скрынцы неяк трашчыць, і здаецца, што за сцяной хтосці пырскае агнём. Пячэ спіну нейкая жалезная іскра.

Поўначы я замураваў ужо. Апоўначы сціх шум гораду. Сур'ёзна, задумліва пазірае на цябе паўночны свет, жмені зор сыплюцца на плечы.

Слухайце, як узрадавана ноч сама сабою. Ціха так хлюпае гарачая вапна ў глыбокай вапеннай яме. Паволі сплюшчваюцца вочы. І мая галава туліцца і застаецца ляжаць на халодных цэглах сцяны...

...дзесці, на маёй радзіме на Палессі, каля хмызняку, каля невялічкай рэчкі, разлеглася маленькае мястэчка. У тым мястэчку, у хатцы малень-

кай, пахне смалой, размоклай скурай, сыроваткай. Каля нізкага, малога варштату сядзіць мой чарнявы бацька згорблены, убівае цвікі танклявым малаточкам. Міргае маленькі курнічак пад яго вострай, чорнай барадой і закурвае яго мутнай сажай.

Мая матуля, сівая, мястачковая набожніца згорблена сядзіць на пяколку, і дратуе гліняны гаршчок. Мая сястрычка Генька, рыжая свавольніца, пазірае на печы абыякава і завучвае верш.

„Калі будзе, як там кажуць, добра на ўсім свеце.“

А ў коміне гудзе востры вецер, завывае злосна і густа. Па вокнах срэбнымі далонямі пляскае мароз. Ён скаваў малое мястэчка. Ноч, змёрзлая белая ластаўка, распасцёрла сваё крылле над мястэчкам.

Але трымцяць пад мястэчкам тэлеграфныя драты, змёрзлыя струны так холадна брумкаюць.

Бацька задрамаў ужо каля нізкага варштату. Маці заснула, седзячы на пяколку. Сястрычка Генька змоўкла на печы. Схуднелая муха згаладала зумкала яшчэ ў цёплай ямцы запечку.

Усё мацней і гусцей гудзелі тэлеграфныя драты. Трашчэў мароз ў струхнелых бярвеннях нашай нізенькай, маленькай хаціны.

* * *

Чарнявы бацька заўсёды стаіць перад маімі вачыма. Адчуваю юхтавы пах яго доўгіх счарнелых рук. Сваю матулю бачу заўсёды, як у сне. Яе набожна зморшчаны твар нагадвае мне шмат аб чым. Яна плакала матуля, калі я развітаўся з ёю, яна угаварвала мяне, каб я нікуды не з'ехаў, гарачыя крыштальныя слёзы сыпаліся мне на грудзі, калі яна туліла свой цёплы рот да майго юнацкага твару.

Мой бацька не плакаў. Ён ціха сядзеў ля варштату і пазіраў на мяне згаслымі вачыма. Бот, транта, ссунуўся з яго кален і зломанае шыла засталося тырчаць у яго пальцах, яго маленькая вострая бародка журботна задумалася.

Толькі рыжая сястрычка Генька пазірала на мяне такімі срэбнымі вачаняткамі і ў тысячны раз паўтарала мне:

— Каб я прыслаў ёй піонерскі значок і кніжкі, у якіх многа-многа Ленінаў.

Вясновы вечар узышоў над мястэчкам. Зрэдку дыміліся мястэчковыя коміны. Аганёк, кветка, бліскаў дзе-ні-дзе ў глыбіне, сімпатычны мястэчковы месяц узышоў высока ў небе, як вялікая зара сярод драбнюсенькіх зорачак.

Гнаўся мястэчковы месяц за гарачым цягнікам. На шыбы вагонаў сыпаліся, як моль, згаслыя знічкі. Мітусіліся у ваччу грузкія палесскія тракты, палескія лясы ўцякалі, знікалі. Вецер ад цягніка перарэзваў лясы, часаў іхныя грывы і калаціліся голыя вясновыя веткі.

* * *

Памёр наш інструктар Хема Маляўскі. Раптоўна так памёр. Я ніколі не бачыў, як чалавек памірае. Мне здаецца, што я ніколі не памру— як гэта чалавек бярэ ды памірае?

Мы ў дзесяцёх прышлі наведаць яго, да глыбокай ночы мы гутарылі з ім. Яго голас усё слабеў і слабеў. Слабым голасам ён прасіў, каб мы расказвалі яму навіны. Мы расказалі яму апошнія падзеі на свеце, мы гаварылі яму пра новыя, адчыненыя нафтавыя крыніцы на Каўказе, пра новыя залатыя россыпы на Урале.

Нам здавалася, што ён распытвае і не слухае нас. Маленькая жменька яго бародкі пазірала на нас такая белая, добрая. З роту ўз-

дымалася такая рэдкая пара. Такімі белазорымі добрымі вачыма ён пазіраў на нас і распытваўся, ці не сварымся мы. Ён сказаў, што гэтымі днямі прыдзе на работу, каб мы хоць не сапсавалі яго грунтвагі. Пільнавалі яго кельню і малаток, якія засталіся ляжаць пад яго скрынкай. Нам здавалася, што ён не гаворыць, а блузніць. Блішчэў бледны пот на яго вузкім лобе. Яго твар, прадаўгавата слабы, меў выгляд сасмяглага, далёка над коўдрай раскінуліся яго сухія рукі, дрыжэлі белыя кончыкі пальцаў.

Мы стаялі, як скамянелыя наўкола, як дзесяць статуй стаялі мы вакол ложка.

Разгублена мітусілася сярод нас бабулька, сівая галубка з мокрым рушніком у руцэ. Яна не знаходзіла сабе месца. Неяк дзіўна аглядала нас. Глыбока, журботна пазіралі на нас яе вочы. Не вочы пазіралі на нас, а буйныя цмяныя слёзы. Кожная сляза нібы гаварыла і давала нам зразумець:

— Чалавек памірае. Дзеці, чаго стаіцё?

Мы стаялі такія збянтэжаныя, не ведалі, што гаварыць, мы таксама не ведалі за што хапіцца, месца сабе не знаходзілі.

— Ці-ж гэта наш любы інструктар, Хема Маляўскі?—не пазнаем нашага інструктара. Не, мы хочам, каб наш інструктар жыў, каб наш добры інструктар ніколі не памёр, мы хочам сказаць яму, уставайце, Хема, папраўляйцеся! Хадзем з намі, мы канчаем будоўлю—гэта-ж хутка свята, калі прышло жыццё, нельга паміраць. Хочам сказаць яму і не кажам. Мы не верым, каб наш інструктар назаўсёды сплюшчыў вочы, мы азіраемся на куточкі доўгага вузкага пакою, хочам запытацца:

— Дарагі інструктар, дзе дачка, якую ты абяцаў нам. Пакажы нам дачку, пра якую расказваў. Дзе твая Асінька, хай яна запаліць зіхатлівыя аганькі, хай пасвятлее, хай павесялее.

І нам хочацца сказаць—Хема Маляўскі, інструктар наш—вось мы тут усе, выбяры самага лепшага, прыгажэйшага, дужэйшага, ударніка сярод нас і вазьмі для дачкі.

А ў скронь дзюбнула думка:

„Ён, мабыць, абдурыў нас, інструктар, у яго, відаць, зусім няма дачкі. Шукаем па кутках і не бачым дзяўчыны. На сцяне толькі сукенка ў кветках. Хустка калышацца на вешалцы і трасе даўгімі бryндзлямі, з рамкі на сцяне пазірае дарагая Крупская. Побач старэнькая Клара Цэткін.

Дык дзе-ж яго дачка? Ён-жа абяцаў аднаго з нас узяць за зяця. І нам хочацца крыкнуць:

— Ай, інструктар, ты абдурыў нас!

Але цяпер мы не можам крычаць, неяк сціснулася сэрца і зусім хочацца плакаць.

Гэта-ж памірае наш добры інструктар. Мы не дапусцім, каб ён памёр, сцены разбурым, горы накрышым.

Вось ён пазірае на нас гэткімі далёкімі вачыма, і здаецца, што яму робіцца лягчэй, калі пазірае на нас. Як перад прыгожым сном сплюшчваюцца яго вочы і расплюшчваюцца зноў. Пякучая, васковая кропачка мільгаецца у зрэнках і расцякаецца жаўцістай плямкай. Яго засмяглы твар скамянеў на высокай падушцы, абцягнутай шэрай навалачкай. Ён штосці гаворыць да нас, але мы не чуем, што ён гаворыць. Монча Бураўчык схіліўся да падушкі і коратка ўздыхнуў у сябе некалькі хрыплых слоў—б-б-будзьце людзьм-м-мі, дзетачкі-і-і...

Дзесяць жывых статуй стаялі вакол. Далёка за поўнач гэта было, калі на ложку ўздрыганулася доўгае цела. На блізкім акне затрэслася фіранка, адзіная, электрычная лямпа то запалялася, то гасла, з нізенькай шафкі каля ложка скацілася бутля і дзынкнула на падлозе. Як вялізная

рана разлілася зялёная мікстура, востры пах лекарства узвіўся дымком.

Глыбокая ноч на дварэ. Дзесці дазвоньвае трамвай. Гудок злосна і востра завыў над горадам.

На адным канцы горада згасла палова зорак і палова электрычных аганькоў. Другі канец горада яшчэ ярчэй асвятліўся, зіхацеў.

У тым канцы горада, які палыхаў, мы стаялі глыбокай кастрычніцкай ноччу. Новая бліскучая зорка запалілася над нашай галавой. Як прыкутыя стаялі мы вакол высокага паркану, які абняў прамяністую пяціпавярховую камяніцу, будынак са штрабамі і сходцамі, якія вялі ў далёкае неба. Пры бледным святле электрычных лямпачак будынак выглядаў незакончаным помнікам. У адкрытых вачах запаляліся іскры. Чырвоная цэгла адкідвала ад сябе жоўтыя цені.

Увесь свет здаваўся нам вялізным адлітым помнікам. Увесь свет высечаны з каменя. І вось, на вострым камені вырэзваюцца вялікія галовы і імёны людзей. І вось прыбыла новая галава. На чорным мармуры запалыхала новае імя.

Пругкая, халодная ноч заціснула нас з усіх бакоў, апошняя ноч Кастрычніцкіх свят. Далёка над горадам пераліваўся чырвонымі колерамі новы, узняты сцяг. Нам здавалася, што дзесці далёка пераліваюцца поўныя каўшы смутку і радасці.

Смутак з аднаго боку, як зафлягмлены гарбуль—радасць з другога боку, як светлае дзіцё.

Аскепак радасці дзюбаў скронь. Аскепак смутку ляжаў на сэрцы.

— Тут памёр наш стары інструктар Хема Маляўскі,—не, не можа быць. Наш стары інструктар не хацеў паміраць, але ён памёр. Мы асыплем яго светлым пясочкам, прыгожыя травы вырастуць на яго магіле. У кастрычніцкія дні, перад святам будзем начаваць пад цяністымі дрэвамі. Тады мы будзем ужо бацькамі, дык прынясем з сабою сваіх светлых дзетак на руках—сваю светлую будучыню прынясем.

— Вось мы, вось наша маладосць. Вось наша будучыня. Ты таксама маеш частку ў нашай маладосці. Ты будаваў з намі будучыню.

— Дык спі спакойна, наш светлы ударнік. Прыгожы помнік з бронзы і мармуру паставім табе.

Глыбокая ноч пазірала на нас так асляпляюча-востра. У глыбокай начы мы выглядалі, як дзесяць схіленых ціхіх статуй.

Увесь свет выглядаў каменным помнікам, увесь горад—крэпасцю.

Вечным, няўміручым помнікам запрамянілася над горадам наша радасная маладосць.

*З яўрэйскае мовы*
*пераклаў Ізраіль Плаўнік.*

ВАСІЛЬ КАВАЛЬ

# НОЧ НА МОРЫ

1

Вечар звінеў ад цыкад. У гарах стаяў неясны гул, нібы недзе далёка рушыліся абвалы. Край блакітнага неба над морам на захадзе вогненна палымнеў. Пахла кіпарысамі і магноліяй.

Высока ўгары, над морам, у доме адпачынку раптам парушылі цішыню маладыя галасы, нястройная песня, гукі музыкі і смех.

У гарах адклікнулася рэха.

Вярнуліся з мора, з экскурсій у горы насельнікі дома. Частка адпачываючых заўтра пакідае дом і раз'яжджаюцца ў розныя канцы краіны. Іх апошні вечар у гарах. Пяцёра студэнтаў, комсамольцаў, самых маладых у доме таксама ад'яжджаюць. Заўтра разлучаюцца таварышы—высокі з чорным чубам Федзя Чабан, стройны, да чарнаты апаленым горным сонцам, адыгеец Эдазі, востраносы, у рагавых акулярах, жартаўнік Джэк Сёмачкін, плячысты, з круглым дабрадушным тварам Ілюша Воранаў і белакурая слаўная сінявокая дзяўчына, якую звалі Наташай...

Наташа прыехала на Каўказ з далёкага раўніннага краю. У першы раз бачыла яна мора і тутэйшае, гэтакае блакітнае неба, і валакністыя пухавыя хмары, што хадзілі ніжэй за гор з снегавымі шапкамі... Яна ўмела добра плаваць і смела ўлазіла на высокія скалы...

Зараз яны, пяцера, сядзелі на лавачцы, пад лісцямі банана, скончылі спяваць, гаварылі аб дружбе і ў апошні раз успаміналі ўсе здарэнні, якія адбыліся з імі за месяц жыцця ў гарах.

Брыгада моладзі была неразлучнай. На парусной лодцы пад камандай Ілюшы, які некалі плаваў у акіяне на рыбацкай шхуне, яны заплывалі далёка ў мора. Яны вандравалі ў гарах па жывапісных перавалах. З вялікай труднасцю і адвагай узбіраліся на цёмныя, абросшыя векавым дубам вяршыны гор, якія ўпіраліся ў неба. Бачылі Арліныя скалы, вадаспады, лекавыя крыніцы, што білі з гор і шумна сцякалі ў даліны рэк. Іх часта падсцерагала небяспека... За тое яны дыхалі горным паветрам, пілі ваду з крыніц, былі радаснымі, а тыя маленькія непрыемнасці, якія адбываліся з імі ў дарозе, на другі дзень забываліся.

— А помніце, рэбята,—задуменна сказала Наташа,—як мы начавалі ў гарах?..

І гэта ўспомнілі, усё да дробязяй.

Аднаго разу яны зайшлі далёка ў горы, заблудзіліся, ім давялося заначаваць. У халоднай туманнай цемені яны хуталіся ў сваю лёгкую вопратку, стараліся сагрэцца, але холад ледзянымі калючкамі праймаў цела. Потым з адсырэўшых галінак ледзве расклалі вогнішча і сталі саграваццца. Тады недзе недалёка ў гарах завылі шакалы, вылі тонка і працяжна, нібы плакала малое дзіця...

— Глупства!—сказаў тады гарачы Эдазі, каб парушыць цяжкае маўчанне.—Джэк, расказвай што-небудзь вясёлае...

І пад завыванне шакалаў і крык начных птушак, яны расказвалі па чарзе, а за іхнымі спінамі сядзела лахматая цемень і настарожана слухала іх. Сагрэўшыся, заснулі на золаку, зноў прачнуліся, было нудна і холадна, чакалі ўзыходу сонца. Скора сонца ўзышло ў срабрыстым бляску, праменні прарэзалі туманы і раптам ярка асвятлілі вяршыны гары.

— Добры дзень, сонца!—крыкнула Наташа. Цяпер гайда ў дарогу. І ўсім стала весела і праведзеная ноч здалася лёгкай.

— Чакайце,—сказаў сур'ёзна і нібы патаемна Федзя Чабан.—Уважліва паглядзіце вось у гэтую пячору...

Усе разам нахіліліся над пячорай. Паміж скал, непадалёк ад таго месца, дзе яны начавалі, відаць было агромнае цёмнае жарало. Адтуль веяла нейкім старадаўнім, сырым халодным ветрам.

— Тут па ўсіх адзнаках,—углядаючыся ў абломак светла-шэрага каменя, сказаў Федзя,—кратар патухшага вулкана... Некалі тут было мора... Уявіце сабе, як некалькі соцень вякоў таму, тут выбухнула мора і з якім аглушаючым грукатам і свістам вылятаці тут падземныя газы!.. Гэтакая сілішча! Зараз ад выбуха засталіся толькі вулканічныя пароды ды абломкі вось гэтага светла-шэрага плітняка... Здорава, га?

Усе моўчкі пераглянуліся.

— Значыць мы начавалі на кратары патухшага вулкана?!.

— Шчасце маё,—хітравата ўсміхаючыся і выціраючы потныя акуляры, сказаў Джэк:—шчасце маё, што я начаваў тут зараз, а не сотню вякоў таму назад...

Яны рушылі ў дарогу, падтрымліваючы адзін аднаго, па скалах спусціліся да вадаспада, дзе вада кіпела, нібы ў катле, з шумам плёскалася і разбівалася каскадамі пырскаў...

— Слаўна было,—прамовіла Наташа.—Давайце яшчэ прыдзем і пойдзем разам у горы, і паедзем па моры. Пойдзем, Федзя?..

— Не ведаю... Паглядзім...—панура адказаў Федзя, запальваючы папіроску. Ну вядома, паедзем...

Тады Джэк трошкі ўрачыста загаварыў:

— Уласна кажучы, таварышы, сёння надзвычайны вечар... Месяц свеціць і мора гарыць, як у д'яблавым пекле... Мы маглі-б і сёння ў наш апошні вечар, чорт пабяры праехаць у мора. Як вы мяркуеце?.. Як не паехаць, ды яшчэ ў апошні вечар?

— Едзем, едзем, таварышы! Едзем!..

— Толькі чур, рэбята,—усхвалёвана папярэдзіла Наташа—ехаць дык з песнямі, не апускаць насы. Спяваць дык так, каб аж у гарах грымела!

— Брава, ластаўка!—крыкнуў Эдазі, захлопаўшы ў далоні.—Хочаш, я цябе пацалую за гэта?..

— Можна,—усміхнулася Наташа.—Толькі адзін раз, лёганька і ў шчаку... Ну, досыць... Ух, які ты нязграбны!..

Эдазі заскакаў, як віхор закружыў лёгкую Наташу.

— Ластаўка, любі мяне! Чаму ты мяне не любіш? Скажы адно слова і я кінуся на дно мора і дастану табе. Ну, што табе дастаць з дна мора?

— Ракушку,—гучна ўсміхнулася Наташа.

— Добра, будзем спяваць, будзем гуляць, а прыдзе смерць—будзем паміраць... Ух як слаўна, ластаўка, жыць!

— Слаўны ты хлопец, Эдазі,—пахваліла Наташа.

— Я—вясёлы, таму і слаўны,—з гонарам адказаў Эдазі, выпрастаўшы стройны стан і прыгожую кучаравую галаву.—А вось Федзя нудны, як мядзведзь... За гэта і яго дзяўчата не кахаюць...

— Не балбачы,—панура адказаў Федзя: сёння ён быў зусім не ў настроі.

— Гайда на мора!—прапанаваў Джэк, звяртаючыся да Ілюшы.— Вядзі нас, адважны наш капітан, на буры і штормы...

Ілюша моўчкі усміхнуўся: ён быў маўчальнік, гэты Ілюша. Ён і Джэк пайшлі ўперадзе. Наташа ўзяла панурага Федзю пад руку.

— Пойдзем, Федзя... Ды ты нешта сёння і сапраўды, як той мядзведзь...

Федзя адчуваў цяплыню крутога локця яе маленькай рукі, бачыў яе русыя кудзеркі пад зялёнай вязанай шапачкай, яе вочы незвычайнай сіняві.

— Наташа, мне трэба з табой пагаварыць...—Яна акінула яго дужую постаць цёплым позіркам і шчыльней прыціснула свой локаць...

— Мы, Наташа, заўтра ад'яжджаем...

— Але-ж,—досыць весела праказала яна: ёй раптам успомніўся свой горад, маці, яе падругі...

Федзя маўчаў.

Ішлі ўніз к мору вузкай сцежкаю. Наташа чаплялася сукенкаю за шырачэзнае лісце бананаў, асцярожна расхінула іх рукою і лісце уступала ім дарогу і ціха шуршэла наўздагон, пасылаючы прывітанне ў дарогу.

Не даходзячы да прыстані, яны спыніліся на каменьчыках, некалі дзівосна абрачоных морам. Ужо густая цемра лягла на зямлі. Месяц вышаў поўны і яркі.

„Я зараз-жа павінен усё сказаць ёй“—думаў Федзя—і маўчаў. „Яна і сама, напэўна, усё разумее“... І яны стаялі моўчкі, трымаючыся за рукі і пальцы вялікай Федзінай рукі злёгку дрыжэлі...

— Глядзі, як мора гарыць!—здзіўлена і задуменна праказала Наташа...

— Гарыць—паўтарыў Федзя і раптам яму дзіка, горача захацелася схапіць у абдымкі гэтую лёгкую сінявокую дзяўчыну, цалаваць яе многа разоў, шаптаць яе імя, называць сваёй дарагой, белакрылай ластаўкай...

— Эге-гей!—закрычаў з берага Эдазі.—Лодка гатова!

Наташа гарэзна крыкнула—„даганяй“!—і нехаця, але шпарка пабегла да прыстані, быццам уцякаючы ад свайго жаданага шчасця...

## 2

Мора гарэла агнямі самацветаў. Ляжала яно спакойнае, як сыты ласкавы звер. Яго хвалі з шумам і звонам набягалі на пясчаны бераг і разбіваліся пенай і пырскамі.

Рассякаючы ваду, прасторная лодка з шумам адплыла. Ціхі вецер зашастаў туга нацянутым парусам.

— Пайшлі!—загадаў Ілюша Воранаў і дабрадушны твар яго стаў суровым: ён успомніў, як хлапчуком, калі яшчэ не вучыўся ў гідратэчнічным інстытуце, выходзіў на Ціхім акіяне разам з бацькам на рыбацкай шхуне; успомніў ветры, штормы, небяспеку: мора патрабавала суровасці і адвагі.

Праўда, зараз не прадбачылася небяспекі. Мора спакойнае, таемна перашэптваюцца хвалі, мігцяць зоры і на беразе гараць аганькі...

Ілюша стаяў на карме, за Наташай і Федзяй, насупраць размясціліся Эдазі і Джэк...

Плылі...

Джэк адкашляўся, паправіў на носе акуляры і тоненькім тэнарком зацягнуў вясёлую дрындушку. Яму дапамог Эдазі. Астатнія смяяліся і хлопалі ў далоні.

Ну і жартаўнік, гэты Джэк!

Плылі... Лодка паціху, у тахт, хісталася і ўсё далей адыходзіла ў мора. Мора срабрылася і гарэла, а з вышыні мігацелі буйныя і частыя зоры...

— Ластаўка, ты спявай,—папрасіў Эдазі, дакрануўшыся да яе пляча,— спявай тую песню, што ты нядаўна спявала...

І Наташа ціханька-ціханька заспявала высокім голасам, у якім было многа пачуцця і шчырасці:

„Расці, мая рэспубліка,
Расці савецкі Край...

Песню адразу падхапілі вышэй Эдазі і Федзя буйнымі галасамі, у якіх было многа сілы і размаху:

„Як маладасць магутная,
Жыві і расцвітай!..

Спявалі... Мінорна-радасная песня аб савецкай краіне, аб маладосці, аб мужнасці плыла над морам і хвалі ўторылі ёй ціхім плёскам і ў туга нацягнутым парусе гуляў вольны вецер. І сам вецер нібы спяваў пра юнацтва, якое ідзе на штурмы.

Спявалі... і песня ўсё больш расла і Наташа бачыла, што песня усіх захапіла: спявалі ўсе сур'ёзна і строга. Некуды сэрца ірвалася ў сінія прасторы, хацелася не то смяяцца, не то салодка марыць, хацелася гаварыць суседу гэткія ласкавыя інтымныя словы, якія не часта знойдзеш, а якія самі прыходзяць толькі вось у такую хвіліну. Тады сэрца напаўняецца аграмаднай невыказанай радасцю і шчасцем.

У Наташыных вачах заўважыў Федзя цёплы іскрысты бляск і толькі ў гэтую хвіліну зразумеў, чаму ён нічога не мог сказаць ёй там, на беразе: апрача жадання патрэбны былі незвычайныя словы.

Федзю прыпомнілася, як аднаго разу ў садзе ён выпадкова бачыў: Джэк груба схапіў Наташу ў абдымкі, нешта шаптаў ёй. Наташа з сілай адштурхнула яго, крыкнула: „Чуеш, каб гэтага больш ніколі не было“! Пайшла ад яго строгая і гордая, такая, якой да таго ён ніколі не бачыў...“

„Я павінен сказаць ёй заўтра,—думаў Федзя.

Плылі і спявалі... Непрыкметна адплывалі ўсё далей ад берага... Стаяў туман. Станавілася золка і тады ўсе пашкадавалі, што не апрануліся цяплей.

Федзя паглядзеў на ручны гадзіннік: было роўна дванаццаць. На прыстані з-за тумана ледзве прыметна мігаў аганёк.

На павароце лодка пахіснулася. Джэк спалохана і з вясёлым крыкам падскочыў, і лодка яшчэ больш захісталася. Белагрывая цяжкая хваля перакінулася праз яе край. Ілюша загадаў выліць ваду. Эдазі стаў выліваць банкай ад кансерваў, але вада чамусці зусім не змяншалася. Ілюша неспакойна агледзеў лодку. На карме была шчыліна,—лодка прапушчала ваду. Ілюша акуратна агледзеў яе і трывожна паведаміў, што шчыліну зараз нельга заладзіць. Тады ўсе моўчкі зразумелі сваю памылку: выпраўляючыся ў мора, яны былі настолькі ўзрушаны, што не агледзелі як след лодку.

Федзя і Эдазі пачалі выліваць ваду шапкамі. Наташа зняла з нагі свой мокры чаравік і таксама пачала выліваць. Працавалі моўчкі, спяшаючыся, з дзікім азартам.

Раптам Ілюша сярдзіта заўважыў Джэку:

— А ты што-ж не выліваеш ваду?

Джэк спалоханымі вачыма з-пад ілба паглядзеў на ўсіх і адразу-ж пачаў спешна і незграбна здымаць з нагі новенькі бацінак.

—Што-ж будзе? Мы можам...—прашаптаў ён, заікаючыся і яму не даў дагаварыць Эдазі:

— Маўчы! Ты, значыць, смелы толькі тады, калі няма небяспекі!...

— Трэба заткнуць шчыліну далоняй...—ціха прамовіў Ілюша.—Тады мы больш пратрымаемся на вадзе...

Федзя скінуў з сябе верхнюю вопратку, апусціўся ў ваду і, трымаючыся адной рукой за карму, далоняй другой моцна прыціснуў шчыліну...

Прайшла хвіліна... другая... Вада ў лодцы не змяншалася... Лодка плыла... Федзя, сцяўшы зубы, напружваў усе сілы. Рукі дранцвелі. Горка-салёная вада пападала скрозь зубы ў рот. Калі ён зусім знямогся, яго змяніў Ілюша. Потым зноў і зноў мяняліся...

Сярод іх запанавала глыбокая трывожная цішыня. Ад гэтай цішыні звінела ў вушах. Яны моўчкі, з тугім напружаннем працавалі, выліваючы ваду. Кожны думаў пра сябе і кожны ведаў, што думае іншы.

А вада ў лодцы ўжо даходзіла да палавіны і ўсё яшчэ па трошку прыбывала і, здавалася, няма надзеі спыніць яе.

Тады Ілюша цвёрдым голасам, такім голасам, якога ніхто не чуў ад яго там, на беразе, прагаварыў:

— Законы мора патрабуюць ад нас вытрымкі і мужнасці... Кожны павінен трымацца да апошняга... Толькі гэта нас можа выратаваць... Нам трэба як мага хутчэй паведаміць на бераг. Ад берага мы знаходзімся ў двух або трох кілометрах...

— Давайце дружна крычаць,—параіла Наташа.— Нас, напэўна, пачуюць...

Пяцера чалавек, на колькі ў кожнага хапала сілы, сталі крычаць:

— Рату-уйце! То-онем!!!

Крычалі адзін раз, пяць, дзесяць разоў і вецер глуха адносіў іхны крык. З берага праз туман мігцеў ім слаба адзінокі аганёк як свечка.

— Нас не пачуюць,—прашаптаў Джэк дрыжачым голасам.

— Адзін з нас,—рашуча сказаў Федзя,—павінен зараз плысці на бераг і паведаміць... Плыву я.

І Федзя стаў зрываць з нагі бацінкі...

— Я паплыву,—горача перабіў яго Эдазі і стаў скідваць з сябе верхнюю вопратку.—Я жыў на моры... Я добра плаваю...

— Паплыву я!—зноў упарта і цвёрда сказаў Федзя...—Няхай скажа Ілюша, каму з нас плысці...

Ілюша паглядзеў на Джэка, калісці вясёлага і жартаўніка і ва ўсёй постаці яго заўважыў маладушнасць, на Наташу і цвёрда сказаў:

— Плыві ты, Эдазі... Федзя павінен застацца тут... За колькі можаш даплысці?

— Не больш гадзіны...

— Плыві...

Эдазі дастаў з кішэні дакументы, грошы і перадаў іх Федзю:

— Тут усё маё... Тут адрас, дзе жывуць мае бацькі...

Ён патупіў вочы, якія гарэлі ліхаманкавым агнём, паціснуў усім рукі, ціха сказаў „бывайце“ і імкліва кінуўся ў мора. Цела яго дыхала адвагаю. Ён плыў шырокімі ўзмахамі рук, выкідваючы ўперад гнуткае цела. Ён усіх заразіў верою—не выдасць, даплыве. З лодкі сачылі за кожным яго рухам. Але за некалькі сажняў ад лодкі Эдазі чамусці спыніўся. Кароткая хваля, асветленая маладзіковым бляскам, пераскочыла праз яго галаву. У гэты момант сэрца ў Ілюшы пахаладзела: ён адзін гэта заўважыў. Праз некалькі секунд Эдазі зноў плыў, але павальней. І хутка марскі туман і цемра зусім праглынулі яго.

— Колькі гадзін?—спытаў Ілюша ў Федзі.

Федзя паслухаў гадзіннік і нічога не адказаў: гадзіннікава сэрца ў вадзе спынілася...

3

Прайшло яшчэ некалькі доўгіх пакутных хвілін пасля таго, як адплыў Эдазі. Вада ў лодцы ўсё прыбывала і ніякая сіла ўжо не магла зараз спыніць яе. Са злым адчаем выбіваліся з сіл Федзя і Ілюша. Яны пакінулі ў лодцы Нагашу і Джэка, а самі плылі за кармою.

Лодка паднялася вышэй. Наташа і Джэк ужо сядзелі па калена ў вадзе. Джэк ціха ўсхліпваў.

— Перастань, Джэк!—Наташа ласкава пагладзіла яго па галаве.— Перастань... Ты не думай пра гэта... Мы яшчэ будзем жыць... многа-многа... многа сонечных дзён... многа шчаслівых год... бо якое-ж гэта шчасце жыць! Я веру, што нас... выратуюць...

Мора перабівала яе задуменна слабы голас. Яно рытмічна і глуха гудзела, паралізуючы волю да жыцця. І наперакор яму дзяўчына, слабая, як трэска ў гэтай стыхіі, гаварыла аб шчасці жыць...

Ішлі секунды, доўгія, як хвіліны і хвіліны, доўгія, як гадзіны. Над імі ляжала цемра. Яны адны былі ў адкрытым цёмным моры—адзінокія, безудзельныя, далёка ад людзей. Зусім нядаўна яны былі поўныя кіпучай жыватворчай радасці.

І ніхто з іх не хацеў думаць пра тое, што з імі можа здарыцца. Але ў кожнага з незвычайнай шпаркасцю праносіліся ў галаве ўрыўкі сваёй маладосці, сваіх гарачых жаданняў.

Калісці яны хадзілі ў горы і горы напаўняліся іхным крыкам і рэха звінела ад кіпучага юнацтва.

Цяпер заставалася адно—змагацца і змагацца да апошняй каплі сілы, сцяўшы зубы, напружыўшы мускулы—і ніколі, ніколі ў свеце не здавацца...

Там, за туманам, на беразе жылі людзі на радаснай любімай зямлі, там шчабяталі птушкі, там звінелі цыкады. Там чалавек абудзіцца на зары і скажа: „жыць! жыць!“ Звеы і птушкі, нават травы будуць цягнуцца да сонца, дрэвы будуць шумець галінамі і чайка будзе крычаць над морам.

Раніцай з усходам сонца ўстане ўся краіна... загудуць заводы, стэпы і лес. Заўтра ў далёкім горадзе Наташына маці будзе пытаць у паштальёна ці няма пісьма ад яе, ад Наташы. Бацька ўвечары вернецца з завода і маці скажа яму аб тым, што нешта доўга не шле пісьма іхняя дачка, іхняя Наташа...

— Рэбяткі, чэснае слова нас яшчэ выратуюць...—зноў загаварыла Наташа, бо маўчаць станавілася страшна.—Ужо напэўна даплыў Эдазі... Вось ужо недзе шукаюць нас... Мне здаецца, што я чую шум і галасы...

— Наташа...—з незвычайнаю ласкаю прашаптаў Федзя.—Мы не здадзімся!

Наташа ўстала на ўвесь рост і доўга ўглядалася ў змрочнае мора. І сапраўды чуўся шум. І далёка вылучалася ў шэрым тумане нейкая белая постаць. І тады ўся яе істота задрыжэла новай радасцю і на колькі было сілы крык яе разлёгся над вадою:

— Рэбяткі! Параход. Мы выратаваны!.. Сюды! Сюды!—махала яна рукою, і ўсе крычалі разам. Але ім толькі здавалася, што яны моцна крычаць; іхныя галасы былі слабымі і танулі ў шумных хвалях. І вось ужо за туманам не стала парахода. А можа не было ніякага парахода. Тады Наташа ў бяссільнай злосці скрозь слёзы закрычала:

— Сволачы!.. не заўважылі... Не пачулі нас!..

У адказ пырскі рассыпаліся дробным смехам і гулам...

У гэты момант лодка, да краёў напоўненая вадою, перакулілася. Крык Джэка павіс у паветры. Яго пальцы сударгава схапіліся за канат.

Федзя падтрымаў левай рукой за плечы Наташу, якая схапілася за перакулены парус, і прашаптаў:

— Не здавайцеся, таварышы...

— Мне холадна...—прахрыпеў Джэк...—Чаму я павінен загінуць? Чаму?

— Маўчы, сволач!—адказаў Ілюша, падтрымліваючы яго за плечы.

— Будзь мужнай, Наташа, як там, у гарах...—горача шаптаў Федзя.— Помніш, як мы з табою хадзілі ў горы? Помніш?..

— Я ўсё помню, Федзя... Мы стаялі з табой на скале... Журчэў ручай... Так было хораша... Федзя!

Глуха гудзела мора. Праходзіла хвіліна за хвілінай.

— Узыйдзе сонца і ўжо не будзе нас...—зноў загаварыла Наташа.— Нас праглыне мора... і ніхто не будзе ведаць... аб чым мы думалі... як мы гарэлі .. як нам хацелася жыць!..

— Наташа, ты сама сказала, што мы будзем жыць... яшчэ многа шчаслівых гадоў... Мы яшчэ прынясем вялікую карысць сваёй краіне...— суцяшаў яе, падтрымліваючы левай рукою за плечы.—Чуеш, нешта шуміць і грукоча...

— Я нічога не чую... Гэта... мора шуміць... Федзя! Мацней абнімі мяне... Мне дужа холадна...

— Эх, Наташа, Наташа!

— А-ай!—прахрыпеў раптам Джэк і страціў прытомнасць; з апошнімі патугамі, з дзікай і злой прагнасцю да жыцця, ён схапіўся зубамі за канат. Ад гэтага енку ва ўсіх прабег па целе калючымі голкамі мароз і стаў ледзяніць пачуцці і свядомасць...

З неба падалі, рассыпаліся апошнія зоры. Знікаў туман і святлела мора.

4

Эдазі плыў...

Ён ужо не памятаў, колькі плыве: яму здавалася, што плыве ён страшэнна многа. У кожным моманце заключалася бяскрайняя вечнасць. Ён быў да шаленства злосны на самога сябе. Некалькі разоў ён упадаў у непрытомнасць. Ад холаду дранцвелі рукі і ногі, але ён плыў і плыў уперад. Яго адно непакоіла: а што калі азызне сэрца, перастане біцца, не хопіць сілы? Але-ж там, ужо зусім блізка, быў бераг, там былі людзі, якія маглі выратаваць яго слаўных таварышоў.

Часта яго пакідалі сілы і тады ён моцна, да болю, сціскаў зубы, на момант заплюшчваў вочы, бачыў перад сабою шэрую імглу і ўсё плыў. І зноў аднекуль уздымаліся новыя сілы і перамагалі слабасць.

Раптам ён адчуў пад нагамі нешта цвёрдае „Зямля"!—пранеслася ў яго галаве.—Значыць, зараз бераг. Значыць, бераг!

Хістаючыся Эдазі вышаў на пясчаны бераг. З яго кашулі сцякала вада. Ісці ён не мог. Ён поўз. Пальцы яго рук сударгава зграбалі пясок. Цяпер ужо ён дапаўзе... Эге, вось і аганёк на прыстані—яркі, залацісты аганёк. Эдазі крыкнуў і сам спалохаўся свайго голасу: гэта быў не крык, а стогн...

... У гарах і ў доме адпачынку чулі ўначы крык з мора. Але ён быў настолькі далёкі і невыразны, што ўсе рашылі, што гэта высока ў гарах выюць шакалы. Пад самую раніцу ў дом адпачынку прышла вестка, што з пяці студэнтаў, якія ў вечары выехалі ў мора, вырата-

ваўся толькі адзін, і што плыў ён да берага не два і не тры кілометры, а на многа больш.

На пошукі астатніх чацвярых адразу—вышаў з прыстані катэр з трыма матросамі ў напрамку, які паказаў ім Эдазі. Катэр імчаў на ўсю сілу, разразаючы суровыя хвалі і прадраніпшнюю цемру. Матросы праз лёгкі вільготны туман пільна ўглядаліся ў прастор мора прызвычаенымі зіркімі вачыма.

Адзін малады белакуры матрос у задуменні прагаварыў:

— Калі яны да гэтага часу яшчэ пратрымаліся, дык мы іх павінны знайсці...

— Усё залежыць ад таго,—сказаў другі,—наколькі ў іх хопіць мужнасці пратрымацца ў тым разбітым карыце...

І трэці пажылы суха і сярдзіта прамармытаў:

— І носяць жа іх чэрці ўначы па моры. Знайшлі гульню, ліха на іх!

— Націскай, хлопцы!—гучна крыкнуў першы.

Шум і пырскі гналіся за катэрам. На тым мейсцы, дзе паказаў Эдазі, лодкі і людзей не знайшлі. Катэр зрабіў некалькі кругоў.

— Туман, каб яму пуста было,—вылаяўся другі матрос,—нічога не відаць.

Малады матрос падаў думку:

— За гэты час, пакуль плыў той хлапец, і людзей і лодку аднесла, канечне, далей у мора. Трэба там шукаць,—ён паказаў рукою ў светлашэрую імглу.

Катэр пайшоў далей. Пакуль ён кружыў, туман паволі разыходзіўся і мора пачынала сінець. Разадраныя хмары тумана паўзлі над морам.

Зусім світала...

У гэты міг адзін з матросаў выразна заўважыў перакуленую лодку і чацвера людзей, якія трымаліся за што папала; адзін з іх, здаецца, заварушыўся, нібы ўзмахваў рукою.

Катэр спыніўся. Матросы з незвычайнай спрытнасцю моўчкі першага падхапілі Джэка і непрытомнага паклалі на дно катэра.

— Я сам,—слабым голасам сказаў Федзя.—Я сам... Дапамажыце ёй...

Тры пары дужых рук падхапілі лёгкую дзяўчыну і паклалі на палубе. Дзяўчына расплюшчыла вочы і зноў заплюшчыла.

Мокрыя пасмы валос закрывалі ёй бледныя шчокі.

— Я сам,—зноў сказаў Федзя, і хістаючыся ўзыйшоў на палубу ў той час, як матросы дапамагалі ўзыходзіць Ілюшу.

— Усё ў парадку,—весела крыкнуў малады матрос.—Вы шчаслівыя! Зараз хутчэй гані на бераг!..

— Мы—шчаслівыя!—падумаў Федзя і смутная ўсмешка, як цень, прапаўзла па яго скрыўленым твары.

Ён стаяў, нахіліўшы галаву і перад вачыма плылі вогненна-шэрыя кругі; ён бачыў пасмы Наташыных валос і яе аголенае, бронзавае ад загару калена.

Потым ён не вытрымаў і паволі апусціўся на раскіданы вугаль. Спачатку яшчэ пахла газаю, вуглем, сырасцю і морам, потым усе пахі і адчуванні зніклі. Прышло глыбокае забыццё...

Іх пабудзілі каля берага. Федзя з невымоўнай гучнай радасцю убачыў бераг і новы дзень, які ярка ірдзеўся ў полымі ўсходу сонца. Потым ён бачыў, як прачыналіся яго таварышы і, нібы нанова народжаныя, глядзелі на дзіўны свет. Потым устала Наташа і шырока расплюшчанымі вільготнымі вачыма паглядзела і яе зірк спыніўся чамусці на звычайным дзікім кусце непадалёк ад берага.

На гэты куст, на тонкую галінку села нейкая маленькая птушка, зачырыкала і загушкалася, як зачараваная жыццём.

Наташа правяла рукою па вачах, нібы прагнала з іх туман, паглядзела на людзей, на шырокія прасторы зямлі, на мора, на горы, на сваіх таварышоў, на матросаў і вінавата і шчасліва ўсміхнулася.

Так яны спаткалі новы дзень.

5

На другі дзень чацвёра з іх пакідалі мора і горы. Заставаўся адзін Джэк. Яны згубілі ў ім таварыша. Джэк нават не прышоў чамусці на станцыю развітацца з імі.

Поезд грымеў, шпарка імчаў берагам мора, праходзіў тунэлі, у далінах паміж гарамі. У гарах, на чортавай вышыні, нібы гнёзды, прыляпіліся хацінкі, а на распаханых палосках расла кукуруза і вінаград

Уся гэтая дзікая і зялёная прырода дыхала гімнам чалавеку і яго бесстрашнай працы. Працоўны чалавек ішоў у горы—і высачэзныя горы грымелі пад яго нагамі. Людзі пабудавалі ў горах чыгункі, тунэлі, гудроны. Людзі з боем бралі горы, як непрыступную цытадэль...

Калі ад‘ехалі ад мора, Эдазі насмешліва памахаў яму на развітанне рукою. Усю дарогу ён быў вясёлым: на кожнай станцыі саскакваў з вагона і бегаў у шумным натоўпе, прыносіў у вагон то яблыкі, то вінаград, то аднойчы прынёс Наташы „напамяць“ цэлы букет кветак. Ён жартаваў з Ілюшам, вырываў у яго з рук кніжку і не даваў чытаць, напамінаў яму пра мінулую ноч на моры:

— Ну, і капітан-жа з цябе!—строіў кпіны Эдазі.—А яшчэ хваліўся, што плаваў на акіяне...

— З мяне такі капітан,—адбіваўся Ілюша,—які з цябе плавец. Ну і плавец! Сказаў—даплыву за гадзіну, а плыў колькі?

— Чакай, у другі раз ты паплывеш...

— І паплыву... А што-ж ты думаеш горш за цябе плаваю...

— Ты? Паплывеш? Добра! У другі раз я наўмысна абярну лодку... Чэснае слова, я давяду, што ты не даплывеш...

Федзя стаяў, высунуўшыся ў адчыненае вакно і, не адрываючыся, глядзеў. Да яго часта падыходзіла Наташа, загаварвала з ім аб розных дробязях і бачыла, як вецер варушыць яго чорны чуб. У гэты міг ёй хацелася жартам растрапаць, раскудлачыць яго валасы, але яго задуменны позірк увесь час стрымліваў яе.

У поўдзень поезд вышаў у бяскрайныя стэповыя прасторы. У гэты час на полі ішла ўборка. Пад гарачым сонцам людзі здымалі багаты ўраджай...

— Скора будзе дождж,—сказала Наташа пасля доўгага маўчання.

І сапраўды на небасхіле пачынала хмарыць. Па стэпу прашугаў віхор і закружыў жмуты саломы. Малады каршак, расправіўшы крыллі, з дзікім клёкатам кружыў над ярам, выглядаючы здабычу; то ён кружыў на адным мейсцы, то каменем падаў уніз. Пачуўся далёкі раскат грому і адразу-ж па стэпу зашугаў дождж і забарабаніў у вокны вагона...

— Адыйдзі ад вакна,—сказала Наташа,—а то змокнеш...

— Нічога,—адказаў Федзя.—Я ўспомніў, што недзе вось тут, у стэпах, у барацьбе з белымі бандамі загінуў мой бацька—горлаўскі шахцёр. Я не ведаю, дзе яго магіла, ды напэўна яе і зусім не было. Можа проста каршун разнёс па стэпу яго косці... Я тады быў зусім малым...

Федзя глыбока зацягнуўся папяроскаю і памаўчаў. Наташа дакранулася да яго рукі.

— Расказвай, Федзя!—ціха папрасіла яна.

— Пасля смерці бацькі я застаўся адзін... Маці памерла яшчэ раней ад катаржнай работы ў шахце. Я стаў жыць у чужых людзей. І ўспамі-

наючы бацьку, я кожны раз даваў сабе клятву: усе сілы аддаць за справу майго бацькі—старога шахцёра, падпольшчыка... Яшчэ хлапчуком пайшоў я ў шахту канагонам...

Поезд праходзіў Данбас... За вакном ляжала маладая магутная краіна. На стэпы наступала жалезнаю хадою індустрыя. Гіганты-заводы гудкамі салютавалі ўпартым і нязломным у сваёй волі людзям маладой краіны.

— Я помню,—гаварыў Федзя,—як комсамольская ячэйка паслала мяне на рабфак:—„Ідзі, сын старога шахцёра Чабана,—сказалі мне, вучыся на інжынера і зноў варочайся да нас". Я вышаў у стэп з пуцёўкай у кішэні. Ішоў дождж, грымела навальніца... Я зняў шапку, мне хацелася спяваць, крычаць і я крычаў: „Я іду! Я дайду! Чуеш, бацька! Гэта я, твой сын, шахцёр, буду інжынерам!.." Пасля таго прайшло шэсць гадоў. Тры гады таму назад, пасля таго, як я скончыў рабфак, я тут быў і не пазнаваў ні заводаў, ні людзей: з кожным годам людзі нанова нараджаюцца, а на пустырах нашай краіны вырастаюць лепшыя ў свеце гіганты...

Федзя ўсміхнуўся, у вачах успыхнулі іскрынкі гонару за ўсё тое роднае, што ён бачыў перад сабою. І Наташа захапілася гэтым гонарам, размахам і веліччу ўсяго, што стварыў яго і яе клас людзей...

— І вось тады, калі на моры здарылася з намі катастрофа—працягваў Федзя,—мне было сорамна і крыўдна, да жудасці не хацелася гінуць такой бязглуздай, нікчэмнай смерцю. Калі я быў малым, мне хацелася загінуць толькі гераічнай смерцю, у барацьбе...

— А зараз як?—запытала Наташа.

— А зараз хочацца бясконца жыць, тварыць хоць маленькія, але гераічныя справы, многа працаваць, любіць, радавацца...

— Калі я была піонерважатай,—перабіла яго Наташа,—у атрадзе ў мяне была цікавая піонерка Валя—такая вясёлая, вельмі спяваць любіла. Аднаго разу яна падышла да мяне і запытала: „Скажы, Ната, а зможа чалавек жыць многа—многа?—Ну, колькі?—Ну, дзвесці гадоў.— І калі я сказала, што наўрад ці пражыве столькі, яна чамусці засмуцілася. І вось там на моры, я таксама ўспомніла і гэтую дзяўчынку Валю...

... Раніцай наступнага дня Наташа сказала, што яна злазіць на станцыі Н. Калі яна стала збірацца, усе стараліся дагадзіць ёй. Ілюша дастаў з паліцы чамадан, Эдазі падаў кветкі і паліто і ўсё ўпрашваў:

— Прыязджай, Наташа, да нас у Маскву. Чэснае слова, прыязджай, ластаўка. Я цябе спачатку пачастую марожаным, а потым пойдзем у тэатр на оперу—і толькі ўдвух, больш нікога не возьмем... Прыедзеш?

— Прыеду, Эдазі, абавязкова прыеду...

Федзя стаў ля вакна і разгублена сачыў за гэтай стройнай загарэлай дзяўчынай, за яе маленькімі моцнымі рукамі, голымі да плячэй, за рукамі, якія так спрытна звязвалі рэчы. І ён думаў аб дружбе і аб тым, што можа быць яны, якія столькі перажылі разам, больш ніколі не спаткаюцца...

— Рэбяткі, бывайце!—звонка крыкнула Наташа, калі поезд спыніўся. Яна падала руку Эдазі і Ілюшу, тыя моцна паціснулі.

— Давай твой чамадан. Я вынесу—прамовіў Федзя,—а вы, хлопцы, чакайце тут...

— Ну, добра,—сказала Наташа і з удзячнасцю зірнула яму ў вочы.

Яны вышлі на многалюдны, шумны перон, заліты вясёлым ранішнім сонцам. Каля ўваходу ў вакзал Федзя паставіў чамадан. Трошкі памаўчалі, а потым Наташа прамовіла.

— Ну, што-ж, Федзя, бывай!—і яна працягнула руку, голую да пляча, маленькую, энергічную руку і зноў паглядзела засмучона-радасным позіркам знізу ўверх і яе вусны прашапталі:

— Можа напішаш... калі-небудзь... Я дам свой адрас... Га, Федзя?.. Успомнім мора... горы...

Ён маўчаў—гэтакі дужы, ласкавы і на адзін момант прамільгнула ў яго свядомасці: „ды гэтага-ж нічога не было! Яна проста хітрыць, насміхаецца... Усё глупства!“

— Бывай, а то поезд кратаецца,—папярэдзіла Наташа і замяшалася...

Паравоз засвістаў і павольна крануўся. Эдазі і Ілюша клікалі і махалі рукамі Федзю, які стаяў да іх спіною і нічога не бачыў і не чуў за шумам.

Цаціскаючы ў апошні раз Наташыну руку, Федзя нахіліўся. Раптам яна паднялася на цыпачкі і абхапіла яго шыю гарачымі рукамі. І тады ён не пачуў грукату колаў па рэйках і ўсхвалёванага голасу Эдазі, які крыкнуў яму ўслед, нібы прывітанне:

— Сволач! Знайшоў месца дзе цалавацца, а яшчэ таварыш! Гад!—яшчэ раз са злосцю кінуў ён.

Наташа вызвалілася з яго рук і зашчабятала з вясёлым дакорам:

— Мядзведзь! Ты-ж сапраўдны мядзведзь! Твой-жа поезд пайшоў. Даганяй хутчэй!

Поезд ужо далёка грукацеў па рэйках і толькі Эдазі, да палавіны высунуўшыся з вакна, махаў на Федзю кулаком.

— Цяпер не дагоніш!—усміхаючыся сказаў Федзя і безнадзейна махнуў рукой.

— Няшчасненькі ты!—передражніла Наташа.—На цябе усе няшчасці сыплюцца, як ты будзеш жыць? Што мне цяпер з табою рабіць?

— Нічога, ластаўка! У іншым няшчасці наша шчасце схавана. Усё на свеце ідзе к лепшаму. Па гэтым людзі жывуць... Ты сама, ластаўка, сказала, што мы будзем жыць многа шчаслівых гадоў. Праўда?

Ластаўка шчасліва ўсміхнулася.

Хоста-Менск. 1934 г.

**Л. КАЦОВІЧ**

# ЁН, ЯНА І ЁН

„Ён—Гэрбэрт, сівааты, тэмпераментны мужчына, закаханы ў яе. Яна—Кло, стройная, прыгожая жанчына не любіць яго. Але яна не кідае Гербэрта, бо ён багаты. А кахае яна другога. „Ён"—Джэк, малады чалавек з сінімі вачыма...

Ён, яна і ён...

Колькі атраманту было выліта? Колькі паперы было спісана? Колькі слёз было праліта з-за гэтых трох няшчасных стварэнняў? Колькі нявінных, бедных людзей з-за нікчэмнай зайздрасці буржуазныя рамантыкі пастралялі, патапілі, павешалі і патруцілі вострым сваім пяром?

На тое яны буржуазныя раманісты...

Я тут нікога не думаю страляць. Тапіць, напэўна не. У нашай рэчцы, каб нават захацеў утапіцца, і то не змог-бы. Хіба, калі станеш дагары нагамі. А на гэта трэба быць штукаром.

Я толькі раскажу, што здарылася нядаўна, калі ўмяшаўся другі „ён"...

Карацей ён, яна і ён!..

Уявеце сабе глыбокую ноч увосень. Камяніцы расплыліся ў цемры. Толькі вялікія электрычныя фанары мільгацяць дзе-ні-дзе ў глыбокай цемры, нібы матавыя, расплывістыя кругі так сабе вісяць у паветры.

Па бруку лупцуе дождж. Ён намацвае дзесці ў цемры прахожага, абстрэльвае яго вадзянкамі-калючкамі, грукае ў ледзь прыметны водбліск шыбіны і разганяецца з неспакойным посвістам, недзе з далёкай вышыні аж да глыбокага долу.

Да тэлеграфнага слупа, хістаючыся, падышоў чалавек. Ён пляснуў рукою аб слізкі слуп і сказаў:

— Мяне завуць Залман Трос!..

Ніхто не адказаў яму. Толькі мацней засвістала ў вушшу і абдало сцюдзёнай вадой.

Яго рот скрывіла горкая ўсмешка.

— Мая жонка абдурвала мяне, братухна... Родная жонка!

Ён аблапіў слуп, прыцісну ўся да яго змоклым палітонам і лізнуў языком вільготнае дрэва.

— Ну, што-ж мне рабіць з ёю?.. Задушыць хіба?.. Га?..

Ён шырока развінуў рукамі і неўзабаве сашчаміў іх зноў.

Дождж пранізваў...

Халодны прамень прабраўся досвіткам на дах. Разам з ім усхапіўся адпачыўшы гудок. Ціхая вуліца прачнулася. Вакяніцы раззвінеліся. Фурманка прагрукатала па бруку. Рабочыя, выспаныя, бадзёрыя пачалі праходзіць вуліцай. Толькі адзін чалавек ва ўсім горадзе ляжаў пад тэлеграфным слупам. Абняўшы вільготнае дрэва, ён смачна хроп.

Прахожыя спяшаліся на работу. Ніхто не здагадаўся спынідца, разбудзіць соннага, даведацца, хто ён, завесці дахаты. Кожны, відаць, меркаваў—гэта зробіць „нехта“.

„Нехта“ была жанчына. Яна пазнала яго. Раскатурхала і з хвіліну пазірала на яго здзіўлена, моўчкі. Твар яго быў пакамечаным, чырвоныя вочы, ашклянелыя. Увесь чалавек меў выгляд анучы.

— Шкада цябе, Залман,—сказала жанчына.—Гінеш...

Яна была сярэдняга росту. Сімпатычны твар, вялікія бліскучыя вочы. Яна памагла яму ўстаць, надзела шапку і паправіла пакамечанае паліто.

— Цяпер не гавары са мной,—сказала яна, і ад абурэння прыкусіла вусны.—У хаце для цябе прыгатавана снеданне... Спяшаюся на работу...

Яна пайшла. Стромкая. Яе на дзіва прыгожыя ногі лёгка ступалі па вільготнаму тратуару. Залман стаяў доўгі час, асалавела пазіраў ёй услед, пакуль яна не завярнула на другую вуліцу. Ён падняў руку. Агледзеў далонь, санліва пачухаў патыліцу і глыбока-глыбока ўздыхнуў:

— Ох-хо-хо...

Першы раз у жыцці Залман Трос начаваў на вуліцы. Першы раз у жыцці не ведаў, на якім ён свеце. Хоць п'яным ён бываў часцяком—гэта яго хвароба—але розуму ніколі не траціў. А цяпер?.. Большага сораму ніколі не меў. Людзі, знаёмыя, можа рабочыя з яго фабрыкі таксама бачылі? Засмяюць яго. Дый варта!

Самы большы сорам перад ёю. Перад жанчынай сярэдняга росту—перад Фрэйдляй. Яна пазірала на яго такімі бліскуча здзіўленымі вачмі.

Зусім нядаўна ён быў на курорце. Ён сапсаваў сабе сэрца гарэлкай. Дык ездзіў лячыцца і вось далячыўся да начлегу ў канаве няпрытомна п'яным...

* *
*

Курорт дала яму Фрэйдля. Яна атрымала прэмію—пуцёўку. У мінулым годзе яна была там, дык хацела, каб сёлета паехаў муж.

Там Залмана лячылі. Прыпісалі: колькі хвілін яму можна ляжаць на сонцы, колькі купацца ў моры. Прарабілі над ім спецыяльныя працэдуры з электрычным душам, званкамі. Залман сапраўды паздаравеў.

Ён палюбіў крымскую прыроду. Больш за ўсё мора. Разлеглася мора, як люстра, срэбрам зззяе на сонцы. Мераецца з небам шырынёй, глыбінёй. Калі вылазіш з салёнай вады, адчуваеш сябе бадзёрым, свежым. Залман любіць сядзець на беразе мора, нават у часе навальніцы, калі нельга купацца. Мора тады шматкаляровае. Зусім далёка, ля гарызонта, яно чорназялёнае, пасяродку сіня-зялёнае, і бліжэй да берага мутна-шэрае. Каля самога берага вада кіпіць. Па маленькіх адпаліраваных прыбярэжных каменчыках яно разліваецца, як малако, і сцякае назад абмярэжанае тонкай пенай. Усё магутнае мора шуміць, бушуе. Здаецца, тысячы вятроў круцяцца недзе там, унутры, і ніяк не могуць вырвацца на вольны свет. Яны равуць з глыбіні, высока выштурхваюць страшэнна-вялізныя хвалі, шпурляюць іх, разбіваюць на драбнюсенькія аскепкі-пырскі па каменьчыках, якія скрыгочуць і плачуць, коўзаючыся назад. Па ўсяму мору ўскудлачаны белыя грывы. Здалёку здаецца—плывуць белыя звяркі, вытыркваючы на момант спінкі, ізноў нырцуюць у глыбіню. У гэткія дні паказваюцца волаты-хмары на небе. Засланяюць сабою сонца, нібы баючыся каб хвалі не запырскалі яго.

Гэты раз Залман Трос сядзеў на беразе мора з Максам, сваім сябрам. Залман пазнаёміўся з ім тут, на курорце. Макс быў высокі

і тонкі, як крымскі кіпарыс. У яго быў бледны прыемны твар і ён заўсёды любіў штосці расказваць, спяваць, ці проста разважаць.

Цяпер Макс расказваў во што:

— Летась амаль што ў гэты самы час ён таксама быў на курорце і пазнаёміўся з вельмі цікавай жанчынай. Яны зрабіліся найлепшымі сябрамі.

— Не магу забыць яе,—сказаў ён,—мы былі знаёмыя ўсяго месяц... Я закахаўся ў яе, чэснае слова... Блізка поўгода мы перапісваліся, пакуль я не паехаў працаваць на вёску. З таго часу, не ведаю, што з ёю робіцца. Яна моцна пакутвала. Уяві сабе—яна кахала мужа, тупога нікудышніка. Ён газеты нават не хацеў прачытаць. Яна была больш развітая за яго. Вучылася. Зрабілася старшынёй фабкома на той самай фабрыцы, дзе ён працаваў. Цяпер ты разумееш, як ёй было добра? Яна кахала яго. Чэснае слова, Залман, сама гаварыла мне, што кахае нікчэмнага.

Залман Трос сядзеў закамянелы, звужанымі шчылінамі павек пазіраў удалячынь, на гарызонт. Над яго нізкім ілбом забаўляўся вецер скудлачанымі валасамі. І толькі схуднела-касцістая шчака час-ад-часу ўздрыгвала.

Доўгі час абодва маўчалі. Пазіралі, як па крысе ўсё неба зацягваецца цяжкай хмарай. Мора шумела ўсё мацней. Спалоханыя хвалі яшчэ вышэй падскаквалі, раскрываючы пад сабою глыбокія прорвы, і ўдрузг рассыпаючыся каля берага. Залман і Макс не заўважалі, як разгуляўшаяся вада апырскала і прамачыла іх. Максу здалося, што Залман не верыць яму.

— Чуеш!—стукнуў ён Залмана па плячы,—я надзіва скора падабаюся жанчынам... Не зважай на тое, што выглядаю, як доўгая жэрдка, я відаць, маю нутраную сімпатыю... Да мяне прывыкаюць, як да шапкі. Спачатку гаворць: „Ат, нешта не зусім да твару“, а пасля ўжо цяжка адвыкнуць... Зараз пакажу табе нешта...

Ён пачаў нешта адшукваць у бумажніку між паперак. Залмана прабралі дрыжыкі. Ці то з нервовасці, ці з холаду? Яму ў гэты момант першы раз на курорце, запахла гарэлкаю. А Макс паказаў яму маленькую фатаграфію, як ён сядзіць з жанчынай пад вялікай чынарай, і засмяяўся:

— Цяпер верыш?

Залман пабляднеў, цяжка засоп.

— Нашто ты мне гаворыш гэта, Макс?—ціха прашаптаў ён, разглядаючы фатаграфію,—гэта-ж мая жонка...

* * *

Цэлы дзень Залман не выходзіў з хаты. Ён задумаўся і да нічога не мог дадумацца. Нудна, манатонна цягнуўся час, як гадзіны бяссоннай начы. Асенні ліхаманкавы вецер свістаў між вулічных дрэў. Гэта выклікала ў яго вялікую меланхолію і яшчэ больш грызла. Ён шкадаваў, што напіўся да няпрытомнасці. Шкадаваў, што паехаў на курорт, што даведаўся пра Фрэйдлю, што жыве наогул на свеце...

Раптам Залман Трос пабачыў сябе ў люстэрку, і яму стала прыкра ад свайго уласнага выгляду. Ён хуценька памыўся, апрануў свой новы касцюм і вышаў з хаты.

Праз некаторы час ён уваліўся на фабрычны падворак, як страла праз вакно. У бельевым цэху ён трапіў на сход работніц. Фрэйдля гаварыла пра план чацвертага квартала і пераходны сцяг, які атрымаў цэх. Залман стаяў збоку, напружана пазіраў на яе. Ён пляскаў разам з усімі, калі Фрэйдля скончыла гаварыць.

Каля выхаду яны стыкнуліся.

— Фрэйдля, слухай, нешта павінен сказаць табе...—неўпэўнена праказаў ён, апусціўшы вочы. Яна здзіўлена зірнула на яго. Агледзела і, усміхаючыся, сказала:

— Я павінна яшчэ правесці сход у другім цэху...

Пайшла. Але неўзабаве вярнулася.

— Ты палуднаваў ужо?

Ён не ведаў, што адказаць. Адчуваў сябе такім вінаватым перад ёю.

— Больш гэтага не будзе, Фрэйдля,—сказаў ён,—каб я так жыў... больш не...

Яе вочы зрабіліся больш сур'езнымі, пазіралі на яго з сумленнем. Яна хвіліну думала, узняўшы вышэй галаву і, ледзь прыметна ўздыхаючы, праказала:

— Ну, добра...

Бегучы па сходцах на другі паверх яна спынілася, засмяялася і кінула яму ліст.

— Чытай, што пішуць пра цябе!

Крыкнула яна і гулліва пабегла наверх.

Першы раз у жыцці Залман Трос стаяў такім атарапелым... Ён асцярожненька выняў з канверта ліст і адразу прачытаў подпіс.

Ліст быў ад Макса.

*В. Шэндараву*

## НА СУДЗЕ

У зале народнага суда збіраліся людзі. Чакалі суда. Паасобныя групкі шапталіся між сабой. Выкліканыя сведкі паспелі ўжо за гэты час скласці ў галаве блытаныя паказанні і ўрэшце вырашылі лепей гаварыць праўду.

На стале стаяў графін з вадой, які паспелі ўжо амаль апаражніць. Больш за ўсіх піў з графіна Меер Грып. Ён стаяў успёршыся на стол, паглыблены ў думкі, машынальна ліў ваду ў шклянку і піў. Часта ён кідаў злосныя позіркі у куток зала на сваю жонку. Яна сядзела згорбленая, худзенькая, з падушачкамі пад вачыма.

Праз некаторы час паказаўся суд. Усе прысутныя ў зале напружана прыслухоўваліся да кожнага слова суддзі:

— Меер Грып і Мар'яша Грып!—гукнуў суддзя.

— Тут!—голасна адказаў Меер Грып.

— Тут!—ледзь чутна, як птушанё, піскнула Мар'яша, Меерава жонка.

Яны падышлі да стала суддзі.

— Грамадзянін Грып, вы абвінавачваецеся ў тым, што дваццатага студзеня вы, прыйшоўшы п'яным з работы...

— Гэта ўжо хлусня,—хацеў спыніць яго Грып,—я не працую... Хай сама Мар'яша скажа...

Мар'яша баязліва кіўнула галавой.

— Спакойна!—злосна бліснуў на яго вачыма суддзя і пачаў чытаць далей,—дваццатага студзеня вы, прыйшоўшы п'яным з работы, пабілі жонку і ледзь не голую выгналі на вуліцу...

— Ха-ха... На гэткія выдумкі трэба быць вялікім штукаром—зарагатаў Грып,—мароз быў тады? Чаму-ж я не змерз басы?..

— Ён прапіў камашы, прапіў, даражэнькія...—пачуўся голас старой кабеты.

— Хто гэта?—запытаўся суддзя.

— Гэта старая ведзьма, яе мамка...—кіўнуў да яго галавою Грып,— найвялікшую прэтэнзію я маю да яе, чаму яна не скінула, калі была цяжарнай маёй красуляй....

— Грамадзянін Грып! Я заклікаю вас да парадку,—зазваніў суддзя званком;—грамадзянка,—звярнуўся суддзя да старой,—вас выклікалі на суд у якасці сведкі, будзьце ласкавы і зайдзеце ў другі пакой.

Старая крыху скрывілася і ямчэй прымасцілася на крэсле.

— Дзякую, даражэнькі... Мне і тут нядрэнна,—адказала яна абыякава.

Старую ледзь угаварылі выйсці ў другі пакой, пакуль яе не паклічуць.

— Вы можаце яшчэ што-небудзь дадаць да абвінаваўчага акту?— звярнуўся суддзя да Мар'яшы.

Яна здрыганулася, палахліва зірнула на Меера і апусціла вочы.

— Не...

— Што вы скажыце ў свае апраўданне, грамадзянін Грып?

— Цяпер мне можна гаварыць, так?—усміхнуўся Грып і пачухаў патыліцу. Калі так, я скажу, што калі толькі можна было-б, я падаў-бы на яе ў суд, на гэту паскуду,—паказаў ён на Мар'яшу.

Суддзя перабіў яго.

— Прашу вас так не выражацца!

— Хай будзе так,—збянтэжана згадзіўся Грып,—але яна звяла мяне з дарогі. Я у сваім жыцці ніколі не піў. Вы чуеце, таварыш суддзя, а вось здарыўся толькі адзін такі дзень, калі ў мяне моцна разбалеліся зубы, пайсці ў амбулаторыю было позна, а я лезу на сцены... Праўда, га?. Кажы, Мар'яша?..

Мар'яша кіўнула галавой.

— Гвалт,—кажу я,—што рабіць? Чымся так мучыцца, кажу, лепей выкапай мне магілу, жонка, дык я жыўцом палезу туды. Праўда, га? Мар'яшка мая, яна стаіць тут, яна мне не дасць схлусіць, яна не ведала, што рабіць; можа даць табе крыху халоднай вады?—Хай будзе вада... А мо' падаць табе гарачы кампрэс?... давай кампрэс... Але ні вада, ні кампрэс не памагаюць, а я вар'яцею дый толькі... Праўда, Мар'яша? Я да яе нічога не маю, таварыш суддзя, яна рабіла ўсё, што толькі магла. Урэшце яна кажа,—ведаеш што, Меер, у цябе яшчэ стаіць літр гарэлкі ў шафе, папрабуй узяць крыху на зуб... Ну, думаю сабе, а мо' гэта сапраўды паможа. Я не хлушу, таварыш суддзя. Во яна стаіць, можаце запытацца. Я ўзяў кропельку на зуб, і на хвіліну перастала балець. Затым зноў разгуляўся зуб, зноў праглынуў кропельку, і так мусіць, кроплю за кропляй я апаражніў увесь літр... Ці-ж я вінаваты? Калі-б не яна, нічога не было-б, а яна 'шчэ ў суд на мяне падае, эх, зануда, чакай? Яшчэ пабачым...

Суддзя супакоіў яго.

— Але што вы скажаце аб тым, у чым вас абвінавачваюць?

— Што я маю гаварыць, вось яна сама,—ён строга зірнуў на Мар'яшу,—кажы праўду перад суддзёй, я піў?

Мар'яша апусціла галаву.

— Не, га?—узрадавана страсянуў Грып чупрынай, а можа, я цябе пабіў? Кажы, не саромся... Што-ж, хай, пасадзяць твайго мужа на пару месяцаў, што-ж там такое...

— Грамадзянін Грып!—крыкнуў на яго суддзя,—адказвайце на запытанне, вы прызнаецеся ці не?

Грып зарагатаў.

— Дык, вось-жа яна сама, калі яна скажа, што так, дык я гатоў нават даць сабе галаву адсекчы... Гэта злоснікі нагаварылі яе, яны зайздросцяць, што мы так лагодна жывём з ёю.

Мар'яша стаяла ўвесь час бледная з сіняком пад вокам, з апушчанай талавой. Яна ўжо гатова была зняць з яго віну, каб яе толькі адпусцілі дахаты. Меер Грып задаволена ўсміхаўся, ён адчуваў, што ўдалося абдурыць суд і выйсці чыстым з гэтай справы.

Праз некаторы час загадалі прывесці старую. Старая, Мар'яшына матка, убегла ў залу з лямантам.

Яна падбегла да стала суддзі і шырока развінула рукі.

— Я ўсё чула, што тут гаварылі! Я ўсё чула... Гэты разбойнік абяздоліў маю дачку... Я не магу яму ў вочы глядзець. Што вы скажаце, даражэнькія, каб вы яе раней пабачылі, яна-ж блішчэла... Яна-ж, нібы красачка, расцвітала...

Грып не вытрымаў.

— Няпраўда, таварышы! Старая ведзьма хлусіць!—крыкнуў ён,—мая Мар'яша ніколі не расцвітала кветкай. Яна была Мазепай, Мазепай і засталася...

Суддзя супакоіў яго.

— Ён хлусіць, даражэнькія!—зноў залемантавала старая,—разбойнік зрабіў яе на нішто... і мяне таксама...

— Ну, ша, ша, вось вы з мяне пазбавіцеся ўжо,—скрывіўся Грып,—мяне пасадзяць на тры месяцы, добра?

Старая збянтэжылася, змоўкла; не магла і слова выгаварыць. Мар'яша злосна зірнула на яе і кінула:

— Маці, заткні глотку...

— Вы пацвярджаеце, як сведка,—звярнуўся суддзя да старой,—што ваш зяць пабіў вашу дачку і выгнаў яе на вуліцу?..

У старой ссохлася ў горле, язык не паварочаўся, яе свідравала думка, што сапраўды могуць пасадзіць Меера на тры месяцы, што яна тады будзе рабіць з малымі дзецьмі?.. Яна заморгала вачыма і толькі шавяліла губамі ў цішыні.

— Гэта значыць, даражэнькія, можна гаварыць, як хочаш... Я часам магу сказаць і так, бо вы-ж ведаеце, цёшча застаецца цёшчай...

— Ён яе пабіў?—запытаўся суддзя, усміхаючыся.

— Ён яе не забіў,—збянтэжана зірнула старая на Мар'яшу,—як бачыце, яна жывая... Ён можа штурхануў яе незнарок,—гэта не называецца біць... Мой муж, каб яму лёгкаікнулася на тым свеце, любіў ткі часам грукнуць мяне. Я ніколі не скардзілася на яго... Вы-ж ведаеце, у самым шчаслівым жыцці бываюць непаладкі, паспрачаюцца, ці мужык ціхачом ушчыкне сваю бабу...

У зале зарагаталі.

— Дык як-жа вы усё-ткі лічыце,—спытаўся суддзя,—ён вінаваты ці не?

— Вінаваты дык ён, вінаваты,—міргнула старая вачмі—але не на тры месяцы... Я прашу, даражэнькія, скажыце яму, каб ён стаў чалавекам.

— Што-ж я конь?—не вытрымаў Грып,—я не люблю сабачых хітрыкаў... Я люблю гаварыць адкрыта... Я напіўся, я ёй даў у косці і пасадзіце мяне на тры месяцы. Ім на злосць...

Тут Мар'яша не вытрымала. Яна раскрычалася:

— Толькі не на тры месяцы! Толькі не на тры месяцы!

— Не, таварышы суддзі, толькі на тры месяцы пасадзіце мяне... Я заслужыў, я яе пабіў... Сваю родную жонку пабіў...

Грымнуў рогат. Суд закончыў з допытам і пашоў у другі пакой на нараду.

Пастанова была кароткая — Грыпа засудзілі на тры месяцы—умоўна...

цыя класавага ворага, калгаснае будаўніцтва, машынізацыя сельскай гаспадаркі, расчараванне ў рэволюцыі і прыход да яе. Але ўсё гэта не цэментавана адзіным сюжэтам і таму не толькі першая і другая часткі бытуюць самастойна, але нават амаль кожная сцэна нічым не звязана з іншымі. Таму мы і не бачым таго поступу рэволюцыі, якім быў НЭП і рэканструкцыйны час. Мы чуем толькі з вуснаў герояў словы аб тым, што НЭП не ёсць адступленне, а ёсць намнажэнне рэволюцыйных сіл. Але на справе мы не бачым, як растуць рэволюцыйныя элементы, як расце савецкая гаспадарка; у той час, як рост прыватнай уласнасці, як рост гандляроў і кулакоў паказаны, хоць і няпоўна.

Класавае змаганне ў вёсцы, ізноў такі, выступае не як тыповае, таму што сітуацыі, у якіх вораг праводзіць сваю работу, і спосабы гэтай работы—штучныя.

Не верыцца і ў тое, што калгаснікі пад уплывам агітацыі п'яніцы Чырка маглі забаставаць і не пайсці на работу.

Сталася гэта ў выніку таго, што Куляшоў імкнуўся быць арыгінальным і шукаў незвычайных палажэнняў, незвычайных канфліктаў і сцэн, занядбаўшы логіку ў развіцці падзей, прычыннасць у пераходзе ад адное сцэны да другой, сюжэтны стрыжань, які ад пачатку да канца быў-бы лагічным выражэннем самога поступу рэволюцыі, росту рэволюцыйных элементаў у горадзе і ў вёсцы, росту новага чалавека-калгасніка.

Поруч з гэтым, у аповесці ёсць цэлы рад досыць рэалістычных сцэн, як скажам, сцэна ў хаце кулака Худа, калі ён вядзе бухгалтэрыю сваіх пазык, дадзеных беднаце. Мы бачым тут хітрасць кулака, яго ўласніцкую прагнасць, яго праўдзівае нутро.

Чалавечыя вобразы ў аповесці „Аманал“, як і сітуацыі, вельмі штучныя, неяркія, за выключэннем толькі некаторых. Узяць станоўчых герояў: Юнака, комсамольцаў, Маладосць. Мы не бачым іх удзелу ў будаўніцтве, мы не бачым іх на рабоце, не ведаем іх душ і жыцця. Юнак—гэта чалавек, які чагосці шукае, „згубленага сэрца кавалак“— як ён гаворыць. Ён жыве ўспамінамі, як лавіў бандыта, калі „вогнішчавы агонь быў умоўным знакам“. І вось гэты мрыйнік, расчараваны рамантык грамадзянскай вайны—раптам кідае сваё валацужніцтва і ідзе ў калгас трактарыстам. Якія змены ў яго псіхіцы адбыліся і якія прычыны прымусілі яго пайсці трактарыстам,—мы не ведаем, і гэты характар застаецца для нас штучным.

Комсамольцы, як і Маладосць, зусім не індывідуалізаваны, яны выступаюць агульнай масай.

Са станоўчых вобразаў можна назваць толькі аднаго Дзядка, які больш-менш выступае жывым чалавекам, глыбока адчуваючы хараство прыроды, новае жыццё; ён па-дзіцячы захапляецца сілаю трактара, ягоным бычыным вокам.

А прыгадайце канец аповесці, калі Дзядок гоніцца за ласямі і падае, заплакаўшы і ўспомніўшы якуюсці дробязь з свайго маленства. Гэта жывы чалавек, якому хочацца жыць, пазнаўшы штосці новае, лепшае, можа яшчэ не зусім выразнае для яго, у калгасным будаўніцтве.

Крыху лепш удаліся Куляшову адмоўныя персанажы, у прыватнасці кулак Худ. Гэта хітры чалавек, прагны, ён імкнецца паказаць сябе добрым у дачыненні да беднаты, ён выдае сябе за культурнага і разумнага чалавека, ён жыве ў канкрэтных, рэальных і тыповых абставінах.

Нядрэнным удаўся параўнальна і вобраз Настаўніка—гэтага расчараванага чалавека ў рэволюцыі, у жыцці, рамантыка, які жыве мінулым і які гаворыць аб сабе, што ён „рана радзіўся на свет“.

Але нават усе гэтыя, больш індывідуалізаваныя персанажы, нельга назваць тыповымі і яркімі.

Як бачым, у „Аманале“ Куляшоў моцны менавіта там, дзе ён рэалістычна падае людзей і падзеі. Але гэтакіх месц, на жаль, у аповесці вельмі мала. Тут больш штучных сітуацый, штучных палажэнняў, штучных вобразаў, якія мяжуюцца з сімваламі, пра што гаворыць нават самі прозвішчы герояў: „Юнак“, „Маладосць“. Штучнасць адчуваецца і ва ўсіх іншых кампанентах аповесці.

Рытміка, як гукавая старана вобраза, як штосці стройнае і закончанае ў гэтай аповесці амаль зусім адсутнічае. Я гэта сцвярджаю ізноў, як сцвярджаў і раней напоперак развагам Кучара[1]). Я гавару тут выключна аб рытміцы, а не аб слоўным матэрыяле. Справа ў тым, што рытм у вершы ёсць такжа адзін са сродкаў, праз які выражаецца вобраз, эмацыйна пачуццёвая старана вобраза. Можна пісаць вольным рытмам, але гэты рытм павінен быць, як мы гэта бачым у Маякоўскага, звязаны ў строфах гучнымі, арыгінальнымі, глыбока сэнсавымі рыфмамі. Пераход ад аднэй рытмічнай асновы да другой павінен быць абумоўлены сэнсам саміх строф, думкаю. Гэтага ў Куляшова няма. У яго рытмічныя пераходы развіццём думкі ў страфе не абумоўлены, рыфмаю не звязаны, бо асанансы, якія практыкуе тут Куляшоў, зусім не адчуваюцца.

Яны, магчыма, гучэлі-б толькі тады, калі-б іх падтрымліваў рытм. А ў аповесці „Аманал“ рытм не атрымлівае рыфмы, рыфма не падтрымлівае рытму. Вось прыклады гэтых асанансаў: гралі—чарга; карчавалі—чуваць; кранутыя—краму; ёмкі—знаёмыя, рук—грукалі, другі—дзяруг, рэкі—спрэчкі, хацелі—келіхі, бойся—боль, валацугі—другі. Гэтыя асанансы не гучаць таму, што апрача перастаноўкі падобных націскных гукаў, тут мы маем яшчэ адрэзаныя на некалькі складоў словы. Куляшоў рыфмуе доўгія словы і кароткія. Пасля націску ідзе ў адным слове два склады, а ў другім, зрыфмаваным з першым, адзін склад, два, тры. Ёсць і другі выпадак асананса, калі не супадаюць націскі, хаця самі гукі і падобныя, як, скажам, валацугі—другі“. У адным выпадку націск на перадапошнім складзе, а ў другім—на апошнім.

Уся гукавая аснова паэмы разам са штучнасцю сітуацыі і характараў, разам са штучнасцю страфічнай пабудовы, што выразілася у вынасках і інш., усё гэта амаль зусім разбурае тую спецыфіку, якой характарызуецца паэтычны твор, як штосці адменнае, стройнае, закончанае.

Аднак, я гэты твор лічыў усё-ж такі далейшым крокам Куляшова ў кірунку яго набліжэння да рэалістычнага паказу жыцця. Гэта можа гучыць парадаксальна, але гэта так.

Справа ў тым, што ў гэтай аповесці, апрача паасобных рэалістычных сцэн, уся слаўная тканіна верша надзвычайна рэальная, рэчавая, важкая, пазбаўленая сімвалічнай рафінаванасці. І хоць гэты твор не вызначаецца вялікай вобразнасцю мовы, у ім нямала вельмі рэльефных, чыста скульптурных, сочных метафар: „Але, мінаючы вёрсты, цягнікі, пачыналі жыць“; „зараз перад ім закатны пейзаж, голыя бярозы, як вылітыя з воску“; „спалі на канюшынавым шуме“ і шмат іншых.

Гэта характэрная рыса фактуры верша, уласцівая рэалістычнаму стылю праступае і ў тых творах, якія Куляшоў напісаў пасля аповесці „Аманал“: „Галодны паход“, „Інтэрвенцыя“, „Імперыялізм“ і інш. Тэматычна і ў сэнсе ідэйнай глыбіні гэтыя вершы нічым асаблівым не вылучаюцца. Фармальна яны стыкаюцца з аповесцю „Аманал“, з вершамі са зборніка „Медзі дождж“. Яны таксама не пазбаўлены фармалістычных выкрутасаў, што выявілася, ізноў такі, у парушэнні рытма, у залішняй празаізацыі мовы, ў парушэнні рыфмы. Але ў гэтых вершах

---

[1]) Гл. артыкул Ал. Кучара „Становішча і перспектывы“ развіцця беларускай савецкай паэзіі“, змешчаны у „Пол. рэв. № 1 1934 г. ст. 170.

ёсць яркая дэталь, рэчавая метафара, пазбаўленая імпрэсіяністычнага налёту і туману. Асабліва вызначаецца ў гэтым сэнсе верш „Хаўтуры“. Ён напісан суроваю моваю і мужным шырокім рытмам. Ён поўны цяплыні да забітага рабкора. Ён поўны нянавісці да тых, хто прынёс і хто быў прычынаю гэтай смерці. Ён поўны надзеі ў будучыню.

Я сказаў-бы, што верш „Хаўтуры“ ёсць мост паміж творчасцю Куляшова з вялікімі фармалістычнымі тэндэнцыямі і паміж апошняй паэмай „Гарбун“, якая амаль зусім парывае з фармалізмам і яшчэ больш паглыбляе тыя адзнакі, якія характарызавалі „Крыўду“ і іншыя лепшыя творы Куляшова.

Паэма „Гарбун“—гэты твор аб першых комунах, арганізаваных у былых панскіх маёнтках. Яна пачынаецца невялікім досыць агульным, але шырокім і лірычным пралогам. У першым раздзеле паэт знаёміць нас з Анісімам Шкробам, з яго багаццем, з яго кузнямі, млынамі, са стаеннікамі, рагатым статкам, з яго грамадскай дзейнасцю на пасадзе валаснога старшыні, з яго эксплаататарскай дзейнасцю, калі

„перад ім на каленях укленчыўшы, пекла галасіла, кляло яго дом, яго рай!“

Да Анісімава Шкроба прыязджалі часта на патайныя сходы эсэры. У яго быў сын Нікадзім—афіцэр і таксама эсэр. Гэты сын закатаваў Цімоха Загулу, які, прышоўшы з вайны, узняў у маёнтку бунт. У часе Кастрычніка Нікадзім і ягоны таварыш Ром уцякаюць ад рэволюцыі з павятовага гарадка да Анісіма Шкроба. Тут яны вырашаюць пасадзіць Рома кіраваць воласцю.

З Петраграда прыходзіць у вёску Антось Шандабыла: у яго у паходным ранцы было „тры брашуры Леніна, хлеб і вада“. Ён арганізуе ў былым панскім маёнтку комуну, куды ўваходзяць: Ластаўка Макар, Агей Жаўна, паляк Вальдамар, палонны немец Курт, Даніла Дыб і сірата Якуб.

Камунары ідуць аглядаць палеткі і над магілай Цімоха Загулы выказваюць сваю жалобу, у якой чувацъ прысяга, што пачатую Загулам справу яны давядуць да канца.

Ром арудуе ў воласці. Ён адводзіць свайму брату вялікі кавалак зямлі, тэй зямлі, якую заняла комуна. Ром агітуе ўсіх: „Касіце панскія жыты і маладыя нівы“. Але калі да яго брата на хутар прыходзяць комунары забраць зямлю, ён заяўляе:

Усім я землі раздаю—
Закон на гэта маю!
Злачынцаў-жа, што чыняць гвалт,
Сваёй рукой караю.

У адказ на гэтыя словы рыбак Гарбун ударыў Рома дубцом па твары. Пазбаўленыя зямлі комунары ідуць на балота, асушваюць яго, каб распрацаваць як след і мець ураджай. Адзін Агей Жаўна выкручваецца, бо яму Ром таксама адвёў валоку зямлі.

Але багацеям не падабаецца блізкае суседства комунараў, і кулакі, на чале з Ромам, умаўляюцца выжыць іх. Яны аднойчы, барабанячы ў вёдры і засланкі, натоўпам прыходзяць у комуну. Тады Шанда была скамандаваў комунарам выбірацца ў дарогу:

Комунары запрэглі коняй, выгналі жывёлу і накіраваліся ў лес. Услед Ром і Агей Жаўна пасылаюць ім лаянку, а Ромаў парабак Рог, нацкованы натоўпам, ударыў Шандабылу ў грудзі. Але:

Той ішоў высокі, горды,
І яго шляхі гуталі,
А навокал білі ў вёдры
І раўлі, і рагаталі;

На шостай вярсце комунары спыніліся і разбілі палаткі. Праз некаторы час Антон Шандабыла плыве ў чоўні па Сожы і бачыць, як Ром б'е свайго парабка Рога, а той уцякае ў гушчар „лес ломячы сабою". Куляшоў выразна не гаворыць, але трэба думаць, што Антон плыў на хутар, каб адпомсціць Рогу, бо Шандабылу катавала крыўда. І калі Шандабыла ўбачыў Рога ў горы, ён зразумеў, што:

— Ёсць ворагі і ёсць сябры,
Ёсць бедны люд, багаты,
І дуб той самы на гары
Сукі прасцёр гарбаты.
Няма і не было маны
Свой сонца круг рабіла,
Заблыталіся мы адны,
Бярозаваё біла!

У вёску прыязджае атрад продармейцаў. „Багатыя і хітрыя мужыкі" сустрэлі яго з чырвоным сцягам, „нізка б'ючы паклоны". Ром размясціў чырвонаармейцаў па хатах, дзяўчаты частавалі іх святошным пірагом, рыбаю, малаком і мёдам. Але калі продармайцы заснулі, кулакі забралі зброю і чырвонаармейскіх коняй. Чырвонаармейцам давялося адступіць, а іхняга камісара замкнулі ў дубовую клець. П'яны Ром здзекуецца над ім.

Усё гэта бачыў Антон Шандабыла. Ён вырваў у клеці прабой, вызваліў камісара і прапануе яму схавацца ў комуне. Але камісар на гэта адказаў:

Імчы адзін паўз ветракі,
Мінаючы вазёры!
Сюды склікай людзей сваіх
Хавацца ў лесе годзе!

Шандабыла склікае комунараў і яны ідуць забіраць у кулакоў хлеб. Мы бачым камісара ізноў у хаце Рома. Ён патрабуе ключы ад свірнаў. А ў гэты час брат Рома, уцёкшы праз акно, бяжыць і забівае сякерай Шандабылу.

Паэма канчаецца эпілогам, з якога мы даведваемся, як расце комуна. У гэту комуну едзе ў госці сакратар райкома Даніла Дыб і начальнік палітаддзела, што некалі быў тут камісарам.

Як бачым, сюжэтная лінія у гэтай паэме больш простая і выразная, ніж у „Аманале". Тут няма штучных палажэнняў, але ў той жа час сітуацыі напружаныя, трагічныя. Праўда, некаторыя паасобныя сцэнкі залішне рамантызаваны, але і яны падкупляюць чытача сваёй шырынёю пачуцця, сваім напружаным зместам.

Не засталося ранейшага штукарства і ў іншых прыёмах. Толькі ў раздзеле „Кара" гэта яшчэ крыху адчуваецца у перапляценні двух планаў. У адным плане падаецца сустрэча Нікадзіма і Шандабылы, а праз страфу ў другім плане падаецца успамін пра Цімоха Загулы:

Чулі рэйкі і вазёры,
Чайкі сумныя крычалі,
Гулі дрэвы і пячоры
Як Загулу катавалі.

Што да персанажаў, дык нельга сказаць, каб яны і ў гэтай паэме вызначаліся сваёй яркасцю і паўнатой. Гэтага няма, бо няма развіцця і росту людзей. Скажам, з эпілога мы дазнаемся, што Даніла Дыб— былы звычайны камісар, стаў сакратаром райкома. Але ягоны шлях ад селяніна да сакратара райкома дзесці па-за межамі паэмы.

Я не ведаю, ці можна нават патрабаваць ад Куляшова таго, каб ён шырока паказаў рост і жыццё кожнага чалавека. Мне здаецца, што

ўстаноўка яго ў гэтай паэме была іншай—паказаць тую адданасць, тую ўпартасць, тыя жахлівыя ўмовы, у якіх даводзілася працаваць першым арганізатарам калектыўнай гаспадаркі. І гэта аўтару ўдалося. Перад намі праходзіць багатае пышнае жыццё Анісіма Шкроба, перад намі праходзяць яркія сцэны балявання эсэраў у гэтага кулака, калі яны „спалі на канюшыне з парабчанкамі і дачкамі яго“. Перад намі ўстаюць глыбока-трагічныя сцэны таго, як катуюць Загулу, як галосіць над яго магілаю яго сястра парабчанка, як кулакі гоняць комунараў у лес, як забіваюць Шандабылу. І ў выніку гэтага мы адчуваем, што людзі ў паэме—не схемы, яны пакутуюць, радуюцца, жывуць поўным напружаным жыццём.

Узяць забітага цёмнага парабка—пастуха Рога. Ён калісьці, нацкованы натоўпам, кідаўся з кулакамі на Шандабылу. Але прайшоў час, Рог убачыў, што Шандабыла рабіў добрую справу. І калі Шандабылу забіваюць, у Рога з‘яўляецца вялікая сіла пачуцця да гэтага чалавека. Куляшоў чатырма радкамі надзвычай ярка характарызуе рост свядомасці ў пастуха Рога:

Нават цяжка мне выказаць вершам,
І як нёс, і як клаў на парог,
І як выў над забітым, памершым
Валацуга і парабак Рог.

Або возьмем другі прыклад—пахаванне Шандабылы. Тут таксама няма ярка пададзеных персанажаў, але ёсць яркія людзі, яркі дружны калектыў, у якім і свае пільшчыкі і свае цесляры.

Не прасілі яны чужой ласкі—
Самі пільшчыкі, цесляры.
Распілоўвалі дрэва на часткі,
Габлявалі яго на зары.

А ўзяць Шандабылу, калі ён дае наказ комунарам:

Нам спакой і волю бор дасць,
данясіце-ж да сасонак
і жыццё дзяцей і гордасць
сваіх жонак!
Каб сыны ў мяхах ваўчыных
Крэпка спалі на світанку,
вы спявайце, вязучы іх,
калыханку!

Гэта комуніст, які не толькі верыць да канца ў справу сваю, які не толькі можа павесці за сабою людзей, але які поўны клопату і любасці да гэтых людзей, поўны трывогі за жыццё іх дзяцей і гордасць жонак. Гэта жывы і поўнакроўны вобраз, дарма, што ён пададзены не ў дынамічным развіцці, а статычна застыглым.

Такім чынам, калі гэта паэма і не вызначаецца яркімі чалавечымі вобразамі, пададзенымі ва ўсёй дынаміцы іх развіцця, дык яна вызначаецца яркаю сілаю, яркім людскім калектывам. Гэта паэма не герояў, гэта паэма мужнасці простых людзей, якія ўпарта дамагаюцца сваёй мэты.

Шырыня ахопу падзей, глыбіня пачуццяў, у якіх шмат думкі, яркасць вобраза, звонкасць верша і прастата, даступная шырокім колам чытачоў—гэта лепшая ацэнка паэмы.

У гэтай паэме Аркадзь Куляшоў, як і ў „Крыўдзе“ ізноў выкарыстоўвае своеасаблівы падыход да з‘яў, падаючы іх не просталінейна, а праз канкрэтныя, пабочныя дэталі.

Вось прыклад характарыстыкі Анісіма Шкроба:

У Анісіма Шкроба
Гонтам крытыя
хаты,
кузня, млын
і на тры дзесяціны сад,
і стаеннікі коні,
і статак рагаты,
і шырокі кулацкі
зад.

Тут не сказана прасталінейна, што Анісім Шкроб багаты, але гэта ярка відаць з тых дэталяў, якімі паэт абрысоўвае фігуру кулака—млын, стаеннікі-коні, рагаты статак, парабкі, людзі, якія дзень і ноч круцяць жарны і г. д.

Гэтыя карціны выклікаюць багата асацыяцый, багата новых малюнкаў, асабліва тады, калі сама рознастайнасць, рэчаіснасць падаецца праз яркія метафары, а гэтага ў паэме „Гарбун" досыць шмат:

На кручах арахоўнік рос
І трос на кручы росы,
Дванаццаць неслі яны кос,
Як бліскавіцы косы.
Па сёлах, вёсках даў загад,
Што сонца адрачэцца,
Што адрачэцца маткі гад,
Які на гвалт памкнецца.

Тут прынцып пабудовы метафары той-жа, што і ў „Крыўдзе", блізкі да прынцыпаў пабудовы метафары ў народнай творчасці. Для гэтай паэмы характэрны і гіпербалізм, таксама ўласцівы народнай творчасці.

Дзе знак кідалі капыты,
Раслі ў тым месцы дзівы...
. . . . . . . . . . . .
Як хроп той конь,
Аж беглі з хат
За ім людскія сем'і.

Нельга сказаць, што Куляшоў усюды ўмела выкарыстоўвае прынцып гіпербалізма. Там, дзе ён у гіпербалічных фарбах падае Рома, ён гэтым самым ідэалізуе яго. Але ў паэме нямала і такіх месц, дзе гіпербала альбо адмоўнае параўнанне, запазычаныя з народнай творчасці, дапамагаюць правільна і ярка падаць вобраз:

Не кпіны кпіў з яго лясун,
Не перун трэснуў з хмары,
А біў яго рыбак Гарбун
Крывым дубцом па твары.

Жывая стыхія народнай творчасці адчуваецца і ў рытме. Рытм „Гарбуна" строгі і стройны. Але ён не салодка-напеўны, у ім багата розных пераходаў, асабліва такіх, як пераход ямбічных радкоў у харэічныя, у дактылічныя і наадварот, што характэрна для творчасці і Купалы.

Цябе нетры прыгарнулі,
А трава і мох
На грудзях тваіх паснулі,
Загула Цімох.

Такім чынам, шырыня мастацкіх малюнкаў, багацце і яркасць дэталі, рэчавая густата метафары, зробленай часта па прынцыпу народнай, мужны шырокі рытм з багаццем розных законамерных пераходаў,—усё гэта стварае такую фактуру верша, што яе амаль адчуваеш навобмацак

і гэта ёсць характэрная рыса апошніх твораў Куляшова. Яна, не зважаючы на рамантызацыю паасобных фактаў, набліжае яго творчасць да стылю соцыялістычнага рэалізма.

Пасля паэмы „Гарбун“ Куляшоў напісаў некалькі вершаў. Мне здаецца, што яны не вызначаюцца нічым асаблівым, не ўносяць нічога новага ў сэнсе якасных змен яго стылістычнай асаблівасці і таму я не буду на іх спыняцца.

Адзначу толькі, што ўрывак з паэмы „Брыгадзір“, надрукаваны ў „Літаратуры і мастацтве“, пры ўсіх сваіх ранейшых моўных сродках, рытмічна нагадвае паэму Есеніна „Анна Снегіна“. Некаторыя радкі, нават гучаць, як пераклад:

То шыбка іду, то паціху.

А ў Есеніна:

Бегут говорливые дроги
Не шатко, не валко, как встарь.

І падобных радкоў у гэтым урыўку досыць багата.

Вядома, што судзіць паводле гэтага ўрыўка аб ўсёй паэме немагчыма. Але я звяртаю ўвагу на падабенства таму, што і ў ранейшых творах Куляшова досыць часта адчуваюцца ўплывы і Багрыцкага, і Лугаўскога, і Васільева.

Я не спыняюся тут і не маю магчымасці спыніцца на ўсіх дробных недахопах, недакладнасцях і непісьменных мясцінах, якіх таксама не мала ў творчасці Куляшова, нават у поэме „Гарбун“.

Я хачу паказаць адно, што творчасць Аркадзя Куляшова за апошнія часы вырасла досыць значна. Няхай яна не вызначаецца сваёю тэматыкаю, людскімі вобразамі, вялікай шырынёй і ідэйнасцю—гэтага патрабаваць ад Куляшова магчыма яшчэ і рана. Але мы не можам не радавацца, калі бачым, што нават звычайная маленькая тэма, звычайны верш невялікі зместам, у Куляшова гучыць арыгінальна, у ім адчуваеш мастацкую праўду, сілу глыбокага пачуцця.

Можна любіць і не любіць гэту арыгінальнасць, але абыйсці яе ніяк нельга. Арыгінальнасць—неабходная якасць для кожнага паэта, і гэта вынікае з самой спецыфікі мастацтва.

Мы ўжо гаварылі, што вобраз, з'яўляючыся тыповым адлюстраваннем рэчаіснасці, у той-жа час з'яўляецца і індывідуальным адлюстраваннем рэчаіснасці. А для таго, каб гэта індывідуалізацыя была найбольш яркай, паэт павінен быць арыгінальным, уладаць вялікай творчай фантазіяй, каб умець адабраць з мноства фактаў і з'яў тое, што больш ярка і больш рэльефна адцяняе дадзеную рэч. Аркадзь Куляшоў умее гэта рабіць.

Ягоныя рэчы, нават найменш удалыя, нават тыя, якія можна лічыць прарывамі ў творчасці Куляшова, усё-ж такі ў сваіх паасобных сцэнах вызначаецца гэтай шырынёю, багатым перасячэннем асоцыяцый, яны будзяць шмат пачуццяў і думак.

Другое, што характэрна для творчасці Куляшова, гэта яго любоў да жыцця. Ён любіць прыроду, гоман рэк, вазёр, лясоў, кручы, гарбатыя дубы. Прычым у яго любоў гэта—не сантыментальнае любаванне пейзажам, а любоў да прыроды, як да вялікай сілы, што безупынна нясе жыццё і смерць.

Можна сказаць, што жыццё ў творчасці Куляшова варушыцца, як цяжкая вялікая глыба, густое, напоенае сокамі.

Адлюстраванню гэтага густога, здаровага, насычанага жыцця ў Фламандскім стылі служаць і мастацкія сродкі, у якіх матэрыялізуюцца вобразы. Я гавару пра метафару, пра эпітэт, рытм і рыфму. У Куля-

шова яны пазбаўлены рафінаванасці, імпрэсіяністычнасці, невыразнасці. Ягоная мова не выключная, своеасаблівая, а звычайная, блізкая ў сваіх лексічных і сінтаксічных формах да звычайнай гутаркі.

Калі гаварыць аб рытме, нават там, дзе Куляшоў, як я гаварыў, парушае яго нашчэнт, то трэба адзначыць, што гэта менавіта ёсць пошукі новага рытма, які-б не закалыхваў чытача сваёй саладкавай напеўнасцю, а які-б гучаў, як гучыць бадзёры марш сваімі кароткімі і шырокімі, сваімі высокімі і нізкімі нотамі.

Гэтага ў пэўнай ступені дамогся Куляшоў у паэме „Гарбун".

Вось усё тое асноўнае, што адрознівае ў добрым сэнсе паэзію Куляшова ад творчасці шмат якіх нашых іншых паэтаў і што Куляшоў павінен і ў далейшым развіваць і паглыбляць.

Але, каб паэзія яго не стала фальклорыстыкай, квятліваю экзотыкай, трэба зрабіць яшчэ шмат. Трэба і ў сітуацыях, і ў паказе людзей, і ў паказе абставін, унікаючы натуралістычнага фатаграфавання, даючы нейкую выключнасць (у тым сэнсе, што і палажэнні, і людскія характары ў паэзіі павінны чымсці адрознівацца ад жыццёвых фактаў), не ўпадаць у фармалістычныя выкрутасы, у штучнасць. Інакш кажучы трэба дамагацца таго, каб тыповыя характары падаваліся-б у тыповых абставінах. Калі Куляшоў умее ярка індывідуалізаваць свае вобразы, дык ён яшчэ не заўсёды ўмее надаць ім шырокае абагульненне, тыповасць. Ён толькі ідзе яшчэ да гэтага, пра што сведчаць яго некаторыя ранейшыя творы і асабліва апошняя паэма „Гарбун". З гэтым можна згаджацца і не згаджацца, але не трэба ніколі чалавека адштурхваць ад пошукаў свайго, арыгінальнага і ў той-жа час характэрнага для нашай эпохі, для нашага класавага стылю.

Аркадзь Куляшоў жыве гэтымі пошукамі, пошукамі вялікай жыццёвай праўды і яркай мастацкай выдумкі.

# БІБЛІЯГРАФІЯ

## „Тропа самураеў“ Л. Рубінштэйна (на рускай мове).

ГІХЛ 1934 г., стар. 158, цана 1 руб. 50 кап.

„Тропа самураеў“—аповесць пра самурайскую роту. Японская ваеншчына ў аповесці марыць пра адраджэнне самурайскага духу. Самураі павінны быць найбольш вернымі, найбольш надзейнымі салдатамі імперыялістычнай Японіі. Дух самурайства павінен прасякаць усё жыццё імперыі. Самурайская дысцыплінаванасць, адданасць, самурайская этыка павінна быць прыкладам для кожнага японца. Самурайскае выхаванне—аснова нацыяналістычнага выхавання ў Японіі.

Перад радамі Хімедзійскага пяхотнага палка палкоўнік гаворыць урачыстую прамову.

— Для воінаў, што ідуць трапою самураеў,—гаворыць палкоўнік,—абавязковы два выгляды чыстаты: па-першае—чыстата духоўная, па-другое—чыстата фізічная. „Каб быць чыстымі, самураі павінны змагацца супроць ворагаў імператара. „Самыя галоўныя ворагі імператара—гэта кітайцы, рускія і амерыканцы“.

Імператар паслаў Хімедзійскі полк „вызваліць“ Манчжурыю. Полк старанна выконвае задачу. Бамбавозы атакуюць і паляць кітайскія вёскі, самураі з „гочкісаў“ расстрэльваюць мірных жыхароў.

Полк выпадкова не атрымаў зімняга абмундыравання. У палку шмат абмарожаных. Мароз наносіць палку большыя страты, чым вайна. Але самураі павінны быць аддапымі і вернымі. І яны намагаюцца быць такімі.

„Падняўшы па ўставу нерухомыя твары, мерна калыхаючы сталёвымі міскамі і вінтоўкамі, пяхота крочыла як на парадзе, тарахцелі кулямётныя двухколкі, высока выкідваючы ногі, ішлі маленькія падпаручыкі, з пунсовымі аладкамі пагонаў. Ніякага непакою. Раўненне, чоткасць. Выканаўчасць. Ніякіх затрымак“.

Але гэта знадворны, парадны бок справы. Сапраўднае становішча рэчаў іншае. Самураі—салдаты. Салдаты звычайна набіраюцца з сялян, рабочых і іншых працоўных пластоў насельніцтва. Японская армія не з'яўляецца выключэннем. Персанаж аповесці самурай Морыта трапляе ў армію пасля таго, як яго звольнілі з завода за „ненадзейнасць“. Самурай Кавамура класава-несвядомы. Ён пашоў у армію, каб атрымаць пасаду паліцэйскага пасля звароту з арміі. Як бы там ні было у самураеў свае класавыя інтарэсы.

Думка пра адраджэнне самурайства нарадзілася ў колах японскай ваеншчыны. У аповесці фанатыкам гэтае ідэі з'яўляецца падпалкоўнік Фудзінамі. Рубінштэйн правільна робіць, калі паказвае, што самурайства застаецца чымсці чужым для салдацкай масы.

З першага погляду здаецца, што салдаты цалкам ўвайшлі ў сістэму. Яны мерзнуць у летнім абмундыраванні і ніякіх разважанняў на гэтую тэму няма. Яны выключна дысцыплінаваны і г. д. На справе сістэма адразу-ж выяўляе свае слабыя месцы. Адразу-ж аказваецца соцыяльнае паходжанне самураеў. Яны атрымліваюць з дому лісты і, не гледзячы на выкрэсліванне „палковай камісіяй“ усяго таго, пра што не павінен даведацца самурай, шмат пра што яны ўсё-ж даведваюцца. З лістоў яны даведваюцца пра тое, як жывуць іх бацькі, у прыватнасці з лістоў відаць цяжкое становішча працоўнага японскага сялянства.

Праз лісты і рэагаванне на іх Рубінштэйн паказвае паступовы працэс абуджэння класавай свядомасці самураеў. Аўтар фактамі разбівае ілюзіі, прышчэпленыя самураям сістэмай выхавання.

Японская армія зусім ізалюецца ад палітыкі. Гэта—адзін з прынцыпаў самурайства. У палітыку яны не павінны ўмешвацца, іхняя справа служыць радзіме. Самураям не дазваляюць нават чытаць газеты. Паказваючы працэс абуджэння класавай свядомасці ў самураеў, Рубінштэйн тым самым абвяргае асноўны тэзіс японскай ваеншчыны пра апалітычнасць японскай арміі.

Моцнае ўражанне робіць на самураеў расстрэл з кулямётаў мірных жыхароў-кітайцаў. Значную ролю ў плане класавага самавызначання самураеў у аповесці адыгрывае „былы студэнт“ самурай Ісікава. Ён як бы знарок ўведзены аўтарам для таго, каб паказваць з сапраўднага, выкрывальнага боку падзеі. Ні да якой рэволюцыйнай арганізацыі ён не належыць. Аўтар меў на ўвазе ў часці, дзе дзейнічае Ісакава, паказаць нарастанне

элементаў нездавальненьня, пачатак абуджэння класавай свядомасці. Ён хацеў паказаць гэта, як працэс арганічны, стыхійны і таму рабіць Ісакава членам якойнебудзь арганізацыі было не абавязкова. Але вобраз з-за гэтага шмат траціць у сэнсе сваёй тыповасці, бо нельга рабіць такога вываду, што былыя студэнты, ці, наогул кажучы, інтэлігенты з'яўляюцца правадніком рэволюцыйных настрояў у японскай арміі.

Смерць Ісікавы, калі яго таварышам даводзіцца расстрэльваць яго, звязанага ў белы саван, назаўсёды застаецца ў іх у памяці. Яны былі выхаваны на думцы, што ворагі—гэта іншыя народы, не японцы. Цяпер ім давялося страляць у свайго таварыша і японца. Гэта прымушае іх задумацца. Паняцце „радзіма" траціць у іх вачах значную частку свае вартасці

Пасля іх як найбольш надзейную часць знімаюць з фронта і пасылаюць на прыдушэнне забастоўкі. Тут расстрэл японцамі японцаў самураі ледзь не убачылі ў больш шырокіх памерах. Самурай Танака вымушаны быў навесці кулямёт, як раней на мірных жыхароў-кітайцаў, цяпер на грамадзян свае роднае вёскі. Але замест таго, каб страляць у земляхоў, ён стрэліў у спіну капітану Сімада, начальніку экспедыцыі.

Усе гэтыя факты з'яўляюцца ў аповесці матэрыялам, якім матывуецца абуджэнне класавай свядомасці. Але ўся справа ў тым, як гэтыя матывіроўкі праводзяцца. Калі расстрэл Ісікавы падаецца строга рэалістычна, то гэты апошні выпадак, які прывёў да стрэла Танакі, уяўляецца мала верагодным.

Было-б наіўнаю памылкай думаць, што японскі імперыялізм настолькі слабы, што яму для задушэння па сутнасці нязначнай забастоўкі, трэба здымаць самурайскую роту з Манчжурскага фронта і адпраўляць яе ў Японію. Тут тэндэнцыя перамагла ў пісьменніка пачуццё рэчаіснасці.

Чаму так здарылася? У пачатку аповесці Ісікава пытае ў Танакі:—„А што каб ваша вёска трапіла пад мушку кулямёта, што-ж вы зрабілі?" Раздзел „Ругасакі" з'яўляецца адказам на гэтае пытанне. Рубінштэйн перанёс на аповесць навелістычнае разгортванне сюжэта. Але само па сабе гэта не дрэнна і правамерна. Уся бяда тут у тым, што аўтар слаба валодае майстэрствам навелістычнага сюжэтнага разгортвання. Ён не здолеў знайсці мастацка-пераканаўчай, рэалістычнай матывіроўкі зварота самурайскай роты ў Японію.

Паўстанне на бронецягніку матывавана значна лепш. Рэволюцыйныя настроі Кавамуры і Морыты ў палоне яшчэ больш умацаваліся. Зусім зразумела, што, вярнуўшыся ў роту, яны з'яўляюцца пачынальнікамі паўстання. Пачалося паўстанне з незначнага на першы погляд факта. Гэтым падкрэсліваецца яго няўхільнасць. Гісторыя самурайскай роты канчаецца ваенна-палявым судом над удзельнікамі паўстання.

Самурайская этыка выяўляе слабыя месцы і па другіх лініях. Па-першае, па лініі ўплыва заходняй цывілізацыі. Гэта паказана на вобразе лепшага лётніка Японіі Такаянагі. Лётнік трапляе ў палон да хунхузаў. З палону яму ўдаецца выратавацца. Самураі ў палон не здаюцца. Паводле норм самурайскай этыкі, яму трэба скончыць самагубствам. Афіцэрства не прыймае зганьбаванага Такаянагі ў сваё асяроддзе. Лётнікам ён больш быць не можа. Справу сваю Такаянагі вельмі любіць—гэта стварае трагічную сітуацыю. Самагубствам Такаянагі канчаць не хоча. Ён выхоўваўся ў амерыканскім колледжы. Ён успрыняў культуру Амерыкі і не верыць у самурайскія „штучкі".

Канфлікт з ваеншчынай робіць Такаянагі валацугай і прыводзіць да комуністаў. Дарэчы трэба сказаць, што прыход Такаянагі да комунізма паказаны вельмі скупа, ускосна і зусім без раскрыцця псіхалагічных матывіровак. Пры ўсім тым—гэта адзін з найбольш удалых вобразаў аповесці.

Па-другое, самурайская этыка церпіць паражэнне па лініі сямейных адносін. Адным з фанатыкаў самурайства ў аповесці з'яўляецца падпалкоўнік Фудзінамі. Яго жонка Іосіко—сястра Такаянагі. Фудзінамі прапаноўвае ёй скончыць самагубствам таму, што яе зганьбаваў брат; тым, што не скончыў самагубствам. Іосіко пакідае Фудзінамі. Яна не верыць, што яе брат можа зрабіць дрэнны ўчынак, яна думае, што ён не настолькі вінаваты, як гэта пра яго кажуць,

Падпалкоўнік Фудзінамі—адзін з ідэолагаў самурайства ў аповесці. Разам з тым ён— адзін з тэарэтыкаў шпіанажа. Гэта—нават яго галоўная спецыяльнасць. Ён не належыць да японскай арыстакратыі, і кар'еру пракладвае ўласнымі сіламі. Ён бачыць усю штучнасць прынцыпаў самурайства, але цвёрда стаіць за іх, бо лічыць, што яны прывядуць да ўмацавання Японіі. Ён дамагаецца самагубства Такаянагі ў імя прынцыпаў самурайства. І ўсё-ж Фудзінамі па-сапраўднаму верыць толькі ў адно—у шпіянаж. Ён дэталёва распрацоўвае яго сістэму.

Шпіянаж у паказе Рубінштэйна займае вельмі значнае месца ў японскай арміі. Сістэма шпіянажа пранізвае ўсю армію зверху данізу. У самурайскай роце таксама ёсць агент—ефрэйтар Ногуцы. Ён сочыць за кожным крокам кожнага з самураеў і вядзе своеасаблівы дзеннік, дзе занатоўвае ўсе іхныя ўчынкі. Прыём скарыстання дзенніка тым больш цікавы, што ў гэтым прыёме агідная роля Ногуцы выкрываецца праз яго-ж уласную дзейнасць. Ногуцы падклаў Ісікаве ў скрынку творы Сен-Катаямы, і тым падвёў яго

пад расстрэл. Так распраўляецца японская ваеншчына з ненадзейнымі. Тое-ж самае рыхтаваў Ногуцы і самураям Кавамуры з Морытай. Толькі паўстанне перашкодзіла ажыццявіцца яго планам.

Аповесць напісана ў рэалістычным стылe. Мова твору—сціслая, лаканічная: Гэта пасуе з паказам ваеннага асяроддзя, падкрэслівае сухасць і афіцыяльнасць адносін. Дысцыпліна нібы пранікае ў самы стыль.

Пункт гледжання, пад якім падаецца ў аповесці матэрыял—гіранічны. Амаль усе загалоўкі раздзелаў маюць гіранічны сэнс. Падзеі асэнсоўваюцца гіранічна. Гіронія тут падана ў той-жа функцыі, у якой у Л. Талстога звычайна даецца так званае „астраненне“. У гэтым плане ў аўтара былі вялікія выкрывальныя магчымасці.

Аўтар адчуваў цяжкасці з матэрыялам. Гэтыя цяжкасці да канца не адолены ў аповесці. Адчуваецца недастатковае веданне японскага жыцця, у прыватнасці жыцця японскай арміі. Шмат у чым аўтар вымушаны быў ісці ад кнігі.

У цэлым „Тропа самураеў“ карысная кніга. Яна знаёміць чытача з працэсамі, якія адбываюцца ў арміі той краіны, якая выяўляе велізарную імперыялістычную экспансію, якая рыхтуе ўзброены напад на Совецкі Саюз. У гэтым каштоўнасць кнігі. Чытаецца кніга з цікавасцю і свайго чытача яна, бясспрэчна, знойдзе.

*Я. Шарахоўскі.*

Адказны рэдактар *М. ЛЫНЬКОЎ.*

РЭДКАЛЕГІЯ: *Я. Бранштэйн, П. Галавач, П. Глебка, З. Жылуновіч, К. Зарэмбоўскі, М. Клімковіч, Я. Колас, К. Крапіва, М. Лынькоў, К. Чорны.*

АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Совецкая, 68, Дом Пісьменніка.**

# ЗМЕСТ

*Стар.*



Тэхрэдактар *Абрамава Х.*

Здана ў друкарню 17|I—35 г. Падпісана да друку 19|II—35 г. Аб'ём 8[1]/[4] друкаваных аркушаў
Папера 72×105[1]/[16] Знакаў у друкаваным аркушы 62016. Тыраж 3685 экз.
Зак. № 53. Уп. Галоўлітбела № Б-1614.

Друкарня ім. Сталіна, Менск, Энгельса, 2.